

З сястрой Наталляй,
1937 г.



Сёстры Грынкевіч: Яўгенія Васільеўна,
Надзея Васільеўна (маці Уладзіміра Караткевіча)
і Ганна Сцяпанаўна,
1913 г.



Студэнт III курса
Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі
Уладзімір Караткевіч,
1952 г.



Студэнт V курса
Уладзімір Караткевіч,
1954 г.

# Уладзімір Караткевіч

ЗБОР
ТВОРАЎ
У ВАСЬМІ
ТАМАХ



*Рэдактар тома*
Р. І. БАРАДУЛІН

*Укладанне, падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі*
А. Л. ВЕРАБ'Я

# Уладзімір Караткевіч

# 1

ВЕРШЫ
ПАЭМЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

# АД РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Уладзімір Караткевіч...

Нядаўна яшчэ ён быў жывы наш сучаснік, любы, харошы сябра, няўрымслівы творца на ніве нацыянальнай культуры, чалавек «святы і грэшны» на сваёй «святой і грэшнай» зямлі. Але настаў час, і выпадак ці капрызны прысуд няўмольнага лёс аддзялілі яго ад жывых той непазбежнаю рысай, за якой ужо іншая, чым раней, болей катэгарычная шкала людской годнасці, па якой нельга мераць «прыстрасна» і прыблізна. Тая шкала вымагае меры дакладнай і аб'ектыўнай, да якой абавязвае хіба адна толькі смерць.

Вось толькі як утрымацца тае аб'ектыўнасці, як адасобіцца ад мілых чараў яго абаяльнай асобы, святло якой праз гады прадаўжае гарэць у сэрцы кожнага, хто яго ведаў.

Ён быў з пароды тых жыццялюбаў, якія ўсё радзей сустракаюцца ў нашым жыцці, тым больш нячаста ажыццяўляюцца ў мастацтве. Можна нават сказаць, што ён быў чалавек рэдкі, бо нават у сталыя гады шчасліва спалучаў у сабе чалавечую мудрасць з непасрэднасцю дзіця, любімага гадаванца прыроды. Гэтая рыса яго натуры, аднак, ніколькі не прыніжаючы яго, давала падставу хіба што па-добраму дзівіцца, а то і захапляцца ягонай неардынарнасцю. Так, ён любіў усё натуральнае, лёгкае і радаснае як у паўсядзённых праявах побыту, так і ў бясхітраснасці чалавечых адносін, але з абавязковымі для іх шчырасцю і дабрынёй, якія ён ставіў на першае месца ўсялякіх добразычлівых адносін.

У яго было вялікае чалавечае сэрца. Ягоная прыхільнасць да жыцця наогул не ведала межаў, і ў ёй заўжды было месца для незвычайнага. Гэта незвычайнае ён умеў бачыць скрозь і ўсюды, падмячаць сваім вострым мастакоўскім вокам, узбагачаць у тыглі свайго ўяўлення. Ён меў звычай шмат чым з пражытага і ўбачанага дзяліцца з сябрамі і блізкімі, і, здаралася, яму не верылі, хоць усё тое, пра што ён расказваў, было шчыраю праўдай. Але шмат што ён бачыў па-свойму, як можа бачыць мастак, майстра прыгожага пісьменства.

Шырока вядома яго бязмежная любасць да літаратуры, мас-

тацтва, нацыянальнай даўніны і гісторыі. Ягоны талент, будучы па прыродзе сваёй паэтычна-ўзвышаны, не гнушаўся, аднак, простага і звычайнага, як у сферы творчасці, так і ў адносінах з іншымі — калегамі і чытачамі. Натуральнасць і прастата гэтых адносін маглі б здзівіць ці шакіраваць каго-небудзь, хто кепска ведаў яго, але тыя, хто ведалі яго, не здзіўляліся,— то быў здаўна знаёмы, звыклы і натуральны ў сваёй, амаль дзіцячай дураслівасці Валодзя Караткевіч.

У гэтым сэнсе высокая дабрыня ягонай натуры ў стаўленні да бліжняга, здавалася б, вымагала ўзаемнасці, давала падставу штосьці браць для сябе, але мы ведаем, што гэта было не так. Ён не вымагаў нічога, бо быў з ліку тых сапраўды рэдкіх цяпер «бяссрэбранікаў», што любяць адно — аддаваць, адорваць, радаваць іншых, нічога не патрабуючы ўзамен. І ён да апошніх дзён шчодра адорваў направа і налева, аддаваў і ашчасліўліваў многіх, беручы з свае шырокай душы, скарбонкі свайго багатага таленту.

Упершыню яго імя з'явілася ў друку ў 1955 годзе пад вершам «Машэка», змешчаным у часопісе «Полымя». Затым вершы Уладзіміра Караткевіча працяглы час друкаваліся ў розных выданнях, выйшлі ў трох паэтычных зборніках, якія былі аднагалосна ўхвалены крытыкай і з цікавасцю сустрэты чытачом. Сапраўды, у асобе маладога аўтара беларуская паэзія набыла тады яркае і самабытнае дараванне, поўнае паэтычнай узнёсласці, смелай метафарычнасці і глыбіні. Мусіць, тут дарэчы будзе зазначыць, што вершамі ён і скончыў. Яго пасмяротны зборнік «Быў. Ёсць. Буду» — гэта паэтычны запавет наступным пакаленням, створаны трапяткой рукой майстра, поўны мудрых высноў жыцця. Напэўна ж, паэзія ўвесь час суправаджала ягоны талент, бруіла ў ім нават тады, калі ён ствараў далёкія ад яе творы.

У апавяданнях, якія У. Караткевіч пачаў пісаць адначасна з вершамі, таксама былі шматлікія адзнакі яго паэтычнага таленту і многія з іх чыталіся як вершы ў прозе. Можна нават сказаць, што ранняя апавядальная проза У. Караткевіча нейкім чынам дала яе аўтару новыя творчыя магчымасці, ніколькі не звужаючы яго паэтычнай сутнасці. Усхваляванае светаўспрыняцце, замілаванне жыццём, яго разнастайнымі праявамі загучала ў іх на поўны, нічым не прыглушаны голас. Для крытыкаў і для прыхільнікаў таленту У. Караткевіча меліся ўсе падставы меркаваць, што іхні кумір надоўга застанецца ў межах ім абранага і такога прывабнага для многіх жанру. Як ні парадаксальна, але менавіта ў гэты час у таленце У. Караткевіча з'явілася і надоўга зацвердзілася яшчэ адна яго адметная схільнасць — паглыбленая цікавасць да гістарычнай мінуўшчыны нашага народа.

Можа быць, гэта таксама можна зразумець і вытлумачыць, бо пры даволі развітай разнастайнасці фальклорнага і паэтычнага жанраў беларускай літаратуры доўгі час не ставала гістарычнай прозы, якая ў развітых і старых літаратурах з'яўлялася даўнім і раўнапраўным літаратурным жанрам. Драматычны, а часам

і трагічны змест гістарычных падзей, якімі так багата мінулае нашага народа, амаль не пакінулі літаратурных сведчанняў і, вядома ж, ляжалі па-за асабістым вопытам пазнейшых пакаленняў літаратараў. Для мастацкага ўвасаблення мінулага літаратура мела патрэбу ў таленце асобага роду, такім, які б, валодаючы багатым запасам канкрэтных гістарычных ведаў, меў яркае паэтычнае ўяўленне, каб з даўняй сівой мінуўшчыны чэрпаць натхненне для літаратурнай творчасці. Дзеля справядлівасці, аднак, трэба сказаць, што гэтая мінуўшчына не заставалася нікім не кратаная: за апошнія дзесяцігоддзі беларускімі аўтарамі рабіліся некаторыя спробы пранікнуць у гісторыю краіны, але гэтае пранікненне не ішло далей сярэдзіны ці другой палавіны XIX стагоддзя. Асаблівую цікавасць выклікала легендарная постаць Кастуся Каліноўскага, аб якім у розныя часы было напісана багата твораў у розных літаратурных жанрах.

Сталася так, што менавіта Кастусь Каліноўскі і трагічнае паўстанне 1863 года прыцягнулі пісьменніцкую ўвагу Караткевіча-празаіка, і ў беларускім друку з'явіўся першы, а затым і другі том яго гістарычнага рамана «Каласы пад сярпом тваім». Аб гэтым рамане ў свой час выказваліся розныя меркаванні: поўныя захаплення ацэнкі чаргаваліся з сур'ёзнымі папрокамі аўтару, якія таксама можна зразумець па-рознаму. Але ўжо тады было несумненна, што пры ўсёй спрэчнасці некаторых аўтарскіх трактовак і палажэнняў, такой шырыні ахопу пэўнай гістарычнай эпохі і такога паэтычнага пранікнення ў яе яшчэ не было ў беларускай прозе. Твор гэты, на жаль, так і застаўся не сконачаны.

У 1964 годзе ў часопісе «Маладосць» быў надрукаваны гістарычна-прыгодніцкі дэтэктыў «Дзікае паляванне караля Стаха» — адзін з самых папулярных твораў Уладзіміра Караткевіча. У адрозненне ад некаторых іншых, часта перанаселеных твораў, тут небагата дзейных асоб, амаль усе падзеі адбываюцца ў маёнтку Балотныя Яліны і вакол яго, у цэнтры чытацкай увагі — абаяльны вобраз маладой гаспадыні маёнтка і не меней сімпатычнага госця-апавядальніка. Створаная паводле выпрабаваных канонаў прыгодніцкай рамантыкі, гэтая аповесць мае і нешта адметнае ў сваёй структуры, нейкую ўласцівую ёй таямніцу-загадку, якую нават цяжка растлумачыць з пазіцый фармальнай логікі, а можна хіба адчуць. І справа тут, канечне ж, не толькі ў напружанасці прыгодніцкага сюжэта, які, дарэчы, па-майстэрску распрацаваны ў аповесці, і не ў загадкава-страхавітых малюнках кавалькады «дзікага палявання», што гойсае на сваіх «дрыкгантах» па лясах, наводзячы жах на наваколле. На мой погляд, тут моцна ўражвае нешта іншае, што ідзе, мабыць, з далёкіх нетраў жыцця, а таксама ад лепшых традыцый літаратурнага рамантызму ў духу Майн Рыда, Вальтэра Скота, Генрыха Сянкевіча. Ва ўсякім разе, на прыкладзе гэтай аповесці лішні раз пераконваешся ў тым, які добры вынік дае гарманічнае спалучэнне пэўнага характару літаратурнага таленту і падлеглай яму твор-

чай задачы. У «Дзікім паляванні караля Стаха» ўсё сышлося ў сваёй залатой меры.

Між тым талент Караткевіча — гістарычнага празаіка развіваўся і набываў новую сілу. На працягу двух дзесяцігоддзяў у друку рэгулярна з'яўляліся яго новыя празаічныя творы, навеяныя драматычнымі перыпетыямі нашай гісторыі. Сярод іх значнае месца займае прыгодніцка-рамантычная гісторыя Хрыста, які «прызямліўся ў Гародні», і жанр якой трохі не без іроніі пазначаны аўтарам як «Евангелле ад Іуды». Кніга гэтая адметная ад іншых твораў данага жанру шматлікімі станоўчымі якасцямі: грунтоўнасцю гістарычнага мыслення, багаццем і маляўнічай выразнасцю апісанняў, часам блізкіх да жывапісу Іераніма Босха, уменнем аўтара з ненатужнай дакладнасцю ствараць шматлікія вобразы людзей розных саслоўяў: просталюдзінаў, духавенства, рамеснікаў, гандляроў, а таксама магнатаў і духавенства таго далёкага часу, ад якога не шмат захавалася нават скупых гістарычных даведак. Але, можа, найбольшая вартасць кнігі ў яе выразных гуманістычных і выкрывальніцкіх тэндэнцыях, асабліва ў адносінах да ўсяго, што датычыцца «власть предержащих», якія ў сваёй сквапнасці да ўлады не спыняюцца ні перад крывёю і зладзейскім падманам, ні перад фальшам высокіх слоў. Бог, вера, хрысціянская мараль — толькі шырма ў іх эгаістычным імкненні да ўлады над чэрню. Чытача вабіць доўгая чарада часам смешных, а болей жудасных прыгод у межах старой Гародні і яе ваколіцах жменькі міжвольных авантурыстаў на чале з мужыцкім Хрыстом Братчыкам, у якога ўсё болей і болей выспявае сацыяльная самасвядомасць з гатоўнасцю пастаяць за праўду простых людзей. Чытача не могуць не ўразіць шмат якія з густам і амаль з брэйгелеўскім размахам створаныя малюнкі гарадскога і сельскага побыту, жахлівыя крапасныя баталіі на «касталомных вежах». Але, можа, найбольшае ўражанне робіць фінальны раздзел кнігі, калі пасля многіх старонак барацьбы і крывапраліцця настае спакой, і Братчык з сябрамі, паслаўшы Іуду па гарэлку, бяруць сявенькі і пачынаюць засяваць асеннія гоні. «Іуда ўжо знік. Неапалімыя купіны дрэў стаялі на ўзгорках.

Сумавала вакол капліцы шыпшына. А сейбіты падымаліся на вяршыню круглага пагорка, як на вяршыню зямнога шара. І першым ішоў насустрач нізкаму сонцу Хрыстос, мерна размахваючы рукамі. І, гатовае да новага жыцця, падала зерне ў цёплую мяккую зямлю. Выйшаў сейбіт сеяць на нівы свая»,— узнёсла-патэтычна заканчвае аўтар, і гэта гучыць сапраўды як з самых глыбін быцця.

Гістарычны і прыгодніцка-рамантычны жанр, мабыць, на шэраг год стаў улюбёным літаратурным жанрам Уладзіміра Караткевіча. Няспыннае вывучэнне мінулага па архіўных і літаратурных крыніцах, шматгадовае ўдумлівае асэнсаванне атмасферы, духу, псіхалогіі людзей даўніх часін выпрацавала ў аўтара пэўнае мастацкае, інтуітыўнае адчуванне матэрыялу, звычайна не даступнага іншым пісьменнікам. З-пад яго пяра выходзілі ўсё новыя

творы, прысвечаныя гісторыі і нязменна азначаныя лепшымі рысамі яго непаўторнага таленту.

На перадапошнім годзе свайго жыцця ён скончыў «Чорны замак Альшанскі» — «гэтую напаўзабаўку, у якой, аднак, таксама ёсць схаваны сэнс і яшчэ сёе-тое»,— як пісаў ён на адной са сваіх кніжак. Вядома гэта зусім не «паўзабаўка», проста ў Караткевіча была такая, аблегчаная, ці што, манера адносін да ўласных твораў — чыста чэхаўская манера «ўнічыжыцельных» водгукаў на плён свае працы. «Чорны замак Альшанскі», які, дарэчы, зараз жа пасля выхаду ў свет быў экранізаваны на беларускай кінастудыі і абышоў шматлікія экраны свету, можа, самае сталае ўвасабленне Караткевічавага прыгодніцкага таленту, і створаны на выпрабаваным грунце прыгодніцкага жанру. У гэтым творы аўтар удала спалучыў падзеі і вобразы розных часоў, паказаў іх узаемасувязь і ўплыў даўніх спраў і ўчынкаў на фарміраванне нашага сёння. Раман чытаецца з захапленнем, яго востра-сюжэтная форма ў спалучэнні з выдатным моўным майстэрствам забяспечылі яму поспех сярод шырокага кола чытачоў, таксама як і выдадзеная адначасна аповесць «Зброя», што тэматычна прымыкае, аднак, да рамана «Каласы пад сярпом тваім» і ўдала пашырае праблематыку паўстання 1863 года.

Усё створанае Караткевічам у гэтым жанры красамоўна сведчыць, што ў ягонай асобе мы маем справу з рэдкім літаратурным талентам, які ў спалучэнні з зайздроснай працавітасцю даў нашай літаратуры творы менавіта такога характару, якога ёй не хапала. Мабыць, літаратура, таксама як жыццё і прырода, не церпяць пустаты, і таму нельга не парадавацца, што гэты літаратурны вакуум запоўнены належным чынам.

Аднак было б памылкаю думаць, быццам Уладзімір Караткевіч аўтар толькі прыгодніцка-гістарычнага жанру. Шматлікае з напісанага ім дае падставу сцвярджаць, што ў дадзеным выпадку перад намі разнастайны літаратурны талент, якому была па плячу і сучасная тэма ў яе своеасаблівым, некалькі рамантычна-пачуццёвым успрыманні. У. Караткевіч нямала зрабіў таксама для драматургіі і кіно. Яшчэ ў 1972 годзе ім створана папулярная кніга-эсэ, кароткі нарыс гісторыі Беларусі «Зямля пад белымі крыламі», дзе мінулае нашай рэспублікі асэнсавана ўдумлівым і дасведчаным аўтарам. Кніга гэтая, спярша прызначаная для маладога украінскага чытача, хутка знайшла вялікую папулярнасць і на беларускай зямлі. Што ж датычыць ягоных апавяданняў, дык многія з іх гучаць як песні каханню, жыццю, роднай прыродзе. Яны поўныя паэзіі, харастве, светлага смутку, павагі да чалавека, сардэчнага разумення ягоных перажыванняў і клопатаў. Даверлівая аўтарская інтанацыя, багацце моўна-выяўленчых сродкаў, дакладнасць музычнага тону ў рознай ступені, але нязменна вабяць у песеннай «Каляднай рапсодыі», загадкавай «Краіне цыганіі», драматычным «Воку тайфуна» ці самавітым, але такім пранікнёным апавяданні з сумным канцом, як «Былі ў мяне мядзведзі». У 1967 годзе была надрукавана яго «Чазенія», навеяная

ўражаннямі ад некалькіх месяцаў жыцця на Далёкім Усходзе. Прырода гэтага краю, тамтэйшыя людзі і іх праца, убачаныя і адчутыя чалавекам, ператварыліся ў своеасаблівы гімн жыццю, адухоўлены паэзіяй адкрыцця і светлым сумам кахання.

Пісьменніцкую ўвагу Уладзіміра Караткевіча заўжды прыцягвала тэма кахання, якую ён даследаваў у розны час на розным матэрыяле: гістарычным, нядаўняга мінулага, сучаснасці. Ужо самы першы яго раман «Нельга забыць» быў прысвечаны каханню — драматычнаму, пакутнаму каханню двух людзей з асяроддзя творчай інтэлігенцыі ва ўмовах вялікага горада, з невыказным шматабліччам яго жыццёвых праяў, вялікай разнастайнасцю характараў і ўзаемаадносін. Гэты раман, што цалкам і асобнай кнігай выйшаў у 1982 годзе, уражвае чытачоў сваёй шчырасцю і паўнатой выяўлення пачуццяў героя.

Шмат якія яго старонкі проста здзіўляюць дасканаласцю псіхалагізму, глыбінёй даследавання вечнай, але і заўжды актуальнай праблемы узаемаадносін мужчыны і жанчыны, складанасці жыцця якіх, як гэта часта бывае, далёка не спрыяюць развіццю іх узаемных пачуццяў.

Некалькі асобна ў творчасці У. Караткевіча стаіць ягоная аповесць «Лісце каштанаў». Гэта адзін з самых аўтабіяграфічных твораў пісьменніка, напісаны на матэрыяле першых пасляваенных гадоў, праведзеных ім у Кіеве. Дакладна і лёгка выпісаныя вобразы юнакоў і дзяўчат вялікага горада з яго нялёгкім пасляваенным бытам грунтуюцца на пэўных прататыпах, і нават трагічны фінал аповесці ўзяты з жыцця, пабудаваны на аснове канкрэтнага факта. У гэтай аповесці Караткевіча шмат трудных і горкіх рэалій, узаемаадносін і акалічнасцей, і хіба толькі ў першых праявах юнацкага кахання знаёма гучыць, хаця і не пазбаўлены драматызму, улюбёны ім рамантычны матыў.

Напэўна, будзе дарэчы ўспомніць тут пра цэлы шэраг яго драматычных твораў, пастаўленых у тэатрах рэспублікі. Так,у Віцебску шмат гадоў ідуць яго гістарычныя драмы «Кастусь Каліноўскі» і «Званы Віцебска», беларускае тэлебачанне перадавала ў эфір яго «Млын на Сініх Вірах», а ў Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета ішла опера па ягоным лібрэта «Сівая легенда». Беларускае кіно ў розны час звярталася да яго гістарычных аповесцей і экранізавала «Дзікае паляванне...», «Чорны замак Альшанскі» і інш., былі зняты фільмы па яго арыгінальных і дакументальных сцэнарыях.

І пры жыцці ён, можа, як ніхто іншы, карыстаўся непахіснаю рэпутацыяй аднаго з самых таленавітых майстроў літаратуры, але, можа, толькі пасля яго смерці мы з усёй відавочнасцю ўбачылі, каго страцілі. Роўнага яму няма і наўрад ці ўжо будзе, замяніць яго ў нашай літаратуры не можа ніхто. Ужо хоць бы таму, што ніхто з такім бляскам не спалучае ў нас талент паэта з талентам празаіка, драматурга, кінасцэнарыста, эсэіста, гісторыка. Ён быў аднолькава таленавіты амаль ва ўсіх літаратурных жанрах, што, можа, натуральна для літаратуры мінулага, але рэдка

сустракаецца ў сучаснай літаратуры з яе багатымі і даскаиала развітымі літаратурнымі жанрамі.

Яго пры жыцці любілі людзі розных характараў і нават светапоглядаў, ён умеў аб'ядпаць, памірыць, пакарыць глыбінёй свайго розуму і дабрынёй свайго сэрца. Бо ён любіў людзей і ненавідзеў усё дробязнае, фальшывае і мярзотнае сярод іх. Многім памятна яго, мабыць, апошняе выступленне на адным з пленумаў праўлення СП Беларусі, пафасным заклікам якога было: давайце жыць у міры і згодзе, навошта самаедства, зласлівасць, жыццё і без таго кароткае, каб траціць яго на сваркі. Трэба больш працаваць. Тады, можа, не дужа прыслухаліся да тых яго слоў, а між тым, яны прадаўжаюць надзённа гучаць і цяпер. Ён ведаў, што гаварыў...

Творы Уладзіміра Караткевіча з захапленнем чытаюць розныя людзі, рознага веку і густаў, але, мне думаецца, большасць ягоных кніг знойдзе свой самы ўдзячны водгук у маладых сэрцах. Ён сам быў да скону сваіх дзён надта малады па натуры і ведаў, чым крануць маладыя душы. Сапраўды, высокае пробы рамантызм яго апавяданняў і вершаў, непадробны драматызм яго гістарычных твораў, шчыры і сумленны роздум ягоных эсэ — вось той дабрадзейны падмурак, на якім грунтуецца чытацкая прыхільнасць да яго. І ў яго будуць вучыцца наступныя пакаленні беларускіх літаратараў.

У яго ёсць чаму павучыцца.

Можа, найперш стаўленню да жыцця і да мастацтва. Поглядам на гісторыю і на нацыянальную культуру. Адносінам да чалавечай асобы ва ўсе часы і найбольш у наш трудны і трывожны час.

Ён быў вельмі шчодры ў жыцці і мудры ў літаратуры.

Такім і застанецца назаўжды.

ВАСІЛЬ БЫКАЎ

# МАТЧЫНА ДУША



## НА ПАЧАТКУ ДАРОГ

Жанчыны сечкамі таўкуць бадзёра,
Як быццам спора выбіваюць такт
Для нейкай небывала хуткай полькі.
Ў распараныя глоткі цёмных бочак
Плыве капуста белаю гарой.
Яе засыплюць соллю з чорным кмінам
І зоркамі чырвонай смачнай морквы,
Там-сям антонаўку для духу кінуць
І зноўку пачынаюць дружна стукаць.
Пачатак лістапада.
Ноч глухая
Ляжыць за вокнамі самотнай хаты,
І плачацца на горкую нядолю
За мокрым шклом раздзеты чорны сад.
Бязмежная пустэча за акном.
Халодныя ад дожджыкаў вяргіні,
Халоднае ад крапляў дажджавых
Сумуе яблыка на голым дрэве:
Забылі.
А ў хаце добра, цёпла,
Ля комінка прыжмурылася котка,
Газніца цьмяна свеціць на шынкоўні:
Жанчыны тут сышліся «талакою»
Дапамагчы нашаткаваць капусты,
А каб казаць па праўдзе, паспяваць,
Пажартаваць, забыўшы ноч і цемру,
Гарэлкі выпіць пасля працы лёгкай

І пачасаць нязлосна языкі.
Якая ноч!
Як непрытульна тым,
Хто ў гэту ноч ідзе у шлях далёкі
Пад зімны дождж, на лужыны рабыя,
Ад залатых агеньчыкаў прытульных...
О, як спяваюць! Вуха у дзіцёнка,
Які на зэдліку сядзіць ля печкі,
Упершыню жадобна ловіць гукі,
Упершыню ў жыцці. Чатыры леты
Прабеглі над бяляваю галоўкай,
Якая, быццам спелы адуванчык,
Качаецца пад ветрам вольных песень.
Ён шмат чаго яшчэ не разумее:
Чаму жаўнер паслаў дзяўчыне хустку,
Чаму не поўна рэчанька, чаму
Андрэеўна нажом сябе забіла,
Калі магла яна забіць султана?
Чаму плакун-трава зямлю ўкрывае?
Але нічога, гукі гэтых песень
Навекі застануцца жыць у сэрцы,
Як словы першых кніжак дарагіх.
Ён можа ўжо чытаць; занадта рана.
Вось кніжкі гэтыя ля тоўстых ножак:
«Савось-распуснік», «Пра сабаку Бума»,
«Пра пана-жываглота», «Вярнідуб»,
Старая чытанка ў пажоўклых корках
І казкі, казкі, казкі Беларусі,
Трапёткія, як першыя пралескі,
Пякучыя, як гнеўная маланка,
Загадкавыя, як агонь у лесе,
Багатыя, як жнівень залаты.
Калі ж ад літар адарвуцца вочы,
Ён бачыць белазубы рот Паўліны,
Вясёлай цёткі. Як яна жартуе!
Дарослым будзе ён чытаць Купалу,
І замест юнай, з'едлівай Паўлінкі
Паўстане гэты сталы добры твар:
Падобныя яны з іх весялосцю,
З іх голасам, з іх прыгажосцю яснай,
З іх шчырай беларускаю душой...
Але хутчэй, хутчэй ізноў да кніжак,
Бо доўга на дзяўчат глядзець не можна,
Яны дзівачкі: ледзь спаймаюць позірк —

Адразу падбягуць, ў ахапак возьмуць
І пачынаюць цiскаць да грудзей.
(О, каб дзiцяцi год на дваццаць болей!
Наўрад цi асаблiва б ён цураўся!)
А так ён тоўсты, пульхны, апетытны,
Яго цалуюць, цiскаюць, кусаюць,
Смяюцца неяк дзiўна, чырванеюць.
Авой! Якiя моцныя абдоймы,
Як цёпла дыхаюць тугiя грудзi!
Нядобра гэта ўсё! I асаблiва
Настырная чарнявая Анежка.
Ну так i лезе. А ў вачах такое,
Што сумна робiцца i неспакойна,
Чаго цалуе?! Хлапчуку здаецца,
Што хлопец той, цыбаты i няўдалы,
Васiль, што у кутку сядзiць маўклiва,
Ахвотна б з iм на месца памяняўся.
Аднойчы ў прастаце сваёй душэўнай
Ён гэта Васiлю прапанаваў
I быў здзiўлёны, што вакол рагочуць.
Як добра Васiлю! Яго не носяць,
Ён можа ля дзвярэй сядзець спакойна
I хрумстаць белыя тугiя храпкi.
Ах, храпкi, храпкi! Ах, салодкi сок!
Як будзе ён дарослым — неадменна
Заўсёды будзе iх дасхочу хрумстаць,
А так, чамусьцi, многа не даюць.
Глухая ноч слязiцца за акенцам.
Газнiца. Ў печцы жоўтыя салдаты
Страляюць гулка i заўзята лезуць
На штурм драўлянай крэпасцi. Утульна.
Вуркоча котка. Казкi набягаюць.
I зноў цячэ, цячэ, як рэчка, песня,
Плыве ў душу, у сэрца хлапчука,
I ён яе нiколi не забудзе.
Хто будзе ён? Кiм стане у жыццi?
Не ведаю яшчэ, бо гэты хлопчык,—
То быў я сам.
                    I ветразем надзейным
На ўсё жыццё мне засталася песня.
Дапамажы мне, песня, ў лютых хвалях,
Ў затоцы цiхай, дзе вада цвiце,
Нясi мяне у мора. Я чакаю.

## СПАДАРОЖНІКУ ЗЯМЛІ

Шэпчуць лісцем пажоўклым таполі,
Зоры робяць за кругам круг.
Я не бачыў цябе ніколі,
Мой маленькі нябесны друг.

Узыдзі, мая зорка срэбная,
Над абшарамі нашых бароў,
У людзей жа на сёмым небе
Не было ніколі сяброў.

Не да неба ляцела іх сэрца,
А да ніў сваёй стараны,
Ўсе яны зямныя да смерці,
Але ты хіба не зямны?

Тут прыпала табе нарадзіцца,
Тут звычайныя людзі зямлі
Разгадалі тваю таямніцу
І сусвету цябе аддалі.

І, як многія, сэрцам чыстыя,
Што выходзяць з цемрай на бой,
Ты на працы згарыш калісьці,
Ўсё аддаўшы Радзіме сваёй.

## ПАРТЫЗАНСКАЯ БАЛАДА

*Памяці Арцём'евай*

На нашай любай і чыстай, на нашай сіняй зямлі
Зяберам і асотам зараслі пустыя палі,
Зяберам і асотам, горкай пустой травой,
Бярозкаю іваўчкамі, і павітухай тугой.
Вяжуць жанчын да танкаў, дзяцей з аўтаматаў б'юць.
Вёскі на выспы лясныя ад свастыкі чорнай бягуць.
Хаты стаяць пустыя, лісіцы спяць у хлявах,
Восы, стракатыя восы гнёзды звілі ў чарапах.
А ноччу па ўсёй краіне пад ветру халоднага спеў
На горам засеяных нівах расце небывалы гнеў.

Пахне згарэлым порахам нават старцоў рызман,
Ляжаць пад адхонам саставы з надпісам:
«Deutsche Reichsbahn».
Гэта было ў сорак першым на прыдняпроўскай зямлі
Ў звычайнай маленькай вёсцы з смешнаю назвай
«Казлы».
Чалавек пастукаў у шыбу і ў дзверы ўваліўся
як куль,
І сказаў: «Зачыні, Паўліна, непадалёку — патруль.
Я нарваўся на вартавога. Ён даў мне ў плячо штыхом,
Але ён не пабачыць таксама ў Нямеччыне родны дом.
Перавяжы мне рану — іначай не дабрыду».
— «Заставайся».
— «Нельга, Паўліна, хату тваю падвяду».
Мужчына быў год пад сорак —
але моцны яшчэ чалавек.
У жанчыны сівелі скроні — канчаецца бабін век.
І яна непрыкметна пагладзіла рукаў яго кажуха,
І яна на нагах хіснулася,
Яна не ўпала траха.
І ўзяла сарочку жаночую з карункавым падалом,
І яе на бінты пакроіла вялікім сталовым нажом,
І калі рукаў разрэзала — кроў цякла па лязе цурком,
І калі зацягвала вузел — да раны прыпала крадком.
І мужчына сказаў ёй мякка: «Цябе ніхто не кране.
Я пайду, але ты, Паўліна, паслухай цяпер мяне:
Можа, мяне спаймаюць... пад дубам, што ведаеш ты,
Я закапаў узрыўчатку, прыблізна на два масты.
Масты неабходна знішчыць. Па іх да нашых брыгад
Немцы мяркуюць падвесці вялікі карны атрад.
Калі загіне мой сябра, калі загіну я,
То спавясціць пра гэта будзе справа твая.
Дашлі туды дзеда Сымона, ён лёгкі яшчэ на хаду.
Дашлі неадменна, адразу ж... Дзякуй, Паўліна, пайду.
Жонцы, дзецям, таварышам прывітанне маё перадай...
Падрыўніка яны знойдуць — на мне не сышоўся край».

Ён пайшоў, і яго схапілі на выгане ля сяла,
А ўранку да каменданта тая ж жанчына прыйшла
І сказала з сухімі вачыма: «Паслухайце, пан капітан.
У вас сядзіць мой каханы. Вы сказалі,
што ён партызан.
Не ён забіў вартавога, рана не ад штыка.
Рану нажом зрабіла каханкі яго рука.

Вы павінны мяне даслухаць,
вы кахалі кагось у жыцці.
А мне без майго кахання дваццаць год давялося
брысці.
Я любіла, а ён ажаніўся, пакінуў наша сяло.
Спытайце ва ўсіх на вёсцы, што так яно і было.
Да мяне пяць дзён як вярнуўся і назваў каханаю ён.
О, каб ведалі вы, што такое каханне на схіле дзён,
Горкае і гарачае, не такое, як ранняй вясной!..
А ўчора сказаў ён,
што зноўку пойдзе да жонкі сваёй...
Без яго апусцелі б навекі сэрца маё і дом,
Яго за здраду, за здраду ўдарыла я нажом.
Для мяне нат слабым і хворым ён быў бы харош і гож.
Бачыце, вось кашуля. Бачыце, вось ён, нож».

І яе таптАлі нагамі, яе катавалі пяць дзён,
А яна упарта казала: «Каханы, каханы ён».

Калі шосты дзень за лясамі, сплыўшы крывёю, сканаў,
Мужчыну штурхнулі ў свіран, дзе пластам ляжала яна.
Твар яе быў апечаны агнём пякучым свячы
І не гаіліся раны, якіх ніхто не лячыў.
Ён стаў ля яе на калені, пагладзіў рассечаны лоб,
І яна яму расказала пра свой свядомы паклёп:
«Ты маўчаў? Не сказаў, дзе параненый?
Ім самім давялося шукаць.
Мой разлік быў тонкі і верны.
Пра каханых заўсёды маўчаць.
Ты бачыш, я паміраю. Канец. Крычы не крычы.
Любы мой, любы мой, любы... Маўчы, неадменна маўчы.
Маўчы дзеля бедных дзетак, дзеля любай жонкі сваёй,
Дзеля вечнага, добрага шчасця,
што будзе над нашай зямлёй.
Даруй, што бруднай рукою ўспаміны кранулі яны.
Ты ведаеш, зерне праўды жыло ў гэтай хлусні.
Калі будзеш пад нашым дубам,
калі прыйдзеш туды адзін,—
Дакраніся хоць на імгненне
да яго каравых галін...»

Ціха-ціха ўздымаюцца да бінтоў, ад крыві рабых,
Чыстыя-чыстыя рукі — белыя галубы...
І калі яна праз імгненне пакінула гэту турму —

Мужчына ад плачу затросся,
як яна дваццаць год таму.
Перад тым як жанчыны вочы заснаваў невядомага дым,
Ён прыпаў да губ схаладзелых у пацалунку адным.
І ён зразумеў, нарэшце, што яна дачакала свайго...

І прыйшлі два зялёных салдаты, і ўзялі ад яе яго.
І твар яго, чорны і горкі, такі незвычайны быў,

Што афіцэр нямецкі вочы ўніз апусціў,
Паглядзеў на крыжы салдацкія,
што за вокнамі спалі ў імгле,
Паглядзеў на сталовы ножык,
што ляжаў на пісьмовым стале,
Паглядзеў на рукі мужчыны, што сціскаліся ў кулакі,
І загадаў салдатам ад дзвярэй адвесці штыкі.

І мужчына пайшоў ад вёскі па глыбокай асенняй гразі,
І мужчына сівы з узлесся назад кулаком пагразіў,
І наступны дзень над зямлёю скалечанаю ўставаў,
Чырвоны ад дальняга зарыва на патоках асенніх траў,
Чырвоны, як быццам мыўся ў крыві ад глыбокіх ран.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Назаўтра два дальніх выбухі скаланулі балотны туман.

## ЗАЯЦ ВАРЫЦЬ ПІВА

Туман плыве з нізіны сівы
Над нівай голай і пустой.
«Глядзіце, заяц варыць піва»,—
Жартуюць людзі між сабой.
А я відушчым бачу зрокам,
Як ён прысеў каля агню,
Трыгубы, шэры, касавокі,
І піва варыць з ячмяню.
Яліна іскрамі страляе,
А ён прыладзіў кацялок
І трэскай варыва мяшае,
Каштуе, сплёўвае набок.

І піва заяц зварыць густа,
А на закуску — бурачок,
Трава, заечая капуста,
Галін асінавых пучок.
З зайчыхай вып'юць па маленькай
І дзеткам трошкі паднясуць,
Пужлівым галаском таненькім
«Цвіцела морква» завядуць.
Пабачыш — не гані з абсады,
Дай хоць на гэты дзень спакой,
Павінна ж быць і ў зайца радасць
Перад халоднаю зімой.

## ОРША

Яна не бліпічыць красою,
А ў сэрца навек запала
З паркам сваім змарнелым,
З сваёй Кабыляцкай гарой,
З лянівай сястрой Аршыцай,
Што летам бруіцца памалу
У шырокі, як песня наша,
Магутны, сівы Дняпро.

Хаткі, што да абрыву,
Як ластавак гнёзды, туляцца —
Родныя і дарагія,
Як поціск сяброўскай рукі;
Брук, размыты дажджамі,
Пыльныя ўскраін вуліцы,
Куродым на сценах будынкаў,
Дальнія цягнікі.

Далёка яна ад мяне,
Адзіная і дарагая,
Ў чорных істужках чыгунак,
Што ўсю яе абвілі,
З народам сваім, што у бітвах
Ніколі не памірае:

Заслонава слава звоніць
На ўсіх перагонах зямлі.

Калісьці... Было і такое...
Хацелі пазбавіць крылляў...
Быдлам нас называлі,
А ўсё ж такі мы былі
Нязломнымі ў чорнай бядоце,
Гордымі і ў бяссіллі,
Бо род наш быў пралетарскі,
А рукі — у чорным вуглі.

Мы паціскалі плячыма,
Калі нам з пагардай казалі,
Жадаючы ў час вясёлы
Рабочы наш род абсмяяць:
«Знаёмяцца ў вас на вапне,
На вапне вы нараджаліся,
Вапна усіх вас карміла,
У вапне вам і ляжаць».

Паслухайце: наш ён, наш горад,
Няхай і суровы часам,—
Працоўнае гордае права
Здабыў у цяжкой барацьбе,
Гэта наш родны горад,
Яму не патрэбны прыкрасы,
Ён сам для сябе прыкраса
І гордасць — сам для сябе.

Мы цягнікі вадзілі,
Палотны на фабрыках ткалі,
Лес магутны валілі
І ўмелі плавіць метал,
У цёмных каменяломнях
Белы вапняк ламалі,
Гліну і торф здабывалі,—
Гарачы у нас запал!

Як толькі цёмнаю ноччу
Вочы свае закрываю,
Адразу я Оршу бачу
З яе няяркай красой,
З бярозамі над Аршыцай,

З вясёлым сонейкам мая,
З блакітам першых пралесак
У косах каханай маёй.

Тут нарадзіліся думкі,
Воля, імкненні, жаданні,
Тут стаў я сынам краіны,
Абпален яе агнём...
Таму і люблю я Оршу
Першым вялікім каханнем,
Якое не знікне, пэўна,
Нават з маім жыццём.

## ВАДАРОД

Бы сарваўся вар'ят утрапёны і злосны:
Прах старых гарадоў дасягае нябёс,
З дзіркай у чэрапе гінуць дваццатыя вёсны,
Плынуць горкія рэкі жаночых слёз,
І над морам, як над жаралом вулкана,
Вырастае грыб і калечыць людзей,
І кунгасы мёртвыя плывуць акіянам
З поўным грузам разбітых людскіх надзей.
Наша маці-зямля, дарагая і светлая,
З дымам фабрык, з дзяцьмі і з мудрасцю слоў
Можа стаць назаўсёды, навекі праз гэта
Проста чорнай трунoю для ўласных сыноў.
Мог бы ты дараваць нам жыццё і квітненне,
Мог бы шчасцем навек увянчаць народ.
Хто ж зрабіў з цябе сродак зла і знішчэння,
О грымучы, бязлітасны кат-вадарод!
Скарпіёны, што бачаць кальцо агнявое
І кусаюць людзей, а потым сябе:
«Здохні! Згінь, чалавек! Хай сонца святое
Не цалуе, не лашчыць, не грэе цябе!»
Ўсім даўно астабрыдла стаяць над абрывам.
Што ж хаваеце, людзі, думкі свае?!
О, калі ж яны прыйдуць, гады алівы,
Што галінамі шар зямны абаўе?
Гэта ж проста, як рэпа: магутнай сілай,

Што дае чалавечай руцэ вадарод,
Растапіць навекі зямны халадзільнік,
Безнадзейнай Грэнландыі мёртвы лёд.
І растаў бы ён, і цёплыя плыні
Спарадзілі б дажджы над светам усім,
І прыйшло б да нас мора, сіняе-сіняе,
З цеплынёю, з прыбоем, з пяском залатым.
Над усёй зямлёю трапічныя зоры,
Адбіваюцца пальмы ў цёплай вадзе.
(Я, напрыклад, ніколі не бачыў мора,
Як мільёны іншых звычайных людзей.)
У паэтаў дрэнных шпурлялі б бананамі,
(Эстэтычней, ніж яек пратухлых пах),
І раслі б у Оршы маёй мангустаны
І альясы ў туманных лясных Лядáх.
І ад погані чыстая наша планета
Стала б вольнай, прыгожай, шчаслівай навек,
Стала б лепшым брыльянтам кароны сусвету,
Цёплым раем, якога чакаў чалавек.

## СЫРЦОВЫЯ ЦАГЛІНЫ

Гарадзішча старое на зліве рэк.
Больш як дзесяць стагоддзяў назад
Першы зруб паставіў тут чалавек
І дубовы ўзвёў палісад.
Ўсё даўно прамінула, і толькі вясной,
Калі повень схлыне далоў,
Аддае неахвотна абрыў над ракой
След даўно прамінуўшых гадоў.
Дагарае сонца на весняй рацэ,
Я прыйшоў на знаёмы плёс
І стаю са звычайнай цаглінай ў руцэ,
Ўсхваляваны амаль што да слёз.
На паверхні счарнелай цагліны старой,
Што адмыла рака на свет,
Бачу я адбітак лапэткі малой,
След дзіцёнка, забыты след.
Дзевяцьсот разоў май ішоў па зямлі,
Разліваючы ў рэках сінь,

З тых часоў як на замчышчы вежы ўзвялі
З гэтых самых адменных цаглін.
Быў спякотны дзень. Пад ценем бяроз
Цэгла сохнула на траве.
Дойлід еў, а сын, што ежу прынёс,
З белым пухам на галаве,
Без штаноў, хадзіў на крывых нагах,
Еў груднічнік і розную дрэнь,
На жабінае племя наводзіў жах,
Даганяў свой уласны цень.
Калі б бацька на сына вочы узняў,
Ён бы мог пабачыць, што сын
З асалодаю босай нагою ступаў
На паверхні вільготных цаглін.
І адбітак малой дзіцячай нагі
У аснову крэпасці лёг.
Шмат разоў прыходзілі варагі
На краіны лясной парог,
Шмат разоў стагнала зямля ад тугі
І ўзрастаў на руінах палын...
Але быў непарушны адбітак нагі
На паверхні сырцовых цаглін.

* * *

Стаю ўначы ў завіруху —
Аддаўся наплыву мар.
Ноч уважная слухае,
І вецер гайдае ліхтар.
Што са мною — не знаю.
Сэрца трывогу б'е.
Кахаю?
Здаецца, кахаю.
Напэўна, кахаю яе!
Клянуся зарою вясновай
І тым, што міне зіма,—
Няма ў мяне іншай каханай,
Іншага друга няма.
Кахаю... у хустцы і ў косах,
Ў завею і летні гром,

Кахаю абутую й босую,
З кнігамі і з сярпом.
З ёй — радасць, аднному — гора.
На гэтым цвёрда стаю.
Ноч крочыць,
І чуюць зоры
Клятву маю.

## ПЕСНЯ ШАФЁРА

Ноч спусцілася, згаснула сонца,
Свеціць зорамі каляя,
З-пад машыны дарога бясконцая
Адпаўзае назад, як змяя.
Ў смалянай вадзе межыточнай
Пралягла дрыжачая гаць.
Быццам мёдам намазалі вочы,
Хіліць стома, хочацца спаць.
        Дарогі, дарогі,
        Косці растрасуць,
        Мёртвага разбудзяць,
        Жывога ў дол звядуць.
Ад вясёлых сузор'яў вясковых
Да залітых святлом гарадоў
Возім дружна мы збожжа і дровы,
І «налева» падвозім «рабцоў».
Мы ляжым у гразі пад машынай,
Ўзімку корпаемся ля агню,
Нас пабачыш па ўсёй краіне,
Неўтаймоўную шафярню.
        Дарогі, дарогі,
        Косці растрасуць,
        Мёртвага разбудзяць,
        Жывога ў дол звядуць.
Ад напругі пад коламі крэкча
Над вадой спарахнелая гаць.
Тройчы стрэнеш ты аўтаінспекцыю
Перад тым, як жонку абняць.
Шлях бясконцы ляжыць наперадзе
Праз лясы, між балот і азёр.

Не, не трэба бяссонніцы верыць,
Закуры, заспявай, шафёр.

«Дарогі, дарогі,
Косці растрасуць,
Мёртвага разбудзяць,
Жывога ў дол звядуць».
— Закуры тытунцу, шафёр!

## ЯК РАЗМАЎЛЯЮЦЬ ЗВЯРЫ І ПТУШКІ

Закаханы ў жыццё і ў кожную мушку,
Я іду каля хат і росных садоў.
І са мной размаўляюць звяры і птушкі
На дзесятках і тысячах розных моў.
Ў валасы мае вішні свой снег завеялі,
Мне на вуха шэпчуць абшары ніў;
Маўляў, каго любіш, таго заўжды зразумееш,
У якой бы скуры ён ні хадзіў.
Галубы ў ліловых і сініх барвах,
На мяне паглядзеўшы, вуркочуць так:
— «Пр-роста вар-рвар, варвар, стр-рашэнны варвар.
Крыл не мае, а кр-рочыць, крочыць, дзівак».
Певень, палкай падбіты, скача, як конік,
І здзіўленым курам, як зрынуты бог,
Утрапёна крычыць ад болю і гонару:
— «Не па-паў! Не па-паў! Міма ног! Мі-ма ног!»
Калі ж ноч паплыве над зямлёю мілаю,
Размаўляюць дзве жабы ля соннай ракі:
— «Ку-ума, кума, а што ты вячэраць варыла?»
— «Боршч, боршч, буракі, бура-кі-кі-кі-кі».
Я, напэўна, таксама здаюся ім зверам,
І яны разважаюць у засені траў:
— «Вось ідзе двухногая птушка без пер'яў
Ці мядзведзь, што шубу ў ламбард заклаў».

## У ЖНІЎНЫ ДЗЕНЬ

*(Жарт)*

Ў жніўны дзень на вуліцы бязлюдна.
Нават бэз заснуў каля дзвярэй.
Толькі певень, млявы і марудны,
Кліча частаваць сваіх курэй.
Бабка спіць ля хаты пад кустамі,
І цялё чырвонае усмак
Мокрымі ружовымі губамі
Ёй жуе стракаты андарак.
І старыя, і малыя ў полі,
Суха звоняць конікі ў траве,
І камбайн, як карабель вясёлы,
Паміж жытніх каласоў плыве.
Ну, а вёска цішынёй абнятая.
Толькі й чуць у гэтай цішыні,
Як храпуць у дзвюх суседніх хатах
Жонкі брыгадзіра й старшыні.

## З ПАДСВЕТАМ

Пад вербамі, што нахіляюць
У цемры над вірамі стан,
Над ціхаю вадой палае
Маленькі залаты вулкан.
Смаллё ў жароўні сыпле іскры,
І ціхай рэчкі глыбіня
Святлом няпэўным, алым, чыстым
Пранікла амаль да дна.
Ноч пахне радасна і смутна
Вярбовай горкаю карой,
І нос чаўна плыве нячутна
Над змрочным лесам пад вадой.
І ў гэтым лесе, дзіўным, сінім,
Стаяць забіўшыся углыб,
Шырокія тугія спіны
Заснуўшых пад вадою рыб.
Трапечуць багавіння струны,
Рыб клоніць бурштыновы сон...

Замры, падобны да Нептуна,
Трызубец сціснуўшы ў далонь!
Бліжэй! Бліжэй! Як слёзы цёплыя,
Ад жаркіх водбліскаў святла
Чырвоныя падвескі кропляў
Нячутна падаюць з вясла.
Адзін удар трызубай снасці,
І ў ходзе казачных падзей
Жывое, трапяткое шчасце
Само ў далоні ўпадзе.

## ПРАМЕНЬЧЫК

Мокры водар белага бэзу,
Кветкі-гроны, як вінаград,
Ветрык весні, ветрык-гарэза
Ўсё трасе і тузае сад.
Ў гушчары аканіцы сінія,
Ты ўсё спіш, а дзень на нагах.
Сонца хітрае праз галіны
Да цябе адшукала шлях.
І праменьчык малы, пяшчотны,
Што праз лісце ў шчыліну ўпаў,
Руку голую цёплым ротам,
Крадучыся, пацалаваў.
Спі.
Прачнешся, і ў гэтым садзе
Шчасце будзе блукаць між траў.
Так мне радасна,
Радасна,
Радасна,
Што падскочыў і сонца б сарваў,
Каб не шкода было мне дзетак,
І бязмежнага шчасця, і сноў,
І дрыжачых спрасонку кветак,
І вільготных бэзу кустоў.
І садоў, цеплынёю настоеных,
І вясёлкавых хваль на рацэ,
І праменьчыка, што спакойна
На тваёй спачывае руцэ.

# ПАЎЛЮК БАГРЫМ[1]

На гасцінцах бярозы
Зусім пачарнелі ад ветру.
Дзіч і глуш безнадзейная,
Бураломныя хвояў кражы,
На лясным раздарожжы
Капліца прыткнулася ў нетрах,
І Хрыстос сем стагоддзяў
Вісіць на пахілым крыжы.

Праз акенца сляпое
Шэры дожджык глядзіцца у хату,
У якой дагарае,
Бы ў небе асеннім зара,
Непатрэбная старасць
Адстаўнога паўстанца-салдата,
Невядомага генія,
Беларускага песняра.

Дагарае жыццё.
Хто на ўлонне старому прытуліцца?
Ні дзяцей, ні нашчадкаў,
Даўно праляцела вясна,
Прагрымела паўстаннем,
Прайшла праз зялёную вуліцу,
Згасла ў цяжкай салдатчыне...
Мусіць у рабстве сканаць.

Мог бы славай грымець
Сярод годных паэтаў Еўропы,—
Гвалтам спуталі ногі,
Трымалі ўвесь час за руку.
Што пакіне ён?
Вершык у памяці хлопаў,
Кандэлябру у касцёле
Ды кроў на гаручым пяску.

А ў краіне так цяжка
(Асіны ад ганьбы палаюць),

[1] Славуты беларускі пясняр XIX стагоддзя, які ўдзельнічаў у Крошынскім паўстанні 1828 г., правёў дваццаць пяць год у салдатчыне і дажываў свой век у адзіноце.

І над ёй фанабэрыцца
П'яны, разбэшчаны гун.
Як пры князю Ўсяславе —
Дзень вялікі, а луста малая.
Як пры князю Ягайле —
На кожную спіну бізун.

Абжыраюць удоў,
П'юць з гарэлкай сірочыя слёзы,
Тлустым задам расселіся
На паднявольнай зямлі,
На шлагбаумы мёртвыя
Пассякалі жывыя бярозы,
На шпіцрутэны гнуткія
Запаветныя вербы звялі.

Беларусь мая, сонца,
Дарагая і родная маці!
На якіх раздарожжах
Згубіла ты шчасце сваё?
Ці удасца хоць дзецям
Шчаслівага дня дачакаці
Пасля мужнасці гэткай,
Пасля столькіх крывавых баёў?

Цень паўстання народнага,
Дзень светлай волі Крашына!
Я таксама пакутваў
За гэту зямную юдоль...
О, чаму ты, кажан,
Не крануў мяне ў годы дзяцінства,
Каб не вырасла сэрца,
Каб вочы не бачылі боль?

Мы чакалі свабоды,
І касілі нас кулямі роты,
Ў ланцугі нас кавалі,
Каб пад палкай нам быў карачун.
Узялі мае вершы,
Ўзялі маіх дзетак гаротных.
Вершы, бедныя вершы
Пад чырванню сургучу!

Край сагнуўся ў спіне,
Край баіцца размовы пра волю,

Край згубіў сваю мову
І матчынай песні напеў...
Нельга верыць у бога,
Калі ён такое дазволіў.
Цяжка верыць у люд свой,
Калі ён такое сцярпеў.
І няўжо не ўваскрэсне
Забытая родная мова
Не на тое, каб енчыць,
А каб крыкнуць да ўсіх на зямлі:
«Ўстаньце, хлопы, да зброі!
Ліце кроў для вялікай любові,
Каб на гэтай крыві
Небывалыя кветкі ўзраслі!»

Не учуем адказу,
Усё больш нахіляюцца хаты,
Ўсе маўчаць ад пялёнак:
Мужыкі, дзецюкі і дзяды...
Пройдзе некалькі месяцаў —
Прах самотны старога салдата
Хапатліва знясуць
На глухія, старыя клады.
О, як хочацца волі!
Жаданая воля, ты чуеш?
Асвяці мне усмешкай
Апошнія дні у жыцці.
Ты маўчыш?
Ты не чуеш?
Можа, ў дзень, калі ты запануеш,
Верас будзе стагоддзі
З разбітага сэрца расці.

Беларусь,
прачынайся!
Я цябе абуджаю!
Ты павінна прачнуцца,
Не праспі сваё шчасце ўначы,
Я гукаю цябе,
Дарагая, святая!
Адкажы ж, мая родная,
Не маўчы!..

Паміраю і веру:
Калісьці над светлымі водамі,
Над свабоднай зямлёю
І над Белаю Руссю маёй
Шчасце сонцам заззяе,
І слова нашчадка свабоднага
Мае раны загоіць
Гаючай жывою вадой.

## ЦЯГА

Вясенні вечар на узлессі сінім.
Бярэзнічак. Іржавы мох балота.
За дальнімі халоднымі лясамі
Ірдзее сонным сонцам небакрай.
Зноў лужыны зацягвае лядок:
Зіма саслаблая шалёна хоча
Яшчэ хоць ноч падыхаць і пажыць.
Пад ботамі намокнуўшая глеба
Цалуе палка стомленыя ногі,
Бы кажа: «Любы, любы мой, каханы,
Не ўцякай. Пабудзь са мною трошкі».
Я не пайду. Са мною патранташ
І стрэльба на плячы. А ў сэрцы прага,
Што прашчура майго вяла калісьці
З сякераю на маманта.
                    Вядома,
Даўно заціхлі мамантавы крокі,
Што выгіналі пад сабою глебу...
Але у гэты час інстынкт крывавы
Зноў абуджаецца ў душы маёй,
І мне здаецца: вось пачую крокі,
Вось з-за бяроз на рыжую паляну
Праціснецца тупая галава,
І выйдзе ён, магутны, дзікі, рыжы,
Бы злеплены з балотных гэтых купін.
Як леташняя жоўклая трава,
Звісае поўсць. І я, ад захаплення
Не памятаючы сваіх пячор,
І вогнішча, і цяжкіх сківіц любай,—

Насустрач кінуся з вясёлым крыкам
І ў хобат кіну тручаную дзіду.
О, дзе ты, цяжкі мамантавы бег
Па сініх-сініх месячных раўнінах,
Дзе вогнішча ў закураных пячорах,
Малюнкі охрай на скляпеннях чорных
І дзіда у асілкавых руках?!
Мая здабыча — кулічок іржавы
З пярсцёнкам залатым каля вачэй
І з доўгай дзюбай, а сабой — з кулак.
Ляцець далёка, ледзь вяслуюць крыллі,
Ён бачыць лес, начны перапачынак,
І з радасці не можа утрымаць
Свой крык: «Цыр-цыр! Хор-хор!» Вядома, подласць
Страляць па слонках, стомленых вясной,
Але ж інстынкт і прага, прага, прага.
Вось ён ляціць на жоўтым фоне неба,
І рукі цвёрда стрэльбу узнімаюць,
І вока пільнае шукае мушку...
Стрэл, як пярун!..
Вальдшнэп шугае ўгору...
Ён проста падымаецца над лесам...
Прамазаў я. І радасна чамусьці,
І горка мне. Ляці сабе далей,
Мая крылатая, святая радасць,
Жыві і хоркай, і выводзь дзяцей,
І, можа, я яшчэ цябе сустрэну
І будзе двойчы радасць у мяне.
Я, можа, мазануў зусім наўмысна,
(А мо брашу, няўмельства прыкрываю,—
Не ведаю.) Але нашто ён мне,
Вось гэты мой бізон, мядзведзь і мамант
З бяссільным і падвернутым крылом.
Люблю жыццё, і гэты лес вясенні,
І коцікі пушыстыя вярбы,
І «хорр» вальдшнэпа. О, дваякасць сэрца:
І прага ўбіць, і прага даць жыццё!
Не, я не прашчур. Можа, ў тыя дні
Я бараніў бы мамантаў ад згубы,
Хай на зямлі былі б яны і зараз
І скублі «сіні сон», нібы каровы,
На любых, весніх, залатых лугах.
Ляці ж далей, мая святая радасць,
Будзі лясы няўмелым, сціплым рыпам.

Не ўсім дано ў жыцці спяваць прыгожа,
А славяць ўсё жыццё!
Сляпое сонца
Скацілася за пушчу. Цішыня,
І першы-першы шум жывога лесу
Азваўся мне. Даўно-даўно на небе
Ірдзее стужка жоўтая зары,
І толькі на найбольшай верхавіне
Яшчэ ляжыць яе адбітак жоўты,
На дзвюх сароках, што балбочуць жвава
Пра тое, што мядзведзя не баяцца,
Наверсе седзячы.
Зноў шум жывы
Азваўся ў лесе. Цёмны змрок і вільгаць,
І цьмяна свеціцца вада балотцаў.
І цішыня. І ў сэрцы песня шчасця
Зліваецца з пяшчотным і любоўным
Сінічым галаском непадалёку:
«Цы-віць, цы-віць...»

## ЯЛІНКА

Ялінку выкінулі за адрыну.
Яна ляжыць ва ўладзе ціхіх дум.
На голкі жоўтыя пушысты, сіні
Злятае снег і навявае сум.
Цяплілі ўчора свечкі ёй вітыя,
А сёння аддалі яе снягам...
Блішчаць дажджу віточкі залатыя,
Забытыя на голках тут і там.
Ляжаць, вядома, нудна за адрынай,
І сумны свет праз снежную імжу.
Адное засталіся успаміны:
Віточкі залацістага дажджу.
Але яна свядома ганарыцца
І доляй, і чарговасцю падзей:
Хай жоўтая, хай ападае гліца —
Яна жыве яшчэ ў душы дзяцей.

## ДЗЕЦІ

О, якая залатая восень!
О, як стогне пад снапамі воз!
Павуцінне, «пража маткі боскай»,
Заплятае халадок нябёс.
Да замілавання паўнакроўныя
Гарбузы, узятыя з грады,
Са страхі, як статак парсюковы,
Звесілі ружовыя зады.
Мышы з бадзякоў цягаюць воўну,
П'е зямля сухіх нябёс блакіт...
На гародах высахлы бульбоўнік,
Водар кропу, мята і ваўчкі.
Дні на гэтым водары настоены,
Сэрца поўняць сум і прага жыць...
Хлапчукі, на добры лад настроены,
Уляглíся ціха на мяжы.
П'юць духмян паспелай жоўклай восені,
Падраслі шчаслівыя за год,
А над імі серабрысты ў просіні —
Ледзь прыкметнай кропкай самалёт.
З-пад чубкоў бялявых, як салома,
За шчаслíўцам сочаць гарачэй,
З зайздрасцю, з чаканнем невядомага
Дзесяць ясных зорачак-вачэй.
Дзень такі бязмерны і шчаслівы,
Самалёт ляціць у глыб нябёс...
Можна скокнуць наўздагон з абрыву —
І ўзляцеў бы, і ўхапіў за хвост!
Нам з гадамі ўжо не сняцца зоры,
Але мы, паспеўшы пасталець,
Не асудзім ў гэты дзень прасторны
Мудрае жаданне паляцець.

## ЖАДАНЫ ГОСЦЬ

У небе сузор'і такія сінія,
Сон над снягамі яшчэ плыве.
«Добрага ранку, ўдава-гаспадыня,

Мір клапатлівай тваёй галаве».
Полымя цёплы чалеснік ліжа.
Лёд на акне ад яго сышоў,
Проста ў акно, ад водбліску рыжы,
Звонку глядзіць і зайздросціць воўк.
«Ты як знаходка для ўсёй брыгады:
Сытыя ўсе, абшытыя ўсе...
Толькі жывеш не сабе на радасць...
Ведаеш?.. Не, пайду пакрысе».

* * *

«Сонца якое, ўдава-гаспадыня,
Дзень які добры... Сустрэліся зноў...
Што гэта села на скронях? Іней
Ці сівізна ад мінулых гадоў?
Ёсць ад чаго. І я гэта маю.
Цяжка было нам жыць на зямлі:
Мужа забілі твайго паліцаі,
Жонку маю пад расстрэл падвялі:
Боль абаім яшчэ сэрца паліць,
Ты яго несці дапамагла...
Тузіну год мы па іх сумавалі,
Пухам няхай ім будзе зямля.
Шкода глядзець на цябе, гаротная,
Так бы й пагладзіў па галаве.
Ці вінаватая ты ў адзіноцтве?
Ці вінаваты я ва ўдаўстве?
Ранак быў цяжкі. Стамілася, мусіць?
А выглядаеш, як сліва ў расе.
Добраю б жонкай была ты камусьці...»
«Дзякуй на слове».— «Я... пайду пакрысе»

* * *

Ноч надыходзіць. За вокнамі сінія
Зноў заляглі бясконца снягі.
«Што ж ты сядзіш без святла, гаспадыня?
Пэўна, стамілася? Дзень даўгі...
Ведаеш... восень — цяжкая штука,
Але ж бывае і цёплай яна.
Калі трымаеш жончыны рукі —
Сэрцам адчуеш: зноўку вясна.
Што ж ты такое зрабіла са мною,

Што ад цябе мне дарогі няма,
Што на душы мне так неспакойна,
Што ў галаве маёй нейкі туман.
Снег замятае шляхі-дарогі.
Любая. Што ж ты? Не трэба, не плач...»
Падае,
Падае на падлогу
З рук гаспадыні чорны рагач.

## ЛІСЦЕ

Восень прайшла пералескамі,
Па няголеным ржышчы ніў,
Чырвонымі арабескамі
Лісце лес ураніў.
Глянь на зямлю залатую,
Пяшчотную, сумную, чыстую,
Нехта па ёй вандруе,
Ў паветра ўзнімаючы лісце.
Струменьчыкам тонкім лісце.
Медзь на азёрах сплывае,
Сум у небе імглістым...
Як песня, з галін злятае
Лісце, лісце,
Залацістае лісце,
Сто лісцяў,
Дзесяць лісцяў,
Ліст.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

Дагарэў за брамай небакрай,
Месяц паміж воблачкаў плыве.
Выйду зноў, як у мінулы май,
Басаनож прайдуся па траве.
Дымная, сцюдзёная раса,

Цёмныя ў траве ад ног сляды.
А такога рослага аўса
Я не бачыў доўгія гады.
Бач, хмызы спляліся, як павець,
Светлякі мігцяць, гараць святлей.
Перад тым як звонка ў лозах пець,
Прачышчае горла салавей.
Лашчыцца трава да босых ног.
З дальніх паплавоў плыве ракой
Ледзь прыкметны сумны халадок —
Подых юні ўходзячай маёй.
Паімчаць за ёю наўздагон?—
Хоць і схопіш — усё адно падман.
Дзе каханне тых мінулых дзён —
Весніх паркаў бэзавы туман?
Нават шкадаванне — дзе яно?
Зноў вясна, і жаль знікае зноў.
(Так губляюць пах перад вясной
Ссохлыя сцяблiны палыноў.)
Ціха цмокае у сне рака.
О, як добра, як прыгожа жыць!
Раска, як русалчына луска,
На вадзе ад месяца гарыць.
А вакол травіцы роснай рай
І бярозак белая сям'я.
Мой чароўны беларускі край,
Бацькаўшчына светлая мая!

## БАЛАДА ПРА ПАЎСТАНЦА ВАЎКАЛАКУ

Апошняя ноч над зямлёю.
Каля мяне, як цень,
Праходзіць да вадапою
Вольны лясны алень.

Заўтра нічога не будзе.
Ляжу ў яры ля ракі.
Куляю срэбнаю ў грудзі
Звалілі мяне паюкі.

У полі абшар шырокі,
А тут і вільгаць, і цень.
Няма прасторы для вока...

Лісце аб'еш, алень!

Біўся з панамі нямала,
На ўсіх наганяючы жах,
Часамі — і без кінжала,
З аднюю злосцю ў руках.
Дабрацца б да родных межаў,
Пабачыць бы новы дзень...
Дай глянуць на свет бязмежны,

Лісце аб'еш, алень!

Мне ж не зламаць рукамі,
Я ж не магу стаяць,
А там на гары, за кустамі,
Родная хата мая...
Сястра сядзіць пад калінай,
Абляпілі «маскалікі» пень...
Зрабі прасвет у галінах,

Лісце аб'еш, алень!

Каб хату пабачыць бедную
І неба, дзе бусел ляціць,
Каб магілкі мог я ўгледзець,
Дзе маці мая ляжыць.
Пад мядовыя гівала гукі,
Патаемны крык леляка
Склала каравыя рукі,
Чакаючы з пушчы сынка.
Апоўдзень над тымі капцамі
Сыта бубніць авадзень...
Зламай крушыну рагамі!

Лісце аб'еш, алень!

Знімі мяккімі губамі
Пярсцёнак з рукі маёй.
Там, пад старымі дубамі,
Хата пад новай страхой...

Ад пана адбіў дзяўчыну,
Ад пана на белым кані...
Схавалі мяне яліны,
Хмыз, лесавыя пні.
А ў сэрца другі ёй убіўся,
Пакорлівы, добры, святы.
Я бачыў і адступіўся,—
Што возьмеш з авечак ты?
Зрабіў я, што пан у іх новы
(Й таго «Кабыздохам» завуць),
Дапамог канём і каровай,
Няхай сабе ў міры жывуць...
Пярсцёнак жанчыне ў маністах
Аддай і пра смерць не крычы.
Хай будзе сумленне чыстым!
Хай спіць спакойна ўначы!
Цяпер і маніць не трэба,
Як слабасць да сэрца дайшла:
Больш солі,
больш хлеба, больш неба
Патрэбна яна была.
І толькі волі вялікай
Я б за яе не аддаў...
Зацкаваны... Магутны... Дзікі...
Як я яе кахаў!
Пабачыць бы любыя вочы,
Пакуль не пакрыў мяне цень.
Не абмінай!
Варочай!
Лісце...
Аб'еш...
Алень!

## МАШЭКА

Лісце алае засыпае роў,
Пушчу чорную апавіў туман,
Атачон з усіх чатырох бакоў
Золкай восенню мой лясны будан.
Стогнуць пад дажджом старчакі альхі,
І ў будан з дрыгвы плыве золь-зіма,—

Ў ім карэнні — столь, ложак — ліст сухі,
Ні агню няма, ні святла няма.
Ад усіх я ўцёк, ад усіх я збег,
Буйным воласам да калень зарос.
Годы стаялі, быццам белы снег.
Горы панскіх цел мой Дняпро панёс.
Нішчу я паноў, замкі іх палю,
Я ламаю іх векавы бізун,
Помшчу за маю бедную зямлю,
За яе жальбу, за яе слязу,
За тваю красу, за маю любоў,
Што ў пакоях іх кветкай адцвіла...
Дзікі вецер гне рацць сівых дубоў.
Ночка нас з нажом, як братоў, звяла...
Я стаю, як корч, ў воўчай скуры ўвесь,
Зліўся з дрэвамі і гляджу на шлях,
Цёмны я увесь, цёмны голы лес,
Толькі два агні свецяцца ў вачах.
Конскі тупат... Там... Бегма ў гушчыню...
Затрашчаць у ноч пад нагой лаўжы.
З дзікім свістам я коні супыню,
І спячэцца пан на маім нажы.
Ранкам на абрыў выцягну яго
І скажу рацэ, што бушуе тут:
«Ты прымі, Дняпро, ворага майго,
Змый з маёй зямлі гэты панскі бруд».
Лісце алае засыпае роў.
Пушчу чорную апавіў туман,
Атачон з усіх чатырох бакоў
Золкай восенню мой лясны будан.

* * *

У дняпроўскіх хвалях, бы ў калысцы,
Разгайдалася хмурынак бель,
І спявае пад тугім вятрыскам
Лугавы вясёлы жаўтазель.
Усе шляхі прыводзяць не да Рыма,
А да родных вербаў і бяроз.
Любая, ў барах сівых радзіма,
Сын твой нарадзіўся тут і ўзрос.

## ДЗЕД ЦЫПРУК,
## ВАРТАЎНІК КАЛГАСНАГА СТАЎКА

Рыжая ватоўка на плячах,
Ахінёна хусткай цёплай шыя...
Пад вадою ў глеістых вірах
Праплываюць карпы люстраныя.
Дзеду семдзесят. З худой рукі
Фузія старэнькая звісае.
Вочы кепска бачаць. Хлапчукі
Часам рыбу аж з-пад ног цягаюць.
Дзе з «манахаў» б'е уніз вада,
Дзед Цыпрук сваю паставіў базу:
Адмыслова сплёў з галін будан,
Што у спёку добра пахне лазняй.
Дзед глядзіць з яго, як з норкі рак,
На дзіцячыя забавы-гулі.
Шкода, што самому нельга так,
Маладосць у горы прамінула.
Добра помніць дзед, як тут раней
Ледзь цурчаў струмок праз глею глыбы,
І не хочацца ганяць дзяцей,
Што купаюцца і пудзяць рыбу.
Зяблыя, палягуць на пясок
І пясок сабе пад грудзі мосцяць.
Спёка! Спёка! Вяне палынок.
Ныюць, ныюць к непагадзі косці.

* * *

*А. І. Бялецкаму*

На паўстанках, засыпаных лісцем бярозавым,
Дзе з пагардай цягнік двойчы ў дзень праляціць,
Ў простай хаце, пускаючы горкія слёзы,
У калысцы будучы Колас ляжыць.
Там, дзе хрыпла рыкаюць днём спякотным каровы,
Там, дзе ў прысаку хлопчыкі бульбу пякуць,—
Дваццаць першага веку галапузы Бетховен
Бацькаў кубак шпурляе, каб звон пачуць.

А ў вёсцы глухой, на траўцы зялёнай,
На задворках сядзібы, ля самай ракі,
Адсцябаны Шаляпін басам шалёным
Лямантуе з-пад матчынай жорсткай рукі.
О, як трэба шукаць на шляхах чалавека,
Як любіць, берагчы, не крыўдзіць яго,
Каб пабачыць славу наступнага века
Ў сэрцы сціплага сына суседа свайго!

## РУТА
## Ў ХАЛОДНАЙ РАСЕ

Гармонік грае за клубам.
Водар мурожнай травы.
Чамусьці няма маёй любай.
Чаму, ці не скажаце вы?
У полі, за дальняй брыгадай,
Агеньчыкі зніклі ўсе,
Адзеліся ценем прысады,
Рута ў халоднай расе.
Чакаю адзін да́ світання.
Нешта яна не ідзе.
Нават лілеі да рання
Заснулі ў цёплай вадзе.
У садах антонаўкай пахне,
І раптам, як гром з нябёс,
Вартаўнік з дубальтоўкі трахнуў,
Напэўна, соллю ў кагось.
Як цяжка мне тут чакаці.
Туман за ракою ўстае.
Стрэльні ты лепей, браце,
У дуб над акенцам яе,
Каб птушкі спрасонак крычалі,
Каб людзі пачулі ўсе,
Каб любая раптам згадала,
Што рута ў халоднай расе.

## ЭМІГРАНТЫ

Двух зуброў ад нетраў Белавежы
На Каўказ завезлі, аддалі.
Там лугі зялёныя, бязмежныя,
Там багата сонца і зямлі...
Хмары над лясамі залатымі,
Соль, вада, травіцы смачнай жмут,
Лёгка дыхаць, так як на радзіме,
Але ў кожнага ёсць родны кут.
Дзеці гэтага не разумеюць,
Нарадзіўшыся ў чужым бары,
І на тое, як яны дурэюць,
Непахвальна дзівяцца зубры.
На празрыстых, светла-сініх водах
Сняцца ім айчыны берагі,
Папараць, імшаныя калоды,
Сінія пад месяцам лугі,
Сінія пралескі на сугрэве,
Мухамор чырвоны ля азёр
І калоны манументаў-дрэваў,
Што вярхамі дастаюць да зор.

## ГІСТОРЫЯ З ПЕРШЫМ КАХАННЕМ

Шчасце былое ўяўляю
Дзяўчынкаю па вясне.
Загарэлая, кемная, злая,
Дражніла яна мяне.
Памятаю, год у шаснаццаць,
Дурны ад кахання і мук,
Цераз плот я глядзеў на шчасце,
Рамантычны, цыбаты хлапчук.
А шчасце гуляла ў садзе,
Апранутае ў паркаль,
Сабе і птушкам на радасць,
А мне на смутак і жаль.
Разявіўшы рот, як варона,

Гляджу я ў дзівосным сне
На шчасце, што садам зялёным
Ідзе бліжэй да мяне.
Уважна за мною сочыць,
І соладка, як салавей,
Просіць заплюшчыць вочы,
І гладзіць па галаве.
Раскошы цэлыя рэкі
Ў сэрца маё плывуць,
Моцна сціскаю павекі,
Чакаю... Нельга ўздыхнуць...
А дзяўчына з вачыма блакітнымі
Суседу, дурному, як бот,
Адуванчык тыцнула спрытна
Ў шырокі, як ступа, рот.

## У ТУЮ НОЧ

Кветка ў нетрах лясных распускалася,
Залатая, агністая, сіняя,
На купаллі, на росным купаллі,
Ў бураломнай лясной лагчыне.
У глушы, дзе туманы белыя,
Дзе жывуць лесуны і трасца,
Як заўсёды, шукалі смелыя
Кветку-папараць, кветку шчасця.
Як жадалі мець гэту кветку
Цёмных пушчаў глухія шаты,
Каласы на бедных палетках,
Людзі ў цёмных, закураных хатах!
Ўсё было ў тую ноч звычайным:
Над агнямі лёталі цені,
Пяткі «Янку» прывычна чаканілі,
Пахла мёдам мурожнае сена.
За вячэру скупую сядалі
Дзеці бедныя пры лучыне;
Загубіўшы вянок, рыдала
Панам збэшчаная дзяўчына.
У клапоўніку лаяўся п'яны,
За карчмою кагосьці білі,

Хтось на пузе ляжаў адшмаганы,
І кабета над ім галасіла.
З каліты салёнай, парожняй
Залатоўку узяўшы ў рукі,
Дзед шпурляў яе ў «божае вогнішча»,
Каб сухоты пусцілі ўнука.
Ўся краіна над працай гарбела,
Ела бульбу, не бачыла сала,
Ўсе маліліся, ўсе цярпелі,
І ўсе, як нямыя, маўчалі.
І не ведалі вёскі ў дубровах,
Людзі хмурыя і палеткі,
Што ўсяму ўжо знайшлося Слова,
Што яно прагрыміць над светам,
Што язык залаты атрымалі
Ў гэту ноч пушчы цёмнай шаты,
Рэчак поўных лянівыя хвалі,
Занядбаныя, чорныя хаты.
Хоць нясцерпным ставала гора —
Наваколле пакуль што маўчала.
Ноч плыла агнямі і зорамі...
Нарадзіўся Янка Купала.

## БАБІНА ЛЕТА

Над густа-сінім возерам чарот
З прыходам восені шуміць тужліва.
Здаволена гумно на поўны рот
Глытае дар багатай, спелай нівы.
Як шэрань на траве, палотнаў рад,
Ля хат вясёлыя гамоняць людзі,
Кабеты ў садзе кормяць немаўлят,
Сад засаромеўся і стаў аж рудым.
Чароды на зялёных берагах
Апошняю гадуюцца травою,
І слівы сыта луснулі ў баках,
Аб'еўшыся і сонцам, і зямлёю.
Жанчына ля іржэўніка сядзіць
(Мо сівізна ў касе, мо павуцінне)
І думае і ў далячынь глядзіць,

Дзе жоравы лятуць імклівым клінам.
Юнацтва шкода, сэрца хоча жыць,
А думкі нейкай цеплынёй сагрэты.
Далёка да зімы!
Як добра адпачыць!
Якое доўгае бывае лета!

## НАЧЛЕГ

Мой край, ад крушыны горкі,
На беразе цёплы дымок,
Табун выпівае зоркі
З паверхні лясных межыток.
Конь цягне неба зялёнае
Ў гулкі пусты жывот,
Пакуль цеплыня ад сонейка
Туманам не знікне з балот.
Дзе вы, дзяцінства гукі?
Дзе ты, водар зямлі?
Здзіўлёна гляджу на рукі,
З якіх сышлі мазалі.
Не мне выхваляцца і ззаду
Скакаць на спіну каню,
Не мне, як да ціхай радасці,
Да начлежнага ехаць агню.
А мне ўсё здаецца, што бачу
Сябе і сваіх сяброў
У ліку тых, што на клячах
Імчаць з начлегаў дамоў.
Замест сядла — сярмага,
Галовы у пышных вянках,
З чырвоных і чорных ягад
Каралі на нашых грудзях.
Дзяцінства імчыць вясёлае
На мокрых конскіх гарбах,
Засмаглае, напаўголае,
З шыпшынаю ў белых чубах.

* * *

У векавечнай бацькаўшчыне клёны
Нячутна пачынаюць аблятаць
На рыжую траву, на мох зялёны,
На весніцы, на ціхі стаў, на гаць.
Зямля глядзіць азёрамі-вачыма
На ясны свет, што стыне у красе.
Як чыста, бы святло абшары вымыла,
Як ціха — быццам зніклі людзі ўсе.
Адвечная мая! Ў сцюдзёных росах,
Як летась, як мільёны год таму...
Ляцяць на ветры косы рыжай восені,
І кліча лісцяў жоўты сум зіму.
На вуснах стыне горкі смак рабіны,
Цалую іх, халодныя як лёд.
О вы, што будзеце ісці з дзяўчынай
Пад тымі ж клёнамі праз сотню год,
Ці зразумееце, што мы кахалі,
Што зніклі так, як знікнеце і вы,
Што векавечны толькі край, і далеч,
І жоўты ліст на зелені травы,
Што ў векавечнай бацькаўшчыне клёны
Тысячагоддзі будуць аблятаць
На рыжую траву, на мох зялёны,
На весніцы, на ціхі стаў, на гаць,
Што нездарма яны з асінак рудых,
Калі ідзеш увосень па зямлі,
Раняе золата пад ногі людзям,
Каб мы яе любілі й берaглі.

## ЗІМНЯЯ ЭЛЕГІЯ

Чамусьці сёння цішыня такая,
Што сесці хочацца і патужыць.
Самотна зорка над зямлёй згарае,
І ў гурбах ліпа з холаду дрыжыць.
І я усё — усё чамусьці забываю,
Што знік той дзень, загублены ў цішы,

Што час ляціць, што ты ужо не тая
І што даўно я знік з тваёй душы.
Часопіс на стале з тваім партрэтам —
Глядзіш з усмешкай ветлай на мяне,
І ўспамінаю я Дняпро, і лета,
І цень каштана на старой сцяне.
Як дзіўна, я зусім не памятаю
Той дзень, калі цябе пабачыў я
Упершыню. Мо восень залатая,
Мо весні дзень у дальніх тых краях.
Але затое так яскрава бачу:
Пакой, Чайкоўскі хмуры на сцяне,
Раяль пра нешта дарагое плача
І прывіды каштанаў у акне.
Ты памятаеш: восенню туманнай,
Калі уборы дрэў зляцяць далоў,
Ліст жоўты застаецца на каштанах
Стажочкамі ля цёплых ліхтароў.
Ліхтар — і жоўты шарык на каштане,
А ўсіх братоў яго мятла змяла.
Вось так і я цягнуўся да каханай
І толькі й жыў, што ля яе святла.
Былі ў яе нябачаныя вочы,
Падобныя на просінь у нябёс,
І сарамлівасць мілая, дзявочая,
І светлая была, як светлы лёс.
Ёсць дробязі, што поўныя значэння:
Каханне першае растопіць лёд
І нават палавік ў цёмных сенях
Век памятны, як казкі першых год.
Мо толькі для таго яно прыходзіць,
Каб мы запамятавалі на вякі,
Як пахнуць рыбаю начныя воды,
Як у траве мігаюць светлякі;
Каб век сумленна памятала сэрца
Спакойны дым над цьмянай люстрай рэк,
Каб кожны быў да старасці, да смерці
Сапраўдны і сумленны чалавек.
Я памятаю ўсё: тугая раска
Заткала стаў. Мінуў наш першы май.
Якой здаваўся нам чароўнай казкай
Ў пустых бляшанках прыгарадны гай!
Хай зразумее кожны на хвіліну,
Як незлічоны светаў карагод,

Як лёгка размінуцца з той, адзінай,
Якой чакаеш, можа, сотні год!
Дні прабягаюць, і гады сплываюць,
Хвіліны шчасця часам прамігцяць,
А боль жыве, і сэрцам адчуваю,
Што жыць заўсёды будзе, да канца.
І ўсё ж на досвітку, і ў час змяркання,
І ў ясны дзень і ў час, як спяць палі,
Я дзякую жыццю за цень кахання,
За тое, што жывеш ты на зямлі.
Сяджу ў пакоі каля цёплай грубы.
Шыпіць пласцінка. Ў сэрцы многа дум.
Кручу: «Над домам флюгер ёсць у любай».
І Шуберт падзяляе ціхі сум.
О «Зімні шлях»! Забытыя будынкі,
Забыты водар ад каханых губ.
І хрыпне на марозе спеў катрынкі,
І мерзне ў гурбах прыдарожны слуп.
Я дзякую табе. Няхай чужая,
Няхай твой твар для іншага жыве,
Ты ёсць, ты недзе ёсць, і ты жывая,
Ты ходзіш веснім ранкам па траве!
Твае ў загары рукі бэз ламаюць.
Жыві і вечнай славай прамяней!
Рукой закрыўшы вочы, усміхаюся...
Ты ёсць на свеце. Досыць для мяне.

## РАЗМОВА З КІЕВА-ПЯЧЭРСКІМ СЛАНОМ

У асеннім прысмерку над Дняпром
Замігцеў агеньчык сляпы.
Ад дажджу пачарнеў небарака-дом
І дубоў магутных слупы.
Ад дажджоў стаў зялёным стары паркан,
Парадзела лісце садоў.
Пабяжы на поўдзень, Дняпро-рака,
Панясі прывітанне з вадой.

Прынясі яго ў горад юнацтва майго,
Дзе плылі тапаліныя дні,
Дзе чырвоныя паркі ля берагоў,
Дзе якраз запалілі агні.
Ў гэтым горадзе, дзе златабрамскі сквер
Зараз, пэўна, ад ветру пажоўк,
Ёсць любімы раён, што завецца «Пячэрск»,
Ёсць каштаны ў імжацы дажджоў.
Колькі я недакуркаў там раскідаў
У начны нечапаны снег,
Колькі раз пад вокнамі ноччу стаяў,
Каб пабачыць цень у акне.
Дом вар'ята-дойліда. Сотні хімер
Прымасціліся ля акон,
З брамы дзіўнай вартуе сонны Пячэрск
Недарэчны каменны слон.
Я прыйду і, як лепшаму другу свайму,
Калі выйду на Банкаўскай брук,
Доўгі хобат каменны пацісну яму,
Накармлю апельсінамі з рук.
«Любы слон, ты стаяў тут ночы і дні
Перад гэтай каменнай сцяной.
Раскажы мне, як тут жылі яны,
Ўсе сябры, што ў разлуцы са мной?»
Ты заўсёды бачыў іх вокан агні,
Ты глытаў іхніх комінаў дым.
Пойдзем вулкай, дзе тысячы навальніц
Праляцела над сэрцам маім.
Ты пабудзь гэту ноч, як калісьці, са мной,
Пакідай старую турму.
Асцярожна. Дай падтрымаю рукой,
Дай пад хобат цябе вазьму.
Мы дамо па Пячэрску вялікі крук,
Я мясціны табе пакажу,
Дзе калісьці кранаўся каханых рук,
Дзе хаваўся з ёй ад дажджу,
Дзе сімфоніі слухаў улетку з ёй,
Дзе закусваў у склепах начных,
Дзе бяссонным крокам, часінай начной,
Падазроных будзіў вартавых.
Цытадэльны завулак. Старыя дамы.
Ў небе зоры, як кроплі слёз.
Тут калісьці у верасні бачылі мы,
Як калілася знічка з нябёс.

Я такога не бачыў яшчэ на вяку,
Я не бачыў такога ў жыцці:
Затуліла павекі, працягнула руку
І сказала: «Ляці ж! Ляці!»
І чамусьці як толькі сказала: «Ляці»—
Ліст кляновы ў сцюдзёнай расе,
Ўвесь чырвоны, лімонны і залаты
Ёй на пальцы, як мятлушак, сеў.
І яна падхапіла яго на ляту,—
Чуеш, сябра, чуеш, мой слон?—
І яна сказала, што гэта Арктур
Ёй зваліўся лістком у далонь.
Але вочы былі, як спынены спеў,
Як трывожнай ракі глыбіня...
Я быў вельмі дурны і не зразумеў,
Што за зорку чакала яна.
І прыйшла чарга невясёлым дням,
Паміж намі стала сцяна,
І не верыў ніхто, і не верыў я сам,
Што чакала зорку яна.
Тут, на сходах, што ад тэатра Франко
На любімы Пячэрск вядуць,
Я апошні раз махнуў ёй рукой
І ў начную знік каламуць.
Каб пасля зразумець, што на гэтай зямлі
Памяць дзён такіх берагуць,
Што куды б дарогі мяне ні вялі —
Я забыць яе не магу.
Колькі цяжкіх гадоў пайшло пад адхон,
Пад марознага ветру свіст,
Разумееш, мой сябра, мой любы слон,
Мне яна напісала ліст.
У сэрцы зноўку парасткі даўніх надзей
Пад вясеннім ветрам пяюць.
Можа, зоры ляцяць сапраўды да людзей?
Можа, я спаймаю сваю?
Мы раён абышлі з табою кругом.
Зноўку вулка твая і мая.
Ты, напэўна, ведаеш гэты дом?
І пад'езд, і акно, як маяк?
Перад ім гады замыкаюць круг
І спыняецца бег хвілін.
Ты прабач, прабач мне, мой любы друг,
Я далей пакрочу адзін.

## МАТЧЫНА ДУША

Ноч прыйшла да зямлі на спатканне,
Захад скончыў агнём палаць,
І дубы ў малочным тумане
Веліканамі ціха стаяць.
Бач, агеньчыкі вёскі далёкай,
Бач, на ростані ўзняўся курган.
Явар сумны і адзінокі
Пахіліў задумёны стан.
Кветка тут уначы расцвітае,
Водар мяккі пялёсткі льюць...
І яе па роднаму краю
«Кветкай матчынай» людзі завуць.
Я крануў яе ціха рукою —
І пялёсткі спеў завялі,
І паўсталі вакол чарадою
Ўсе паданні роднай зямлі.
Вось карона ў рацэ заблішчэла,
Хтось плыве, як туман, на вадзе,
Па дарозе, ад месяца белай,
Цар змяіны кудысьці паўзе.
Цені ў лесе бягуць. Цямнее.
І ў чароўнай лясной гушчыні
Праімчаўся кудысь, як завея,
Ян Прыгожы на белым кані.
Нехта зблытаў на росных палянках
Сцежкі ўсе ў недасяжны край.
Як далёка, далёка каханка!
Сто гадоў шукай ды шукай.
Недзе лье яна чыстыя слёзы,
Спавівае ўвесь замак сон,
І Буран на сухой бярозе
Сцеражэ яе ля акон.
Над зямлёю зарніцы мільгаюць,
І здаецца, што гэта не гром,
А нячыстую рацъ пабівае,
Пакаціла цудоўным мячом.
І не вецер раве-нарастае
І ламае галлё на дубах,
А асілкі дубы змятаюць,
Каб да сонца расчысціць шлях.
І пялёсткі гучаць трывожна,
Бо мінуўся спеў забыцця.

Казкі новыя, казкі грозныя,
Небывалыя казкі жыцця.
Ўспамінаю косы, і вілы,
І над замкамі жаркі агонь,
Безымянныя ў лесе магілы,
І няволі цяжкі палон,
Волі нашай крывавыя роды,
Катаванні і здзек варагоў,
Барацьбу і пакуты народа,
Неўміручую душу яго,
І паўстанні, паўстанні бясконцыя,
І замучаных кроў на раллі,
І, нарэшце, шчасце і сонца,
Што сышло на нашы палі.
Вы, што маці душу забылі,
Без яе пажадалі пражыць,
Што вы варты без гэтай магілы,
Без каліны на роднай мяжы?
Без дубоў, што ў тумане млеюць,
Без расы на роднай траве?
Павяртайцеся! Вецер мацнее!
Маці кліча, кветка заве!
Для яе я павінен, я мушу
Неўміручыя гукі схапіць,
Ўзяць у рукі «матчыну душу»
І на вершы яе пераліць.
Запісаць старыя паданні,
Усё, што думаў і што жадаў,
І легенды, што на кургане
Сумны явар мне праспяваў.
Цяжкі крыж, але вельмі пачэсны,
Пераліць на свае аркушы
Казку мудрую, простую песню,
Кветку матчынай чыстай душы.

# ВЯЧЭРНІЯ ВЕТРАЗІ



## ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

Крычалі, білі кулакамі ў грудзі,
Палілі пачкі гербавых папер,
Кагосьці сцягвалі з трыбуны людзі:
«Прадажнік! Контра! Рэакцыянер!»
Над Мінскам, па-над плошчаю Саборнай,
Ляцеў трывожны варанячы грай.
Натоўп вакол. Раз'юшанае мора:
«Рэспубліка! Жыві! Перамагай!»
І вецер тыя крыкі рваў нядбайна
І нёс, як іскры, ў цёмныя палі,
Туды, дзе ў гурбах па шляхах бяскрайніх
Спяць хутары азёрнае зямлі.

І цішыня. Яна патрэбна многім,
Каб ад гарачых спрэчак ачуняць,
Узважыць дзень, і цвёрда стаць на ногі,
І песню новаму світанню даць.
Ў пакойчыку глухім, дзе пальцы стынуць,
Дзе ад буржуйкі сіняваты дым,
Смяртэльна стомлены, худы мужчына
Перакладае пралетарскі гімн:
«Паўстань, пракляццем катаваны,
Паўстань, хто з голаду век пух,
Бурліць наш розум збунтаваны,
Няволі кліча рваць ланцуг».
Ён кідае пяро. Ў чырвоных хмарах,
Што праплываюць над зямлёй кудысь,

Як здані, нараджаюцца ў пажарах
І чэзнуць зноў вякі і гарады.
У гэтых прывідах і ў роўным дыме,
Што цягнецца слупамі да нябёс,
Ён бачыць будучае ўсёй Радзімы,
Яе няпросты і вялікі лёс.
Скуголяць інтэрвентаў параходы,
У полымі вайны Дзвіна і Сож,
І гвардыя краіны — ўзвод за ўзводам —
На сто франтоў выходзіць басанож.
Вось за акном няпэўны бразгат зброі,
Падмацаваны дальняю трубой,
І песня ў цемрадзі: «На бой, героі...»
Яны ідуць! Рэспубліка, на бой!
Спяваюць цягнікі на двух вакзалах,
Не астывае ярасці напал.
Перакладае малады Купала
Для новых дзён
«Інтэрнацыянал».

## БАЛАДА ПРА СМЯРОТНІКАЎ

Нас было там некалькі тысяч.
Аплялі нас калючым дротам.
Баракі. Вежы. Пражэктары. Сотні пільных вачэй.
Справа — руіны горада. Злева — мох і балота.
Ў будучым — голад, праца, дым смяротных пячэй.
І хоць нельга было нас пабачыць нават вялікаму магу,
На вярсту вакол нашага лагера,
пад шэрай коўдраю хмар,
Таблічкі стаялі ў балоце. Чорны надпіс:
«Увага!
Тут небяспека заразы!— Achtung! Seuchengefahr»
Напэўна, таму,
што аднолькава чалавек памірае на свеце,
Тут разам чакалі смерці беларусы і латышы,
Татары і украінцы, салдаты, жанчыны, дзеці.
Ўсе згаладнелыя, з ранамі на целе і на душы.
Блок першы — жанчыны з дзецьмі,
блок трэці і пяты — салдаты,

Блок сёмы — таксама салдаты,
блок восьмы — усе для пячэй.
Пабудка, «апель» і праца. Пабоі. Бурда праклятая.
«Працуйце! Працуйце! Працуйце!
Хутчэй! Хутчэй! Хутчэй!»
Не мы, а яны заразныя, але ў блоках нас замыкаюць.
Для нас за восьмым баракам заўсёды шугае пажар.
На месцы, дзе мы змагаемся,
на месцы, дзе сонца чакаем,
На месцы, дзе мы паміраем,—
таблічка: «Seuchengefahr!»
Нашы душы і нашы рукі імі былі скалечаны...
Неяк з «бюро інфармацыі» вестку падаў дружок:
Пачулі размову турэмшчыкаў,
што заўтра дакладна пад вечар
Яны на апошнюю «акцыю» першы пацягнуць блок.
Дзеці, надзея наша! Маткі, святыня наша!..
Ёсць загад...
І руку да скроні пустая нясе галава.
Для іх чалавек — машына, што пустую засвойвае
кашу
І працу дае за гэта або... не можа даваць.
Але мы не маглі б пасля гэтага
ў вочы зірнуць свабодзе,
Хоць зрабіліся быдлам галодным,
хоць гонар амаль што згас.
Таму —
найлепшага хлопчыка па крывавай матчынай
згодзе
Мы выкралі з першага блока і цішком схавалі у нас.
Схавалі ля нашай кухні, што на самым пляцы стаяла,
Асцярожна заклалі дзірку ў пустым драўляным
кастры...
Хлопчык быў разумны-разумны.
Размаўляў і рухаўся мала.
Цэлы дзень разглядаў уважна кавалкі сасновай кары.
«Апель» нястачу выявіў.
На пляцы ў чынным парадку
Рылы пяці кулямётаў глядзелі ў спіны людзей.
Як ты сцярпела, сэрца, ўбачыўшы постаць маткі,
Што паўз касцёр, паўз сына ціха на згубу ідзе?
Яна казала спакойна, і маўчалі вязняў калоны:
«Не было ў мяне сына ніколі. Гэта памылка, паны».
Помніце, людзі, пра гэта, помніце аж да скону,

Помніце, як пра асколак,
што ў лёгкіх сядзіць з вайны.
Разумееце, гэта проста, і забітым не трэба жалю.
Гэта для тых, што цёплыя, а не для мёртвых касцей.
Нельга так, каб не плакаць, як хочацца,
нельга больш, каб дзеці маўчалі,
Нельга больш,
каб матчыны вочы пад штыкамі зракліся дзяцей.
Мы хавалі яго тры месяцы.
Хавалі ў кухонных дровах,
У яме, за кубам у кухні. І цягнулі ўсё, што маглі:
Скурку ад апельсіна з-пад афіцэрскай сталовай,
Пайку пушнога хлеба, макуху калі-нікалі.
Нельга было іначай, хоць кусалі ад голаду губы.
Гэта быў не звычайны дзіцёнак, што бегае і крычыць.
Ён сядзеў ціхутка, як мышка,
расстаўляў сабе нейкія кубікі,
Ставіў іх, як быццам на вату.
А вочы, як прорва ўначы.
Немцы нам не паверылі. Яны шукалі, шукалі.
Шукалі таму, што палонныя сапсавалі увесь парад.
Голадам, жахам, пабоямі душу у нас забівалі,
Але мы людзьмі засталіся. Мы не выканалі загад.
У кар'еры рабілі вобыск. Стэк гуляў па галовах.
І ў роце нейкага хлопца ўдалося ім адшукаць
Жменьку звычайных каменьчыкаў,
жоўтых і бледна-ружовых,
Якімі малыя дзеці звычайна любяць гуляць.
Хлопца і трох суседзяў атачылі асобай увагай.
Допыт цягнуўся да раніцы, але вынікаў не даваў:
«Я проста смактаў каменьчыкі,
каб менш адчувалася смага.
Я не чуў, што хаваюць дзіцёнка.
Зарукай — мая галава».
І яны прынялі заруку. І галовы чацвёркі ўпалі.
І комін за восьмым блокам гадзіну няўчасна дыміў,
Каб ведалі, чым канчаецца спроба звычайнага жалю,
Каб ведалі, што палонным забаронена быць людзьмі.
Нянавісць мы ў сэрцах захоўвалі,
здзек і пакуты зносілі.
«Ламі нашы краты, нянавісць.
Вырастай! Вырастай! Вырастай!»
Мы хацелі, каб выжыў дзіцёнак,
каб неба пабачыў просінь,

Каб за ўсіх безнадзейна асуджаных
святкаваў на зямлі Першамай.
Што нам было да таго, што душы ботамі топчуць,
Што кожны дзень для раба — суцэльны, няспынны
жах.
Для нас ён быў рэвалюцыяй, гэты маленькі хлопчык,
Будучыняй, што ўзрастала на тленных нашых касцях.
А як сталі гарматы Радзімы
на ўсходзе біць недалёка
І мы зразумелі, што блізка, блізка апошняя кроў,
Мы ў сточнай трубе пад лагерам,
у сточнай трубе глыбокай
Схавалі нашага сына пад аховаю двух сяброў.
І мы зразумелі тады, за што нас душылі газам,
Чаму хацелі планету ачысціць ад нашых мар.
Ім, вядома, трэба было берагчыся нашай заразы,
Трэба — ставіць вакол папярэджанні:
«Чалавечнасць! Seuchengefahr!»

Мы бручку гнілую елі,—
бо хлеба ў нас не было.
Мы на дрот калючы глядзелі,—
бо неба ў нас не было.
Гар уцягвалі ў лёгкія,—
паветра ў нас не было,
Але смерці мы не хацелі,—
бо яшчэ існавала зло.
Ў час, як знікнуць звады праклятыя,—
помніце, помніце нас.
У час вялікага свята,—
помніце, помніце нас.
Каб заўсёды была чалавечнасць,
каб шчасце сялілася ў хатах,
Каб давеку жыла Радзіма,—
не забывайце нас.

## НАД ШАХТАМІ

Пад тэрыконамі блукаюць козы,
Травою шэраю шуміць зямля,
І рэдкія, трывалыя бярозы

Ў вуглі ад верхавіны да камля.
Аўтобус па шашы паўзе павольна:
Не ведае, што ў чорнай глыбіні
Пад коламі яго блукаюць штольні
І свецяцца няпэўныя агні.
Ім невядома, сонца або хмары,
Лютуе завіруха ці прайшла,
І свежы лівень не абмые твараў
Здабытчыкам каменнага святла.
Світаннем золкім або цёмнай ноччу,
Калі затопіць свет гудкоў прыбой,
Нялічаная армія рабочых
Спускаецца на змену ў свой забой.
І на зямлі без іх цвітуць платаны,
Без іх гуляе вецер па траве...
Затое скамянелыя світанні
Палаюць там, дзе хоча чалавек.

# БАЦЬКАВА СЭРЦА

*(Паэма)*

Ён пахмуры, ён ціхі, ён вечна маўклівы,
Ён занадта пяшчотны з жонкай сваёй,
Хоць даўно зараслі варонкі на грывах
Беларускай адвечнай плакун-травой.
Зараслі варонкі плакун-травою,
Але сніць ён упарта даўнія сны...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Фоке-вульфы» равуць над балотнай зямлёю.
Надыходзіць другое лета вайны.
Партызанскі разгром. Адступаюць атрады.
Асвятляюць вёскі пажарамі шлях.
Ён вядзе ў дрыгву. Мядзяныя гáды
Адпаўзаюць з-пад ног у густых сітнягах.
Малады камандзір асцярожна, старанна
Па дрыгве на выспу атрад вядзе.
У яго пад рукой дзвесце шэсць партызанаў
І дзве тысячы трыста мірных людзей.
Мох. Багун. Непрыкметныя кветкі дурніцы.
Дрыгвяная руда нацякае ў сляды.
За спіною зямныя б'юць бліскавіцы
І ўздымаюць фантаны бруднай вады.
«Елянецкая выспа, ты дай ім надзею,
Дай спакой. Напаі крынічнай вадой.
Хай галіны на хвоях ад куль парадзеюць.
Ты ж зацягнеш раны жывіцай сваёй.
Чалавечыя раны цяжэй зажываюць.
Зберажы людзей. Ад болю маўчы.
Дзеля гэтых дзяцей яны адступаюць.
Дай ім сховішча. Раны дай залячыць».
Елянецкая выспа з уздыхам сказала:
«Я цябе памятаю, Карповіч Ян,
Я схаваю вас, як продкаў хавала,
Ад палону, ад ганьбы, ад смерці, ад ран.
Спачывайце спакойна. Не пройдзе вораг.
Развяду рукамі вашу бяду.
А балот вакол — неабсяжнае мора,
І шляхі да мяне пад тванню вядуць».
Людзі выйшлі, урэшце, на цвёрдую глебу.
За спіной замаўкае голас гармат.
Хтось жаваў скарынку чэрствага хлеба,

Хтось кашуляю абціраў аўтамат.
Заварыўшы галін маладой маліны,
Камандзір жанчыне прынёс кацялок:
    «Чай духмяны, смачны. Напіся, Сабіна.
    Абышлося ўсё. Жывыя, сынок.
    Вось нягоднік бяззубы. Смяецца, ты бачыш?
    Знаеш, жонка, ніяк не магу ўявіць,
    Што пайду з ім калісьці ў лазню гарачую,
    Навучу, як трэба вуды жывіць,
    І што будзем дурэць з ім калісьці на сене,
    І што будзе са школы прыносіць «калы»...
    А пасля... пасля ён, вядома, ажэніцца.
    Ён ажэніцца... смешны, бяззубы, малы.
    І не бойся. Вакол разышліся цені.
    Не над намі будуць крычаць груганы.
    Мы схаваліся, зніклі, як голка ў сене,
    І ніколі слядоў не знойдуць яны».
Памыліўся Ян. Атрад пільнавалі.
Роўна тыдзень мінуў, калі хлопцаў трох
На балотным беразе абстралялі
І звалілі мёртвымі ў рыжы мох.
І чужыя, нахабныя, слізкія твары
Іх укрылі дзяругай, паклалі на воз
І павезлі па вёсках, па чорных пажарышчах
Каля чорных абвугленых мёртвых бяроз.
І сцягнулі за ногі з воза без жалю,
Не трымаўшы буяную галаву,
І чубы, як бялявы кавыль, падмяталі
Перад ганкам штаба сухую траву.
У штабах машынкі, як кулямёты,
Стракаталі цэлую ноч навылёт:
«Ачапленне пасіліць вакол балота...
Накіруйце да Гейнца сапёрны ўзвод...
Дальнабойныя падцягнуць да лагчыны...
З лётнай часткай сувязь трэба ўзмацніць...»
Махавік жахлівай ваеннай машыны
Закруціўся павольна, каб мяць і крышыць.

Гэты час быў нядобры, вельмі нядобры,
На людзей палявалі вучоныя псы,
На зямлі беларускай ад Оршы да Кобрына
Дзень і ноч, дзень і ноч палалі лясы.
У адказ аўтаматы з-за хвой стралялі,
І ад жыта дымная хмара плыла.

Дзеці ў пушчах начных спакойна гулялі
І пужліва сціхалі на вулках сяла.

А на выспе залечвалі цяжкія раны,
Гадавалі дзяцей, рыхтавалі паход
І чакалі, чакалі трох партызанаў,
Што ніколі не прыйдуць з далёкіх балот.
І аднойчы над мрэючымі барамі,
Над абшарамі вострых балотных траў
У бясхмарным небе з'явілася «рама»,
І Янук зразумеў, што канец настаў.
Зараўла артылерыя — з недалётам.
Сітнягамі папоўз удушлівы дым.
З громам падала сталь на кілім балота
І рабіла новыя вокны ў ім.
У новых вокнах з чорнай вады гарачай,
Што бурліла газам з апошніх сіл,
У цёмнай бронзе лускі, што сонца не бачыла,
Выплывалі аглушаныя карасі.
У гадзюк халоднае падала сэрца,
Як імчаў над імі свідруючы жах.
Вадзяныя курачкі беглі ад смерці
На сваіх зялёных, доўгіх нагах.
Хто, чаму іх карае — не разумелі
І хавалі галовы свае пад крыло.

Цішыня раптоўна ўпала знямелая.
Не ўзялі гарматы бясконцых балот.
Перад вечарам проста над галавою,
Ў ціхім небе, дзе цьмянае сонца вісіць,
Над трывожнай, закуранай дымам дрыгвою
«Фоке-вульфы» натужліва сталі басіць.
Вымпел кінулі ў цемры з апошнім налётам,
І зямля скаланулася ў чорнай журбе.
«Заўтра мы вас змяшаем з брудам балота.
Вайсрутэнія, здайся.
Канец табе».
Ян сказаў:
«Нам трэба хутчэй збірацца.
Выспа будзе пустою ў ранішні час.
Нас тры тысячы. Хочам мы жыць і змагацца.
Мы прарвёмся. Ёсць іншая сцежка ў нас».
Людзі хутка збіраліся. Над галавою
Дуб, расколаты бомбай, тужліва рыпеў.

Восем вёрст ім трэба прайсці дрыгвою.
Летам ноч карацей, чым гівала спеў.
Шлях адзін: па пояс у твані зялёнай.
Асака рэжа твар, як лязом мяча,
Па баках уздыхае дрыгва бяздонная.
Нават дзеці маўчаць. Нават дзеці маўчаць.
І дрыгва падпірае пад самыя грудзі,
Калі трапіцца нейкі дурны раўчук.
Са сцяжынкі сарваўшыся, тонуць людзі
І маўчаць, каб вораг іх не пачуў.
«Не ўзыходзь, Венера, над ціхімі рэкамі,
Над спакойнай цемрай балот начных.
Будзь кахання зоркаю, як спрадвеку,
А не зоркай смерці для дзетак тваіх.
Бач, ідуць яны ў золкім начным тумане
І нясуць на руках праз цемру і дым
Ўсіх дзяцей, што народжаны цёплым каханнем
Пад адвечным, пяшчотным святлом тваім.
Не ўзышла. О любая, дзякуй ад сэрца.
Вось і суша, цвёрдая, як асфальт.
Мы дайшлі, мы пазбеглі ганьбы і смерці».
— Хальт!
Прагна слухаюць. Ціша. Глухая. Дзікая...
Вартавы адганяў баязлівасць і сон.
Дзякуй шчырае, што папярэдзіў крыкам,
А інача́й нарваліся б на заслон.
І упалі людзі на глебу ўзрытую,
Па глыбокім яры, па хмызах густых
З лесавым, адвечным, звярыным спрытам
Папаўзлі, як яшчаркі, праз пасты.
Над адхонамі вогнішчы зырка палаюць...
Чутна мова... Смех цішыню скалануў...
А яны адзін па адным прапаўзаюць,
Пасадзіўшы маўклівых дзяцей на спіну.
Цішыня заснула ў галінах сасонак,
Цішыня разлілася па берагах.
І раптоўна заплакаў Янаў дзіцёнак:
— Куга! Куга!
Ён крычаў, ён скардзіўся горка на голад,
Бо пустыя грудзі ў маці былі.
Вусны маці зводзіў пранізлівы холад,
І яны калыханку вялі і вялі.
А дзіцёнак крычыць прарэзліва, тонка.
І зайшлося сэрца у многіх людзей.

І Карповіч сказаў: «Дай мне сына, жонка».
І прыціснуў пад курткаю да грудзей.
Ён зацiснуў рот неразумнаму сыну,
Ён далонню гладзіў дрыжачы задок:
«Памаўчы, памаўчы, памаўчы хвіліну,
А пасля крычы колькі хочаш, сынок».
Вартавы прытаптаў недакурак абцасам
І спытаў трывожна: «Ты чуеш плач?
Што такое, Курт, не ведаеш часам?
А другі адказаў: «Der Uhu — пугач».
Пяць хвілін стаялі яны над адхонам.
Панавалі ў лесе маўчанне і сон.
Дзякуй богу, маўчыць, ён маўчыць, дзіцёнак.
Дзякуй богу, спакойны, спакойны ён.
А калі адышліся прэч вартавыя,—
Стала чутна, як сэрца ў грудзях звініць.
Папаўзлі... І ўздыхнулі нетры лясныя.
І у тыле нямецкія згаслі агні.
І адкрыўся бор, вясёлы, шырокі,
У карчах, ручаінах, мяккіх імхах.
Ян ішоў паперадзе цвёрдым крокам.
Сын ціхутка ляжаў у яго на руках.
Бацька сеў з малым пад сухою бярозай
І яго з суровай пяшчотай абняў...
З дрэў спадала раса, як дзявочыя слёзы,
Высыхаючы з першай усмешкаю дня.
Калі нехта прынёс яму лусту хлеба,
Ян адсунуў хлеб і сказаў:
«Забяры.
Адыдзі, яму нічога не трэба...
Надта... доўгай была... хвіліна ў яры...»
І канец.
Да бацькі вярнуліся сілы.
Два гады ён з атрадам па пушчах кружыў...
На зямлі стала болей адной магілай.
На зямлі засталіся тры тысячы жыць.

Калі штосьці адмовіць уладу смерці,
Калі штосьці радасць зямлі ажывіць,
То, напэўна, сэрца, бацькава сэрца,
Што абвуглена ў горне вялікай любві.

---

## БАЯВЫЯ ВАЗЫ

Драч крычыць. Туманы, як мора,
За ракой на лугах ляглі.
Прагна слухаю.
З цемры чорнай
Далятае голас зямлі.
Непакорлівы. Рэзкі. Забыты.
Крык аб помсце. Пагроза. Прызыў...
Драч крычыць быццам недзе ў жыце,
Ледзьве чутна рыпяць вазы.
Ты адкуль, драчыная песня?
Можа, з тых далёкіх часоў,
Калі сотняй вазоў напрадвесні
Йшоў Вашчыла граміць паноў.
З мужнай песняй адчаем і верай
Войска продкаў на ворага йшло.
Хлебнік — з дзідай, смаляр — з сякераю,
Каб на працу падобна было.
Пад зарнічным святлом мігатлівым
Праз шатры надрэчнай лазы
Бачу вілы, конскія грывы
І акутыя меддзю вазы.
Едуць, едуць, драныя, босыя.
Ў рызе біскупскай кожны конь.
А на вочы звісае валоссе,
А ў вачах — пажараў агонь.
Што ж няма вам дагэтуль спакою?
Ціха.
Слухайце.
Хаты спяць.
Адпачніце. Няхай над ракою
Баявыя вазы не рыпяць.
Іх няма, вашых злосных катаў.
Поўнай мерай заплочана ім
За галодныя, курныя хаты
І за вёсак спаленых дым.
Мудры, моцны і працавіты,
Цвёрда ведае родны народ —
Сонца светлым устане над жытам,
Як прывыклі за сорак год.

## ВЯЧЭРНІЯ ВЕТРАЗІ

Яны абвісаюць, як спеў недапеты.
Пад кілем вада заціхае, звініць.
О вецер, дыхні над вячэрняй планетай,
Рыбацкія мачты рукою крані.
Пагладзь спрацаваныя нашы далоні,
Ўчыні на паверхні вясёлы баль,
Каб зноў паляцелі грывастыя коні,
Блакітныя коні азёрных хваль.
Каб ветразь ружовы, тугі, нібы грудзі,
Прынёс нас да хаты над беражком,
Каб позняй парою ўсе добрыя людзі
Сядзелі над смажаным шчупаком.
Каб клікала нас адрына старая,
І мірна агеньчыкі ззялі ў дубах,
І ўстала з-пад мачты мая дарагая
І стому рукою абцерла з ілба.

* * *

Трагедыі не знікнуць пры Камуне,
Хоць знікнуць голад, і прыгнёт, і жах:
Захоча Ён дабрацца да Нептуна,
Яна — сады вырошчваць у ільдах.
І рыне ў космас карабель імклівы
Да новых зор, да новай стараны,
І пройдзе месяц для Яго жахлівы,
А для Яе — дзесяткі год зямных.
І лямант радыё з канца сусвету
Не даляціць праз папялісты змрок:
«Каханне, адгукніся, дзе ты, дзе ты?
Ў якіх краях гучыць твой лёгкі крок?»
Ён руль трымае, пальцы пабялелі.
Ў вачах ад рэзкіх слёз стаіць туман.
Планеты ледзяныя, пасівелыя.
Жыцця ні кроплі. Аміяк. Метан.
Далей. Далей. Сусвет бязмежны зведаць.
Шукаць разумнае, шукаць людзей,
Ў туманнасці далёкай Андрамеды

З пачварамі змагацца цэлы дзень
І прыляцець з далёкіх зорных светаў
Да прыліўных дажджоў, да поўных рэк,
Да самай лепшай, да сваёй планеты,
Дзе так чакае родны чалавек.
Сустрэць Яе ў пачатку цёплым мая
І ўбачыць, што прыйшла Яе пара,
Што любая амаль зусім сівая,
Па ўзросту, як старэйшая сястра.
Пачуць ад любай у тузе і жалю,
Ў згрызотах, і каханні, і журбе:
— Я гэту яблыню *тады* саджала,
І дачакалася яна цябе.
Пятнаццаць год у зараве Стажараў
Яна пладамі біла па зямлі...
Глядзі, алеяй падыходзіць пара.
І хлопец — наш. І мы вось так маглі
Глытаць салёны вецер акіяна,
Ў шумлівых пушчах раскладаць касцёр,
Ў садах малочных сустракаць світанак
Ўсе дваццаць год, што ты ляцеў да зор.
І ўсё ж мне добра, што тугу і старасць
Пакінула сабе, як лепшы дар.
Я ганарылася табою ў марах,
Адважны мой, каханы мой Ікар...

І, можа, шчасце менавіта ў гэтым,
Каб любаму аддаць усе гады,
Каб адкрываць нязнаныя планеты,
Сівець, чакаць, кахаць, расціць сады,
Не быць ніколі вербным херувімам,
І для адвечнай мары дарагой
Ў касмічным пыле, у агні і дыме
Спаліць жыццё над цёплаю зямлёй.

## МОКРЫЯ ТРАВЫ

Я сумую па радзіме,
Па яе лугах і нівах,
Па трыпутніку, што гладзіў

Ногі збітыя мае,
Па укропе на гародзе,
Рэчках ціхіх і лянівых
І па сопкай белай бульбе,
Што на стол яна дае.

Я сумую па радзіме...
Бачу ціхія паляны.
Цёплы мёд яе маліны
Адчуваю на губах.
Ты — мая лясная казка
У красе доўгачаканай,
Ты — мая святая песня,
Свет адзіны у вачах.
Просты свет, дзе дрэмлюць хаты,
Дзе раса на травах спее,
Дзе у росных шатах чуцен
Гівала пяшчотны свіст,
Дзе наўсцяж канавы мокрай
Пышны кураслеп жаўцее,
І купае тлусты лопух
У вадзе мясісты ліст.
Мокры край. Дажджы і сонца.
Вільгаць сонечнага лета.
Жарабя бяжыць па лузе,
Радасна задраўшы хвост.
Цэлы век вісіць вясёлка
Над краінай мокрай гэтай,
І глядзяць спакойна коні
На нябесны дзіўны мост.

Я сумую па радзіме,
Як каханы па дзяўчыне,
Я жадаю ўвесь прыпасці
Проста да яе рукі,
Да грудзей — тугіх узгоркаў,
Да вачэй — азёраў сініх,
І замерці ў пацалунку
На гадзіны і вякі.

* * *

О мой цудоўны край,
Мой заснежаны рай...
Ціхі званочкаў смех.
Снег у лесе начным,
Смех у садзе пустым,
Коней спакойны бег.
Штосьці часцей і часцей
Сню я, што шэрань цвіце,
Падае з чорных сукоў
І што з табою ўдваіх
Еду між дрэваў начных
Госцем да сваякоў.
Плечы твае абняў.
Роўная рысь каня.
Лес радзейшым стае.
Шэрань заткала бары,
Скроні мае серабрыць,
Беліць вейкі твае.
Бачу сялібу ў садах,
Бачу загурблены дах,
Нізкі, натоплены дом.
Хутка між яблынь густых
Будзеш смяяцца і ты.
Бачыш? Страчаюць з агнём.
Вязкі цыбулі вісяць.
Скварыцца каўбаса,
Водар смалы, сасны.
Дроваў адталы дух.
Печка.
        Калматы кажух.
Сны.

* * *

Гусі-лебедзі ў лугах зялёных,
Гладзяць крылы белыя блакіт.
Сокал, прагнучы крыві салёнай,
Рвецца у сакольніка з рукі.
Ногі коней грэбуюць зямлёю.

Ярасная сіла ў скакуне...
Адбылося гэта ўсё са мною,
Або гэта сон і яблынь снег.
Але ў сне не вып'еш столькі гора.
Ведаю, што я званіў у шчыт,
Я граміў татар пад Крутагор'ем,
Я крышыў крыжацкія мячы.
Кроў далі мне паплавы і пожні,
Голас — бор дрымучы і чарот.
Я з табою да крыві апошняй,
Мужны мой, адвечны мой народ.
Ты мне даў асеннія світанні,
Ты мне даў ружовы твар вясны,
Падарыў мне цяжкае каханне
Да жанчыны з дальняй стараны.
Роднымі зрабі чужыя вочы,
Шэрыя, як неба над табой,
А пасля пакліч, калі захочаш,
За цябе на самы страшны бой.
І калі ў тваё глыбіні лягу,—
Дай мне ціхі спеў тваіх бяроз
За любоў, за веру, за адвагу
Сціплых песняў, што табе прынёс.

## ЛЯСНАЯ КАЗКА

Стажар серабрысты пажар.
На дрэвах бароды імхоў.
Па́ра з начных імшар
Пужае цыбатых ласёў.
Бягуць па балоце яны.
Над імі праз шэры туман
Ззяе, як вока вайны,
Чырвоны Альдэбаран.
Слепне стомлены зрок,
Сцежка спускаецца ў лог,
Вожык, як шэры клубок,
Скруціўся ля самых ног.
— Клубочак, вядзі, вядзі.
— Гаспадар, дарогі няма.

Трэба на сцежках блудзіць
І не зважаць на туман.
Яліна над сцежкай маёй —
Не яліна, а баба-яга.
Сава ў глушыні лясной
Прарочыць: «Куга! Куга!»
— Алёначка! Ого-го!
Спаткай, за руку бяры.
Выведзі Яна свайго
Да цёплай хаты ў бары.
Хоча ён бачыць агні,
Карагоды між светлых лугоў,
Хоча святла, цеплыні,
Хоча кахання твайго.
Лаўжы і карчоў крыжы.
Туман, як прывід, як дым.
Хтосьці па сцежцы бяжыць,
Сава лунае над ім.
Вочы гараць нада мной,
Не сава, а дзіва-змяя.
— Бацюхны! Хто гэта? Вой!
— Алёначка, гэта я.
— Пойдзем хутчэй. Туман.
Хату яшчэ прамінеш.
Як ты даведаўся, Ян,
Што завуць Алёнай мяне,
Што аб'ездчыку я дачка,
Што жыву між гэтых палян,
Што добра мне тут чакаць,
Калі прыйдзе прыгожы Ян?
— Любая, я ж чараўнік,
Знаўца зямлі і вады.
Мне і куніца, і дзік
Адкрылі свае сляды.
Ў дрымотнай глушы лясной
Не ведаў я аднаго:
Сцежкі да хаты тваёй,
Сцежкі да сэрца твайго.
Дай мне сваю далонь.
Не трэба стаяць, пайшлі.
Вядзі на мірны агонь
У змрочных лапах ялін.

## РАЗВІТАЛЬНАЯ ПЕСНЯ

Ці-і-іпак,
Ці-і-іпак.
Сумна. Не хочацца ў шлях далёкі.
Шпак
на галіне бярозы высокай,
Чорны шпак,
Трапёткі шпак.
Чысты абшар халодных нябёс,
Белыя травы засумавалі,
Белыя травы на сонцы адталі,
Плачуць ружовымі нізкамі слёз.
Ці-і-іпак,
Ці-і-іпак.
Шпак не трапеча, ён не ўзвіваецца,
Шчасцем жыццёвым не захлынаецца,
Сёння з радзімаю ён развітаецца.
Сумна,
Працяжна спявае шпак.
Песня шпака халадком цячэ,
Доўгі, празрысты свіст на світанні...
Час адлятаць ад радзімы туманнай,
Светлай для кожных птушыных вачэй.
Ў сэрцы птушыным яна жыве
З дымнаю сушняй, з садамі расянымі...
Вецер над чорным, чужым акіянам
Перыйкі,
Перыйкі,
Перыйкі рве.

## БАЛАДА ПРА ГАЛУБІНЫЯ ПЕР'І

На ўскраіне ціхай дзяўчынка жыла,
І было ёй шаснаццаць год.
Як заўсёды, тачылася з вішняў смала,
Як заўжды, палымнеў усход.
І ў дзяўчыны хлопец харошы быў.
Стаяла вясна на двары.

Над каханымі лёталі галубы
І скінулі два пяры.
І хлопец дзяўчыне аддаў адно,
І яго абняла яна,
І вечар быў, і спусцілася ноч,
А ўранцы прыйшла вайна.
Бомба разбіла іх цёплы дом.
Абое на фронт пайшлі.
Хлопцы танкі сустрэлі ружэйным агнём
І забітымі ў полі ляглі.
Смерць у ясных вачах закруціла свет,
Прабіла кішэнь свінцом,
Прабіла шэры пацёрты білет
І пярынка з шызым пушком.
Засталася дзяўчатам кроў на бінтах,
Разбіты бомбай шпіталь,
Сцяжок у руках, сняжок на вачах,
Па забітых дарэмны жаль.
І дзяўчыну таксама не мінуў свінец.
Гарэлі пясок і трава.
Над грудзьмі белай зоркай застаўся рубец,
Дзе асколак пацалаваў.
Жорсткі вецер вайны падхапіў пяро
І панёс над абшарам снягоў:
Пэўна, недзе ў капцёрцы, змываючы кроў,
Пусцілі на вецер яго.
Разам з пярынкам гэтым, што без надзей
Ляцела ў бясконцы шлях,—
Як бязважкі пух, існаванні людзей
Круціліся ў дымных смярчах...
На месцы акопаў сталі сады,
На месцы магіл — рунь,
Але разам з пяром адляцелі кудысь
Каханне і светлая юнь.
Засталіся фарбы фрэсак старых,
Храмы над люстрай вод,
І жанчына кнігі пісала пра іх,
Каб любіў іх родны народ.
І аднойчы ў руінах стаялі яны
Разам з сябрам майскай парой,
І да іхніх ног з высокай сцяны
Галубінае ўпала пяро.
Пад мядовым ветрам звінела трава,
І жанчына ў дзіўнай журбе

Зразумела, што простае: «Гэта вам»
Азначае: «Памру за цябе.
Асушу пацалункамі вочы твае,
Дзіўнай песняй людзей здзіўлю...»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Малады, ён паходзіў на друга яе,
Што без помніка лёг у зямлю.
Глянула ў вочы яго, і ёй
Патрызніўся рык гармат.
І той, хто забраны навекі вайной,
Ніколі не прыйдзе назад.
«Маладосць твая чыстая, як сляза,
Гарачэй, чым раны ў баю.
Любы мой, ну чым мне табе адказаць
На пяшчотную сілу тваю,
На настойлівасць мяккую сціплых рук,
Што туманіць мне галаву?..
Сціснуць пэрыйка ў пальцах, пазбыцца мук
Або ўпусціць на траву?
Мне цяжка кінуць жорсткі адказ.
Забіць — і пакутваць пасля,
Я хачу апошні, апошні раз
Адчуць, як квітнее зямля.
І балюча жыццё тваё завязаць,
Бо між намі гады і кроў.
Што сказаць табе?
Што сказаць?
Што сказаць?»

. . . . . . . . . .

Рука трымае пяро.

* * *

За старым, закінутым млынам,
Дзе зарослы заліў ракі,
Скачуць жоравы на лугавіне —
Танканогія шляхцюкі.
У цыбатых усё ў парадку:
Ежа ёсць, прайшлі халады,

Ім асіна пляскае ў ладкі
На касе ля балотнай вады.
Толькі я перапоўнены сумам.
Зросся я з гэтай веснай зямлёй
Не птушыным сэрцам бяздумным,
А трывожнай людской душой.
Мне лягчэй бы стала, напэўна,
Каб забыла мінулае ты,
Каб страла мая ўпала гнеўная
І ўваткнулася перад царэўнай
У гарлачыка ліст залаты.
Ты прыходзь, далёкая, любая,
Ты развей усмешкай тугу.
Пакладзі мне далонь на губы.
Не магу без цябе. Не магу.

* * *

Месяц заснуў на коміне хаты,
Кінуў адбіткі на люстра вады.
Дрэвы густыя ў бліскучых латах,
Як вартавыя, вартуюць сады.
Ў цьмянае поле гляджу з-пад далоні,
Полымя бухае, нібы ў трубу.
Коні начлегу, ружовыя коні
Месяца іскры з травою скубуць.
Добра усім. А мая беласнежка
Полем не пройдзе каля лазняка,
Не прыбяжыць гэтай цёплаю сцежкай,
Бульбіну не пакачае ў руках.
Позіркам ясным мяне не адорыць,
Поруч з агнём не ляжа ў мурог
І не папросіць, каб сеў я поруч
І ад бяды невядомай бярог.
І не прыкрыюць вачэй яе сонных
Цёплыя пальцы маёй рукі...
Вельмі далёкія перагоны.
Вельмі марудныя цягнікі.

* * *

Пералескі. Бярозы вісяць над старыцамі.
Над ярамі, над парнай ракою імгла.
Чырвань вечара на самотных званіцах,
На каменнях бялеючых мякка лягла.
Спачывае зямля пад гусцеючым ценем,
Мірна нюхае горкі пах травяны,
Як аратай, што звесіў рукі з каленяў
І бяздумна сядзіць ў канцы баразны.

* * *

Цягнікі заспявалі, заплакалі,
Дым змяшалі з парай лагчын,
Па мастах над вадою адтакалі,
Іскры кінулі ў зорную сінь.
Дні нядаўнія, ясныя, любыя,
Гарадоў старажытных спакой,
Курасслеп на лугах Багалюбава,
Белы храм над Нерлю-ракой.
Ці здалося мне, ці прыснілася,
Што ў вясеннія гэтыя дні
У вачах тваіх, шэрых, мілых,
Больш было да мяне цеплыні.
Адшумела дзікімі злакамі,
Абляцела пялёсткамі «сна»,
Адцвіла барвянымі макамі
На паўночных лугах вясна.
Дзе ты зараз, добрая, цёплая,
Як прамень святла на траве?

...Над духмянымі ў полі канаплямі
Цень ад хмары самотнай плыве.
Ледзь паспеўшы сустрэцца і зведацца,
Лапай вочы прыкрыўшы ў журбе,
Пад алмазнай Вялікай Мядзведзіцай
Спіць туга мая па табе.

# ЗАСУШ

Пілавінне цягаў на гару, каб не мерзнуць зімою.
Слова мерзнуць прыдумаў, здаецца мне, нейкі вар'ят.
Трыццаць градусаў спёкі. Пад сіняй шкляною смугою
Задыхаецца ў сонцы бляшанымі лісцямі сад.
Сорак дзён абыходзяць дажджы паплавы і палеткі,
Сорак дзён, не змаўкаючы, ворат ля студні рыпіць,
Травы пудрацца пылам, і нікнуць бязвольныя кветкі,
Лісце дзюбу раскрыла, як галка, жадаючы піць.
Выльеш цэбар вады уначы пад каравую грушу —
З прагным шоргатам п'е, знемагаючы ў смазе, зямля.
Толькі жоўты баркун, улюбёнец спякоты і сушы,
Сотняй дзід залатых пагражае маўклівым палям.
Я паіў свой гарод, я паіў свае кветкі і дрэвы,
Але як напаіць мне мільярды аўсоў і пшаніц,
Што дрыжаць перад вокам чырвоным калматага гневу
І аб літасці просяць, галовы схіляючы ніц?
І заходзіцца сэрца сялянскім разважлівым жалем.
Шкода парасткаў гэтых, што глебу прабілі для мук,
Шкода баб, што вясною на печцы халоднай стагналі
Ад нясцерпнага болю у трэшчынах высахлых рук.
І балбоча стары, што жыве па суседстве са мною,
Як калісьці малебны служылі, ішлі на мяжу,
А вачам уяўляецца жыта сухою сцяною,
І адчай у вачах, і надрыўныя крыкі:
«Дажджу!!!»
І дзядоўнік на рызе папоўскай, ніжэй паясніцы...
Каб вы здохлі, старыя гады і старыя часы!
Пуста ў небе, дзяды, і дарэмна ішлі вы маліцца,
Каб вярнулася вільгаць у ломкія каласы.
Што рабіць, калі зроблена ўсё,
што ў руках чалавечых,
А на нівы дагэтуль ад хмары не падае цень,
І нясе толькі пару з ракі надыходзячы вецер,
І лягчэйшым надыдзе у рукі людзей працадзень.

Я іду на раку пасля працы упартай, старанпай.
Эскаватар, капаўшы канаву, замоўкнуў без сіл.
Паміж пальцамі ног б'е дзесятак маленькіх фантанаў.
Б'е і зноў асядае гарачы і мякенькі пыл.
Нават камні з ракі павысоўвалі чорныя спіны
І стаяць у тузе, бы няшчасных кароў чарада.
І на іхніх баках, як на скуры гарачай дэльфіна,

Высыхае ў імгненне ад ног маіх мокрых вада.
Я плыву праз Дняпро, і слабенькая сіняя слаўка
Нада мною пілікае, яўна зайздросцячы мне,
І выходжу на бераг, апрануты ў алыя плаўкі
І ў бліскучую скуру на бронзавай мокрай спіне.
Бераг стромавысокі. Унізе рыбак, як мурашка,
І альшэўнік,
што ледзьве дзярэцца на страшны адхон,
А вакол разнатраўе рамонак, дзятліны і звяшкі,
А над гэтым — спякота, і коршак трапёткі, і сон.
Што рабіць мне з палямі, што цягнуць калючыя рукі
У адзіным імкненні дасхочу напіцца і жыць?
Што рабіць з маім сэрцам,
што плача спагадай і мукай,
У якім, як на полі, чырвоная засуш стаіць?
Успамін. Успамін. Дні пяшчотнай вясны ўспамінаю,
На бязмежных лугах кураслепаў халодны пажар,
Жыватворнае мяккае сонца раскошнага мая,
І дажджы залатыя, што шчодра бруіліся з хмар
На зямлю тваю чыстую, на зямлю залатую,
На паляны лясныя, на іх небагаты убор,
На забытыя белыя храмы,
што восем стагоддзяў сумуюць
У лугах залацістых і ў лесе над плёсам азёр.
Вочы, вочы каханыя, шэрыя, мяккія зоры,
Вы маглі паграждаць, вы смяяцца і лашчыць маглі.
Памятаеш, стаялі ўдваіх мы на белых узнесеных
хорах
Самай лепшай царквы, што самотна стаіць на Нерлі.
Б'е святло невядома адкуль на халодныя сцены,
На ільвоў, што таемна да нас прамаўляюць у сне,
Быццам тысячы тысяч забытых людскіх пакаленняў
Ўсе жылі для таго, каб цябе нарадзіць і мяне.
А ў адверстыя дзверы ляпечуць лугі пад вятрыскам,
І няма ім канца, і на іх зеляненюць дубы,
І ля рук маіх цвёрдых так блізка, так блізка,
так блізка
Легкакрылыя бровы і вочы, якіх не забыць.
Што рабіць, калі сэрца дурное цябе ўспамінае
І ляціць да цябе праз ляснога пажарышча дым?
Я ж не ведаю нават, кахаеш або не кахаеш,
Помніш часам мяне ці адразу забыла зусім.
Але жыць не магу без цябе, як засмяглыя травы,
Па якіх сухавеі начамі і днямі ідуць,

Як палі без дажджу, як карэнні без злівы ласкавай,
Як нябёсы без яснай вясёлкі, што цягне ваду.
І трывогай бязмежнаю поўняцца сэрца і грудзі.
Я зрываю рамонак, што вырас з ускраю раллі,
І гадаю з трывогаю:
будзе кахаць ці не будзе?
Прыйдзе дождж ці не прыйдзе на сэрца і ў нашы палі?
Будзе! Будзе! Грудзям не стае на хвіліну паветра.
І, узняўшы павекі ў абшары, што вочы сляпяць,
Адчуваю ўсім целам парыў нечаканага ветру,
Заўважаю, што ў далях трывожныя хмары кіпяць.
Б'е далёкі пярун, бы ў клубах наплываючых, чорных,
З гарлавою пяшчотай бурчыць добразычлівы звер.
Хутка, хутка па лісцях заскачуць халодныя зоры.
Не праходзь стараною. Я веру! Я веру цяпер!
О каханая, ты, што вясеннія дорыш світанні,
Ты — пачатак жыцця, што ніколі не будзе канцом,
Не забі мяне градам, дай вільгаць, жыццё і каханне,
Дай мне славіць цябе пад сярэбраным цёплым
дажджом.
Дай сустрэць цябе ротам раскрытым, грудзьмі і
рукамі,
Дай мне вечнае шчасце: над вымытай злівай травой
Зліцца ў крыку любові з пакутнымі тымі палямі,
Што чакаюць цябе, што загінуць без ласкі тваёй.

## БУСЛЫ ВУЧАЦЬ ДЗЯЦЕЙ

Буслы вучаць дзяцей. Цішыня над ракою.
На абрывах у прысмерку дрэмле падбел.
За ракой у густым лугавым спакоі
Пастуховай пугі ляскае стрэл.
Буслы вучаць дзяцей. Над стромай страшэннай
Шапку з чорнага голля надзела сасна.
А пад імі прасёлачак пахне сенам.
А пад імі — Дняпро і лугоў жаўцізна.
Скора вечар. Хваля пясок цалуе,
Ціха цені ў прыдонных лозах пляце.
Дзядзька спіць у чаўне. Я нячутна вяслую
Паўз жанчын, што купаюць на плёсе дзяцей,
Колькі іх. Напэўна, цэлы дзесятак,
Смех на беразе. Мяккае рэха ў лазе:

«Хтось ляжыць у чаўне...
Паглядзіце, дзяўчаты.
Бач, тужлівы які...
Тапельца вязе».
І адна з кабет, зубастая, смелая,
Пэўна, маці дзяўчатак, крычыць у спіну:
«Вось каб раптам устаў бы гэты тапелец
І ўхапіў сабе... ну хоць бы адну».
Я махаю рукой і торкаю ў човен,
Каб прыгожая самая села ў карме.
О, якія ляцяць наўздагон мне словы,
О, які там віск, і кпіны, і смех!
А «тапелец» раптам, задзёршы ногі,
Паімкнуўся ўстаць без падпоры рукой...
Сонца, сонца вячэрняе. Пырскі. Рогат...

А буслы вяслуюць над ціхай ракой.
Добра жыць на сасне над шэрымі хатамі,
Дзе запаляцца скора ў вокнах агні
На абрывах высокіх пад ціхімі шатамі
Ў вёсцы з назваю звонкаю Кісцяні.
Бусляняты нагамі над хвоямі месяць,
Іх вячэрні палёт хавае імгла.
На вялізным, на нізкім аранжавым месяцы
Цень вялізны белага з чорным крыла.
У паветры звонкім старыя лунаюць.
Бездакорна старых пераймае дзятва...
Крыллем лопаюць, на верхавіны сядаюць,
І паветра са свістам б'ецца ў мой твар.
Буслы вучаць дзяцей. Ім трэба спяшацца.
З кожным днём сінява гусцее ў вадзе.
Першы жоўты ліст на галінах акацыі
Папярэджвае ліпень, што восень ідзе.
І стагі за ракою сумуюць па хатах,
Па адрынах, дзе плача смалою сцяна.
Нават вечарам лётаюць бусляняты
І мяне запрашаюць высока лунаць:
«Мы лунаем, а ты паўзеш, як мурашка.
Ў захапленні ўзлятаем, а ты стаіш.
Бачыш, мы навучыліся. Гэта няцяжка.
Ты такі вялікі. Ты лепш паляціш.
Паляцім мы з табою пад неба зорнае,
Адаб'ёмся ў базальтавай хмурай вадзе,
Паляцім мы ў Афрыку, ў Афрыку чорную,

Ў лес трапічны, дзе мгва раздзірае людзей.
Мгва — вялізная кошка, магутная, смелая,
Больш ільва, са шкураю шэрай, як дым.
Мгву ніколі ў жыцці не бачылі белыя,
А пабачыўшы... не расказалі другім.
Там, у Афрыцы чорнай, пад небам сінім,
Над прытокам Конга ў густых сітнягах,
Правадыр негрыцянскі кажа дзяўчыне
З чорнай скурай бліскучай на цвёрдых грудзях:
«Чуеш, бой барабанаў спужаў антылопу.
З паляўнічай сцежкі паўзе змяя.
Калі мгва мяне ў нетрах дагоніць і схопіць,—
Палявання героем загіну я.
Калі ж схопіць чужынец мяне і замучыць,—
Я памру не героем — рабом памру.
Чараду забяруць з краляў[1] калючых,
І цябе з сабою яны забяруць.
Я прайду праз лясы, дрыгву і завалы,
Я забуду твой цёплы смяшлівы рот,
Я на мгве паспрабую дзіды трываласць:
Ці праб'е яна ворагу прагны жывот».

Буслы, буслы, ляціце дарогай прамою
На зарослыя пальмамі берагі,
Раскажыце, што над вялікай ракою
Ёсць народ, што ніколі не крыўдзіў другіх,
Што бязмерным гонарам я ганаруся,
І мацнее штодзённа мая любоў,
Бо скупая зямля маёй Беларусі
Не раджала рабоў і не мела рабоў.
Буслы вучаць дзяцей. У лясным ветрабоі,
Ў цёмных пушчах буслам зайздросцяць звяры...
Крылы моцныя гучна вяслуюць над хвоямі,
Хвост пушысты, як веерам, ногі накрыў.
І адклаўшы вясло, я слухаю сказы,
І па плыні спакойнай, па глыбіні
Адплываю кудысьці з захадам разам,
І згасаю на сумным тваім агні.
Ціхі гоман радзімы з абрываў чую,
Ціхі голас каханай, як песня, цячэ...
Ну куды, куды ад цябе палячу я,
Ад пяшчоты, ад шэрых глыбокіх вачэй?

---

[1] Крааль — закут для жывёлы з калючых раслін.

Буслы, буслы. Зіма вас зробіць ізгоямі.
Не лікуйце, што прыйдзе гэта пара.
О дурненькія дзеці, з якою тугою
Вы прыпомніце захад і плёсы Дняпра!
Бузіну і яблынь цяжарных падпоры,
І стакроткі ў мокрай цяністай траве.
Не ад стомы буслы гінуць над морам:
Настальгія ім сэрца няшчаснае рве.
О, туга па радзіме. Хутчэе. Хутчэе.
Сэрца поўніць узлёт нечуваных мар.
Гэта ты, маё шчасце, за морам сінееш?
Сэрца! Шчасце! Любоў мая!..
Цемра... Удар...
Перамогшы ў палёце прастор акіяна,
Паміраюць яны у абдымках вод,
Як памёр Рафаэль у абдымках каханай,
Што кахаў безнадзейна дванаццаць год.
Я прыкметы твае павек не забуду:
Душагубка, што грэе на сонцы бакі.
Дзед сівенькі ў лазе, трапёткія вуды
І барвянец імклівы на плыні ракі.
Буслы, буслы, бярыце яе з сабою.
Усё запомніце: шоргат рачной асакі,
Сон пяску пад пяшчотай рачнога прыбою,
Соль ліловую сохнучай рыбнай лускі.
Часта радуеш сэрца ты, часта ты мучыш,
Я павек не забуду твае палі.
І каб стала ты полымем буйнаравучым,
Я саломаю стаў бы. Вазьмі. Спалі.

## ДЗІВА НА НЕРЛІ

*Н. М. Молевай*

Белая песня ў лугах залацістых,
Кліч адзвінеўшых стагоддзяў зямлі,
Кволая-кволая, чыстая-чыстая,
Быццам дзяўчына, царква на Нерлі[1].
Кроў і забойствы ў агні і дыме,

[1] Царква Пакрава на рацэ Нерлі — геніяльны помнік старажытнарускага дойлідства на тэрыторыі Уладзіміра-Суздальскага княства.

Подласць і жорсткасць у лютым баю,—
Нават яны праходзілі міма,
Пашкадаваўшы нявіннасць тваю.
Ўсім, хто навек адыходзіў к ценям,
Снілася ты на райскіх лугах
З яснай журбою па убіенным,
З ценем усмешкі ў мокрых вачах.
Любы твой брат загінуў на ловах.
Вочы твае для нас зберaглі
Літасць, і слёзы, і цёплыя словы,
Што не заб'еш на грэшнай зямлі.
З дальніх стагоддзяў праз цёплыя губы
Чую прызыўны твой галасок:
«Братка мой мілы, братка мой любы,
Выйдзь да мяне на круты беражок».

## БАЛАДА АБ АРГАНАЎТАХ

Ў дымным трывожным агні пачаўся далёкі палёт.
Рынуў ад рэчак і ніў срэбны месяцалёт.
Сігара з металу бліскучага. Востраў жыцця ўначы.
Іскра зямной цеплыні: дзве жанчыны і пяць мужчын.
Першы нясмелы крок жорсткі тэрмін звязаў:
Дзень на паверхні Месяца. І дарога туды і назад.
Ля пульта сядзіць камандзір,
чалавек без асобых адзнак,
І намеснік яго, дзяўчына, яна — журналіст і мастак.
Там дзе два — там заўсёды мосціцца
між жаночым і між мужскім
Крылаты хлапчук нябачны з састарэлым калчанам
сваім.
Упершыню пакінуў зямныя ён берагі,
Пальцамі рук перацягнутых хапаецца за рычагі.
Ён не баіцца, што кучары схаваюць пад шлемафон,
Для сваіх уладанняў бязмежных новы край
адкрывае ён.

Адбіваліся ў любых вачах светы далёкіх планет,
Плыў па вузле валасоў жоўты водбліск камет,
І свет ў вачах праступаў у ярасным сяйве нябёс...

Арганаўты ў бездань ляцелі. Арганаўты абралі лёс.
Ўпалі ў абдоймы Месяца, прыглушыўшы агню снапы,
Да вяршынь узмятнуўшы падзеннем адвечны
касмічны пыл.
Паглядзеўшы на хмары пылу, на ўзяты выбухам жвір.
«Дрэнна тут падмяталі,—
са скрухай сказаў камандзір.
І, агледзеўшы добрых сяброў,
што ў пакой для скафандраў ішлі,
Прыбавіў:
— Станцыя Свінкі.
Хлопцы, хапай хатулі...
Калі каму пашанцуе — хай адзін не прыходзіць назад.
Злавіце пару лунацікаў. Пераважна прыгожых
дзяўчат».
І сказаў, затрымаўшы дзяўчыну:
«Сцеражыся, праменьчык мой,
Беражы людзей. І вяртайся.
Хай удача будзе з табой.
Хто згубіцца — хай не забудзе,
што ў шлеме ёсць мікрафон,
І яго адшукаюць па пеленгу. А Месяц —
не страшны ён.
Я тут пахаджу, ля ракеты, як хадзілі ля коней дзяды,
І, магчыма, схаджу на вылазку,
і напрамак мой будзе — туды,
Сцеражыся...»
Выходзілі людзі, як продкі на выспах чужых,
У бліскучых бронзавых шлемах з грэбнем антэны
на іх.

Ракета, як стомлены лебедзь.
Камандзір застаўся адзін.
Месяц вабіць жывое, аддаецца яму:
«Ідзі».
Цікаўнасць, ты клічаш мяне,
ў бездані вабіць твой спеў,
Каб не ты —
мы ў тванях кішэлі б і ніколі не злезлі з дрэў.
Срэбныя з чэрню густою цыркі
дрэмлюць у ложках сваіх,
Як похвы кінжала каўказскага,
як скурка палескай змяі.
І ён пайшоў. Невядомае ў грудзях забівала дых,

І падкідвалі ногі яго на вяршыні ўцёсаў рудых.
Сядло паміж скал.
Планета зусім не паходзіць на рай.
Ён стаў, і цень паімчаў кудысьці за небакрай.
І ён прыпомніў з усмешкай,
што ў родным палескім сяле
Бабулі паказвалі дзецям на месяц, што плыў у імгле:
«Бачыш, плямы на Месяцы? Хтосьці ногі задзёр
дугой?
Гэта брат забівае брата. Узняў на вілы яго».

Ён стаяў і глядзеў на цыркі,
на чорных безданяў сецьь.
І раптам нешта змянілася. І ён не паспеў зразумець.
Ён адчуў, што скафандр цэлы,
але сам ён заціснуты ў жвір,
Як семя ільну пад давільняй,
як пад прэсам сохнучы сыр.
Ў чаргаванні сцюжы і спёкі, разбітая імі ў баю,
Скала вісела стагоддзі, каб захлопнуць пастку сваю.
Такую — за тыдзень не скінеш. Цяжкая, як свінец.
І гэта значыць — прыцемак.
І гэта значыць — канец.
А тэрміну толькі суткі ў разлічанай меры зямной,
І сем душ загіне ў бясконцым замест душы адной.
Не трэба, каб адшукалі сярод недасяжных гор.
Хай змбўкнуць мае сігналы. Хай думаюць: я памёр.
Легенда, ты нахлусіла. І вось канцоўка мая:
Брат не ўзніме брата на вілы.
Брат выключыць свой маяк.

Над мёртвай планетай звестка чорная паплыла:
«Слухайце, слухайце, слухайце.
Мяне раздушыла скала.
Памятайце апошні загад:
больш гадзіны мяне не шукаць.
Карабель давядзе да зямлі не мая, а другая рука.
Забудзь пра мяне, каханая, забудзь,
што калісь я быў,
Прымірыся з Зямлёй без мяне,
прымірыся з холадам ніў.
Усе жанчыны на свеце — ты,
ўсе мужчыны на свеце — я.
Для цябе, для цябе адной подых мой і пагібель мая».

Дацягнуўшыся лобам да кнопкі, кінуў спакойна ён.
«Я гіну, я гіну, я гі...» — і выключыў мікрафон.
І ляжаў у цемры глыбокай, у цемры начной зімы
З абвостраным чуйным слыхам,
па свайму жаданню нямы.
Ён чуў, як далёкі голас кліча, моліць, заве,
І вочы тужлівыя усмешкай тлелі праз вільгаць вей.

Дзве гадзіны ляцеў цераз цемру далёкі голас-ганец:
«Камандзір, камандзір, камандзір!»
І рыданне.
І слова: «Канец».

Выбухаў ён не пачуў, але раптам ў змроку начным,
Як быццам чырвоны сцяг разгарнула неба над ім,
І вышэй барвянага сяйва, туды, дзе сузор'яў агні,
Зорка рынула ўвысь і знікла, прайшоўшы зеніт.
Сяйва сышлося ў конус і растаяла ля камля.
І ў апошні свой, у смертны, у безнадзейны час
«Зямля! Маці Зямля!
Будзь літасцівай да гэтай, што ўбачыць шаты бяроз,
Што зараз ля пульта седзячы,
жаночых не точыць слёз.
Будзе ёй час паплакаць, як пабачыць твае лясы.
Зрабі, каб забыла,
каб іншаму нарадзіўся ад любай сын.
Будзь для яго зялёнай, чыстаю, як трава,
Не выбухай пажарамі, ў бітвах не забівай.
І ў апошні свой, у смяротны, у безнадзейны час
Пажадаю я, каб сонца прамень над табою не згас,
Каб вечна была ты такою, якою мы любім цябе,
Зямлёю тугі і радасці, дзе шчасце жыве ў журбе,
Дзе такія сінія пушчы, дзе алмазны гарыць Валапас.
Дзе вёска мая на Прыпяці,
дзе Нерль і рублёўскі «Спас»,
Дзе раджаецца мяккае сонца на вяршынях
ліловых гор,
Дзе плачуць жанчыны светлыя,
калі мы гінем ля зор».

## АРХАНГЕЛЬСКАЕ

Лістападаўскі вецер над паркам пахмурым.
Халадзее рака, як лязо мяча,
У мармуравых німфаў гусіная скура
І прыгонны адчай у глыбокіх вачах.
На газонах барвянае лісце размокла.
Золкі лёгкі туман ахутвае луг,
І Ахіл у абдоймах сціскае Патрокла:
Не ад ран, а ад палак канае друг.
Вар'яцею, здаецца: чую і бачу,
Пад галінкамі чорных, як туш, дубоў
Дзесяць гожых пастушак манерна скачуць.
Пастаральная песня. Вясна. Любоў.
З балюстрады за іхнім лёгкім палётам
Назірае праз сетку яловых лап
Падагрычны стары з праваленым ротам,
Вальтэр'янец, юрлівец, татарскі сатрап.
Прыгажосць яму лаўрамі чэрап вянчае,
Ён Лукул, Петроній, Цэзар і Крэз.
Ён стварыў гэту казку на чорным адчаі,
На Парнас у турэцкім халаце пралез.
Ён памрэ і тады не ўбачыць прыгожага.
Страшна духу пакінуць цела-турму.
І прыгонных актрыс кладуць яму ў ложак,
Каб халодныя ногі грэлі яму.
Хто ім верне мары дзявочыя, светлыя?
Хто ім верне кахання светлага час?
Лепей гвалт, лепей жорсткасць —
толькі не гэта,
Не бяссільны, старэчы холад пляча.
Сёстры любыя, ганьба ваша і раны,
Быццам вострыя церні ў душы маёй,
Я сябе адчуваю, як вы, зганьбаваным
І рыдаю гаручаю вашай слязой.
Мара, спеў, летуценне, каменнямі скутае,
Цёмны парк, што варты усіх паэм,—
Калі рай купляюць людской пакутай,
Хай ён дымам згіне, такі Эдэм.
Ненавіджу цябе, баюся, кахаю,
Як каханую злую, ўсім сэрцам сваім.
І да рук мармуровых чалом прыпадаю,
Любых рук, што пад ветрам дрыжаць начным.

# БАЛАДА ПРА НЕВЯДОМАГА, ПЕРШАГА

*Н. М. Молевай*

Ён ляпнуў вохрай на камень;
І зліўся з пячорнай сцяной
Зубр чырвоны з рагамі,
Што кінуўся ў страшны бой.
Трывожнае, новае, дзіўнае
Адымала голад і сон.
У дыме над жоўтым біўнем
Кашляў і плакаў ён.
І з жахам глядзелі людзі,
Як явелі дзень за днём
Дзявочыя рукі і грудзі
Пад крамянёвым нажом.
Натуршчыца, першая ў свеце,
Зразумеўшы сваю прыгажосць,
На беразе Першага стрэціла
І дала мазгавую косць.
І племя важак калматы
Ўзняў велічэзны сук,
І мускулы, як канаты,
Загулялі пад скурай рук.
Ён сказаў уладна і сонна:
«Свавольству гэтаму — край.
Аддай, я знішчу разьблёнае,
І дзяўчыну гэту — аддай».
І Першы, гнеўны, трывожны,
Забіў ударам нажа
Таго, хто дзяўчат прыгожых
Браў, як арды важак.
І праўленне яго шчаслівае
Паклала забойствам канец.
І стала ў ардзе справядлівасць:
Кавалак табе і мне.
Над тундраю годы знікалі,
А потым сканание прыйшло,
Лютым мамантам стала,
На біўні яго ўзняло.
Але Першы паспеў яму ў скроню
Завостраны ўбіць ражон.

Нават уласным сконам
Племю даў ежу ён.
Ўсю зіму не ведалі гора,
Сыты глыталі дым,
І доўга ў цёмных пячорах
Гучалі легенды аб ім.

## ПРАРОК
## ГЕРОНІМ БОСХ[1]

*Н. М. Молевай*

«Увага! Увага! Увага!
Рыхтуецца атамны выбух.
Хавайце дзяцей!
Хавайце вучоных і кнігі!
Хавайце ў зямлю партытуры
Бетховена і Гуно!
Хавайце карціны Босха:
Ён ведаў пра гэта даўно».
Дзіўны, дзіўны мастак!
У цемры сярэднявечча
Сядзеў ён перад мальбертам,
Які асвятлялі свечы.
Цень у кутах пакоя,
Цені па фарбах бягуць,
Цень над роднай краінай,
Змрочныя цені ў мазгу.
Іспанцы край захапілі,
Палілі людзей без жалю,
Жыць не давалі нікому,
Існаваць — рабам дазвалялі.
Плакалі дзеці малыя,
Ўміраючы на нажы,
І нельга было смяяцца
Мастаку, што з праўдай дружыў.

---

[1] Геронім Босх — славуты нідэрландскі мастак канца XV — пач. XVI ст. У такой яго карціне, як «Страшны суд», народная сатыра спалучаецца са змрочнай, кашмарнай фантазіяй. Дзіўнае супадзенне: на яго карцінах намаляваны машыны, якія падобны на танкі і сучасныя гарматы.

Таму ў грудзях такога
Не сэрца, а галавешка,
Таму ў Героніма Босха
Памерла на вуснах усмешка.
Ён бачыў, што душы прыгнечаных
Не сталь, а бязвольны воск,
І прарочыў дрэнным людзям
Геній Геронім Босх.
Сваёй неўтаймоўнай фантазіяй
Выклікаў ён пачварныя здані...
Праз трэшчыны на палотнах
Чуюцца гукі рыданняў.
Лётаюць мёртвыя птушкі,
Палаюць жывыя кусты,
Пачвары з галовамі грыфаў
Рэжуць сабе жываты.
У адных галовы без ног,
У другіх пад задам калені.
Кідаюцца ў пажарах
Маўклівыя голыя цені.
Праз дымнае і чырвонае,
Праз попельнае святло
Танкі ідуць магутныя,
Якіх тады не было,
Ці мог ён тады прадбачыць,
Што пройдзе сто пакаленняў
І ажывуць наяве
Пачвары яго ўяўленняў?
Што будуць з акопаў людзі
Дзерціся на накат
І кідацца ім пад ногі
З цяжкай вязкай гранат.
Вы, васковыя душы,
З ланцугоў кашмары спусцілі,
Вы над роснай зямлёю
Смерці грыбы ўзрасцілі...
Даўно прарочыў такое
Босха трывожны мозг.
І ўсё ж аднаго ты не ведаў,
Вялікі Геронім Босх.
Зведаўшы чалавека,
Зведаўшы мора і сушу,
Не мог ты ведаць, што ў свеце
Стальныя вырастуць душы,

Што на хлуслівых і хцівых
Узнімецца іх рука
І вытрасе іх са скуры,
Як бульбу гнілую з мяшка.
«Увага! Увага! Увага!
Выбухаў больш не будзе!
Выносьце скульптуры і кнігі,
Спявайце і смейцеся, людзі!
Выносьце дзяцей заспаных
Пад сонечных гукаў прыбой!
Выносьце карціны Босха!
Адбой! Вечны адбой!»

## ТРЫЗНЕННЕ МУЖЫЦКАГА БРЭЙГЕЛЯ[1]

*Н. М. Молевай*

Ў кірмашным радзе горада пры моры
Прыжыўся ціхі і спакойны поўдзень.
На вулках не відаць ані сабакі:
Краіна ўся, нагандляваўшы грошай,
Да хрыпу накрычаўшыся на біржы,
Набегаўшыся па усіх прычалах,
Абед пераграўляе, як пітон.
Абліты сонечным салёным сяйвам,
Ідзе кірмашным радам чалавек
І кіем грукае па белых плітах.
У чалавека вочы мудраца
І з'едлівая сумная усмешка,
І, каб схаваць яе ад крамароў,
Ён нізка капялюх на твар насунуў.
Ён ходзіць цэлы дзень. Ідзе ў трушчобы,
Ў багатыя кварталы, ў крамы, ў гавань.
Адценні фарбаў, твары і усмешкі —
Ўсё застаецца ў памяці яго.
І толькі часам ля багатай крамы,

---

[1] Пітэр Брэйгель Старэйшы, празваны «Мужыцкім» (памёр у 1569 г.),— славуты нідэрландскі мастак XVI ст., аўтар карцін «Падзенне Ікара», «Сляпыя», «Сялянскі танец», «Краіна гультаёў» і інш.

Ў шынку на бочцы, на гулянцы шумнай
Ён дазваляе веям апусціцца,
Ён дазваляе адпачыць вачам.
Не трэба. Не чапайце. Пачакайце.
Ён трызніць. І калі адкрые вочы,—
Мільгне такое цяжкае у зрэнках,
Што ворагу свайму не пажадаў бы.
Мужыцкі Брэйгель трызніць родным краем
На вуліцы паміж абжорных крам.
О крамы, крамы! Вы душа радзімы.
Вісяць на прэнгах заржавелых тушы.
Барвянец мяса смачна адцяняюць
Янтарны тлушч і цукарная косць.
Індычкі ў папяровых панталонах,
Цяляты, ўзрошчаныя без вады,
На цёплым малацэ. Ігрушы шынкаў,
Што пахнуць горка елянцовым дымам
І часнаком. А ў ваннах ледзяных
Блажэнна парсюкі адпачываюць.
Для студзіны.
                І ўся твая радзіма
Нагадвае такога парсюка.
На рыбных лавах волка пахне морам.
На сонцы тае вэнджаны вугор.
Чырвоныя вялізныя амары
Гурманаў з нецярплівасцю чакаюць.
І льюцца ртутным срэбрам у варэйкі
Трапёткія жывыя селядцы.
А там жаўцее свежым маслам рэпа,
Ляжаць гуркі, брусельская капуста,
Радыс ружовы з беласнежнай дупкай
І з кроплямі на лісцях сітаватых.
А памідоры з вільгаццю гарачай
З-пад дзяснаў сонцам пырскаюць у глоткі.
І гэта ўсё, наваленае купай,
Апырсканае сонцам і вадою,
Спявае, радуецца і звініць,
Край цяжка сыты, як пастух на Юр'я:
З усіх краін прыносяць караблі
Карыцу з пахам выспаў акіянскіх,
Гваздзіку, чорны і духмяны перац,
Што сутаргава страўнік скарачае.
Іначай мяса, рыбы і дзічыны
Краіна не магла б ператравіць.

Мужыцкі Брэйгель ля шынка на плошчы
Сядае і ў руцэ альбом сціскае.
Ён бачыць тоўстых бюргераў за півам,
Сляпога, што пяшчотна гладзіць скрыпку,
Сталы, што цяжка крэкчуць ад жратвы,
Настаўленай на іх.
На нізкім ганку
Стаіць шынкарка і глядзіць на плошчу,
На цяжкія сталы і на гуляк.
Аддайся ёй. Ды толькі памаліся,
Каб хоць душу жывой на свет пусціла
З абдымкаў страшных беласнежных рук.
Стаіць яна, узяўшы рукі ў бокі.
Здаецца, не на ганку — на дзяржаве
Ўцвярдзіла ногі, тоўстыя, як шынкі.
А зрэштаю, такіх жанчын тут любяць.
І вось млынар з натоўпу выплывае.
Перад шынкаркаю нагою дрыгнуў
І запрасіў яе з сабой на танец.
І вось ляцяць яны. Трасуцца грудзі.
Дол гнецца пад слановаю хадою.
Варочаюць магутнымі мяса́мі
І задам дрыгаюць. І сыты пот
Сцякае з твараў у піўныя куфлі.
Павекі Брэйгеля прыкрылі зрэнкі.
Ён думае, што млынару з шынкаркай
Цудоўна будзе спаць на сенавале,
А там усё на свеце хоць бы што.
За сытасцю яны не заўважаюць,
Што шашаль есць іх дом, што іх абкрадуць,
І назву самую «край Нідэрландаў»
Забудуць спячыя. Пракляты край!
Ніхто не хоча ведаць пра свабоду,
Пра пошукі, гарэнне і мастацтва.
Не,— ён схлусіў,— мастацтва дазваляюць.
Яно павінна лашчыць вочы сытых,
Высакароднымі рабіць іх твары,
І мышцамі рабіць на шыях тлушч,
І апяваць іх цёплыя пакоі,
Іх коўдры, начнікі і іхніх жонак,
Спакойных, як галандскія каровы,
І пераконваць іх, што быццам людзі,
Лаўцы амараў і ткачы шаўкоў
Не кашляюць крывёй і ў шторм не тонуць.

Што выведзе іх з сытай асалоды?!
Сам кожны за сябе. Нішто не ўзрушыць.
Ікар загіне — і ніхто не кіне
Нат позірку на ўспененыя хвалі,
Дзе жаласна, пакутліва і горда
Мільгнула паламанае крыло.
Што ім да ўзлётаў і да летуценняў,
Да гожай мужнасці ў імя свабоды?
Яны валлё наб'юць — і пад пярыну.
Краіна гультаёў!
Пад тлустым дрэвам,
Якое замест яблык, поўных сокам,
Ўзрасціла на галінах каўбасу,
Што капае з канцоў празрыстым тлушчам,
Ўзрасціла з трыбухою піражкі,—
Спяць людзі мёртвым сном і ў вус не дуюць.
Спіць воін, галаву на меч паклаўшы,
Чыноўнік спіць, адкрыўшы рот слінявы,
Спіць селянін, забыўшы пра цапільна.
Аднекуль з-пад хмызоў да гультаёў
Ідзе яешня на танюткіх ножках.
Ад чорнай і распаленай патэльні
Добранамерны курыцца парок,
І застаецца толькі ротам чамкаць.
А што ж яшчэ рабіць?
Яешню есці
Закон нікому не забараняе,
Як грошы ёсць.
Мужыцкі Брэйгель трызніць.
Хто вы такія? Як назваць вас, людзі?
Куды краіна з вамі забрыдзе?
Сляпыя! Мёртвыя! Яны ідуць,
Паклаўшы рукі на плячо пярэдніх,
І іх вядзе сляпы. І проста ў яму
Ён падае.
А заднія не бачаць,
І, як раней, застыў на іхніх тварах
Самаздаволены па-свінску гонар.
Што ж ты пракінуўся, мужыцкі Брэйгель?
Шпурляй у твар ім горкія палотны,
Дражні, як бугая чырвонай хусткай,
Паказвай ім, сляпым, канец Ікара,—
Яны ж усё адно не зразумеюць.
Хіба нашчадкі, можа?

# СЛОВА ПРА ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ

*(Паэма)*

I

У музейным завулку дом стаяў асаблівы.
Звонку хата як хата. Дубы. Гарод.
Дзесяць яблынь белых. Старыя слівы.
Хмель і плюшч спавіваюць высокі плот.
Але дзівы гасцей каля брамы чакалі:
Ля дарожкі, на тварах тоячы злосць,
Дзве каменныя бабы на варце стаялі
І як быццам пыталі: «А пашпарт ёсць?»
Ганак быў на слупах з аблезлым пабелам.
У пярэдняй, дзе стыў таямнічы змрок,
Сустракаў гасцей з усмешкай нясмелай
Шасцірукі каменны індыйскі бажок.
На руках заўжды капялюхаў пара,
І ніхто не хоча за гэта плаціць.
«Што ты зробіш: быў богам, а стаў швейцарам.
І з людзьмі такое бывае ў жыцці».
У пакоях кнігі ў дубовых шафах
(Кнігу выцягнеш — будзеш хвіліну чхаць).
У адным куце лучнік, як жырафа,
У другім, як чэрап аленя, саха.
Кросны ў зале стаяць: за жыццё стаміліся.
Поруч з бронзы сякеры, дзіды, нажы,
Беларускі каран старадаўні са Смілавіч
Пад іконай цьмянаю мірна ляжыць.
І няма жывых, хіба што кашлаты,
Шалем мяккім захутаны да галавы,
Паміж статуй святых, як жывая статуя,
У халаце барвяным дзядуля сівы.
Акрамя студэнтаў, што дзеда любілі,
Нешматлікіх сяброў героя майго,—
Абывацелі горада моцна забылі,
Што імя старога — Чаховіч Рыгор.

II

Бомбы дралі ў шматкі жытло чалавека,
На мурах спаганялі чорную злосць.
Жалюзі на вулках стулілі павекі,
І пад ботам салдат храбусцела шкло.

Перад тварам бязлітаснай грознай навалы,
Перад тварам смерці на плоскіх штыках
Дзеці ў чэраве маці ад жаху крычалі,
Бо з'явіліся ў край наш вайна і жах.
Не хацелася дзецям ў свет нараджацца,
У жахлівы свет людзей нежывых,
Дзе абвугленыя, сухія акацыі
Плачуць чорным лісцем на вулках крывых.
Ненароджаныя, яны сумавалі
Па пяшчоце бацькоў, што ляжалі ў зямлі,
Па раструшчаных цацках, калысках спаленых,
Па братах, што ў рабства чужынцы вялі.

Ў гэты час на рабоў, якіх ціхім ранкам
Па завулку вялі на катаржны здзек,
Адхінуўшы жоўтай рукою фіранку,
З безнадзейным сумам глядзеў чалавек.
Чалавек быў звычайны: сівыя бровы,
У вушах сівых валос касмыкі,
Аскетычны твар і вочы суровыя,
Кніжны пыл на пальцах сухой рукі.
Паўтарае гісторыя жарт з Архімедам:
Горад родны палае, зямля дрыжыць,
Але ёсць папірус, ёсць вечныя веды
І накрэсленыя на пяску чарцяжы.
Чалавек чытаў старажытныя кнігі
Пра зямлю, дзе буялі агонь і меч,
Пра крывавую бітву над соннай Нямігай
І смяротны запал крутагорскіх сеч.
І натрапіў на месца, дзе скупа пісалі,
Што ў татарскі набег аж пятнаццаць дзён
Людаловы бялявых людзей вязалі
І цягнулі ў Крым на аркане «палон».
І ля ханскай мяжы, ля равоў перакопскіх,
Столькі дзён палонных вялі і вялі,
Што зрываліся зоркі ад тупату конскага
І да Месяца пыл далятаў з зямлі.
І яўрэй-мяняла шчыра здзіўляўся
На бясконцую, пыльную тую змяю:
«Ці адзін чалавек, прынамсі, застаўся
На развод у далёкім гэтым краю?»

. . . . . . . . . . . . . .

Чалавек стары. Калоцяцца рукі.

Што ён можа слабай дзясніцай зрабіць?
Крок няспынна гучыць за акном па бруку:
«Беларусы — рабы!
Беларусы — рабы!»
Ён сябе суцяшае, што людзі сцерпяць,
Адбудуюць калісьці свой светлы дом...
Але што ж так нясцерпна, балюча сэрцу?
Што заткнула глотку тугім камяком?

III

Чалавек уначы не заплюшчыў вочы.
Ён пісаў пад танкаў фашысцкі рык.
На паперу разам з бісерным почыркам
Вырываўся душы змардаванай крык.
Ён пісаў:
«Сплывае дзіцячая вера.
Вера ў тое, што ў свеце знікнуць рабы...
Ў дзвесце семдзесят шостым па нашай эры
Цэзар Пробус варвараў дзікіх разбіў.
І Вапіскус Флавій пісаў пасля гэтага,
На вялікую радасць сваёй стараны,
Што цяпер, пасля перамогі светлай,
Больш ніколі на свеце не будзе вайны.
І цяпер, калі зноўку змрок надыходзіць,
Калі топча зямлю новых варвараў раць,
Калі гінуць краіны, знікаюць народы,
Калі вогнішчы з кніг на плошчах гараць,
Я пытаюся ў тых, што схілілі шыю,
Каму варвар на спіну паставіў нагу:
«Што б рабілі мы, бедныя і сляпыя,
Каб не кнігі, што гонар людзей берагуць?
Што праз цемру, пажары і ліхалецце
Цвёрда кажуць нашчадкам алмазамі слоў,
Што калісьці таксама былі на свеце
Чалавечнасць і мужнасць, святло і любоў.
Магіканы культуры! Навалы крыгі
Ўсё жадаюць раструшчыць, спаганіць, зламаць.
Мы павінны схавацца, вывучыць кнігі
І далёкім нашчадкам пераказаць.
Як апошнія рымляне ў склепах сонных
Пад зямлёю, дзе цемра пануе ўвесь год,
Для нашчадкаў хавалі кнігі Назона
І Катулавых вершаў атручаны мёд.

Танкі з крыжам стапталі зямлю Еўропы.
Танкі злосна равуць над Дняпром-ракой.
Я крычу, як калісьці яўрэй з Перакопа:
«А ці ёсць хто з жывых у краіне маёй?!»

. . . . . . . . . . . . . . . .

Так пісаў ён. І вочы Радзімы гаротнай
Над радкамі яго пачалі сумаваць.

. . . . . . . . . . . . . .

Чалавек быў вельмі-вельмі самотны.
Нам патрэбна за ўсё яму даравацъ.
Іранічны дзівак з невядомай краіны,
Што ў душы гуманізм бязмэтны насіў,
Выкладаў у медінстытуце лаціну
І ў педвузе гісторыю Белай Русі,
Не любіў людзей, што лісточкам фігавым
Прыкрываюць адсутнасць думак і мар,
Курганы раскопваў, капаўся ў кнігах
І лічыў, што найбольшы геній — Плутарх.
Не аднолькава жорны на свеце мелюць,
І не трэба, каб людзі былі заўжды,
Быццам танныя лялькі мясцовай арцелі,
Што падобныя ўсе, быццам кроплі вады:
Рот прыемным сэрцайкам, нос пакарочаны,
Над вачыма чубы, як снапы ільну,
А ў галовах машынка, каб сінія вочы
Закрываць, калі хтось пакладзе на спіну.
На зямлі нудоты хопіць без гэтага.
Незвычайныя людзі, нязнаны свет,
Дзівакі, вандроўнікі і паэты —
Гэта водар жыцця і яго яснацвет.

IV

Ў гэткім ціхім, глухім, старажытным горадзе,
У якім жыццё няспешна ішло,
Працякала палова жыцця Рыгора,
А ў жыцці і шчасце і гора было.
Можа, гора яго з таго пачалося,
Што на ціхіх лугах за мяжой гарадка
Курганы спачывалі пад дымнымі росамі
І падножжы іх размывала рака.
Вымывала косткі ад вохры чырвоныя,

Вымывала круглыя гарлачы,
І слязніцы са шкла ружова-зялёнага,
І пабітыя ржою крывавай мячы.
А Чаховіч чамусьці не мог без гэтага:
Без вільготнай зямлі, без рудых чарапкоў,
Праз якія сівая наша планета
Размаўляла з ім галасамі вякоў.
Ён любіў народнай эстэтыкі нормы,
Прыгажосць ва ўсім і меру ва ўсім,
Геніяльна — простую, грубую форму,
Што народ надае ўсім рэчам сваім.
Чарапкі гарлачоў і палоскі сталі,
Што ў сабе хаваў гарадскі гліназём,
Для выкладчыка юнага радасцю сталі,
Сталі сродкам пазнання, сталі жыццём.
У студэнцкія годы ён быў саслабелы,
А цяпер, раскапаўшы пяць-шэсць курганоў,
Ён вяртаўся з работы, як негр, загарэлы,
Адчуваў, што здароўе вяртаецца зноў.
Ён хапаў сваю жонку рукамі грубымі,
Называў каханай і дарагой,
Цалаваў яе ў надзьмутыя губы,
Бо яна злавалася на яго.
Дзеці мір, вядома, замацавалі б,
Але першы сын немаўлёнкам памёр,
І калыска ў хаце шмат год пуставала,
Хоць заўсёды аб дзецях марыў Рыгор.

Ганне Львоўне хацелася шуму сталіцы,
Рысакоў, бульвараў, дасціпных людзей,
А не гэтай дзюркі, дзе можна ўтапіцца
Ад тугі, ад нуды, ад разбітых надзей.
Муж лінгвіст і гісторык таленавіты.
Захацеў бы — мог бы прафесарам быць...
Толькі трыццаць год — а шчасце разбіта,
Дні бягуць, і за грошы іх не купіць.
А яна прыгожая, вочы палкія.
Прыгажосць невымоўная ў рысах сухіх.
Вось такім прыносяць у лютым фіялкі
І ў тэатрах біноклі наводзяць на іх.
Нельга жыць у гэтай абрыдлай магіле,
Зарабляць на нейкі агідны хлеб...
Рэвалюцыя мары тыя разбіла...
Ненадоўга толькі: пачаўся нэп.

Зноў па бруку шыны зашапацелі.
Зноў з'явіліся футры і белы атлас
(Усё, што зграя купцоў рукамі спацелымі
Да пары да часу цягнула ад нас).
І якраз тады захапіўся Чаховіч
(Быццам мала было паверхні зямлі)
Катакомбамі горада вапняковымі,
Што пад вулкамі частаю сеткай ішлі.
Горад быў, як вядома, зусім састарэлы,
І багаццем яго з невядомай пары
Быў няцвёрды, рассыпчаты камень белы,
Што ламалі людзі ў капальнях сырых.
А за восем стагоддзяў капальні суровыя,
Жыхарамі спустошаныя да дна,
Вельмі часта былі і складам і сховішчам,
Калі ў белым свеце шалела вайна.
Тут калісь жыхары ад Літвы хаваліся,
Праваслаўныя брацтвы чынілі суд,
Тут кахалі, раджалі і паміралі,
І ў магілы, вядома, сыходзілі тут.
Мацавалі скляпенні трывалым дубам,
Студні білі, каб не сядзець без вады.
Да капальняў з палацаў պракопвалі трубы,
У капальню з царквы прабівалі хады.
Тут зямля, як соты, была пад нагамі,
На пустэчах стаялі сотні хацін.
І, каб хто пажадаў, ён бы мог хадамі
Да любога будынка старога прыйсці.
Але дзвесце год, як капальні забылі,
Завалілі смеццем атворы пячор.
Катакомбы старыя, вільготныя, пыльныя
Ведаў толькі адзін Чаховіч Рыгор.
Быў у горадзе Бука — рэгент саборны,
Што пражыў з камертонам свой доўгі век,
Страхалюдны, насаты, цыбаты, чорны,
А ў душы цудоўнейшы чалавек.
У яго па аўторках людзі збіраліся,
І пасля, паспяваўшы гадзіну ці дзве,
Ў ліберальнай кампаніі выпівалі,
І хадзілі, як кажуць, на галаве.
І аднойчы ў стане занадта вясёлым
(У пятнаццатым годзе гэта было)
Гаспадар сказаў: — А ў мяне ў падполлі
Ход глыбокі такі, што знікае святло.

І Чаховіч з ліхтарыкам і вяроўкай,
Хоць крычалі госці: — Не ідзі, Рыгор! —
Адкапаў у Букавым склепе рыдлёўкай
Нешырокі,— сабаку пралезці,— атвор.
Хутка згаслі ў атворы святла прамені.
Толькі цьмяны ліхтар кідаў водбліск сляпы.
Сутарэнні, хады і зноў сутарэнні,
І асклізлыя пад скляпеннем слупы.
І пануе такая адвечная ціша,
Толькі чуцен кропляў няспешны плач...
Ён дайшоў тады да глыбокай нішы
І пабачыў чэрапа жоўты мяч.
«Хто ж ты быў, мой продак, якая сіла
Пад зямлю калісьці загнала цябе,
У глыбокі змрок, у глухую магілу
Паміраць у ярасці і журбе?
Ты сядзеў тут над лёгкаю гакаўніцай
І глядзеў, як паўзе пераходамі дым,
Як салома мокрая руда дыміцца,
Як выкурвае вораг цябе, як лісіцу,
З той нары, што зваў ты домам сваім.
Адабралі ў цябе гарады і нетры,
Берагі, на якіх спявае лаза,
Адбіраюць зараз нават паветра,
Толькі прагу да волі не могуць узяць.
Я прыйшоў да цябе з незгасальнай цягай.
Твой нашчадак нямоцны прыйшоў сюды,
Каб пазычыць трошкі тваёй адвагі
І аднесці ў новыя гарады».
Ён вярнуўся няхутка, зусім зняможаны,
Ледзьве выпаўз у цесны і нізкі праём
І сказаў сябрам, што чакалі трывожна:
— Я прайду пячоры.
Гэта — маё.

Восем год з ліхтаром і англійскім шнурам,
З ненадзейнай рыдлёўкай у моцных руках
Ён адшукваў рэшткі мінулай буры
У капальнях і сховішчах гарадка.
Там даведаўся ён, што ў падземным горадзе,
Дзе адзін толькі ён бывае з жывых,
Ход злучае кляштар і два саборы,
Брацкі храм і скляпенні Гумёнскай царквы.
Перад ім ляжала светлая сталасць,

Улюбёная праца, радасць жыцця.
Нават жонка і тая раптам сказала,
Што ў іх, напэўна, будзе дзіця.
І калі перамога чакала Рыгора,
Перамога, якую шчасцем завуць,
Не каменні з зямлёю, а цяжкае гора
Абвалілася на яго галаву.
І было гэта дробязна, недарэчна,
Як хаўтурны плач па нявесце жывой,
Пачалося з хадоў, што вялі пад рэчкай:
— Я зусім не жадаю застацца ўдавой.
Трыццаць восем — адзінаю пэўнаю мерай
Служаць годы адмераныя жыцця,
Трыццаць восем — жонцы да скону верыць,
Асабліва як жонка чакае дзіця.
Трыццаць восем — давер і спакойная праца,
Ўсё жыццё падобна на светлы сон
І нядоўга да цёплага слова «маці»,
Якім клічуць жонку на схіле дзён.

Ліст азваўся ў сэрцы смяротным ударам,
І пасля быў змрок на многа гадзін:
«Ты жыццё мне зламаў, ты разбіў мае мары,
Ты мяне ашукаў. Пражыві адзін».
Выпадкова з'яўляліся чуткі ў народзе,
Што ў яе дачка, што праз месяц які
Ганна Львоўна зноўку замуж выходзіць
І што ў мужа дзве крамы і рысакі.
І Рыгор, хоць ніколі не быў ганарлівым,
Часта думаў пра тое, што жонка яго
Аддала сваё шчасце завеям і злівам,
Прамяняла сумленне на хцівых багоў —
На лабазнікаў тлустых, на годы бяздзейныя,
На гандлярскіх, шэрых дзён каламуць
І яшчэ на канец жыцця без надзеі,
Бо зажыцца ў краіне купцам не дадуць.
Пра адно чамусьці не думаў Чаховіч
(Мо таму, што сумленны быў чалавек),
Што канец бліжэй, што нягодніка слова
Да знікнення патрэбы ў сэрцы жыве.
Папаўзлі праз месяц упартыя чуткі,
Што лабазнік раптоўна кінуў яе
І з багатай суседкаю вельмі хутка
Пад вянец у саборы Ільінскім стае.

І ніхто ад гэтага большага болю
Не адчуў на душы, як Чаховіч Рыгор.
І сабе на яго паглядзець дазволіў,
І на гэта вянчанне з'явіўся ў сабор.
Стаў ля цяжкіх дзвярэй і думаў сурова,
Што жаніх і тварам і сэрцам свіння:
«Чым ён лепшы, гэты парсюк ружовы,
Што мяне на яго захацелі змяняць?
А нявеста? Хіба яна лепей Ганны?
Вось стаіць яна ля святога айца,
Як авечка рахманая, што на закланне
Прывялі на алтар Залатога Цяльца.
Замест носа нейкая бляклая дуля,
І кароткія пальцы на тлустых руках».

Боль за жонку, абраза — Рыгора штурхнулі
На учынак, якога і сам не чакаў.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Ён пазначыў поўхаю тлустую морду
І, пальчатку гідліва сцягнуўшы з рукі,
Нечакана пабег на ўскраіну горада
Да няшчаснай жонкі і любай дачкі,
Бо губляе жонка апошнія сілы,
Бо агеньчык жыцця ў самоце згас.
Бо яна яму сэрца, дурная, разбіла,
Бо яна пакутуе ў гэты час.
Ён не ведаў сэрцам дзіцячым і светлым,
Да яе звяртаючы думкі свае,
Што прыходам гэтым, адданасцю гэтай
Назаўсёды справу сваю сапсуе.
Бо з нянавісцю, шкадаваннем і болем,
Шкадаваннем такім, што сэрца звяло,
Не даруе жанчына таму ніколі,
Хто адплоціць ёй шчыра дабром за зло.
«Хай прыходзіць самота, боль і нястача —
Не дарую яму правіны сваёй,
Нават горка кахаючы, нават плачучы
У самотнай спальні часінай начной».

І канец. Ён не верыў, зусім не верыў.
Запалалі агні ў пачарнелых дамах.
За спіною навек зачыніліся дзверы,
Пад нагамі бясконцы самотны шлях.

Ён пад ногі шаўковыя травы сцеле...
Ці не ты прыйшла да мяне праз гады?..
Вочы цёплыя. Вэлюм тонкі і белы...
Рот знаёмы... Хлусліває: «Назаўжды».
Мне не трэба, не трэба, зусім не трэба
Ні кахання твайго, ні радасных слёз.
Ёсць на свеце маё небагатае неба
І зямля, да якой я сэрцам прырос.
І няхай для сэрца не будзе адлігі,
І няхай яно памрэ без надзей,—
Ёсць на свеце добрыя, цёплыя кнігі.
Я люблю людзей.
Мне не трэба людзей.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ганна Львоўна поштаю грошы вяртала,
Калі ён надумаўся іх пасылаць...
Ён чакаў. А гады над ім пралятала.
Ён чакаў. А пасля пакінуў чакаць.
Адшумяць бярозы лісцем вясенніх,
Зноў на вулках кастрычніцкі вецер пяе,
І, відаць, ля брамы дзве бабы каменныя
Не сустрэнуць ніколі усмешкай яе.
Ёсць дачка, якую не бачыў ніколі
І якую кожны дзень уяўляў...
Пэўна, вырасла... Пэўна, бегае ў школу,
Пэўна, кветкі ёй хлопец на вокны паклаў.
Непрыкметна прыйшлі вячэрнія цені...
У жанчыны, што так зрабіла тады,
Засталося, напэўна, даволі сумлення,
Каб забыць трызненне сваё назаўжды,
Пераехаць у вёску, ў глухую школу,
Каб з Рыгорам пазбегнуць раптоўных сустрэч
І выхоўваць дачку здаровай, вясёлай,
Ўсе няшчасці яе адводзячы прэч.
А ў Рыгора ўсё не гаіліся раны,
Што яму бяздумна нанеслі калісь,
І характар стаў цяжкі, такі складаны,
Што работніцы доўга ў яго не жылі.
Інстытуты ў горадзе хутка адкрылі.
У старога час марудна паўзе.
Ён апошнія нервы, апошнія сілы
На студэнтаў траціў і на музей.
І нікому з людзей не глядзеў у зубы.

Што ты зробіш, не ўмеў хлусіць і круціць!
Гуманіст, што суседзяў не вельмі любіць,
Не такая ўжо рэдкая з'ява ў жыцці.
Многім стаў ён за гэта поперак горла.
Год самотны за годам павольна канаў.
У трыццаць восьмым жонка раптоўна памёрла,
Быццам ведала, што надыходзіць вайна.
А дачку сваякі кудысьці забралі.
Людзі ў вёсцы не ведалі нават куды.
Ён шукаў дарэмна. Ў тузе пралятaлі
Дні і тыдні, месяцы і гады.
...Чорныя, глухія ночы лета.
Тумаnoў смуга ў лугах лягла.
Вось шчаку маю пагладзіў вецер
Непрыкметным подыхам крыла.
Хто гэта? Нашто мяне галубіць?
Чый уздых ціхутка пралунаў?
Можа, гэта ты выходзіш, любая,
Да мяне з-пад гэтых росных траў?
Стала мяккім подыхам нячутным,
Ветрыкам паўночным на раллі
І прыйшла пазбавіць ад пакуты
Друга, што сумуе на зямлі.
Прытуліся ж хоць на міг, каханая.
Адчуваю без тугі і слёз
Мяккае, як ветрык, датыканне,
Мяккае, як шоўк забытых кос.
Дзе ты, дзе ты, дзе тваё дыханне?
Можа, засталася назаўжды
Ты нябачнай пасмаю туману,
Што плыве над нівамі кудысь?
Што гэта? Адкуль такія гукі?
Подыхі, забытыя навек?..
Працягнуўшы супраць ветру рукі,
Чуйна замірае чалавек.
Тры гады праляцелі ў спакойнай самоце.
Толькі вучні, гісторыя і латынь.
Толькі ім аддаваў ён сваю пяшчоту,
Толькі вучні лічылі яго святым.
Ну, а большасць мяшчан, і хціўых, і сытых,
На Рыгора шыпелі, як гад у лазе:
«Ну нашто нам патрэбна твая старажытнасць?»
І крэдыты рэзалі на музей.
Муж без жонкі, бацька без дзетак ласкавых,

Ён стаяў да пары, як ў полі сасна.
Але грымнуў пярун. Запалалі дубровы.
Пачалася вайна.
Пачалася вайна.
О пяруне, о светлы нябесны коннік,
Бацька наш светазарны, забыты даўно!
Хто тваю Беларусь ад мячэй абароніць?!
Хто народ твой маленькі заслоніць спіной?!
Вось вядуць яго па ганебных дарогах.
Вось твой люд, памяркоўны і залаты.
Пакажы нам брод да святой перамогі!
Пакажы!
Не чуеш, не чуеш ты.

V

*Інтэрмедыя*

Між руін начных, чужынцамі спаленых,
Што стаялі на чорнай, як дзёгаць, рацэ,
Дзве паважных савы між сабой размаўлялі,
Дамаўляліся чынна аб шлюбе дзяцей.
Куга! Куга! Куга!
На спаленых комінах
Вочы чырвоныя.
Куга! Куга!
— Мы даўно з табою, сваток, пазналіся,
У цябе ёсць сын, у мяне дзве дачкі,
І ў пасаг за старэйшай сто вёсак спаленых,
Два заводы ў руінах і тры гарадкі.
Куга! Куга! Куга!
Скляпенні, каменні,
Ад крылаў цені.
Куга! Куга!
— У цябе дачка драпежная, прагная
І пільнуе добра на кожным суку.
Толькі мала, мала даеш пасагу.
Сын не будзе сватаць тваю дачку.
Куга! Куга! Куга!
Совам добра будзе,
Як знікнуць людзі.
Куга! Куга!
— Пачакай, сваток, не ляці, як абсмалены.
І дачка маладая і сын малады.

Пачакаем. Застынуць у мёртвых развалінах
Усе на свеце вёскі і гарады.
Куга! Куга! Куга!
У дамах пагарэлых
Параскашнела.
Куга! Куга!
Дам тады за дачкою усё, што просіш:
Бадзякі між дрэвамі дзікіх садоў,
Трыста трыццаць раскошных знішчаных вёсак,
Сто руін разбураных, сто гарадоў.
Куга! Куга! Куга!
Няхай кахаюць,
Сусвет засяляюць.
Куга! Куга!
І давеку, давеку іх царства будзе
Паміж чорных руін, раскошных руін,
Калі толькі дурныя, сардэчныя людзі
Не паўстануць са зброяю ўсе як адзін.
Куга! Куга! Куга!
Свінцовы вецер.
Любо-оў на планеце.
Га-га-га-га!

## VI

Ў ноч наступную, ледзь на двары сцямнела
І прыціснула ноч да шыбаў свой твар,
Нехта ў ніжнія дзверы пастукаў нясмела,
І ў пакоі святло пагасіў гаспадар.
Гаспадар адкінуў чорную штору,
Нахіліўся, гледзячы з-пад рукі:
Перад ім ляжаў без агеньчыка горад,
І бурчалі нямецкія грузавікі.
З інтэрвалам кароткім па вулках спаленых,
Асвятляючы сінімі фарамі шлях,
Праляталі тоны плямістай сталі
На усход, дзе неба палала ў агнях.
А ў начной цішыні, аслеплы ад гора,
Без надзеі назаўтра дыхаць і жыць
Помсту клікаў бязгучна няшчасны горад,
Ў неба цягнучы дрэў абгарэлых крыжы.
І Рыгор па сходцах спусціўся, свецячы:
— Хто там ляпае?
— Я, адчыні, Рыгор.

— Дык яшчэ існуюць жывыя на свеце?
Хто такі? Пачакай, адкіну запор.
Дзверы ляснулі суха цяжкім запорам.
Зачыніўшы хутка іх за сабой,
Увайшоў зусім невядомы Рыгору
Малады чалавек з кульгавай нагой.
У яго былі незвычайныя вочы:
Сінь такая, як быццам на ціхі плёс
У лясное возера месячнай ноччу
Дзве блакітныя зоркі ўпалі з нябёс.
Шкода толькі, што чуб у пыле і гліне,
На плячах шырокіх зямля і соль,
Што ў глыбокіх вачах, прытульных і сініх,
Прытаіліся змрочна ўпартасць і боль.

Невядомы

Пачакайце, м-м... Чыкоўскі, не дайцеся дзіву.
Апалчэнец я, ўчора разбілі нас.
Мы пайшлі ў дрыгву, на выспы і грывы.
Там яшчэ дагарае, курыць вайна...

Чаховіч
*(перабіў іранічна)*

Дазмагаліся з мужнасцю вашай нятленнай?
Мужнасць ваша — сядзець на выспе ўначы.
Што ж так хутка вы, паспаліта рушэнне,
Аддалі свой горад дрэні на шчыт?
Можа, з неба дадуць вам мігдалы нябесныя,
Канюшыну райскую без трывог?
Мо за вочы прыгожыя ды за песні
Пашкадуе вас, бедных, міфічны бог.

Невядомы
*(з гордасцю)*

Мы стралялі! Мы біліся! Лёгка ў пакоі
Разважаць, як трэба байцу канаць...
Упікаць яго, што пад страшнай вагою
У яго зламалася раптам спіна.

Чаховіч
*(спакойна і з'едліва)*

У мяне тады спіна не ламалася,
Як паноў белапольскіх таўкла Беларусь,
Як на армію кайзера ярасна ўстала.

Невядомы
*(раптам)*

Вучань ваш памёр... Сініцкі Кастусь.

Чаховіч

Кастусёк?! Калі? Чаму не пазвалі?!
Лепшы вучань! Чаму?

Невядомы

У смяротны час
Замест блізкіх асколкі нас цалавалі.
З трыццаці дваццаць восем загінула нас.

Чаховіч

Дарагі, прабачце старэчую з'едлівасць...
Сэрцу надта балюча...
Вазьміце...
Там...
І наліце на вату... Хлопчык мой светлы,
Дрэнна ў цёмнай зямлі тваім ясным вачам.
Смерць дурная не ў тыя пастукала дзверы.
Замест дзеда юнак пабратаўся з труной.
Усяму канец. Падсяклі маю веру.
Свет шалее. Свет згіне разам са мной.

Невядомы

Супакойцеся.

Чаховіч

Што мяне супакоіць.
Я самотны, як дуб збуцвелы ў палях.
Што сказаў вам Кастусь? Даручэнне якое?

Невядомы

Справа ў вашых старых падземных хадах.

Чаховіч
*(знойку злосна)*

Што там трэба хаваць? Дынаміт? Пракламацыі
(Вы прабачце, я авантур не люблю)
Або, можа, самім вам трэба схавацца,
Каб дажыць да з'яўлення Хрыста на зямлю?
Мой Кастусь памёр у пакуце нязмернай,
Ад жыцця адыходзяць лепшыя прэч.

Я не веру вам, чуеце, я не веру,
Калі ў першай бойцы вы кінулі меч.

Невядомы

Толькі ваша нясцерпнае, лютае гора
Прымушае мяне прамаўчаць у адказ.
Я не буду спрачацца. Бацькам Рыгорам,
Як казаў Кастусь, называлі вас.
Ён мне даў ваш адрас, Чыкоўскі, учора.
Ён прасіў, каб вы мне дапамаглі
Ў памяць дружбы, навукі, радасці, гора,
Ў памяць тых, хто навекі зніклі з зямлі.
Нам патрэбны памяць ваша і веды.
Справа ў тым, што ўчора ранняй парой
Пра падпольную групу аднекуль зведалі,
Трох сяброў замкнулі ў цэлі глухой.
І назаўтра, як знікнуць начныя цені,
Павядуць пад расстрэл, бо людзі маўчаць,
Тры жыцці дагараюць у сутарэннях.
Тры жыцці маладых. І няма ключа.

Чаховіч

Дзе яны?

Невядомы

Ў сутарэннях царквы Гумёнаў.
А капальні прайшлі адны толькі вы...
Можа, дзюрка якая, ад плесні зялёная,
Можа, ход які, смярдзючы і сонны.

Чаховіч
*(задумліва)*

Ёсць хады. Ад цвінтара Брацкай царквы.
Але справа такая не атрымаецца.
Гэты ход ненадзейны. Нара. Канал.
Там ад вільгаці вечнай зямля абсыпаецца.
Што ні крок, то новы і новы завал.
Да таго ж, вы бачыце, я здыхаю,
А туды толькі моцны можа ісці.
Сэрца, бачыш,— ануча. І тут задыхаецца.
А вярсту пад зямлёю не прапаўзці.

Невядомы

Пан Рыгор, паслухайце, гэта патрэбна.
Гэта вельмі патрэбна, благаю вас,

Пазурамі выскрабу гэтую глебу,
Мы ўратуем іх у апошні час,
Там цудоўныя людзі, светлыя, гожыя.
Як пакінуць іх катам на чорны здзек.
Нам сказалі, што толькі вы дапаможаце.
Памажыце мне, дарагі чалавек.

Чаховіч

Не лічы мяне, хлопча, старым баягузам.
Добра змераў я меру сілам сваім.
Бачыш, рукі калоцяцца. Цяжкім грузам
Годы болю ляжаць на сэрцы дурным.
Я памру пад зямлёю. І ты са мною,
Бо выйсця без мяне ты не знойдзеш адтуль.
Гэты ход, як пастка. Ён стане труною:
Зверху глейка, спадыспаду тлусты муль.

Невядомы

І няхай, няхай мяне возьмуць чэрці.
Бог ты мой! Няўжо ў вас не сэрца, а лёд?!
Вам не трэба баяцца заўчаснай смерці,
Майце жаль у сваім спрацаваным сэрцы,
І тады вы майму безаглядна паверыце:
Там дзяўчына, якой васемнаццаць год.
З ёю разам алгебру мы зубрылі.
У горад разам прыехалі перад вайной,
Разам з ёю у ваш інстытут паступілі,
Што ж вы робіце з ёю, з намі, са мной?!
Я не буду хлусіць. Я яе кахаю.
І на вас абсыпáлі яблыні снег.
Пашкадуйце! У памяць светлага мая
Памажыце ёй, ратуйце мяне.
Буду смерці шукаць сваім сэрцам спаленым,
Ёй канец... Гільяціны крывавая слізь,
І відаць, што праўду людзі казалі:
Ён нічога не варты, ваш гуманізм.
Хлопец змоўк. І ціша навісла знямелая.
За акном напаўзалі чароды хмар.
Постаць моцную хлопца, чуб яго белы
Асвятляў мігатлівы далёкі пажар.
І Рыгор, на хлопца кінуўшы вокам,
Нечакана пабачыў, як той засоп,
Як з вачэй яго сініх, гнеўных, глыбокіх
Слёзы пырснулі раптам, як буйны боб.

І Рыгор сказаў, падужаўшы смутак:
— Хоць каханне нізкі, ганебны спадман,
Хоць жанчыны — подласць, і смерць, і атрута,
Я дастану для вас гэты калій цыян...
І не трэба дзякаваць. Ведаюць богі,
Як вы будзеце дзякаваць год праз пяць.
Я люблю узычыць бліжнім двухногім,
Кол з асіны ад сэрца падараваць.
З вас цудоўная, пэўна, ўладзіцца пара...
*(Глянуў на нагу хлопца.)*
Бінт вазьмі для нагі, бо будзеш крывы.

Невядомы

А калі вы зможаце?

Чаховіч
*(адвярнуўшыся)*

Сёння. Зараз.
Пакажу я вам сноба... паршыўцы вы.

VII

Не прайшло, напэўна, паловы гадзіны
Над каробкамі чорнымі горадка,
Калі хлопец з Рыгорам прыйшоў у руіны,
Дзе падручны з рыдлёўкамі іх чакаў.
І яны ўтрох нацярпеліся жахаў,
Покуль вулкамі гучнымі дабрылі
Да сабора Брацкага, шэрага гмаху,
Што стаіць трыста год на гэтай зямлі.
У цемры ночы хаваліся стромыя вежы.
Над дзвярыма ў нішу глыбокую ўрос,
Быццам выйшаў падыхаць паветрам свежым
З апусцелага храма каменны Хрыстос,
Уздыхнуць глыбока, на поўныя грудзі,
Паглядзець, як у дзесяць законаў старых
Карэктывы уносяць добрыя людзі:
«Украдзь. Забі. Катуй. Пралюбства ствары».
Праз разбітыя дзверы яны пралезлі,
І уладна хлопцам сказаў Рыгор
Цэглу бітую, смецце і брухт жалезны
Адкідаць з кутка, каб ачысціць атвор.
А калі падважылі цяжкія пліты,
Ён спытаў, вяроўку спускаючы ў лаз:

— Як хоць зваць вас, лыцары, ветрам падбітыя?
І кульгавы сказаў:
— Лавініцкі Юрась.
— А цябе, хлапчына?
— Максімам хрысцілі.
— Ну дык добра, Максім. Спускайся, браток,
Ач ты, д'ябал,— ногі вяроўку згубілі.
Падтрымай... Мне цяжка спускацца ў сцёк.
А цяпер трымайце паперку, нябогі.
Гэта схема хадоў... Мы пойдзем вось так...
А вяртацца будзем іншай дарогай,
Каб далей адысці ад гэтых сабак.
Бо сабор у цэнтры. І тут нас схопяць,
Калі вылезем мы з яго на святло.
Пойдзем доўгай дарогай. Работы хопіць.
Ты бяры рыдлёўку, а ты — кайло.
І пайшлі яны. Свечкі цьмяна свецяць.
Царства мёртвых прыняло трох жывых.
Крэйдай белай Чаховіч старанна меціць
Кожны кут і кожны ход бакавы.
На скляпеннях брыдкая белая плесня
І халодны навобмацак, бляклы грыбок,
Недзе чуць аднастайную ціхую песню,
Песню кропель, што падаюць проста ў змрок.
Ход глыбей і глыбей ад паверхні ўводзіць,
Павышэла скляпенне. Свечкі агонь
Пацягнуўся ўгару.
— Увага, калодзеж,—
Падымае Рыгор сухую далонь.
Пад нагамі дзіра. Асцярожна мінаюць,
Прытуліўшыся цесна да мокрай сцяны.
І агеньчыкі ледзьве-ледзьве міргаюць
Пад нагамі ў волкай глухой глыбіні.
Зноў капальня. І зноў завал за завалам.
Зноў патокі халоднай мокрай зямлі.
Сем разоў яны яе адграбалі
І набілі крывавыя мазалі.
І Юрась, ледзь жывы, ад стомы марудны,
Як пачвара, заліты чырвоным святлом,
З галавы да ног аблеплены брудам,
Б'е ў зямлю шырокім бліскучым лязом.
У вачах мільгаюць чырвоныя цені,
А спіна дрыжыць, як напяты лук,
І Рыгор пабачыў: патрэбна змена,

І рыдлёўку ўзяў з аслабелых рук.
Ён капаў. Ён спакойна, размерна рухаўся,
Успамінаючы даўнія светлыя дні,
Калі сэрца здаровае весела слухаў
Разам з песняй кропляў у цішыні.
Як яно пачало задыхацца рана,
Камячок маленькі, калыска нягод,
Цяжкай працай і горам ушчэнт спрацаванае
За апошнія васемнаццаць год,
Рвецца з клеткі грудзей у глотку, на волю,
Халадзеюць пальцы, дубее твар.
О, якім нясцерпным і лютым болем
Адгукаецца кожны рыдлёўкі ўдар!
Можа, кінуць? Не... Аплывае глеба...
Маладых, дурных патрэбна вучыць.
Вось цяпер і гісторыя ім патрэбна,
Калі хтосьці ў старым саборы сядзіць.
Нашы свечы ў капальнях продкаў палаюць.
Мы для ўнукаў павінны дарогу прабіць.
Хто забыў сваіх продкаў — сябе губляе,
Хто забыў сваю мову — усё згубіў.
Ход вузейшы. Шчыліна з мулам і друзам,
Непрытульная, як нара пацука.
— Што ж, сябры, адгэтуль палезем на пузах,
Як належыць сапраўдным зямным чарвякам.
Даручыце богу грэшныя душы
І адразу скідайце свае пінжакі,
Бо саб'юцца на шыю і ўмомант задушаць.
З перапуду не кідайцеся ў бакі,
Калі цесна будзе. Адна толькі смеласць
Перавагу дае. А таму — спакой...
Трэба ліцца справа налева ўсім целам
І падпіхваць чэрава левай рукой...
Папаўзлі, пярэдніх штурхаючы ў пяты,
За Рыгорам Юрась, а пасля Максім.
Нават грудзі змяла зямля праклятая,
Тры сажэні свае апусціўшы на ўсіх.
На лапаткі цяжар страшэнны навіснуў,
І, здаецца, кідаўся б, як павук,
Як дзіця неразумнае, што заціснула
Ў спінцы крэсла бялявую галаву.
І раптоўна застылі Рыгоравы ногі.
І Юрась наткнуўся на іх рукой.
Маладыя дарэмна гукалі старога,—

Ён дзяліў з зямлёю мёртвы спакой.
Ён заторкнуў нару, як бутэльку корак.
Сэрца здала. Дарэмна торгаў Юрась.
Дагарала свечка. Змрок душны і чорны
Асядаў на хлопцаў. Імчаўся час.
Нерухомыя, задубелыя ногі,
Пэўна, сэрца прыпадак навекі звязаў.
Немагчыма старому падаць дапамогу.
Немагчыма наперад — і нельга назад.
Ім здавалася, што праляцелі годы
І стагоддзі ўжо над зямлёю бягуць,
Калі голас азваўся слабы, але годны:
— Мне лягчэй. Адпусці ты, нячысцік, нагу...
І з нялюдскай, павольнай,
жахлівай цяжкасцю
Варухнуліся ногі і ў рух прыйшлі.
А Юрась заплакаў: ганебнай вадкасці
Не заўважыць ніхто ў глыбінях зямлі.
Шмат яны рыдлёўкаю гліны адбілі,
Так паўзлі, як не снілася нават крату.
Ход шырокі стаў, і сухі, і пыльны.
Сцены ў плітах. Зніклі апошнія сілы.
А яны немагчымае ўсё ж зрабілі.
Стаў Рыгор і ціха вымавіў: «Тут».
На ручным гадзінніку тры гадзіны.
Не спазніліся, пэўна.
І ціха Рыгор
Выстрыё кайла ўсадзіў між цаглінамі.
І ў сцяне зрабіў невялікі атвор.
А пасля пацягнуўся да пліт рукамі,
Штурхануў, наколькі хапіла сіл.
І асклізлы ад цвілі, халодны камень
Варухнуўся на нейкай нябачнай васі.
Вязні спяць. Світання адбітак сіні
З цемры выхапіў лоб і бялявую скронь.
І Рыгор падпоўз да спячай дзяўчыны,
Разбудзіў і на вусны паклаў далонь.

VIII

Зачынілі атвор. Заклалі цаглінамі.
І пайшлі капальняю ўшасцярых,
Неафіты сонечнай, новай краіны
На чале з настаўнікам белым, старым.

Над зямлёю, напэўна, снаваўся ранак,
А яны ішлі і таптаді глей,
Шэсць адрынутых светам, шэсць зацкаваных,
Шэсць няскораных душ у адвечнай імгле.
І, напэўна, па ўсёй краіне суровай,
Ў катакомбах, на выспах сярод балот,
Як у гэтых таемных падземных сховах,
І чакаў, і верыў у сонца народ.

У Максіма кроў на шырокай далоні,
У Чаховіча грудзі, як жарам пячэ,
У Юрася на калошы падцёк чырвоны
Распаўзаецца ўсё хутчэй і хутчэй.
І Чаховіч сказаў: — Два дурныя калекі
Ратаваць пайшлі здаровых людзей.
Але што ты зробіш, шкада чалавека?
Ён, напэўна, хутка зусім упадзе.
Пасадзі ты яго, Максіме, на спіну
(На маю, вядома, не на сваю).
Ты глядзі за хлопцам і за дзяўчынай,
Я пайду хутчэй — іначай каюк.
І, вядома, крэйдаю сценкі адмечу,
Каб не збіцца вам з дарогі прамой.
Ну, пайшлі. Трымайся, хлопча, за плечы.
Праз вярсту да святла дабяромся з табой.
Ён ішоў з Юрасём, цяжкім і абмяклым,
Адчуваў, як сэрца калоціць у бок.
Добра хоць, што зямля сухая, заклятая
Пад нагамі была, як выбіты ток.
Але вось і канец.
Атвор у кар'еры.
Бузіна над ім зялёным шатром.
І ад шчасця такога, што нельга паверыць,
Заскакаў бы, здаецца, вясёлым бычком.
Мір табе, залатое, як мёд, паветра,
Мір званочкам, што ў цёплай траве звіняць,
Лёгкім хмаркам, падбелу, нячутнаму ветру,
І рамонкам, што ціха пра шчасце сняць,
І калматаму сонцу, і рыбам слаўным,
І насельніцтву кожнай калоды старой —
Ўсёй радзіме, што ка́там без жалю скрываўлена
І ўсё ж застаецца маёй зямлёй,
Залатой, адвечнай, лепшай, адзінай
У сяйве сціплай красы, што нельга згасіць.

Ён глядзеў на сонца аж дзве хвіліны,
Расцягнуўшыся ля створа без сіл.
А пасля паклаў Юрася ля атвора
І, раздзёршы кашулю сваю на бінты,
Зноў пайшоў у вільготную цемру чорную,
У якой блукалі недзе браты.
Ён сустрэў Максіма хвілін праз дзесяць.
Вязні ледзьве ішлі. Ён абодвух цягнуў.
І адзін на руцэ ўсім целам павесіўся,
А другі асядлаў Максіму спіну.
І Чаховіч, мокры, брудны і страшны,
Прасіпеў праз збялелыя вусны свае:
— Што, хлапчына, мала пад'еў ты кашы?
А дзяўчына дзе? Ты кінуў яе?

Максім
*(ледзьве дыхаючы)*

А дзяўчына ідзе за мною адразу...
У яе... ліхтар... І мацней яна...
Ці далёка яшчэ да гэтага лаза?

Чаховіч

Ты дзяўчыну пакінуў? Яна адна?

Максім

Катавалі хлопцаў... Яна папрасіла...
І яна сказала, што сілы ёсць...

Чаховіч

У дзяўчыны заўсёды дзявочыя сілы
І дзявочая, тонкая, слабая косць,
І калі яна дапамогі не просіць,—
Гэта гонару знак, зразумей хоць не сам.
Як вас толькі зямля няшчасная носіць?!
Не дзіўлюся, што ворагі ўсыпалі вам!
Дай мне цэлую свечку. Ідзі на выхад.
Я пайду за ёю... Бяжы, бяжы...
І калі з ёй дрэнна, няхай хоць крыху,
Ты ў мяне зарачэшся навекі жыць.
Зноў Чаховіч адзін. Зноўку кроплі капаюць.
Ён сядае. Млявасць паўзе па нагах.
Нехта сэрца сціскае мяккаю лапай,
Нарастае самота, боль і туга.
Але нельга, нельга, трэба узняцца,

Трэба крочыць, высока трымаць галаву:
«Пачакай мяне, Ганна, пачакай мяне, маці.
Я пакуль што яшчэ на зямлі пажыву».
Ён ішоў, напэўна, з палову гадзіны.
Цішыня. Толькі недзе капеж пяе,
І нарэшце пабачыў постаць дзяўчыны,
І агарак згаслы ля ног яе.

Дзяўчына
*(вінавата)*

Вы прабачце. Мне дрэнна чамусьці стала.
Мне сціскалі ногі. Мне цяжка ісці.
Я пайшла была, а потым упала...
І бывае ж глупства такое ў жыцці!

Чаховіч

Я прыйшоў бы сюды і з дна акіяна,
Я прыпоўз бы сюды і з сотняю ран,
Бо сягоння мне ваш Юрась каханы
Даказаў станоўча, што я — балван.
Але я вам хваста накручу, мая мілая:
Тых, хто падае на дарозе без ног
Ды яшчэ памочніка гоніць сілай,
Тых грунтоўна пазбавіў розуму бог.
Пакажы мне ногі.
*(Прамацвае пальцамі)*
На месцы суставы...
Жылы тут расцягнуў нейкі подлы гнюс.
Сінякоў затое — божа мой правы! —
Падбярэш на кожны асвечаны густ.
Бацькам быў бы, даў бы вам добрага чосу...

Дзяўчына

А нашто так злосна бурчыце вы?
Вы ж цудоўны, добры, зусім не злосны.
Вы такі... як дзядуля, добры, сівы.

Чаховіч
*(сумеўшыся)*

Не запісвай заўчасна мяне ў старыя,
Я яшчэ ў Юрася цябе адаб'ю.
Ну, давай на рукі. Трымайся за шыю.
Не зважай, дачушка, на старасць маю.

Крок за крокам цягнуцца пераходы.
Цемра. Змрок. Не лепей скляпенняў турмы.
Але тут ёсць свабода, сонца свабоды,
Што ніхто на свеце не любіць, як мы,
Бо ніхто не плаціў за яе так многа,
Бо ніхто так мала яе не меў,
Бо дзяўчатам нашым прыгожыя ногі
Не для пытак далі ў фашысцкай турме.
Вось сядзіць на руках. Цудоўныя вочы.
А маленькі, слабы такі камячок.
Як яна сказала яму надоечы?
«Вы цудоўны, добры». Бач ты, дзяўчо!
Ён яе пасадзіў на зямлю з асцярогай,
Як дзіцёнка хворага, спакваля.
Каб у гэтыя слабыя, збітыя ногі
Не азвалася болем тугая зямля.
І далонь яе Юрасю на чупрыну
Непрыкметна і трапятліва лягла,
І настала светлая шчасця хвіліна
Ў тыднях здрады, подласці, чорнага зла.
Ўсім было чамусьці і добра і сорамна.
Адвярнуліся ўсе, глядзелі ў атвор.
Толькі з цемры глядзеў на іх з нейкай горыччу
Зноў самотны, як суткі таму, Рыгор.
Усё прыпомніў: былыя звады і лады,
А галоўнае — рукі жанчыны сваёй,
Што калісьці чупрыну Рыгораву гладзілі,
Калі ён прыпадаў да іх галавой.
Але гэтае племя моцнае, светлае,
Не такое зусім, як яны былі.
За каханым такія ідуць на край свету,
І ў нябёсы, і ў прорвы, і ў нетры зямлі.

Калі вечар упаў на хмызы і разлогі,
І лугі заліў малочны туман,
І усе пачалі збірацца ў дарогу,
Каб хутчэй патрапіць да партызан,
Раптам сеў Юрась і сказаў дзяўчыне,
Што было да атвора амаль падышла:
— Ты Чыкоўскага пана падзякуй, Марына,
Каб не ён, ты б мёртвай зараз была.
І пасля на Рыгора глянуў з пяшчотай,
І ў позірку гэтым пабачыў стары,
Што падзяка падзякай, а самота самотай,

Маладосць на гару, а старасць з гары.
Зберагчы жыццё — невялікая штука,
І за гэта ніхто не плаціць сабой.
Шчасце ў іх, а ў яго — старэчыя мукі.
Хай ідуць.
Добры дзень. Ты вярнуўся, боль.
І калі дзяўчына раптам прыпала
Да яго калючай жоўтай шчакі,
Ён маўчаў, і рука яго трапятала
На дзявочых косах, доўгіх цяжкіх.

Чаховіч

Колькі год табе?

Марына

Васемнаццаць.

Чаховіч

Мала.
Пажыві сто год. Весяліся. Кахай.
Сустракай грудзьмі любую навалу
І любі, любі гэты горды край.
Ўспомні гэта слова ў гадзіну суровую.
І бывай. Заззялі агеньчыкі зор.
Як хоць прозвішча будзе тваё?

Марына

Чаховіч.

Чаховіч

А... па бацьку як?

Марына

Бацьку звалі Рыгор.

І Марына зноў да старога прыпала.
Ён маўчаў. Стала мокрай у цемры шчака.
Не трымаў яе — толькі сэрца звяла.
Не сказаў ёй — толькі дрыжала рука.
Маці, пэўна, сказала. Яго баяцца.
Ці сумленна будзе у дзень такі
Пленам подзвігу ўласнага скарыстацца
І дабіцца няшчырай любві дачкі?

— Ну, ідзі.
*(Падштурхнуў Марынку ў спіну)*
І глядзеў, глядзеў на яе здалёк,
Покуль цень маленькай, танклявай дзяўчыны
Разам з іншымі паглынуўся у змрок.
Ля кар'ера, ў глыбокай гліністай яме,
Ён сядзеў яшчэ з дзесятак хвілін,
Бо фашысцкі салдат праходзіў ярамі
І глядзеў на адвалы, сабачы сын.
Не... салдат не заўважыў нічога, здаецца,
Можна зноўку ісці ў непрытульны дом...
Ноч ідзе. Халодныя зоркі свецяцца
Над няродным, халодным, чужым гарадком.
Ён дадому цягнуўся паволі-паволі,
Быццам кожны міг душою чакаў,
Што дагоніць, крыкне, абдыме да болю,
Пацалуе ў вочы яго дачка.
Ён ішоў на задворках, а потым садам
І каменным бабам ціха сказаў:
— Што, распусніцы, гору чужому рады?
Вось як жыгну лазінай ваш тоўсты зад.
  І ўзняліся два цені з альтанкі зялёнай.
Ён падаўся назад, але ляснуў затвор.
І адзін з іх сказаў:
  — У імя закону!
Вы пад арыштам, пан Чаховіч Рыгор.
  Ён адрэзаў:
— Хутчэй у імя беззаконня.
Што ж, нічога не зробіш, трубі адбой.
  І ў святле ліхтара два цені зялёныя
Падышлі, аб камень падкоўкамі звонячы,
І Рыгора заціснулі між сабой.

IX

У пакоі вялізным святло змярцвелае.
На стале паперы і плецены стэк.
За сталом авантажны, матава-белы,
З рудаватым чубам сядзіць чалавек.
Ён глядзіць з пагардай пустымі вачыма,
Праўнук пана, ўнук пана і пана сын.
Вось такія калісьці сядалі ў Рыме
Па патрэбе сваёй на вачах у рабынь.
І такая прага з'явілася ў сэрцы

Да святла, жыцця, барацьбы і людзей,
Што Рыгор вырашае лепей памерці,
Але выйсце шукаць, не губляць надзей.
«Як ён мог памылку зрабіць такую?!!
Адысці ад дачкі і змяняць яе
На агонь і прэнг, на цэлю глухую,
На чужынца, што ў вочы твае плюе.
Не пабачыць яе і знікнуць навекі,
Да Абрама пайсці на жорны малоць,
Не пабачыць адзінага чалавека,
У якім Рыгорава кроў і плоць».
І Чаховіч зручней прымасціўся на крэсле,
І сказаў, сабраўшы волю ў кулак:
— Хай не думае пан, што мне вельмі весела
Ў гэтым доме сядзець і маўчаць вось так.
Афіцэр, ашаломлены гэтым нападам,
Паглядзеў на Рыгора. А той яму:
— Захапілі ў палон дзеля нейкай радасці
Торбу костак старых і сцягнулі ў турму!
Ўсё жыццё я пляваў на вашу палітыку,
Бо вучэнні розныя — гэта хлусня.
Я б асобу вашу, пагардай набітую,
На адзін каменны молат змяняў.
Афіцэр на Рыгора з цікавасцю глянуў.
Сапраўды цікава: сядзіць чалавек
І на мове нямецкай лае старанна
Тых, хто зараз яго прывялі на здзек.
Ці дурны ён, ці проста не вінаваты,
Ці такі ўжо хітры, што нельга пазнаць?
Афіцэр зацікавіўся гэтым надта
І дазволіў Рыгору пакуль што крычаць.
Той, забыўшыся, лаяўся па-беларуску:
— Каб вас, дурняў, выкаціла да нагі,
Каб вам дзеці труну змайстравалі вузкую,
Калі ў вашага брата ў кішках мазгі.
Зноў нямецкай мовай, адменнай і чыстай:
— Я ненавіджу вузкую вашу мараль,
Ўсіх нацыстаў, фашыстаў, сацыялістаў,
Тупалобую, абмежаваную шваль.
Артадоксы паршывыя, што скавалі
Бруднай нормай бязмежную душу маю,
Мой святы мікракосм, да дна ідэальны,
У якім цень бога я пазнаю!
Дайце мне па-шляхецкаму spokój święty,

Я не хам, не мужык, што гарбее ў зямлі.
Я належу да расы інтэлігентаў,
У руках якой надзея зямлі.
І Рыгор мудрагеліста ляпаў такое,
Што нагадваў вар'ята самому сабе:
— Часткі космасу ў вечным ляжаць неспакоі,
У адвечнай, фатальнай, нямой барацьбе.
Але я душою веру глыбока,
Што Хаду калісьці узнікне з імглы,
Што адвечнае зло ў сімвале Локі
Будзе богам прывязана да скалы.
Ён, нарэшце, ў такі лабірынт забіўся,
Што, на крэсле седзячы, як на нажы,
Рэспектабельны немец і сам здзівіўся,
Калі раптам вылаяўся, як мужык.
І спытаў Рыгора:
— Пан уяўляе,
Для чаго яго сюды прывялі?
І Рыгор адказаў:
— Добры ратай ўзнімае
Папярэдне дзірван абложнай зямлі.
Я мяркую, вам трэба народ выхоўваць,—
Да душы людзей не даходзіць рука,—
Вам патрэбны людзі жыцця духоўнага.
Я для вас, вядома, такая каштоўнасць,
Квінтэсенцыя лепшых сіл гарадка.

Афіцэр

А калі мы скажам, што вы злачынец
І таму вас ноччу сюды прывялі?

Чаховіч

Я скажу, што нейкае глупства чыніцца,
Што зусім адэкватныя вы і аслы.
Я ў адзінае веру: ў мудрасць старую,
І палітыкам мне немагчыма стаць.
Я такога сцверджання вам не дарую.
Вы філосаф. Вам трэба ў душах чытаць.
У афіцэра аж вочы сталі вялікімі,
Перад ім, безумоўна, стаяў ідыёт,
Звар'яцелы на кнігах, дрэнны палітык,
У жыцці дзіця з уяўленнямі дзікімі.
І усмешка немцу скрывіла рот.
І Рыгор, які скомкаў апошнія словы,

Бо сядзець ад ненавісці лютай не мог,
Зразумеў, што ў першай сутычцы суровай
Ён пасунуў ворага і перамог.
Немец цвёрда адрэзаў: — Хопіць на гэтым.
Вам, паддопытны, трэба будзе чакаць,
Бо з турмы сёння ўранцы ўцякла кабета
І кабета гэтая — ваша дачка.
Мы караем злачынцаў жорстка, сурова.
Наш закон непакорных без літасці б'е.

Чаховіч

Уцякла, і дай ёй божа здароўя,
Што, нарэшце, ведаю я пра яе!
Я, папраўдзе, дачкі не бачыў ніколі.
Нарадзілася пасля разводу дачка.
А яна камуністка?

Афіцэр

Была ў камсамоле.

Чаховіч

У камсамоле мяне дарэмна шукаць.
Я адказ не нясу за ўласнае племя,
На якое ніколі нат не зірнуў.
Хай пацягнуць самі сваё бярэмя.

Афіцэр

Дзе вы сёння былі?

Чаховіч

Мне апрыкраў свінух,
Гэты горад разбіты і разварочаны
Да апошняга мура, апошняй сцяны.
Я хадзіў на дзень у Святое Ўрочышча
Паглядзець на даўнія курганы.

Афіцэр

Улічыце, на вас ляжыць падазрэнне.
Вы тут лепшы знаўца будоўляў старых.
Вязні зніклі бясследна з тых сутарэнняў,
І пакуль адшукаць не ўдалося іх.

Чаховіч

З-пад замка можна знікнуць не толькі праз сцены.
Цяжка мур разбіць, лёгка гонар прадаць.

Людзі сталі на варце ля сутарэння.
Ці няма там здраднікаў сярод салдат?
Афіцэр націснуў званок рукою
(Пульхна-белай, прыгожай была рука)
І сказаў чалавеку з перадпакою:
— Прывядзіце сюды Якуба Лучка.
І пасля растлумачыў паважна Рыгору:
— Чалавек, якога пабачыце вы,
Намі ўзяты пасля трывогі ўчора,
Калі штосьці цягнуў з разбітай царквы.
У яго мы ўзялі пра адрас даведку,
Калі ваша дачка з турмы ўцякла...
Ён галоўны і вельмі сур'ёзны сведка.
Прызнавайцеся: сувязь з падполлем была?
Прызнавайцеся: будзе сонца над гаем,
Кнігі, музыка, гоман дрэў і рака.

Рыгор

Што вы кажаце, пане, я проста не знаю.

Афіцэр

Вы маўчыце? Ну што ж,
*(салдатам)*
Давайце Лучка.
І ў святле электрычным, белым і пыльным,
У дзвярах пакою ўпэўнена стаў
Чалавек пажылы ў гарнітуры цывільным
З тварам пшута старога, з вусамі ката.

Лучко

Я кажу супраць гэтага чалавека.
Бо капальні ведаюць ён ды бог.
Толькі ён на пачатку гэтага века
Прапаўзці пад зямлёй куды хочаш мог.

А Чаховіч, што прыглядаўся да болю,
Штось знаёмае бачыў у рысах тых.
Выплывала яно павольна-павольна.
Ён пазнаў. Ён ведаў:
«Лабазнік? Ты?
Дык табе яшчэ гэтага, шкура, мала,
Што людзей праз цябе перастаў я любіць,
Што жыццё маё праз цябе зламалася,
Што жыццё маёй жонкі ты загубіў».
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Іх салдаты ў бакі штуршкамі цягнулі,
Але ўпяўся ў Лучка Рыгор, як бульдог,
Біў яго па твары, у вочы снулыя,
А калі адцягнулі,— каленам між ног.
Разам з ім вартавыя на крэсла ўпалі,
Ён стагнаў праз зубы: «Псяюха! Падлец!»
Сэрца зноўку глыбока кудысь апускалася.
«Зараз канец... Зараз канец...»
Але зноў галасы. Яно ажывае.
Гэта дрэнна. Значыцца, зноў хітраваць.
Што ж, нічога. Пакуль што душа жывая,
А пасля хоць зусім не расці трава.

Лучко

Пан маёр, я прашу вас заўважыць гэта.
Гэты пёс шалёны мне вусны рассек.

Рыгор

Мала даў табе я, бандзюк адпеты.

Афіцэр

Вы, Чаховіч, падступны, дурны чалавек.

Рыгор

Я зусім не палітык, скажу вам шчыра,
Але я прызнаюся, я знаю хады.
У дні юнацтва, у дні кахання і міру
Вельмі-вельмі часта хадзіў я туды.
Ён па злосці сваёй на мяне нагаворвае,
Гэтай злосцю ён дваццаць гадоў жыве:
За каханую жонку, за ўласнае гора
Я калісьці даў яму поўху ў царкве.
*(Да Лучка)*
Што ж маўчыце вы, вашае слоаблуддзе?
Мо зусім не было тых брыдкіх сустрэч?
Мо не вы тады пасля бабскага спуду
Ад мяне на карачках пабеглі прэч?
Я не мог стрымаць да дачкі агіды,
Не любіў людзей, што жылі са мной,
Бо калісьці гэтая тлустая гніда
Пажадала на тыдзень жонкі чужой.

Лучко

Брэша ён. То не злосць. Я адданы уладам.

Рыгор

У яго адданасць хвіліну жыве,
І калі на вас зваліцца гора і звады,—
Ён вас першы прыстукне па галаве.
Я скажу вам цяпер праўду шчырую самую.
І хлусіць, і круціць я не буду, до.
Я сумленны, я чысты зусім перад вамі.
Я ў царкву Гумёнаў не знаю хадоў.
Але ёсць і ў мяне адна таямніца...
Напярэдадні дня, як прыйшоў ім канец...
Позняй ноччу... ў час, калі мне не спіцца,
Сакратар гаркома прыйшоў да мяне.
Я ніколі не меў з ім ніякай справы,
Але ў сэрцы маім варушылася злосць,
Бо капальні тады яму сталі цікавымі,
Як падэшвы праз боты агнём прапякло.
Але госця свайго не турнеш за дзверы,
І размова кароткай у нас была.
Ён прасіў накрэсліць план на паперы.
Мне не шкода было. Я накрэсліў план.
Я не знаю, якая была патрэба,
Але ён пытаў, як прайсці туды,
Ці раскошна там, ці вільготная глеба,
Ці хапае ў падземных студнях вады.
Я сказаў, што вады і паветра даволі,
Што надзіва моцная столь угары,
І прасіў ён мяне, каб нікому болей
Я пра нашу размову не гаварыў.
І скажу вам шчыра, да самага скону
Я не кінуў нікому бы нават сказ,
Каб не рэўнасць, не ярасць мая шалёная
Да таго, хто трэцім сядзіць паміж нас.

Афіцэр
*(суха)*

Вас, Чаховіч, за гэта ніхто не пахваліць...

Рыгор
*(з'едліва)*

Вы мяркуеце, я не ведаю сам,
Што заўжды паўстанцы ў капальнях хаваліся,
Што яны, вядома, і зараз там?
*(жорстка)*
Я гандляр. Мой тавар пад зямлёй хаваецца.

Вы іх возьмеце там, як у пастцы тхара.
Гэта проста дрыжачыя, слабыя зайцы,
У якіх толькі й ёсць, што жах і нара.
І за ўсё гэта будзе адзіная плата,
Не ў зямлі, не ў марках і не ў рублях:
Я прашу, каб Якуба, поскудзь праклятую,
Расстралялі вы на маіх вачах.
Больш за ўсё жадаю гэта пабачыць:
Пот халодны, жах ворага злога майго.
Хай сціскаецца сэрца, няхай паплача,
Як калісьці жонка мая ад яго.
Зараз! Тут! Перад гэтым начным паходам!
А інакш, гонару слова даю,
Зайцы ў цёмных норах здабудуць свабоду,
Вы — здабудзеце толькі душу маю.

Афіцэр

Мы прызнанне і не з такіх выціскалі.
Кожны плача, калі да магілы крок.

Рыгор

Вы, здаецца, болем мяне пужалі?
Чалавека, ў якога сэрца парок?
Я нікога, нікога з вас не баюся.
Не шкада, не шкада мне пакінуць свет.
Толькі трошкі шкада маёй Беларусі,
Дый яна як-небудзь без нас пражыве.

Афіцэр

Хто мне скажа, што ў гэтым няма падману?

Рыгор

Я адразу, як толькі здохне Лучко,
Павяду туды, супраць тых «партызанаў»,
Трыццаць, сорак, сотню вашых штыкоў.
Хай вядуць мяне хоць трое пад руляй,
Хай наперадзе нехта таксама ідзе.
За жыццё Лучка, за адзіную кулю
Заплачу вам сумленна хоць сотняй людзей.
І пакуль не загіне вораг мой кляты,
Я ў капальні з вамі не пабягу.

Афіцэр
*(рашуча)*

Добра, пойдзем на двор. Бярыце, салдаты.

*(Салдаты цягнуць Лучка з пакоя, той упіраецца нагамі.)*

Лучко

Не хачу! Не магу! Не хачу! Не ма-гу-у...

X

Зноўку змрок. Ён чорны, як сажа кашлатая.
Ён чакае людзей па кутах, як звер.
Пад зямлёю ідзе два дзесяткі салдатаў
І паперад усіх з ліхтаром афіцэр.
А за ім, знерваваным, злосным і змораным,
Натапыраныя, як два груганы,
Два салдаты пад руляй вядуць Рыгора,
Што нясе яшчэ ліхтар запасны.
Практыкуюцца немцы ў бязглуздых жартах,
Прадракаюць, што здрадніку ў пекле гарэць.
Але ён не зважае, ён крочыць упарта,
Ён іх хоча памучыць раней, чым памрэ.
Ён зрабіў усё, што было патрэбна,
Чалавек, што зганьбіў Ганну, памёр
І ляжыць, накрыты торбаю зрэбнаю,
На асфальце двара, тлустым тварам да зор.
Ёсць тут ход бакавы і калодзеж адразу,
Непрыкметны ў цемры, тры метры ўшыр,
А пасля лабірынт пераходаў і лазаў.
Там схавацца... там цемра, спакой і мір.
Там спакойна і добра памерці нават,
І ляжаць свабодным, як продак той.
Паміж добрым жыццём і канцом крывавым
Толькі яма ў тры метры якіх шырынёй.
Ход з глыбокаю студняй яны прамінулі,
Стаў нямецкі салдат ля яго якраз.
Падстаўляць галаву непатрэбна пад кулю.
Зробім круг, у другі паспрабуем раз.
Ён выходзіць зноў на старую дарогу.
Зноў на спіну падаюць кроплі вады.
Сярод немцаў патроху расце трывога:
На дарозе нехта пабачыў сляды.
Зноўку справа, як слуп, афіцэр збялелы.
У Рыгора нервова каленкі дрыжаць.
До чакаць. І тут пераможа смеласць.
І Чаховіч кінуўся ўбок, як кажан.

Афіцэра збіў проста ў цёмны калодзеж
І адзіным, з апошняй сілы, скачком
Скокнуў некуды ў цемру, насустрач свабодзе
Нечакана моцным, пруткім рыўком.
Пераскочыў калодзеж, упаў на калені.
Рукі ўраз падламіліся, ўпаў на твар.

Стрэлы. Стрэлы. Мільгаюць слабыя цені
(Дагарае на дне афіцэрскі ліхтар).

Ён ляжаў на мокрай глебе халоднай.
Давялося ворагам безвач страляць.
А з-пад ног яго па сцяне калодзежа
З шапаценнем ціхім спадала зямля.
Ён зусім не баяўся немагчымай пагоні.
Час ліхтар запаліць. Запалкі грымяць.
Што за рэзкі пах ідзе ад далоні?
Ён панюхаў...
Газа...
Памылкі няма.
Вось ад кулі дзірка ў рэзервуары,
Невялічкая, быццам цвіком пракол.
Кнот смярдзіць абрыдлівым пахам гары
І згасае хутка. Цемра вакол.
Трыццаць простых сярнічак. Вось дык прыгода!
Гэта значыць, найбольш як дваццаць хвілін,
А пасля вечны змрок, глыбокі, халодны.
Выбірайся, блытай, памры адзін.
Дзе я зараз? Шугнуў агеньчык гарачы.
Ён — як частка жыцця. Не дрыжы, рука.
Я павінен шаты лясныя пабачыць,
Я павінен выйсце адсюль адшукаць.
Ён ішоў і сценкі мацаў рукамі,
Ён вісеў над студнямі, як на крыжы.
Спадзяваўся толькі на добрую памяць,
Плазаваў, як макрыца, жадаючы жыць.
Ён запалку траціў на скрыжаванні,
Выбіраў дарогу пры жоўтым святле,
Ўспамінаў пра зямлю, цеплыню, світанне,
Мацаў волкія сцены і поўз далей.
Ход адзін быў проста на ўзвод пяхоты.
Ён падумаў, што проста калена тут,
І пасля, цыганскім абліўшыся потам,
Поўз назад, дзве запалкі ўтаптаўшы ў бруд.

І апошняй запалкі полымя сіняе
Загасіла цемра ўзмахам крыла.
Ён ля кожнага ходу сядзеў паўгадзіны,
У мазгу аднаўляючы даўні план.
Хоць бы тонкі, маленькі агарак свечкі.
Ён гадзіну поўз усім д'яблам назло.
І зрабіў ён цуд: у цемры адвечнай
Ён прайшоў вярсту і пабачыў святло.
Гэты ход выводзіў за горад, на поле.
Ўвесь аблеплены брудам ад пятак да шчок,
Ледзьве выпаўз Чаховіч з цёмнай расколіны
І зваліўся на цёплы рачны пясок.

Ранак. Светлыя далі. Сонца над водамі.
Вербы ў дымнай расе. Жаўрукі пяюць.
І свабода! Свабода! Такая свабода,
Што рыданні ў горле дыхнуць не даюць.
Беларусь! Зялёная, залатая!
Край мой светлы, што выпіў мора пакут!
Да апошняй бярозы благаслаўляю
Светлы дзень, калі я нарадзіўся тут.
І Рыгор ад бруду рабы, як жаба,
Лёг знясілены над ракою ў хмызах.
Спёка. Сны. Наплывае дзіўная слабасць.
Часам дрыжыкі ў сне прабягуць па нагах.
Сонца грэла яго травяністы ложак.
На зямлі, што ён не аддаў на здзек,
Пасля цяжкай пакуты спаў пераможац,
Спаў стары змагар,
мудрэц,
чалавек.
Дуб стары зацяняў яму твар суровы,
І, паспешна выбегшы на адхон,
Дрэвы цёплай Радзімы стаялі ў галовах,
Неспакойны і моцны вартуючы сон.

XI

Хвояў шум. Лясы спяваюць, спяваюць.
Над зямлёй зялёны гудзе акіян.
Над зямлянкай яліна рыпіць крывая,
І ляціць супраць ветру хрыпаты груган.
Партызанскія коні ў яры гігочуць,
Ля кастра прыглушаныя галасы.

Болей гукаў не чутна. І ліпеня ночы
Ціха сяйва месяца льюць на лясы.
Забыццё цягучае раптам мінае,
Не пакінуўшы нават следу свайго.
І Рыгор няўпэўнена прыпамінае,
Як на беразе хтосьці торгаў яго,
Як Максіма вочы яго разглядалі,
Як адчуў ён холад вільготнай зямлі,
Як яго на фурманку людзі клалі
І кудысьці па сцежках лясных вязлі,
Як па тоўстых карэннях скакалі колы
І была галава цяжкой, як свінец,
І ваверка, агністая і вясёлая,
Умывалася, седзячы на сасне.
Насалода на сэрцы была такая,
Быццам зноў ты, маленькі, ляціш на санях,
І кажух бязмежны цябе ўкрывае,
І далёка ляжыць бесклапотны шлях.
І не трэба думаць пра ямы чорныя,
І не трэба думаць, як вылезці з іх.
Толькі што са мной? Я, напэўна, хворы.
Гэта помсцяць ночы ў капальнях сырых,
Сон на зябкай траве, што расою іскрыцца.
Перагрузка сэрца. Халодны бруд...
Ну, а дзе дачка? Дзе доктар са шпрыцам?
Ён жа зараз, здаецца, стаяў вось тут.
А старэнькі доктар, сівы і кашчавы,
Юрасю і Марыне сказаў адным,
Што з Рыгорам амаль безнадзейныя справы,
Што няспынна трэба сачыць за ім.
«Запаленне лёгкіх... Стан вельмі трывожыць.
Надта слабае сэрца. Зусім не лячыў.
Дарагая, яно і адмовіць можа,
Можа, нават зараз, сёння ўначы».
Зноў Рыгор праз нейкі дурман адчувае,
Што кудысь знікае хваля пакут,
Што над ложкам яго хтосьці ціха рыдае,
Штосьці цёплае падае на шчаку.
«Сустракаць нас будуць каменныя бабы,
Нам смяяцца будуць бярозы ў гаю.
Устань! Жыві! Адкінь сваю ціхую слабасць.
Я вазьму на сябе ўсю хваробу тваю».
Ён павекі з цяжкасцю адкрывае
І усмешкай слабою моршчыць нос:

— Што ты плачаш? Не трэба, мая дарагая.
Я шчаслівы. Не трэба, не трэба слёз.
— Ціха, татка, маўчы.
— Не магу, каб ціха.
Я павінен, павінен табе сказаць,
Што няма на свеце горшага ліха,
Як самотным жыць і самотным сканаць.
Я спакойны, і мне няцяжка памерці,
Бо ў жыцці такое вытрымаў я,
Што жахлівей нават ганебнай смерці.
Дай руку мне. Вось так. Дарагая мая.
Зноўку сны. Курганы. Ные свежая рана.
Ах, якія шчасныя, светлыя сны!
Пад гарой руіны варожага стана,
Лютым боем сталочаны бур'яны.
Вораг блізка. Вецер смярдзючы ад гары.
Вораг блізка і хоча яго забіць.
Накіпаюць у небе чорныя хмары.
Зварухнуцца нельга! Як хочацца жыць!
І аднекуль людзі, светлыя, чыстыя...
Сэрца радасцю поўніцца. Ён не адзін.
Быццам стаў народ вакол гуманіста
І яго засланіў мільёнамі спін.
Чалавечнасць у пушчы пайшла старажытная,
Бо не хоча рабства на новай зямлі.
Чалавечнасць падпальвае спелае жыта,
Каб яго забойцы ўзяць не змаглі.
Чалавечнасць за ворагам пільна сочыць
З-за рачных сітнягоў, з-за ляснога кража
І глядзіць захопнікам проста ў вочы
Кожным днём туманным, кожнаю ноччу
Цёмнай дзіркай нацэленага ружжа:
— Я не той, што раней. Зразумейце, людзі.
— Як схапілі б стрэльбу рукі мае!
— Але хто гэта сеў мне проста на грудзі?
— Гэта смерць. Ну што ж, сустрэнем яе.
Над зямлёй дуды равуць баявыя.
Дудары рукой раздзімаюць мяхі.
Не зламаць народу магутную шыю,
Не паляжа народ у быллі сухім,
На курганах вогнішчы волі палаюць,
Падаюць сігналы далёкім барам.
Скачуць коннікі. Люд на паўстанне склікаюць.
Край, паўстань!

Край, прачніся!
Пара!
Пара!
Б'е салют над ім. Рэха будзіць нетры.
І ад слёз цяжка дыхаць. Плыве імгла.

. . . . . . . . . . . . . . . .

І нясе на хвіліну мора паветра,
Уваходзячы ў цела, стальная ігла.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Зноў Марына, Юрась. Зноў ветру парывы.
За сцяною гонкія хвоі пяюць.
— Дай руку мне, дачушка. Жыві шчаслівай.
Абяцай, што не кінеш справу маю.
Дай і ты, Юрась. Пацалуй яе ў губы...
Дай руку мне. Мне светла, мне добра цяпер.
Ты кахай, ты любі яе, сынку мой любы,
Бо жанчыны варты кахання, павер.
А пасля пасміхнуўся:
— Бачыш, канаю.
І з-пад цяжкіх павек заблішчэла сляза:
— Ты, дачушка, не вельмі мяне праклінаеш?
— Бацька, што ты! Як можна такое казаць!
Вы абое былі такія самотныя,
Вы загладзілі ўсё гадамі тугі.
У даўняй спрэчцы з маці, любай, гаротнай,
Я стаю на тваім баку, дарагі.
Без цябе я даўно была б нежывая,
Я іначай думаць зусім не магу.
— Дзякуй, любая.
Зноўку сны наплываюць,
Зноўку страшныя здані з цемры бягуць.
Устаюць чужынцаў тупыя аблічча.
«Людзі, ўстаньце! Кнігі!.. Агонь гарыць!
Гуманізм, ён павінен быць ваяўнічым.
Мы павінны кнігі ад куль бараніць!..
Цяжка грэблі разбіць, засыпаць каналы
І зрабіць бясплоднымі ўсе палі,
А для кнігі хопіць пары запалак.
Паўставайце са зброяю, дзеці зямлі!
Над усім чалавецтвам хмары трывожныя.
Хіба можа воінам грозным не быць
Чалавек, у якога так лёгка можна
Ўсё жыццё, усю працу зараз загубіць?

Кнігі! Кнігі! Пыльныя, родныя, мілыя.
Белы глянец паперы, што лашчыць далонь.
Ці на тое раджалі вас і расцілі,
Каб на плошчах пажэр вас прагны агонь?!
Вось ён ліжа тамы... Гараць, як салома!
Чорны попел... Згасае... Гэта канец».
Зноў з'явілася раптам на міг прытомнасць:
— Я хачу на святло. Нясіце мяне.

Вось лясы. Вось сонца ўстае за лясамі.
Вось люстэркі чыстых лясных азёр.
І туман адпаўзае ў дрыгву клубамі,
І жывіцаю пахне спрадвечны бор.
Заліваюцца птушкі. Яшчэ нясмела,
Бы не верачь у тое, што сонца зноў.
Але сонца ўстае, ружовыя стрэлы
Гоняць цемру з вільготных грыбных яроў.
Ян Прыгожы у світцы ўстае залацістай,
Ноч кладзе на калені пад гоман і свіст...
На паляне, залітай світаннем празрыстым,
Памірае апошні стары гуманіст.
Сэрца стала вялікім, горла заткнула,
Быццам хоча ўвабраць усё, чым жыло,
Быццам палка, даверліва пацягнулася
Да святла, што заўсёды знішчае зло.
Ў вучняў моцныя рукі, сумленныя вочы.
— Падыміце... Вышэй... Там сонца гарыць.
Гэта ты, зямля, з усмешкай дзявочай?
Я люблю цябе... Пацалуй... Бяры.

Вось ідзе яна ў светлай, празрыстай белі,
Вось за пальцы сухія пяшчотна ўзяла...
І на сонца глыбокія вочы глядзелі,
І зусім не міргалі, як у арла.
З неймавернай, ружовай, ззяючай далі
Далятаў разам з сонцам далёкі звон.
Птушкі страсным харалам праз слёзы спявалі,
І расой абліліся шыпшына і клён.

---

# МАЯ ІЛІЯДА



## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць
суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.
Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць ласкава віецца,
Дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель...
Там, дзе сэрца маё з першым крокам,
як молат, заб'ецца,
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.
Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны, і неба — разлівы ільноў.
Дзе мой край?
Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,
Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны, як скалы,— ударыш, і зломіцца меч.
Дзе мой край?
Там, дзе мудрыя продкі у хвоях паснулі,
Дзе жанчыны, як радасны сон у стагах на зары,
А дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі,
Як жніўё з павуціннем і добрае сонца ўгары.
Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.
Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,
Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбяцца змрок.

Ты — наш край.
Ты — чырвоная груша над дзедаўскім домам,
Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная раць,
Ты — наш сцяг, што нікому, нікому на свеце, нікому
Не дамо абсмяяць, апаганіць,
забыць ці мячом зваяваць.
Мы клянёмся табе баразной сваёй першай на полі
I апошняй раллёй, на якую ўпадзём у журбе.
Мы клянёмся табе, што ніколі,
Ніколі,
Ніколі,
Так,
Ніколі не кінем,
Не кінем,
Не кінем цябе.

# ЗЯМЛЯ ЖУРБЫ



## ДЗЯЎЧЫНА ПАД ДАЖДЖОМ

Над лесам, над садам дзікім
Дожджык забалбатаў,
І успыхнулі раптам гваздзікі
У нетрах абмытых траў.
Цёплыя кроплі скачуць
Па залацістай лазе;
Дожджык — «царэўна плача»,
Сонца ў кожнай слязе.
З нізкай цёплай адрыны,
Учуўшы ласкавы капёж,
Ў лёгкай сукенцы дзяўчына
Выбегла проста пад дождж.
Кроплі яе цалавалі
Палка, пяшчотна, да слёз,
Вусны дзяўчыны хапалі
Срэбра з ясных нябёс.
Дожджык зрабіў сваё цуда,
Ён абляпіў, як мог,
Плечы, маленькія грудзі,
Гнуткія лініі ног.
Бэзам з садоў павявала,
Вечна хацелася жыць.
Дзяўчына ад шчасця спявала.

. . . . . . . . . . . . .

Стронцый быў у дажджы.

## ТРАСЦЯНЕЦ

Суайчыннік, стань!
Тут знішчалі людзей.
Суайчыннік!
Запомні навек:
Тры гады па сто трыццаць сем у дзень,
І ў гадзіну — па шэсць чалавек.
Гэта значыць, што кожныя дзесяць хвілін
Тут навекі чарнеў небакрай.
Попел сэрцаў нашых ракоча ў зямлі:
Памятай...
Памятай...
Памятай!!
Нам свяціў далёкага шчасця маяк,
Мы любілі свой край залаты...
З нас кожны быў, як маці твая...
Як каханая жонка... Як ты...
Час адной папяросы — і попел густы
Асядаў на бяроз галлё...
І таму не верце спакою, браты,
Пакуль лётае ноч над зямлёй.
Мы — прах. Толькі сэрцы грымяць, як мячы.
Каб цемра не ўпала на край,
Мы згарэлі паходнямі ў лютай начы...
Па-мя-тай!
Па-мя-тай!
Па-мя-тай!!!

## ЗДРАТАВАНЫЯ МАГІЛЫ

*Петрасу Антэасу*

Там, дзе Лесбас у пенных карунках прыбою,
Я адчула цябе і на свет нарадзіла.
Вёсны скрыпкай спявалі, а зімы — трубою.
Дзе ж цяпер ты, мой любы, мой добры, мой мілы?
Ты не вер дактарам. Мне не цяжка прыйшлося.
Проста ўзяў мяне вечар, празрысты і сіні.
За труною людзей — нібы ў полі калоссяў,
Лесбас мора вянкоў надаслаў у Афіны.

Мне не цяжка. Мне іншае горка, мой родны,
Што цябе ўладары ліхалецця і ночы,
Баючыся за «Грэцыі роднай свабоду»,
Не пусцілі сюды, каб закрыў ты мне вочы.
Хто ж з іх горшы, мой сыне? Язычнікі злыя
Ці рупліўцы аб славе Хрыстовай і сіле?
На Ґалгофу калісьці пусцілі Марыю,
А цябе — на магілу маю не пусцілі.
Праз абшары марэй, праз світанні і ночы
Я кажу са сваёй здратаванай магілы:
Ты не плач, маё сонца, мой любы сыночак,
Мой далёкі, мой блізкі, мой бедны, мой мілы.
Я прывыкла да вечных з табой развітанняў,
Войны, турмы, падполле і Грамаса скалы,
Немцы, ўласныя каты і англічане,—
Ўсё жыццё я чакала, бясконца чакала.
Што было мне да вашых сутычак і зброі?
Проста я не хацела знішчэння і смерці,
І маланкі над Грамасам білі не ў хвоі,
Не ў сыноў, а ў маё набалелае сэрца!
Нехта чорную здраду між вамі пасеяў,
І пайшлі вы з радзімы ў выгнанне, ў выгнанне.
З доўгай, цяжкай, паўночнай тваёй Адысеі
Я чакала цябе, як чакаюць світання.
І канец. І людскія маўклівыя гурмы.
Толькі ў сэрцы маім не згасае трывога.
Хай праклён на вас, межы, хай праклён на вас, турмы,
Хай праклён на вас, ворагі людства і бога.
Без сыноў, без надзеі, без шчасця, без мая,
Не схіліўшы да скону жаночыя плечы,
Маці-Грэцыя ў муках маіх памірае,
Маці-Грэцыя, маці сыноў чалавечых.
Па зямлі прапаўзаюць гадзюкамі межы
І дапытваюць кожную былку і камень.
На зямлі руднікі, і турэмныя вежы,
І капцы мацярок, што спавіты дратамі.
...Іскра ў цемры згасала. І тут мне здалося:
Ты ішоў да мяне з дабрынёй і адвагай.
На чале тваім — церні, ў далонях — калоссі,
За спіною — бясконцыя гордыя сцягі.
Я люблю, я хачу цябе бачыць, я маці.
Але ўсё ж, пакуль гора зямлі не ў магіле —
Ты не смей, ты са мною не смей сустракацца,
Мой далёкі, мой смелы, мой добры, мой мілы.

# БАЛАДА ПЛАХІ

Кожны дзень гінуць мужнасць і святасць.
Кожны дзень, выпускаючы дых,
Паміраюць хлапчынкі распятыя
І збавіцель не помніць пра іх.
Ў зыркіх ранах, крывавыя, голыя,
Што ні дзень павісаюць яны
На крыжах з бамбука, магноліі
І суровай паўночнай сасны.
Не паспеўшы зрабіцца мужчынамі,
Сустракаюць са зброяй бяду.
Галаву не на грудзі дзяўчынам,
А на слізкую плаху кладуць.
Плацяць катаргай і эшафотамі
За братоў сваіх душу жывую,
Хочуць дыхаць — задушаць гаротаю,
Хочуць думаць — ссякуць галаву.
У чырвонай ад сонца Касціліі,
Ў парнай сельве і ў зорных ільдах
Кожны дзень яны бурацьь Бастылію:
Чалавечы свой, просты жах.
Але йдуць і за век свой ратуюць,
За дзіцячы след на траве,
За высокую годнасць распятую,
За найменне тваё, Чалавек.
Дзе плаціць яшчэ столькі даводзіцца
За свабоды ўласнай лядо?
О зямля, святая калодніца,
Гора, мужнасці, смерці юдоль!
У былым іх — трушчобы няветлыя,
У сучасным — глухая турма,
І няма для іх раю светлага,
І суда іхнім катам — няма.
Толькі час вам уздасць поўнай мераю.
Але ўсё ж — пакуль прыйдзе той час,—
Калі ёсць на зямлі гэтай вера,
Калі варта жыць — то для вас.

# БАЛАДА АБ ТРЫЦЦАЦЬ ПЕРШЫМ СЯРЭБРАНІКУ

І прадаў ён Хрыста. І яму адвалілі за гэта
Трыццаць срэбных дынараў. А Кайяфа яшчэ падарыў
Трыццаць першы сярэбранік, звонкай і важкай
манетай,
Толькі-толькі адлітай на царскім манетным двары.
Ні за што. Проста так. Падарунак не падарунак,—
А хутчэй ад свайго дабрадушша накінуў на чай
За мужчынскі, суровы і стрыманы той пацалунак,
На які адказаў Пётр-апостал ударам мяча.
Каб у тыя часы ў Іудзеі вадзіліся свінні —
Ўзнагародаю лепшай была б яму іх чарада...
Справа, ясна, не ў тым,
што прадаў ён «гасподняга сына».
Чалавека прадаў ён, паршывец. Жывое прадаў.
Ўсё адно нібы зайца, што, гнаны крывавай пагоняй,
Паратунку шукае ў нагах тваіх, бо не ўцячэ,
Выдаць людзям са стрэльбай,
а тыя рабрынай, далонню,—
За вушамі яго, каб, канаючы, ён завішчэў.
І распяты сканаў. І тады фарысеям і катам
Крыкнуў здраднік: «Крывёю абмылася грэху гара!
Кроў прадаўшы нявінную, што нарабіў я,
пракляты?!»
Бразнуў змаху грашмі, і яны пакаціліся ў гразь.
Пад даждждом ачышчальным — сухі — ён адчуў,
што загінуў,
І вяроўку дастаў, і яе у пякельнай журбе
Завязаў на суку ад агіды дрыжачай асіны,
І ударам нагі шар зямны адштурхнуў ад сябе.
А за трыццаць манет падабраных ганчар-срэбралюбца
Уступіў свой кавалак зямлі без якіхсьці умоў,
Каб зрабіць там сталічныя могілкі для самагубцаў
(На тым месцы цяпер пяць някепскіх даходных
дамоў).
Ад далейшай гісторыі пэўна і камень заплача:
Трыццаць першы дынар не знайшлі,
хоць шукалі й яго,—
Нейкі мытар яго сярод гною і гразі убачыў
І схаваў ад усіх, неўпрыкмет наступіўшы нагой.
Той дынар быў шчаслівай манетай. І хцівец смярдзючы
З дапамогай яго аграбаў сабе золата, срэбра і медзь,

І разжыўся, і стаў неўміручы. Ну так, неўміручы,
Бо каб вешацца — трэба таксама сумленне займець.
І шпурляў ён каменні ў распятага божага сына,
Кідаў львам хрысціян і дзяўчат-неафітак хвастаў,
А затым, як і ўсе, стаў узорным хрысціянінам
І даносам ды вогнішчам біўся за славу Хрыста.
Больш за рымскага папу шумеў на ўсяленскіх
саборах,
А пасля, ў сарацынскім палоне, бы ўмыўся багном,
Першы крыкнуў «алах!» і наглядчыкам стаў
на галёрах,
І былых аднаверцаў раменным сцябаў бізуном.
З сотняй твараў, як ідал індыйскі, шматрукі, як Брама,
Быў пры тронах і плахах накшталт валачашчага пса
Адчыняў перад ворагам роднага горада браму,
«Молат ведзьмаў» пісаў і на Бруна даносы пісаў.
Толькі здрадзе не здрадзіў і тым,
хто за здраду заплаціць,
І таму перад кожным мярзотнікам гнуўся дугой
І даносіў на бацьку, даносіў на сына, на маці,
На сяброў, што з-пад выбухаў вынеслі мужна яго.
А паколькі мянціў ён прыгожа, то ўсе, як бараны,
Паўтаралі за кімсьці: «Вось вернае праўдзе плячо!
О, які ён трывалы, які ён перакананы,
Як ваюе за думкі свае ён агнём і мячом!»
Ён нястомна разводзіў хлусні беспардоннай турусы
І паклёп, як гадзюка, сычэў ля парога турмы,
І ніхто не сказаў яму слова старых беларусаў,
Што «прымаем мы здраду, а здрадніка вешаем мы».
Быў фіскалам. Усюды пралазіў і бокам і нізам,
Па гестапах служыў, па засценках, ад стогнаў глухіх,
Па ахранках... А зараз ваюе за «наш гуманізм».
Не здзіўляйцеся, добрыя людзі, бо гэны з такіх.
З дзён пачатку мільёны Сапраўдных ён вырак на мукі.
І жыве. Ўсё жыве. Вось наведвае госцем ваш дом...
Вось сядзіць... Вось ідзе...
Вось бярэ вашых дзетак на рукі...
Пнецца ў неба з трыбун... П'е гарэлку за вашым
сталом.
Але выпадак дай — распаўзецца чумою па свеце,
Закладзе цалаваных сяброў і ўчарашніх багоў...
Дык чаму ж вы тады проста ў вочы яму не плюеце,
Не пінаеце гуртам у подлае рыла яго?!
До ўжо! Сэрца хлусні ў яго вырвіце, людзі, з-за рэбраў.

Разам з джалам схавайце падлюгу ў свінцовай труне,
Адбярыце і знішчыце трыццаць першы пракляты
сярэбранік,
А іначай — няшчасце Зямлі. А іначай — канец.

## КРУМКАЧЫ

Стаяў жахлівы позні лістапад.
Навекі зніклі лебедзі з каналаў,
А з сэрца знікла радасць.
І вясна
З каханнем і з птушынай прагнай песняй
Была далей, чым маладосць мая.
Чым горш, тым лепш.
Таму я не пайшоў
На вуліцы, дзе маладосць спявала,
А кінуўся да кручаных завулкаў
І заглыбіўся ў іх.
Старая Рыга
Мяне ўзяла, як змучанага сына.
Я ведаў, што яна мяне суцешыць.
Калі ж не зможа даць спакой жыцця,
Дык дасць спакой хоць небыццём стагоддзяў.
І я выходзіў зноў на тыя ж вулкі,
І зноў, і зноў. І мне здалося ўрэшце,
Як быццам той, што йдзе перада мною,
Я сам. Ссутулены. У чорнай шапцы.
Што бачу сам сябе я са спіны...
Засекі. Склады. Блокі на вяроўках.
Маслісты брук. Куродым соцень год
На мёртвых дахах. Мордачкі анёлаў
З парочнаю усмешкай на парталах,—
Ўся тая Рыга, што аж шэсць стагоддзяў
Смактала сок з твайго народа, друг.
З народа, што уласнымі рукамі
Паклаў тут кожны камень. Для чужых...
Бляшаны пеўнік копціцца ў дыму
Над комінам.
Туман (ці, можа, хмары)
Абняў за пояс Домскую званіцу,
І толькі шпіль узносіцца над ім.

І раптам з Домскай вежы проста ў хмары
Ўзняліся з хрыплым крыкам крумкачы,
Як чорныя крыжы вякоў мінулых;
Што год, то крыж. Яны лятуць угору,
Вышэй, вышэй.
Над шпілем.
Над Даўгавай.
Над Рыгай, над Ла́чплесісам, над краем,
Над бедным пеўнікам, што ад трывогі
На бронзавым прутку замітусіўся.
Знікаюць у тумане крумкачы...
Іду далей. І вуліцамі цягне
Такім халодным, горкім, страшным дымам,
Як быццам там, за рогам гэтай вулкі,
На плошчы, зноў святошы паляць латаў.
І цень крыжа лягла на твар палонных,
На струшчаныя ў бітве іх мячы.
О Рыга! Што гэта са мной?
Я мару?
Нішто.
Хіба у сонечнага пеўня
Няма мільёнаў дужых абаронцаў?
Хіба яны трымаць не могуць зброю?
Хіба не тут мой друг?
Туманны горад,
Ты вылечыў мяне пасля хваробы:
Ты скінуў мне цяжар вякоў на плечы,
Цяжар забітых, страчаных, палонных,
Цяжар паўстанняў, і распраў, і слёз —
Пакуль-ва ўсёабдымным болю гэтым
Не патануў мой непрыкметны боль
І я не выпрастаўся.
Крумкаччо!
Я вас пакіну ў вашых чорных хмарах.
Вам хмары, нам — зямля. Яе — не рушце.
Кажу апошняе святое слова:
Мой меч з мячамі балтаў, з Рыгай, з другам,
З усёй латышскай добраю зямлёй.
Мой друг, мой брат,
Ад гэтых вузкіх вуліц,
Што мне далі спакой, і гнеў, і сілу,
Іду да новых вуліц. Да цябе.
Прыпомні месца, дзе ў тузе і шчасці
Узнікла наша вернае сяброўства.

Былі там песні, і віно і смех.
І там была яна. Ты памятаеш?
Яе згубіўшы, я цябе прыдбаў,
Тваё сяброўства і тваю радзіму.
Так, шчасце мне, відаць, не задалося.
Але пакуль лунаюць крумкачы
Над вулкамі заблытанымі Рыгі,
Пакуль са мною плачуць вочы друга
Над цяжкай стратай — ёсць яшчэ жыццё.

## ПРЫ СМЕРЦІ

Ложак — краіна мая,
Калыска, труна і дом...
Як далёкі сцюдзёны маяк,
Сонца мёртвае за акном.
І няма да яго выйсця.
Промні — нажы, прасціны — глыжы.
Мне — чатыры... І роўна палову жыцця —
На грані жыццё дрыжыць.
Я памёр бы,
Знаёмы з апошняй тугой
Раней, чым з песняй бароў...
Замест слёз з вачэй і замест усяго
Па кроплі точыцца кроў.
Не заслоніць мяне ад тых, што прыйшлі,
Маіх салдацікаў рацць,
На хвалістых прасцінах мае караблі
У кільватэр бяссіла стаяць.
З гор каленяў маіх упадуць яны
За ложак, за край зямлі...
Іншыя, чорныя караблі
Чорныя ветразі ўгору ўзнялі,
Па мяне прыйшлі, прыплылі...
Не будзе з джунгляў гарачы Ганг
Несці ў мора хваль шумаўё,
Не будзе кідацца акіян
На фарштэвень шхуны маёй.
Ніколі азёраў смелая сінь
Не папросіцца мне ў радкі,

Ніколі не будзе мне Белай Русі,
Невядомай, адзінай Белай Русі,
Бароў і Дняпра-ракі.
Ложак — мая краіна
Разам са мною памрэ...
Ніколі, ніколі не будзе дэльфінаў
У сініх абшарах марэй...
Нібы з нежылога дому,
Што стыне сярод магіл,
Нейкія незнаёмыя
Ідуць паўз мяне ў снягі.
Ідуць з пакінутай сонцам зямлі,
Ад ільдоў — на другія палі,
Ідуць на белыя караблі,
Што барвяныя ветразі ў небе ўзнялі,
Па іх прыйшлі, прыплылі.
З Грэнландыі, стынучай сярод снягоў.
Паплывуць да ф'ёрдаў сваіх,
Да новых творцаў, да новых «багоў»,
Што некалі вылепяць іх.
Кастусь ідзе і нясе на плячы
Пяшчоту сваю і боль,
Ракута бязгучна звоніць у шчыт,
Бязгучна смяецца цыганскі кароль.
Нямыя, ідуць яны ў нейкі край,
У чырвоны марозны дым,
І схіляюць галовы ў апошнім «бывай»,
І знікаюць адзін за адным...
Дубее, дранцвее без гукаў дом.
Ў хаце прысмерак, сіні туман...
І сцюдзёны, бярвяны пажар за акном,
А за ім — нічога няма.

## БАЛАДА АБ АСУДЖАНЫХ І АБ ЧАЛАВЕЧЫМ «ДАРУЙ»

Можа, у Даласе, можа, ў Бейруце,
Мо на Марсе, а мо на Зямлі
Праз паклёп, і прэнг, і пакуты
Чалавека ў смерць прывялі.

Чэрап свой заціснуўшы ў рукі,
Ён спасцігнуць не мог галавой
Ўсю нязмернасць жыцця і мукі,
Ўсю нязмернасць смерці сваёй.
Ён не мог зразумець адзінага,
Ён не выціснуў, як ні тужыў,
Разумення апошняй хвіліны,
Разумення апошняй мяжы.
Сам-насам, без думкі аб цудзе
Разлучаўся з сабою ў вяках,
З добрым шчасцем, якога не будзе,
Злом, што будзе дарэмна чакаць,
З незламаным бэзам і з горам,
З лепшай думкай, падобнай на стрэл,
З тымі дзецьмі, якіх не створыць,
І з людзьмі, якіх не сустрэў.
З ненапісанымі радкамі,
З таямніцай роднай зямлі,
З прагай неба і, ўрэшце, з рукамі,
Светлым дзівам, што ўсё маглі:
На арэлях дзяўчыну гушкаць,
Біць рыдлёўкай засохлы глей,
Кельму ўзяць або выпусціць птушку,
Чару ўзняць або даць на хлеб.
І раптоўна павязка ўпала,
Вочы ўгледзелі зноў зару.
І раптоўна яму сказалі:
«Мы дарэмна цябе катавалі.
Калі можаш — забудзь і даруй.
Дай сваё дараванне небу,
Што заўсёды бачыў з акна,
І айчыннаму жорсткаму хлебу,
І радзіме нашай,
І нам.
Кінь муры і забудзь аб «гуме»,
Ўсім прабач і ў жыццё ідзі,
І застанься з зямлёю і думай,
З гэтым сонцам
Адзін на адзін».

І ад слоў, як вясёлкай светлай,
Свет размыла і павяло.
О найлепшае сонца ў сусвеце:
Смех вачэй, што бачаць святло!

«Усім дарую. Усім дару я
Даравання лёгкай рукой,
Ўсім праменням, што ў кратах шаруюць
І ў палацы плывуць ракой.
Нават каменю. Нават лёсу,
Аб якім калоцімся мы,
Нават тым няшчасным калоссям,
Што ўзрасцілі хлеб для турмы.
Нават дурню злоснаму, богу,
Што на здзек нас стварыў. І аднак...»
(Можа, ён не сказаў такога,
Але думаў напэўна так.)
...Рак пракляты, што лапамі злымі
Разрастаецца ў плоці жывой,
Калі вы сябе звеце — радзіма,—
Не дарую радзіме такой.
Не дарую ад веку... да веку...
Буду жыць ці не буду жыць.
Чым настрашыце вы чалавека,
Што вярнуўся з апошняй мяжы?
Самай жорсткай павязкай грубай
Не пагасіць ніколі зло
У вачах маіх гонар і любасць
І прыўкраснае сонца святло.

## БАЛАДА ПРА ДЗІКА І ЧАЛАВЕКА

Ў ноч, як хвоі прастылыя выюць
І злятае шэрань з бяроз,
Дзік разрыў бурты бульбяныя
І ў курдобу пусціў мароз...
Чалавечыя гучныя крокі
І сабачы бязгучны крок
Аддаляліся ноччу глыбокай
Ад агнёў на сутычку і кроў.
Проста з чыстага неба памалу
Церушыўся на вёску снег,
А ля весніц Зоська стаяла
І чамусьці кпіла з мяне:

«Бач ты, вецер у портках свішча...
А сабака... Такога ж нідзе...
Сышчык! Сам сабе хлеба ішча!
Падапры яго, бо ўпадзе...»
Я змаўчаў... Нашто мне такая?..
Ўся як месяц у зімнім гаю,
Як ільдзістага хлеба акраец,
Што памёрлым у пекле даюць.
Калі мы гэты край пакінем,
Засумуе адзін толькі бор...
О зямля мая, о краіна,
О снягі ў зіхаценні зор!..
Чуйна слухай, рыжая Курта,
Пільна ў мёртвыя нетры глядзі.
Дзік, з'явіўся да снежнага бурта,
Мей адвагу адказваць, дзік.
Ён з'явіўся. Яго нарадзілі
Змрок начны і сняжынак плач.
Ён ішоў праз гурбы застылыя,
Адзінец, самотны сякач.
Узараная тушай гэтай
Баразна снегавая плыла...
Я ударыў па ім дуплетам
І падраніў, а не паклаў.
З лютай ярасцю чорнага тромба,
Што ламае дрэвы ў бары,
Ён ляцеў на мяне, як бомба,
Вывяргаючы кроў і рык.
Бомба з шэраню, бомба са шчэці,
З мяса, рыку, з болю ўканец,
Бомба з ярасці, бомба са смерці
Для кахання, для зор, для мяне...
Курта ўпялася смерці ў сцёгны,
Каб яе ад мяне адцягнуць,
Даць імгненне для стрэлу і стогну,
Даць грымотам хвіліну адну.
І дала...
Нерухомым пластам
Ён ляжаў, пачварны красун,—
Буры, шчэцісты, груздлы, ікласты,
Як апошні забіты лясун.
Бы зімовы россып каліны,
Кроў апырскала снежны разор...
О якая чужая краіна!

О снягі ў зіхаценні зор!
Для чагосьці прыйшоў, скрывавіў,
Нарадзіў барвяны туман
І зямлю ад цябе пазбавіў.
А на ёй і кахання няма.
Мы дзялілі і шчасце і гора,
І лясы і спевы травы.
Што ж цяпер ты мне, дзік, падорыш?
Мне, забітаму, ты, жывы?..
Палазы рыпелі да вёскі,
І ў кароткай птушынай журбе
Гіль абтрос алмазы з бярозкі —
Як апошні прывет — на цябе.
І ўзвалілі цябе ля парога
На вароты, нібы на шчыт,
І дымелі ў паветры ногі,
Як на скон чатыры свячы.
Шчэць смылела павольным палам,
Абсыпаўся попел сухі:
Так і нас мо ў пекле абсмаляць
За вялікія нашы грахі.
Ён ляжаў аддана і проста.
Разувалі яго талакой
З рагавых пантофлікаў
вострых,
Бы ў аршанскай краме якой.
Потым госці елі старанна.
Я ж сядзеў і не еў, як святы:
Дзік не вінен... Проста бураны...
А па бульбе мы з ім — браты,
Па самоце несамавітай,
Па трывожных думах у сне.
Я маўчаў.
Госці, п'яныя, сытыя,
Гаманілі, хвалілі мяне.
Стала ў хаце і дыму, і тлуму,
Заспявалі ўсёй грамадой,
І кудысь адляцелі думы,
Што віселі ўвесь дзень нада мной.
А ўначы, калі неба хмурнае
Ўсімі дрэвамі снег мяце,
Выйшаў я, гэтым тлумам задураны,
І ля форткі убачыў цень.
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Калацілася, што бярозка,
Як кране яе снегам сівым...
«Зоська, што ты? Чаго ты, Зоська?
ж з табой!.. Я жывы...»

## СЛОВА БЕЛАРУСКАЙ БЯРОЗЫ

*Міхасю Рудкоўскаму*

Столькі год я гляджу на палеткі і весі
Ў іх сцюдзёнай і чыстай асенняй расе,
Закалела, ўзмакрэла на золкім узлессі,
Як старая жанчына, што пасвіць гусей.

Валасы мае чэша вятрыска і трусіць,
А ў халодных травах туды і сюды
Валуны на пашы, як белыя гусі,
Што гані не гані, а не йдуць да вады.

Ад вясёлай Друці да нетраў Падляшша,
Ад палескіх імхоў да асвейскіх крыніц —
Валуновая паша, гранітная паша,
Камяні, камяні, камяні, камяні.

І хоць мох на каменнях сівее ад гора,
А ў галіны мае б'юць шалёна грамы,—
Ўсё ж нам добра глядзець на лагі і разоры,
На зямлю, для якой паслужылі і мы.

Бо тады, калі праўду хацелі павесіць,
А над хатамі курчыўся змей агнявы,
Мы хавалі людзей на падбегах да лесу —
Я і гусі мае сярод стылай травы.

Людзі краю майго, мы зрадніліся з вамі,
Куля ў кожнага з вас наша сэрца праб'е,
Бо з адзіным вы сэрцам, адвечным, як камень,
І пяшчотным, як добрыя косы мае.

# СТАРЫЯ СУВОІ



## І СНІЎ АДАМ...

*Н. Н.*

Ў той дзень зямля святло і празарэнне
Дала яму. Ён спаў між райскіх дрэў,
Не зведаўшы яшчэ грэхападзення,—
Як кветка, як алень, як зоркі спеў.
Травою пахнулі яго далоні,
Бег цень ад Дрэва Дабрыні і Зла.
А побач верылі дрымотна коні
У вечны свет без бойняў і сядла.
І сніў Адам:
Камета ўстала ў небе
Барвяным страшным зракам — і тады
Крывёю пачала сачыцца глеба
І згінулі эдэмскія сады.
І пакаціўся ён, бяздольны, голы,
Як пералёт, адсохлы на карню,
Насустрач болю і насустрач волі,
Насустрач злу і сернаму агню.
І сніў Адам:
Зямля ў глыбінным лоне
Няволю нараджае для жывых.
Дрымотныя, даверлівыя коні
Ў бяздоннай захлынаюцца крыві.
І сніў Адам:
Да светлых зор сусвету
Імчыць, як лямант, шматвяковы жах —
Кроў Іліяды, попел Плошчы кветак,
Рагнеды плач і Хірасімы прах,

І дыбіцца шалёны свет гарою
Над цалаванай брызам і вадой,
Карункавай ад сонца і прыбою,
Блакітнаю каралавай градой.
...Туды... сюды...
...Туды... сюды...
Над прыскам,
Над цішынёй, дрыжачай, бы струна,
Бязгучная гайдаецца калыска,
Як паміж небам і зямлёй труна.
...І плакаў ён,
Хацяў праменнях сініх
Эдэмская купалася зямля,
Бо лепш у самым чэраве загінуць,
Чым падарыць нашчадкам гэткі шлях.
Нашто жыве і ў дыме гіне вулей?!
Нашто стагоддзі беспрасветных мук?!

. . . . . . . . . . . . . . . .

І Ева падышла і працягнула
Далоні сонных і пяшчотных рук.
І ён з трывогай, з радасцю няпэўнай
І з мужнасцю суровай, як праклён,
Прынік да іх у страсці горкай, гнеўнай,
Бо ён любіў...
Бо добра помніў сон.

## АПОШНЯЯ ПЕСНЯ ДАНТЭ

*Арлену Кашкурэвічу*

У пошуках за любай і адзінай,
Спазнаўшы круг апошні, мы прыйшлі
Туды, дзе льдзіны адлівалі сінім,
У нетры той нязведанай зямлі,
Дзе нават пекла ўлада асяклася,
Дзе павуціння д'яблы не плялі

На душы самых горшых, тых, што гасяць
У чалавеках праўду і любоў,
На душы, дзе кублом гадзюк сплялася

Атрута вераломства. Злосць звяроў
Узнагарылася бы поруч з ёю...
І там пабачыў я бяздонны роў.

Бязмежнаю варонкаю крутою
Зрываўся ён ля самых нашых ног
У нетры зла. І гэтаю сцязёю

Сам божы сын — і той прайсці б не змог.
Схіл абрываўся: стромы і смярдзючы,
Схіл зла і слёз, адчаю і трывог,

Пакут і безнадзейнасці пякучай.
І нехта там варочаўся на дне,
Дарэмна поўз на ледзяныя кручы

І ўніз зрываўся, грузны, як свінец.
Ў бяссільнай злосці, ў ярасці пакутах
Ён ланцугамі пачынаў звінець,

Стагнаў і выў раз'юшана і люта,
І роў, як львы і гарпіі — адзін,—
Як быццам дэман там крычаў прыкуты

Пра ганьбу і пакуты ўсіх краін...
І я пабачыў, што вакол бязодні
Стаяў натоўп занураных мужчын.

Я многіх там пабачыў, блізкіх, родных.
Там быў мой брат з крывёю на губах,
Мой друг, апечаны агнём паходні.

Распятыя на болю і дратах,
Яны вакол стаялі і чакалі,
Маўклівыя, з гадзюкамі ў руках.

Раз-пораз праз натоўп віхуры гналі
Двухногіх нейкіх, тоўстых ці худых,
Якія скавыталі і стагналі

Аб літасці на розныя лады,
А ураган, імпэтны і імклівы,
Іх кідаў на адхон, на край, на льды.

І вось тады натоўп людзей маўклівы,
Над прорваю схіліўшыся ніжэй,
На гэтых, што спаўзалі па абрыву,

Стаў кідаць срэбных і цякучых змей.
І змеі іх кусалі ў вочы, ў карак,
У кіпці, што чапляліся за глей.

Яны зрываліся. І там пачвара,
Ўздымаючыся змрочнай галавой,
Задыхала атрутнай, мерзлай парай

І забурчэла з радасцю нямой.
І спадарожнік мне сказаў з трывогай:
«Горш сатаны царыца прорвы той.

Яе адроддзе пазабыла бога
І, д'яблаў горш, пануе на зямлі,
У вёсках, гарадах і на дарогах.

О справядлівасць, душы іх спалі!
Развей іх попел! Пракляні іх семя!
Да сотага калена спапялі!

Дай сілу іх ахвярам стаць у стрэмя
І зрынуць іх сюды, на дно, на дно,
На схілы прорвы, вострыя, як крэмень!

Каб дзерла твары ім, як бараной,
Каб паспыталі многіх простых мукі,
І каб пачвара зжэрла гэты гной,

Як змеянят сваіх жарэ гадзюка...
Хай згубіцца ў бяздонні іхні крык,—
І зацвітуць зямлі пакутнай лукі,

І заплыве правал, як свет стары,
Бо здохне з голаду дракон-пачвара,
Бо злосць яго без паліва згарыць».

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ён скончыў. І прадбачаннем кашмара
Я ў яме зведаў ворага майго...
Ты, вечная любоў мая і мара,

Загінула ад подыху яго,
Пакінуўшы мяне ў бязгучным крыку,
Пакінушы мяне з маёй тугой.

«Настаўнік,— я спытаў (нясцерпна-дзікай
Была здагадка. Я хацеў стагнаць),—
Хто там крычыць у ярасці вялікай?»

І ён сказаў: «Не бачыш ты?
Вайна!»

## ЧАШЫ СЛЁЗ

Божа, мы гінем, галодныя, збітыя,
Гінем, як быдла, без слова, без мар.
Жыта чырвонае, чорнае жыта
Коле нам вочы і лезе у твар.
Ў небе ўздымаюцца скірдаў горы,
Пот залівае нам вочы і лоб,
Сілы няма, каб звязаць наша гора
Так, як звязалі мы тысячны сноп.
Рыга барона ў пашчу пустую
Цягне бясконца снапоў іржу.
Божа, дашлі нам цемру начную,
Божа, дашлі нам хоць кроплю дажджу.
О сонейка, зайдзі,
Спякоту адгані,
Не выпрастаць рукі,
Не разагнуць спіны.
Прамені паляць нас
І поле, бы ў агні.
Жні, жні, жні,
Да самай смерці жні.
Піць! Хоць глыточак! Смагаю скутыя,
Мы засыхаем, як семя ў зямлі.
Мала ім нашай бязмернай пакуты,—

Студні ў нас яны аднялі,
З нашых каменняў, на гора наша,
Каб над вадою асвер не крычаў,
Высеклі нам каменныя чашы:
— Піце адсюль. Не марнуйце час.
Гразь каля чашы заўжды адбівае
Нашых каленяў і рук сляды.
Людзі ваду да сябе ўздымаюць,
Быдла — схіляецца да вады.
З твараў пакутных, змарнелых, як цені.
Тыдзень за тыднем, за годам год,
Поўнячы з коптурам чашы каменныя,
Падаюць слёзы і падае пот.
Глытаючы слязу,
Ідзём, бы ў страшным сне.
Нас цівуна бізун
Ляскае па спіне.
Праменні паляць нас
І поле, бы ў агні.
Жні, жні, жні,
Да самай смерці жні.
Ў неба ўзвядзём мы гнеўныя вочы,
Страціўшы веру ў ласку нябёс,
Цёмнаю ноччу, зарнічнаю ноччу
Косы наточым аб чашы слёз.
Вострыя, хай яны лепей ударацць
Сотнямі джал на нашу бяду...
Можа, равучыя замкаў пажары
Лепей, чым слёзы, да бога ідуць.
Каб аджыла наша ніва святая,
Каб у каменныя чашы слёз
Бралася толькі вада дажджавая,
Падалі толькі лісткі з бяроз.

## ЧОРНАЯ БАЛАДА ГАРКУШЫ

Распускалася сонца — ружовы цвет,
Зіхацелі лугі пад ім.
Як павіны хвост, разгортваўся свет
Пад уражаным зрокам людскім.

Наплывалі чароды ліловых хмар,
Залатыя злівы лілі,
І вясёлкі сямікаляровы пажар
Піў ваду з ізумруднай зямлі.
Серабрысты, густы вадзяны пасеў
Шумеў па цяжкіх садах,
Быў зялёны па-рознаму мох на страсе
І бляшаны замкавы дах.
І сівела, звінела ад кропель рака...
І ў гарачым святле плылі
Сінія песенькі жаўрука
Над карычневай песняй раллі.
Чырванеў, бялеў і ліўся кірмаш,
Цвіў і пахнуў, як бэз і язмін.
Сапяжанак сангіна, цыганак гуаш
І ракаў нясцерпны кармін.
Цьмянай меддзю дыхалі ў дзежках ліны,
І гарэлі ў руках людскіх
Паліваныя, як аліўкі, збаны
З палкім сонцам, што білася ў іх.
Над кадоўбцамі з сонечным мёдам дрыжаў
Ап'янелы пярэсты чмель,
Андаракаў хванды былі, як жар,
Як валошкі, як сонца, як хмель...
Вуснаў каханых вішнёвы агонь,
Белы хмель у тоўстай касе...
Шлях дамоў... Далёкі аранжавы звон...
Маладзік, што драбіцца ў расе...
Адышло ты, каханне, ў сівыя палі,
Прывід шчасця зіхоткага знік,
І пагаснулі, выцвілі фарбы зямлі,
Як стары сялянскі ручнік.
Бледны голад устаў і крыўда ўзрасла
Разлівам крывавых крушын.
Дзе вы, цёмныя кучары вішань сяла,
Дзе ты, сонца маёй душы?!
Свечкі воск. Агеньчык над ім, як лязо.
Жоўты воск каханай рукі.
Дымна-шызыя, плыткія рызы ксяндзоў,
Малінавыя бадзякі.
«На каго ж ты?!.» Марозна-зялёны палын,
Горкі верас ліловых палян.
Мірыяды помстаў. Нястрымная плынь.
Барвяны гнеўны вулкан.

Быццам белая лава, што з Этны цячэ,
Бруіла лава палкоў,
І ўцякала цемра ад сініх мячэй,
Ад блакітнага грому падкоў.
Потым барву зарніц глытала імгла,
І пад покрывам буры сухой
Беларусь, як макава поле, цвіла.
Кожны мак — пажар пад страхой...
Сіні спеў жаўрука... Аранжавы звон...
Мёд... Валошкі... Зіхоткі шлях...
Андаракаў хванды... Вясёлак агонь...
Сонца б'ецца ў зялёных збанах...
Згасае, згасае вясёлкавы плёс.
Памяць! Памяць! Малю! Малю!!!
Аднаві мне фарбы палёў і нябёс,
Аднаві мне маю зямлю.
Ад мяжы, над якой месяц дрыжыць,
Да мяжы ў заходняй крыві,
Ад сіняй мяжы да барвянай мяжы
Аднаві мой край! Аднаві!!!
Як махровая сажа ў хаце курной,
Чарнела навокал імгла.

. . . . . . . . . . . . . . .

Чалавек у цэлі сядзеў пад зямлёй,
Трэці год у цэлі сядзеў пад зямлёй,
Пажыццёва ў цэлі сядзеў пад зямлёй...
Пажыццёва.
Без іскры святла.

## САМСОН

Мой край ваўкі зубамі шкамуталі.
З вачэй, закінутых журботна, слёзы,
Змяшаўшыся с крывёй, на дол плылі.
Я простым быў.
Я ўсё жыццё хацеў
Алівы ўзрошчваць, абвадняць пустэчы,
На святы ў недалёкім гарадку,
Пот змыўшы з цела, танцаваць з дзяўчынай...

І ўсё забыў, бо ў мой пясчаны край
Прыйшоў філісцімлянін.
Я не мог...
Забыў дзяўчат, саху, спакой і волю.
Адное засталося — сіла зброі.
Адное засталося — песні гневу.
І я узняў свой сцяг. І легіёны
Пайшлі за мной.
У гневе ярай бітвы
Я перамог амаль.
І толькі сэрца
Ўсё тым жа засталося, чалавечым,
І сумавала па садах і хаце,
Па простых радасцях і па каханай,
Па ўсім, перагарэлым у сутычках,—
Што я забыў.
Адпомсціла яно.
Звяло мяне з падступнай і пяшчотнай...
Прыгожая — яна была каханай.
Далёкая — яна была жанчынай
З вачыма божай маці на іконах.
І з ротам сучкі прагнай. Цэлы век
Мяне трымала ў радасным палоне,
І добрым называла, і прыгожым,
І пальцамі, слабымі, як пялёсткі,
Адняўшы сілу, выдала чужым...
Стаю, хістаючыся, над сталамі,
Прыкуты ёю да калон варожых,
І чую музыку, і гром кімвалаў,
І слёзы блізкіх, што рабамі сталі...
Няма, няма заступніка у іх!
Але найгорш, найгорш мне кроіць сэрца,
Што чую голас дарагой і любай
І пацалункі — ката і яе.
І трызняць вочы цёмныя, сляпыя,
Успамінаючы парог бацькоўскі
І маці, што прадзе штовечар воўну
На камені яго...
О гэты смех
Прыгожай сукі у раскошнай зале!..
Што можаш ты паставіць супраць Маці?
Усе твае надуманыя словы —
Хлусня, як ты сама.
А маці ёсць.

І сонца ёсць. І ёсць мая радзіма.
Я сын яе. І я ў крыві ўстаю.
Хістаюся. Ўстаю і ажываю.
Я буду жыць. Я знішчу вашы вежы,
І род твой на зямлі забудуць людзі.
Ты памылілася і гэтай здрадай
Такога ворага
братам прыдбала,
Якога ў іх ніколі не было.
Хістаюцца калоны!
Дах трасецца!
Няхай загіну, але разам з вамі,
Таму, што я сляпы, таму, што цёмны,
Прададзены багамі і табой.

## БАЛАДА АБ НАШЭСЦЯХ

Між Дняпром і крыкам жураўліным,
Наўздалёк ад дымнага сяла
Ў прадзедам пакінутай хаціне
З козлікам Алёначка жыла.
Травы залацістыя дымелі,
Ноччу поўз вугор гарох крануць;
Як страла ў кальчугу, стронг на мелях
Упіваўся ў рабізну.
І аднойчы, як страла ў кальчугу,
Раць аднекуль з-за лясоў прыйшла,
Каб усё забраць: людзей за плугам,
Хлеб і дым ад дымнага сяла.
Чорныя, рагатыя, як здані,
Ў золаце й каменнях, бы ў агні.
Сэрцы іх забылі аб каханні,
Рукі — аб звычайнай дабрыні.
Іх багі удзячнасці чакалі,
І Алёнку — ў дар вадзяніку —
Вывелі з хаціны і звязалі,
І на дзідах кінулі ў раку.
Сонца ўніз схілялася сурова.
А калі далей пайшлі палкі —

Белы козлік выбраўся са схаваў
І — чуйдух! — пацокаў да ракі.
І замэкаў, застагнаў, заплакаў,
Высунуўшы шэры язычок:
. . . . . . . . . . . . . .
«Пашкадуй, Алёначка, сястрыца,
Выйдзі да мяне на беражок».

## СКАРЫНА ПАКІДАЕ РАДЗІМУ

Ў сялянскіх крывулях-хатах
Зноў сушылі кару.
Знову конік пузаты
Месіць нагамі бруд.
У доктарскай шапцы дзіўнай —
Адзінай на гэтай зямлі —
Коннік мокне пад ліўнем,
Што зноў як з сіта паліў.
Выгнанне. Выгнанне. Выгнанне.
Па волі зямных багоў
Спалілі браты-хрысціяне
Кнігі пра бога свайго.
З адчаем упартым, пахмурым
Людзі ў жорсткіх баях
За цемру сваю і дурасць
Знішчаюць друзі свая,
Зрабілі з Сіная малпоўню,
Й не хочуць бачыць яны,
Што справу іхнюю кроўную
Хаўтурна адплачуць званы.
Яны не даждуць, што Скарына
Зямлю сваю пракляне:
Страціў не я Афіны,
Хутчэй Афіны — мяне.
І горш за пакуты крывавыя,
Што будуць думаць рабы,
Нібыта ў шчасці і славе
Я разам з моцнымі быў.

# КАЛІ ПАМІРАЕ КАХАННЕ...



* * *

О каханне маё бясконцае,
Не ўцякай ад мяне, пашкадуй!
За табой, як за светлым сонцам,
Па штодзённай дрыгве іду.

Чарада нада мной жураўліная,
Пада мною — балот віры.
Журавінамі, журавінамі
Кроў мая на куп'і гарыць.

На шляху толькі чорная лотаць,
А за мной, ад маёй крыві,
Утрапёна квітнеюць балоты
Смолкай песень, пярэснай любві.

Кроў сплывае. Няма спакою.
І калі ўпаду нежывы,
Красаванне кветак жывое
Застанецца на месцы дрыгвы.

* * *

Я іду лугавою дарогай,
Пакручастай і цёмнай, як лёс.
Над ракой азярод шматногі

Барадою сена зарос.
Галавою прынікшы да сена,
Ў ноч гляджу на рачное шкло...
Глуха так, так цяжка і дрэнна
Мне ніколі яшчэ не было.
Ўсё было: пацалункі світаннем,
Над ракою туман залаты,
Бедны прывід майго кахання,
Што здушыла развакліва ты.
Сэрцам ведаю: так не трэба.
І ніколі халодны разлік
Не заменіць дарогі пад небам,
На якім ледзяны маладзік.
Нельга жыць з незгасальным болем,
І ўсё роўна да схілу год
Памажы мне — ніколі, ніколі
Не забыць пра яе, азярод!

## ЧЫРВОНЫ ШАР

Калматае сонца зямлю пячэ.
Ў душы ні надзей, ні мар.
Да шчакі маёй, да маіх вачэй
Чырвоны лашчыцца шар.
Ніткай прывязаны за кяліх,
Ён палае чырвоным агнём,
Ляціць ад маіх валасоў да тваіх
Над рэстаранным сталом,
Быццам хоча суцешыць, звязаць, прымірыць,
Мяне з гаспадыняй сваёй,
Што зараз насупраць мяне сядзіць
І ўсё ж не са мной. Не са мной.
Адбівае чырвонага шара палёт
Дрэвы, кветкі, паўлінаў з вальер,
Адбівае непрымірымы рот,
Сумныя вочы твае.
Давай, давай адпусцім яго,
Іначай сэрца кране
І раптам памірыць. І раптам ты
Зноў пакахаеш мяне.
Слова праўды маёй, што прынесла канец,

Я хацеў бы забіць, забыць,
Бо жанчыны панствуюць і ў мане,
А мужчыны і ў праўдзе — рабы.
Немагчыма.
Ляці. Сустракай свой лёс
Далей ад зямных берагоў:
Сумны ў халодным ззянні нябёс,
Як смерць кахання майго.

## ФАНТАЗІЯ

Знову блукаю па вуліцах сініх.
Сэрца кудысьці мяне завяло.
Шыльда над вокнамі: «Клуб адрынутых».
З вокнаў на снег — скупое святло.
Ноччу ў таемныя гэтыя сховы
З блытанай сеці завулкаў глухіх
Часта прыходзіць Людвіг Бетховен,
Здраджаны дбаннем кабет зямных.
Лермантаў тут. І таго не кахалі,
Хто ж тады варты гэтага больш?
Вось ён сядзіць ля каміна ў зале
І ўспамінае свой першы боль.
Геній, каханне, сэрца свабоднае,
Вершы алмазныя з-пад пяра —
Ўсё прамяняла яна на злодзея,
Слаўнага тым, што каштоўнасці краў.
І не рука, што «Мцыры» стварыла,
А пяцярня, што рубіны ўзяла,
Песціла рукі адзінай і мілай,
Доўгія косы яе распляла...
Грукаюць дзверы, і госці новыя
Йдуць у пакой праз халодны туман:
Дантэ, Петрарка, Катул, Багдановіч...
Столькі гасцей, што й ліку няма.
Проста да зорак халодных упарта
З комінаў выбіваецца дым,
Сумныя цені Джульеты Гвічардзі,
Лоты і Лесбіі рэюць над ім.
Іскры лятуць і лятуць да світання
Ў цемру і снег, як жывыя чмялі.

Тыя, што варты стакрот кахання,—
Тыя не маюць яго на зямлі.
Потым, як пойдуць ў зямлю сырую,
Сотні прыгожых дзяўчат і дам
Статуям іхнім рукі цалуюць,
Быццам лягчэй ад таго касцям.

* * *

Ўкруг месяца туманнае гало.
Мароз ступае адубелым садам.
Самотным дрэвам сняцца май і радасць,
А мне — маё забытае святло.
Ты чуеш? Ноччу кожнаю яшчэ,
Самотай зрынута нечалавечай,
Цалую я твой горды лоб і плечы
І светаў сотні ў бездані вачэй.
Цалую рукі — люльку добрых сноў
І да грудзей-сумётаў прыпадаю,
І гіну ў полымі. І паміраю,
Бо згаснула ў снягах даўно яно.
Што мне да тысячы начных свяцiл?
Ў дарэмным маранні аб згаслым сонцы
Начным ваўком гляджу ў тваё ваконца,—
Яно — за трыста міль.
Яно — ў былым жыцці.

## НЯМЫЯ ДРЭВЫ

Над лютаўскім горадам такое груватскае неба,
Што яно насядае на дым і гне яго да зямлі.
На лютаўскіх вуліцах такія пахмурыя твары,
Пахмурыя, як хмары, як ноч у міліцыі,
Што не хочацца лезці ў аўтобус,
а хочацца ўзяць таксі.
На лютаўскіх бульварах такія нямыя дрэвы,
Што вароны і тыя неахвотна сядаюць на іх,
Не жадаючы пустую сваю сварлівасць
Цяжка саджаць на сусветную дрэў тугу.

Ах, нямыя дрэвы, нямыя, як мёртвыя рыбы,
Нямыя, як паэты ў ліхалецце, ў гады мярзоты,
Нямыя, як я, што бязмэтна іду пад імі,
Бо Яна забарону паклала на словы кахання.
А аб чым мне яшчэ? Я нямею, нямею, нямею,
Але ўсё ж безнадзейныя крокі, адбіваючыся
ў завулках,
Безнадзейна і нема лямантуюць супраць немага неба,
Супраць твараў пахмурых,
супраць гэтых дрэваў маўклівых,
Маўклівых і голых, як даўні шкілет дыназаўра.
Кожны крок — гэта крык аб высокім і сонечным небе,
Што блішчыць, як Элады блакіт між калон Парфенона,
Аб усмешках, дзіцячых і шчырых,
бліскучых, як лёд агнявы,
Аб дубах, што спяваюць зялёную, звонкую песню.
Аб дазволеных спевах, што ў неба ўзвіваюцца гімнам,
Каб, мінуўшы сусвет, ціха ўпасці каханай да ног.

## КАЛІ ПАМІРАЮЦЬ...

Калі паміраюць дрэвы — яны павольна падаюць
на зямлю,
Больш павольна, чым пушок адуванчыка,—
і застаюцца ляжаць.
Калі паміраюць жывёлы — яны засынаюць у ветрабоі
Або чарнеюць на раллі уздзьмутым жыватом,
А над імі драпежна цягнуцца павольныя аблокі.
Калі паміраюць гарады —
па анфіладах крочаць рыжыя львы
І слізгоча струменьчыкам ртуці змяя па карцінах,
што ўпалі ў музеі.
Калі паміраюць планеты — застаюцца свінцовыя воды
І свісцячая песня пяскоў у расколінах скал.
Калі памірае каханне... Але каханне не памірае.
Яно вечна застаецца ў грудзях лікуючай тугою слоў,
Безнадзейным болем і непатольнай пяшчотай,
Калі нічым не дапаможаш, хаця сэрца аб зоры разбі.
Плач дрыядай, рагачы сатанінскай няшчырай
ўсмешкай,

Львом куртатым кроч, слізгай самаахвярным змеем
Або падлай няшчаснай валяйся на ворыве лёсу —
Ўсё дарэмна. Няма дапамогі. І смерці няма ў каханні.
Чалавек толькі смертны. Але калі дрэвы не помняць,
Гарады не помняць, не помняць нямыя планеты —
Сэрца помніць каханне і попелам стаўшы з агню.
Аб пушыстым снезе бясконца яно ўспамінае,
Аб слядах на снезе, аб любых заснежаных веях,
Аб журботнай усмешцы і аб горкіх, апошніх,
бязважкіх
Пацалунках у вочы, запясці і вуснаў ражкі...
Скрухай поўнае, ўспамінае мёртвае сэрца
І аб тым, чаго не было і не будзе болей ніколі:
Аб агні ачага, аб неадчэпных цёплых дзіцячых
далонях,
Аб жаданні пакласці жыццё за яе і з успоратым горлам
Прыпаўзці і падохнуць ля ног, уратаваных табой.
Не забываючы здохнуць. Усё помніць і мёртвае сэрца
І кружляе з крыкам перадсмяротнай і ўсё ж
бессмяротнай тугі
Над магіламі мёртвых багоў,
над журботным спакоем зрынутых дрэў.
Над жывёламі, кінутымі на раллі,
Над планетамі мёртвымі і гарадамі —
Бессмяротнаю каняй, што моліць аб кроплі вады.

## СНЯГІР

О радзіма, мой светач цудоўны, адзіны,
Явар мой, мой агністы снягір на сасне,
Ледзь цябе не забыў я з чужою жанчынай,
Што ў душы не хацела і ведаць мяне.
Ёй былі непатрэбныя звялыя травы,
І, ад вераса горкі, вятрыска павеў,
І твая некрыклівая гордая слава,
І твая перамога, і мукі твае.
Зараз нехта другі перад ёю варожыць,
Сыпе золата мар, лье славесаў ваду...
Што паробіш. Была яна вельмі прыгожай.
За такімі і ў пекла мужчыны ідуць.
Я пайшоў бы таксама. Ў пякельным дыме
Можна ўскласці на ногі цярпення браню

І ўсё роўна спяваць аб азёрах радзімы,
Плечы гордыя ўзняўшы над морам агню.
І няхай першы камень у вочы мне кіне
Той з мужчын, хто не зможа мяне зразумець,
Той, хто маці сваёй не змяняў на жанчыну —
Залатога пяску на брынклівую медзь.
І канец. Сталі толькі маім успамінам:
Ласка шэрых вачэй, заінелая скронь,
Лес нахмураны, хвоя, лябяжы іней
І рука, што лягла на маю далонь.
І для шчасця, для сонечнай вечнай кароны
Не хапіла мазка адзінага мне:
Не хапіла радзімы, іскры чырвонай,
Снегіра на заснежанай сіняй сасне.

## ПЕСНЯ КОЛАЎ

I

Кожны раз, як дамоў ад'язджаю,
Еду я міма дома твайго...
Ноч, як лёс, дамам пагражае
Цёмнай злівай, слатой, тугой.
Ў неба іскры ўзлятаюць, як слёзы,
І, калі мой цягнік закрычыць,
Застаешся ты з ноччу і з лёсам
На чужым, непатрэбным плячы.

II

Прасціны тваё, бы ў калючай асве,
Клубіцца скупы цыгарэтны дым...
А я табе прапаноўваў свет,
Цэлы свет у сэрцы маім.
Вольны вецер і песні палян... палян...
Неба ў маю... Неба ў маю...
Кахання майго акіян... акіян...
Сонца і душу... Душу маю...
Мне — як табе, пустэчу хапаць.
У начах маіх золь і драма.
І ёсць дзесяткі, з кім можна спаць,

Прасыпацца — ніводнай няма.
І знічкаю падае сэрца ў палі
І ў агні згарае на тло:
Прынцэсы былі, царыцы былі,—
Папялушкі адной не было.
Хутары сумней у палях і сумней...
Спускаюся ў цемру, нібы вадалаз...
Прадала, прадала, прадала ты мяне,
Прадала, галавой аддала.
На спакой змяняла крылаў страду,
Катула — на месікаслоў,
На смецце — гордае золата дум,
На даброты — музыку слоў.

III

А ён не даў табе і таго...
Лёс аднолькава нас адзначаў,
Але Муж — не той, хто не знаў батагоў,
А той, хто пад імі маўчаў.
Па валах, што туды і сюды бягуць,
Ён імя, як ветразь, насіў.
Вучыў, перавучваў, як чосу дадуць,
Зноў вучыў, даравання прасіў.
У Каносу бег за сабачай гайнёй,
Без шапкі стаяў ля брам,
Каяўся перад кожнай свіннёй,
Плакаўся ў корчмах сябрам.
Заклаў радзіму, Еўропу, род,
Вучняў, шэфаў, Дэга, Курбе,
Мастацтва, сяброў, Пікаса, народ
І цябе... Ты чуеш? Цябе.
Багаццем якім ён табе напыліў?
Што прынёс ён табе у дом?
Дзе імя, у якое ніхто на зямлі
Не насмеліцца кінуць багном?
Душы родныя дзе? Ўцяклі і яны.
І адна ты ў зброднай глушы,
У мурашніку аднадумцаў дурных,
Дзе ніводнай роднай душы.
Хто яны, што праспалі жыццё і бой,
Людцы гэтыя, гэты гной,
Што калісьці табой гандлявалі і мной,
А сягоння — адною табой?!

Ад шчаўчка пігмея лятуць тарчма,
Паўзуны, бяскрылае зло,
Накіп людская, свінушнік, карчма,
Эстэцкіх гадзін кубло.
Што ж цяпер за здраду будзе з табой?
Не магу і ўявіць сабе,
Як ён хрупне пад Этнай пагарды людской,
Твой слабенькі, танюткі хрыбет.
І ў імя таго, што на цвердзі зямной
Кветкі ёсць, і любоў, і трава,—
Вы... даруйце за подласць жанчыне дурной,
Даруйце...
Як я даравау.

IV

Колаў стук. І надзея. І горыч.
І ў начы гэтай золкай, глухой
Ты не спіш з маім ворагам поруч,
Як не сплю я з цемрай сваёй.
Ад вачэй тваіх бедных і прагных
Да маіх спакойных вачэй
Повязь цягнецца, цягнецца, цягнецца
Ўсё танчэй, танчэй і танчэй.

## ІМПРЭСІЯ

Сніў я сон, быццам нехта пяшчотна мяне крануў.
Чуў я словы пяшчоты, прывабныя, як міражы.
Сон кагосьці здаўна мне вярнуў, пазабытую, але адну,
З цемры згаслыя гукі вярнуў да струны,
ўваскрасіўшы струну.
І яна зазвінела — у явы і сну на мяжы.
І на гэтай мяжы я цябе зберагаў, як агонь трапяткі,
Як хвіліну дрымоты апошнюю мы беражэм
Ад павеваў і пахаў, ад сонца, ад дотыку грубай рукі,
І ад песні дажджу, і ад думкі, што нас сцеражэ.
Бо не ведаў — і ведаў,— што дзень узляціць, як ласо,
І пацягне бакамі мяне па пяску і траве
Да турбот, да жыцця, да шумлівых яго галасоў,
Да згрызот, забыцця, да імклівых дарог і лясоў,

Да ўсяго, што навекі цябе ад мяне адарве,
І ўпадзеш ты у змрок, як сляза, як згасаючы дзень,
І навекі ты ў цёмных, бяспамятных згінеш вяках
Ў міг апошні дрымоты, як толькі наяве ўпадзе
Не на грудзі твае, а на ложа пустое рука.

## ТАРУСКАЯ ВІЛА

На спакойны і радасны дом над Акою
Нахіляюць зялёныя косы бярозы.
Ў буйным кветніку — ружы, што снегам бялеюць,
Чырванеюць пралітай крывёй і жаўцеюць, як здрада.
Ружы маняць, бо ў жніўні не падае снег,
А муры, зялёныя ад рэфлексаў
Сакавітай і чыстай садовай лістоты,
Як сярэдневяковы ізумруд маўрытанскі,
Адштурхнуць, абясшкодзяць вераломства і кроў.

Я жыву ў гэтым доме, працягнуўшы
да светлага сонца далоні.
Мне тут чыста і ціха, вандроўнаму мараку,
Нават хмурнаю раніцай,
Калі чорны туман,
Як татарскія коннікі,
Пераплывае пустую Аку.
Кот пярэсты, спадчына Казакова
(Значна горшая за яго апавяданні),
Ноччу звонкай і цёмнай прыходзіць з гулянкі —
Нават трохі пазней, чым прыходжу я,—
Кабіясам лезе ў акно пакоя
І спачатку кладзецца на чамадане,
А пасля — якое шчасце! Яго не заўважылі! —
Лезе ў ложак, кладзецца на ногі і даўнюю песню
заводзіць
Пра цудоўныя хаты, дзе мучаюць дзеці яго.
О дыханне дзяцей!
Спакойнае, мірнае, соннае,
Як паўночнага ветру павеў,
Да якога цягну я руку...
Гэта чорны туман?

Або, можа, татарскія коннікі
З гор паўзуць
І плывуць праз пустую Аку?

Тут найлепшая бабця на ўсім белым свеце,
З добрым даўнім імем, і бяссонніцай, і дабрынёй,
І унучка, найлепшая з добрых капрызніц,
А ўладар гэтай вілы — найлепшы з тэатральных
тыранаў...

Галаву прастралі перад ім — і ён усё роўна заўважыць,
Што скразнога дзеяння ў гэтым учынку няма.
Ён даводзіць мяне Станіслаўскім і Хемінгуэем,
Выклікаючы ціхую ярасць у сэрцы маім,
Бо не можа заўважыць, што геній, бязмерна мацнейшы
За вышэйпамянёных тытанаў, жыве ў яго доме
І стварае трагедыі пышнай сусветны шэдэўр.
Ўрэшце, бог з ім. Ён геній таксама. І ў слаўным
двухтысячным годзе
Восем дзірак нашчадкі ў знадворнай сцяне
прасвідруюць
І павесяць на вілу з пароскага мармуру дошкі,
Каб зявакі глядзелі на іх, як варона на палкае сонца,
Тупа дзюбу раскрыўшы...
Тут заўтра вялікае свята:
Сорак шэсць гадавін гаспадар па зямлі пахадзіў...
Па вяршынях і прорвах, на нашых няпэўных дарогах
Крочыць столькі гадоў — гэта трэба, як хочаце, ўмець.
Мойра, дай яму шчасце і сонца і палкі агонь неспакою,
Сотню вёснаў і восьмай карціны маёй ухваленне.
Назнарок не кажу я нічога пра пані,
Што дала гэтай віле імя і прытульнасць,
Што ўзрасціла рабіны і дрэвы і ружы,
Што аўсянаю кашаю корміць мяне.
Нездарма яе скульптары лепяць...
(Мяне яны вылепяць, пэўна.
Ў трыста год: без зубоў,
Без ідэй, без радкоў, без душы...)
Мікельанджэла,
Вакары,
Глебавы,
Бембелі,
Краўчанкі,
Бандарэнкі,
Кановы

І Яхмесы свету
Плюньце на геніяльна-вакхічную храпу маю,
І ваяйце жанчын
І яе,
Тарускую Неферціці
З яснай дзіўнай усмешкай,
З доўгай шыяй
І сапфірам занадта спакойных вачэй.

Я сяджу за сталом,
І расчынены шыбы аконныя.
Ад Капелы дарожка
Лягла на цяжкую раку.
З процілеглага берага
Пасмы туманаў —
Татарскія коннікі —
З гор паўзуць на мяне
І плывуць праз начную Аку.

Гэта ты іх паслала праз вёсны пагоняй за мною,
Каб яны узялі мяне зноў у крэпасці белай і чыстай,
Каб ізноў маю шыю абвіў смяротны аркан успамінаў,
Каб прывёў у хлусню мяне дымчаты хмарны табун.
Ты, дурнічка, усё скончана.
Тут ад бяроз над парканам
Да усмешкі, да спрэчкі — іначай усё і ясней...
Ўсё не так, як з табою, забытай даўно, непатрэбнай
Ні адценнямі слоў, ні вачыма, ні цеплынёй.

Адмаўляюць чырвоныя ружы твой рот, а белыя —
зубы твае адмаўляюць,
Адмаўляюць пахучыя косы бярозы — твае валасы,
Адмаўляе Ака твае вочы.
Адмаўляюць лясы тваю слабасць,
Ветра шум адмаўляе далёкую музыку слоў.

І няхай на хвіліну здаецца мне,
Што былога сады расцвітаюць,
Што над светам вясна затрубіла на срэбнай трубе,
Што мне нельга, што ў гэтым спакоі
Былое маё ажывае,
Што кахаю, кахаю,
Безнадзейна кахаю,
Па-вар'яцку,

Шалёна
Кахаю цябе.

Ўсё адно. Я навал не хачу,
Каб рамонкі таптаті і золата доннікаў,
Толькі праўду люблю й чысціню
І адданую сябра руку,
І таму хай плывуць праз Аку
Туманоў тваіх дзікія коннікі,
Хай плывуць!
Не прайсці ім Аку.

Разам з жартамі, песняй і сонечных зайчыкаў роем,
Разам з яснай усмешкай няўхільнага жніўня-касца
Мы стаім супраць раці тваёй,
Як малая і стойкая рать,
Што чакае
Ўтрапёнага бою,
Знае ўсё і стаіць з найвышэйшым спакоем.
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Знае ўсё.
Але будзе стаяць.
Да канца.

* * *

Зноў над ракою чаплі сівыя
Ў плаўны палёт, як калісь, паплылі...
Шчасце маё і раны былыя
Гускай і лотаццю парасллі.
Рэкі вярнуліся да вытокаў.
Тая, што сонцам была ў жыцці,
Недзе далёка, далёка, далёка,
Так далёка, што лень ісці.
Ды і нашто? У задушнай кватэры
Кволыя думкі ў сшытак пісаць?
Ў бога хлусні і нажывы верыць?
Трохсотгадовыя транты збіраць?
Нават на самую лепшую ў свеце,
Нават на цёплыя вусны яе
Я не змяняю вільготны вецер,

Што ў сітнягах над Дняпром пяе.
Сумны свой век няхай дажывае
З іншым, з другім, пакінуўшы мне
Рукі сяброў, журлівыя зграі,
Стрэльбу і рэк асенніх свінец.

* * *

О вясна! Тапол! Свеце мілы!
Сонца німб! Аблокі! Сад! Рака!
Залатая падаплёка крылаў
Маладога звонкага шпака!
Вечар зацяпліў бярозак свечы.
Я адзін. Ты не памёрла, не.
Мой забыты, мой апошні светач,
Ты ў чужым акне, а не ў труне.
Як магла застацца ты ў кайданах?
Як магла адмовіцца пайсці
Да палян, дзе месяц закаханы
Песні «сноў» блакітныя ўзрасціў?
Пэўна, я турму не здолеў тую
Гнеўнаю пагардай скалануць,
Дзе цябе цалуюць, як катуюць,
І ўладарна лашчаць, быццам б'юць.
Вей тваіх, плячэй тваіх пахілых
Болей не кране мая рука...
Над сусветам залатыя крылы
Маладога звонкага шпака.
Клічуць лебедзі ў начы вясенняй,
Кідаючы поўдзень салаўям,
І разліў шырокі, як натхненне,
Як любоў забытая мая.
І няма ў душы маёй праклёнаў,
І няма на веях цяжкіх слёз..
Заставайся ў клетцы залачонай —
Ты сама абрала гэты лёс.
Над кахання нашага магілай,
Што загубіцца ў былых вяках,
Залатая падаплёка крылаў
Маладога звонкага шпака.

# ІНГА І МАРЫЯ



## ЖАНЧЫНЕ З БЭЗАМ

І я прайшоў калісьці паўз цябе.
Паўз вусны смелыя і рук прынаднасць,
І змрок вачэй, глыбокіх, як сусвет.
На дне тваіх вачэй блішчэлі зоры,
Далёка так, што цэлага жыцця
Мне не хапіла б даляцець да іх...
Не паляцеў...
І гэта так было,
Як быццам качаня не захацела
Агіднае да лебедзя ляцець.
О лебедзь мой, які я быў дурны!
Якой дарогай сноўдаўся па свеце,
Каму сябе аддаў і раздарыў?!
Начамі сон бяжыць вачэй халодных.
Начамі змрок. Халодны вецер свішча,
Каб разбудзіць змярцвелыя дубы.
Крывавыя пупышкі вінаграда
Прыціхлі і чакаюць цёплых дзён.
А ты ляжыш, і трапятанне вей
Бяссоннае, як трапятанне крыл...
...І сёння я ўначы цябе успомніў:
Ты крочыла па вуліцы вясенняй,
Трымаючы ў руках шалёны бэз,
Вільготны бэз, букет вялікіх гронаў,
І сонца ў люстрах дажджавых ляжала
Пад кожным крокам дарагім тваім.
А вочы — два глыбокія сусветы —

Паўзверх вільготных і пахучых гронаў
З пяшчотаю глядзелі на мяне.
Я зразумеў.
Яны ж мяне вучылі
Калісьці нездрадліваму каханню,
Каханню маладому, на якое
Не зменіш вопыт схаладнелых год.
Ім нельга здрадзіць, і забыць іх нельга,
Як нельга з сэрца выкінуць пяшчоту
І подла здрадзіць бэзу і сабе...
...Якая раніца ляжыць над светам!
Які разліў! Да гарызонта сінь!
І ветразі зялёных вербалозаў
На сініх водах — зараз страпянуцца,
Напоўняцца і ў грэкі паплывуць.
Ты, што мяне чакаць даўно забыла,
Дапамагла мне, ўспомніла, прыйшла...
...Будзь блаславёна, доўгае жыццё,
Яшчэ не скончанае ў добрым свеце.
Ўсё будзе. Толькі гронаў тых не будзе,
Цябе не будзе і тваіх вачэй.
А можа?
Глянь, як свет вакол чакае
Святла і цеплыні, даўно забытых.
Чакае дуб скарэлы на пагорку,
Чакаюць хаты сонечных праменняў,
Чакаюць вішні белых пакрывалаў.
Душа чакае крыл.
І на адхонах
Вось-вось, здаецца, расквітнее бэз.

## ШЧАСЦЕ

Не хачу старым упівацца,
Не жадаю гібець у сне.
Сёння выпаў, як кветкі акацыі,
Сакавіцкі апошні снег.

Ён крычыць пад нагамі ад шчасця,
Ён спявае аб новых днях,
І драты, як марскія снасці,
Знову здатныя ветразі ўзняць.

Ноч ідзе са мною да рання,
Каб сустрэць пацалункам яго —
Новы дзень мой, маё світанне,
Новы прывід шчасця майго.

* * *

Бацькі з магіл цяплом дыхнулі,
З узгоркаў снег схаваўся ў роў,
І кожны горб шуміць, як вулей,
Ад спрэчкі кветак і чмялёў.
Загіне, хто ў мінулым дрэмле:
Буяна травы ймкнуць да зор
Навыперадкі, напярэймы,
Узахапы і насупор.
Сок крочыць па мільёнах лесвіц,
Па клетках — аж да верхавін,
Каб падарыць сусвету песні,
Здабытыя з зямных глыбінь.
Ляжу каля лясных узбочын,
Ляжаць і ждуць мяне гады,
І п'юць ускінутыя вочы
Ўсю повень неба і вады.
Мне цяжар шчасця грудзі сплюснуў,
Спляліся валасы з травой,
І мятлушка сядзіць на вуснах,
Каб разам уздыхаць са мной.
Даволі марнай жыць пагоняй,
Жывецца або не — жыві!
Кароўка божая ў далоні,
Як кропля божае крыві.
І зноў бязмежны свет чакае,
Свет сэрцаў, песень і бароў.
Дай мне, вясна, шляхі без краю,
Дай сэрцу вечную любоў.
Зямля гудзе, як цёплы вулей,
Знікаюць крыўды, боль і зло...
Бацькі з магіл цяплом дыхнулі
Каб дзецям жыць лягчэй было.

## ЖАЎРАНАК —
## ЗВОНКАЯ НІЦЬ

Хмары веснія цяжкія, як кентаўры,
Песня шчасця пад імі ўзахлёб звініць.
Ах, гэта жаўранак,
Жаўранак,
Жаўранак,
Срэбная,
Срэбная,
Срэбная ніць.
Над ракою, тваім зайздросцячы лаўрам,
Вадзяны бугай трубіць, як грубіць.
Не звяртай увагі,
Жаўранак,
Жаўранак,
Не парві сваю тонкую,
Тонкую ніць.
Зноў дымеюць разоры і сытая пара
На курганы былога майго бяжыць.
Працягні з майго сэрца,
Жаўранак,
Жаўранак,
Аж да самага неба
Звонкую ніць.

## МЁРТВАЕ РЭЧЫШЧА

Мне сказалі: мяне ты шукаеш,
Зноў шукаеш — пасля ўсяго,—
Плынь рачная, калісьці жывая,
Што пазбылася ложа свайго.
Усё дарэмна: пратокі-песні
Абмялелі пад рэзкай травой.
Я не Лазар, я не ўваскрэсну,
Нават голас пачуўшы твой.
Ні твой заклік, калісьці любы,
Ні пяшчотны дотык рукі,
Ні ад смагі пасохлыя губы
Не абудзяць вялікай ракі.

# КРОКІ ЎНАЧЫ

Цёплы дзень дагарэў. Скача полымя з гулам,
Саснячок над ракою ў зялёнай імгле...
За дзень сонцам з вадою ўвесь твар абцягнула,
Ногі ў голках сасновых. Далоні ў смале.
Ўвесь Дняпро у кругах: ходзіць рыба шалёна.
На слупах фарватэрных — скупа — агні.
Побач з намі — чырвоны, наводдаль — зялёны,
Наш адзін, а ў таго у прадонні — двайнік.
Раптам — водар халодны свежага сена.
Раптам плеск. Гэта стог, вялізны, да хмар,
На чаўне, што не большы ніяк за палена,
Быццам прывід, плыве на зялёны ліхтар.
Над ракою дымок. Ціха полымя шастае,
Ты і я ў будане на сене ляжым.
Калі ёсць на зямлі дзве унцыі шчасця,—
Ўсё яно, без астачы, ў сэрцы маім.
Што шукаў ты ў чужой зямлі, чалавеча?
І нашто імкнуўся сябе ашукаць,
Калі вось пад рукой тваёй цёплыя плечы,
Вось віно і вогнішча, ноч і рака.
І кахаю, як быццам стакрот паміраю,
Поўны кожнай пражытай сваёй вясной.
О ўтрапёны агонь, як ты хутка згараеш,
І якая кароткая летняя ноч!
У вялікім спакоі зямлі шырокай,
Да якога праз хвалі мы праплылі,
Раптам крокі, мерныя, гучныя крокі
Проста ў вуха, прыціснутае да зямлі.
Нехта бераг трасе цяжкімі нагамі,
Нехта ноч разрывае, бы глупства чаўпе.
Не палохайся. Гэта не зубр і не мамант,
Гэта бакеншчык гасіць ліхтар на слупе.
Цішыня. Над вадою туманныя вежы.
Дай мне гэту зямлю з табою абняць.
Ты — празрыстасць, ты ўся — нерухомая свежасць,
Ўся — глыбінная, аж да канца, цеплыня.
Ты не чуеш, як падаюць росы патокам,
Як гарлачыкам трызніцца новы дзень,
Як нячутнымі, як салаўінымі крокамі
Над вялікай ракою каханне ідзе.

## РАМАНС
## ВІНАГРАДНАЙ ЛАЗЫ

Па туманах касых
Вінаградныя вусікі
Ўюцца,
Ўюцца
І імкнуцца спаймаць
Малады
І гарэзлівы месяц.
За глыбокія вочы твае,
Што ў тумане,
Блакітным тумане
Смяюцца,
Хай мяне на праменнях
Туманных,
Абвітых,
Спайманых
Праменнях
Павесяць...
Ах, як вішні цвілі!
Як здрадлівая
Белая мара!
Зацягнулі,
Завабілі
Песняй
Птушынай сваёю.
А цяпер у завулках,
У завулках
Так плача гітара
Ненадзейнай,
Пакінутай,
Цалкам адрынутай,
Цалкам жаночай
Тугою.
О, як хочацца жыць!
Што з таго,
Што вясенняй парой
З вішань квецень
Зляцела
Завеяй,
Пяшчотнай
І сіняй.
Што з таго, што калісьці

Памруць
Пад асенняй
Халоднай касой
Залатыя вяргіні...
Вяргіні...
Вяргіні...
Дваццаць год яшчэ можна кахаць!
Дыхаць квеценню,
Летам і маем.
Дваццаць год
Вінаградныя вусікі
Будуць віцца
Па месячных струнах...
Ах, няхай яны ўшчэнт заплятуць,
Ах, няхай яны мякка спаймаюць
Гэты месяц гарэзлівы,
Месяц вясёлы
І юны.

## ТЫ І Я

Ты і я: пралеска ў снах бурану,
Дрэўца вішні ў ярасным агні,
Кропля на спіне Левіяфана,
Радуга на крылах навальніц.

Пад дзевятым валам ветразь ніцы,
Верас, што агнём абняў пярун,
Павуцінка ў пекле навальніцы,—
Адкажы на вуха ўладару,

Як мне здужаць ураган і вецер,
Вечны мой, зацяты, страшны бой?
Як мне, моцнаму, пражыць на свеце
Без цябе, танюткай і слабой?

* * *

Калі агорне цемра неба
І я зямны пакіну дом,
Я стану каменем ці хлебам,
Травой ці срэбным матылём.
Травой — каб ты ў сваім уборы
Прайшла па мне да добрых сёл,
А матылём — для ночы гора,
Калі жывых няма вакол.
А хлебам жоўтым, як жывіца,
Каб быць табе як мірны дар,
А каменем, каб адкаціцца
З дарог...
Ад ног тваіх...
У яр.

## КАРАДАГ

*Л. А. Панамарэнка*

Іліяда мая! Колькі даўніх крылатых стагоддзяў
Ты разрэзала ветразем, вартым людзей і багоў,
Плывучы ў невядомае, ў дальнія тысячагоддзі,
Быццам бронзай акуты «Арго»,
Крутабокі і звонкі «Арго».
Ўвосень чырвань сумаху на скронях тваіх выступала,
Так трымаў ты свой крыж —
мора цяжкага ўдары і гром:
Быццам плакалі скалы, кроўю даўняю плакалі скалы
Пад сухім і траскучым, як Крым, пад цярновым вянком.
Коні сінія з мора імчалі на бурным прадвесні,
Ты хапаў іх за белыя грывы і біў уразлёт
Або слухаў спакойна пелазгаў забытыя песні
І глухія — пад вечар — званочкі авечых чарод.
Іліяда мая! Пасмы чорныя хмар на вяршыні.
Як гекзаметр звонкі, ўдараюць аб бераг валы —
Неўміручыя строфы, што морам прапахнулі сінім,
І сухою травою, і ёдам, і вечным спакоем зямлі.
І за вечную цвёрдасць тваю мора вечнае данню
вялікай

Сыпле дым скамянелы агата табе на далонь,
І крывавыя слёзы забытых багоў — сердалікі,
І празрыстыя слёзы самотных жанок — халцэдон.
Дзе яны, што ахвяры палілі глухімі начамі,
Кантрабанду насілі, багоў павяргалі у жах,
Дзе яны, што ў крылатыя шлемы званілі мячамі
І на ўласнай крыві узрасцілі крывавы сумах?
Я не веру, што зніклі яны... Вось... выходзяць з пучыны
З морам зорным на скуры і соллю ў кучме ільняной —
Лістрыгоны, пяніцелі хваль, заваёўнікі чорных
вяршыняў.

І прыбою гекзаметр гулка ўздыхае ля ног.
Іліяда мая! Вечна морам плыві да свабоды,
Вечны ветразь напяўшы, кіруйся у казачны шлях
Са сваім непакорным, дэльфінападобным народам,
З бурным морам у жылах і сонцам у дымных вачах.

## РАМАНС МАРЫЛІ

Сонца паліць над шатамі парку,
Ў вочы людзям дзідамі б'е,
Людзі-кветкі нясуць на карках
Пчол назойлівых — думы свае.
Кветкі сінія, вогненна-чорныя,
Хмель хістаецца ўгору і ўніз,
Ружы алай нешта гаворыць
Самаўпэўнена — тонкі нарцыс.
Сярод гэтага кветніка п'янага
(Мо было ўжо такое калісь?)
Ты праходзіш адна ля фантана,
Найпрасцейшая кветка зямлі.
Нібы ціхая сумная музыка,
Ты праходзіш з пакорай сваёй,
Адуванчык на ярасным лузе,
Кветка з жоўтаю галавой.
І з фантана, раскрыліўшы крылы,
Праз вясёлак халодны звон
Усімі рэшткамі бронзавай сілы
Лебедзь рвецца табе наўздагон.
Марна рвецца, бо ў звоне і граі,

У мільёнах вясёлкавых слёз
Хлопчык лебедзю шыю сціскае,
Як адвечны няўмольны лёс.
І гляджу я змрочна на тое,
Як, абернуты ў шумнай вадзе,
Цень Міцкевіча нада мною
Лебядзіную песню вядзе.

## ДНЯПРО І АКА.
## ЁН І ЯНА

Божа рэк, ажані
Мой Дняпро з прыгажуняй Акой.
У яго — крутаяры ў зеніт,
У яе — лукавін спакой.
Ён мужчына. Над ім — курганы,
Змеі сонцаў — кронамі ўніз.
А над ёю — пракосаў сны
І дзявочых святліц агні.
Ён ад страсці рве берагі,
Асіянаўскі месяц над ім,
І туман плыве на лугі,
Быццам бітвы паўночнай дым.
Трупы мокрыя чорных дубоў,
Нібы яшчары ў берагах,
А на дне — карагоды віроў
І дрыжачых багновак жах.
Месяц кроў праліває ў яго,
Кроў сцякае з ласіных губ
На патопленых даўніх багоў,
На бязмежную іх тугу.
А над ёю жаўрук пяе,
І калі смяецца зара,
Кісці скрыпня над ложам яе,
Як вясельныя свечы, гараць.
Калі хочуць стракозы піць,
Ў самы ярасны сонечны ўзлёт
У гарлачыках окскіх спіць
І не тае блакітны лёд.
У свяцёлках яе агні
Здаўна мараць аб сіле такой...

Чым Дняпро табе не жаніх,
Не сцяна для пакоры тваёй?
Чым не муж табе, не жаніх,
Не любоў для любові тваёй?

. . . . . . . . . . .

Божа рэк зямных, ажані
Дняпро з прыгажуняй Акой.

## РАМАНС ШЛАГБАУМА

Ён ўпаў на дарогу,
Ён тросся ад болю.
«Ну нашто так?
Ты ж бачыш —
Спакой у вачах».
І шлагбаум устаў.
Даволі...
Даволі...
Гэта будзе ніколі.
Ніколі,
Ніколі —
Колаў стук
І прысады...
Гасцінец
І шлях.
Не гляджу наўздагон.
Хай знікае
Ў лагчыне...
Не гляджу!
Як цікава:
Трава...
Раса...
Хай шлагбаум глядзіць
Узнятай вяршыняй,
Як знікаеш ты...
Кропкай...
Пад ценем...
Прысад.

## АПТЫМІЗМ

Пад плашчом, зусім ля вуснаў, залатая галава.
Па вадзе ідзём дахаты, горкі дым зямлю скрабе:
Наймічку таксама добра каля печкі цалаваць,
Калі лёс не шле царыцы, суджанай навек табе.

## ТУМАН

Сёння ноччу туман зоры ясныя вымеў,
І прачнулася раніца ў флёрах сівых:
Нават мёртвыя жэрдкі здаюцца жывымі
З-за жамчужных зіхоткіх гірляндаў на іх.
Але ўсё ж праз туманна-дрыжачыя слёзы,
Бы з карцінкі зводнай у тонкіх руках,
Бачны жоўтыя павесмы ніцай бярозы
І чароды на сумных асенніх лугах.
А ў далёкім горадзе зараз таксама
Навісае туман ад спрэчак дурных,
Ад машынных выхлапаў, ад зітханняў,
Ад мільёнаў учынкаў і словаў людскіх.
І праз хмары не можа прабіцца ранне,
І не можа сэрца глядзець на свет...
Як у гэтым сляпым халодным тумане
Адшукаць мне каханай зманлівы след?

## ЦЮЛЯНЯ

Хвалі ідуць за градою града.
Айсбергаў рэдкі паток,
Сіняя, быццам індзіга, вада,
Халодная, як апёк.
Цюляня не хоча цвёрдай зямлі,
Не хоча квяцістых палян.
Ільды яму замяняюць палі,
Радзіму — сівы акіян.

У пырсках бясконцых сініх валоў
Колам ходзіць малы —
З хвалі пад хвалю, на грэбень ізноў,
У сяйва сонца з імглы.
Акіян для малога пену пляце.
Той ляціць з гмаху на гмах:
Холад захоплены ў жываце,
Шчасце ў дзіцячых вачах.
І хочацца мне, як яму, да канца
Адчуваць апёкаў нажы,
У хвалях халодных даваць нырца.
Жыць!
Жыць!
Жыць!

## КАРАВЕЛЫ

З дубовым цяжкім задам, але з крыламі,
Пафарбаванымі ў блакіт і кроў,
Яны трапётка мора скарадзілі,
Як матылі, што трапілі ў Дняпро.
Бездапаможныя, валам чужыя,
Нязграбныя, яны паўзлі, плылі,
У шторм кружылі, ў мёртвы штыль тужылі,
Бастарды неба, пасербы зямлі.

Не лепшыя за рэшата па форме,
Смярчы лавілі парусная сцяной,
Хаця, па ўсім сучасным нашым формулам,
Ад шэпту мусілі ісці на дно.

. . . . . . . . . . . . . .

Наш свет таксама: шэрыя адрыны,
Брандмаўэры, праварыны, муры,
Залева, што клякоча злосна ў рынах,
Неону бляск і чорныя двары.
Чаму ж у прыцемках пахмура-сініх,
Чаму ў начах, ад ліхтароў рудых,
Мы марым аб нябачаных краінах,
І верым ім, і даплывём да іх?

Якою воляй, яраснай і смелай,
Якою сілай, грознай, бы ўраган,
Абсмеяныя нашы каравелы
Бяруць за грыву смерці акіян?!

## БАХАЙСКАЯ ЧАРАПАХА

*Янку Брылю*

Я — Бахайская чарапаха.
Я — на чэраве сонна ляжу.
Я — каменная.
Маё царства ўпала лавінаю праху
Пад пятою кітайцаў,
Чжурчжэняў,
Кіданяў,
Манголаў,
Маньчжур.
Я спазнала дарэмнасць
І тленнасць:
Дзе ляжалі дарогі ваенныя,
Там сягоння
На сопках сярод парудзелай травы
Толькі мы засталіся,
Чарапахі каменныя,
І каменныя малпы,
І каменныя львы.
Роўна восем стагоддзяў
Я ляжу сярод праху.
Усурыйскія тыгры адны
Да мяне падыходзяць ўначы
І глядзяць залатымі вачыма
На мяне,
Чарапаху,
Што адна умудрылася
Ў вечнасць з агню уцячы.
Ў навальнічныя ночы,
Калі неба сякуць бліскавіцы,
Мне здаецца, што зноў
Забівае аратаяў гром,

І грукочуць праз ноч
Залатыя й пурпурныя
Калясніцы,
І гепарды імкнуцца,
І падаюць стрэлы дажджом.
Я ляжу тут, каб людзі
Памяталі аб ханах пахмурых,
Аб бязлітасных войнах,
Што знішчылі родны мой край.
Я іду —
Толькі людзі сляпыя не бачаць,—
Чарапаха гісторыі,
Я павольна да сонца іду...
Я дайду.
Усё роўна дайду.

## ЛЕГКАВАЖНАЯ ПЕСЕНЬКА, ЯКУЮ Я СПЯВАЎ, ІДУЧЫ ДА КАХАНАЙ ЦЕРАЗ ХРЫБЕТ МАНГУГАЙ

Паветра п'янае, бы Цынандалі.
Крочу я проста ў дзень,
І рытм па скалах чаканяць сандалі,
І кунгасы спяць на вадзе.

Успудзіў кайру. Яна наракае,
Што іду без дарог,
І языкамі капуста марская
Ліжа сцежку ля самых ног.

На вуснах свіст, як матыль, трапеча.
Доўгі шлях. За гарой гара.
І ў моры рыфаў магутныя свечы
Ў сонцы ранням гараць.

# ТАЎРЫДА



## ДРЭВА НА ЧАТЫРДАГУ

*Васілю Быкаву*

Буран над уцёсамі чорнымі
На мёртвых травах іграе,
А ўнізе, а ў прорве — мора...
Без дна, без канца, без краю.
Там жвір пад прыбоем марыць,
Пчолы гудуць закахана,
А тут, дзе маланкі і хмары
І орды вандроўных туманаў,
У пекла прысенні, пад спевы
Хаўтурныя траў з вятрамі —
Расце каравае дрэва,
Абпаленае перунамі.
Стаіць і ў цвіценне верыць —
Адно супраць сцюж і абвалаў,—
Смерць хаваючы ў сэрцы,
Жыццё — ў каранях між скалаў.

## ЧАТЫРДАГ

Ўстаў Чатырдаг і ўзнёс агонь і дым,
І цвердзь зямлі прагнулася пад ім,
І ў чашу рынуў і каціўся год
З усіх марэй патоп шалёных вод.

І стала мора
люстра для Яго
І толькі потым для усіх багоў,
Якія разам з царствамі прайшлі
За час яго маўчання на зямлі.
Прастол багоў? Прастол Хрыста? Алы? —
Іх не было, а ўжо снягі з Яйлы
Раўлі вясной.
А замаўчаць яны
Ў той самы дзень, як змоўкне шар зямны.
Ты сніш той дзень. Ты сам той дзень, уцёс.
Ты зараз цень яго. Ты вечнасць, лёс.
І ў сне чакаюць мірна духі гор:
Снягі ім — коўдра, туманы — шацёр.
Як сэрца падае!
Нібы лязо,
Мне рэжа зрок агонь халодных зор.
Мой кожны крок — блюзнерства.
Кожны ўздых —
Замах на грозны сон ільдоў тваіх.
Пан вечнасці, ты пашкадуй, малю,
Імгненне цёплае, маю зямлю,
Слязу любові на тваёй шчацэ,
Крывінку лепшую ў тваёй руцэ,
Святую іскру ў вечнасці ільдах...
Глядзі, цябе пільнуе прорваў жах
І ўверсе зорак лёд, як кроплі слёз,
Закатаваных вечнасцю нябёс.
Смерць пад нагой і смерць над галавой.
Ў мігценні зор, ільдоў, парчы сівой —
*Нішто* чакае і глядзіць на нас:
Стой, веліч, і спыніся, грозны час!

## СПУСК З ГОР

Набягае на колы заснежаны шлях,
Ля дарогі дубняк адубеў,
Але рукі твае у маіх руках,
Але ў сэрцы — гарачыя — радасць і жах,
Што знайшоў, што страчу цябе.

Кожны звіў дарогі ў абдымкі мне
Так уладна, з пяшчотай такоў
Пасылае цябе. І, здаецца, канец,
І здаецца, памрэш ад шчасця, бы ў сне,
Калі неба кранаеш рукой.
Побач ты. І не дзіва, што чэзне туман,
Што народжаная ўначы,
З павароткаю кожнай адходзіць зіма,
Пасля студзеня ўладна прыходзіць май,
Гучна звонячы ў сонечны шчыт.
Вырываецца сэрца з вузкіх цяснін,
І раптоўны абшар, нібу ўдар.
О, якое мора гарачыні
Сінім сном аж да самага неба сніць
У нірване любоўных мар!
Што такое? Хто гімны сонцу пяе,
Хто хістае ружовую даль?
Мо салодкі вецер у сэрца б'е,
Можа, лебедзі ўскінулі крылы свае
Або проста цвіце міндаль?
Або проста цвіце кізіл залаты,—
Дыхні і бяссмерце прыдбай!
О, якое шчасце, што побач ты!
Што каханне!.. Мора!.. Водар густы!..
Май!..
Май!..
Май!

## ГЕНУЭЗСКАЯ КРЭПАСЦЬ

Колькі ж вынесла ты перастрэлак такіх?.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Сіні вечар глядзеў праз імглу,
Наплывалі хмары, і сонца з іх
Дзіды кідала на зямлю.
І яны, сіне-белыя, падалі ўніз
І дымелі сярод пустаты...
. . . . . . . . . . . . . .
Быў бліжэй за ўсіх густа-сіні мыс,
А далей, за ім, быў блакітны мыс,

А за ім — туманна-жамчужны мыс,
А на ім — сілуэтам бязважкім — Ты.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А на ім — пад стрэламі — Ты.

## ЛЕБЕДЗЬ

Ў старажытным парку графскім,
Над цяністаю затокай
Лебедзь чорны ў дрэме плача
Аб Аўстраліі далёкай.

Тут спакой, любоў і радасць,
Сонца ззяе ў добрым небе.
Што ж табе ў тым дальнім краі?
Што ты ўспомніў, дэман-лебедзь?

Эўкаліптаў лёгкіх пер'е?
Дынга? Лёт бяроз прыгожых?
Стой... Якія ж там бярозкі?!
Тфу ты... пане ты мой божа!

Але ты, няўцешны, плачаш,
Бо далёка рай твой мілы,
Эўкаліпты... і асіны...
І асіны на магілах.

## ВАДАСПАД УЧАН-СУ

Як страшная з нябёс пагрозных кара...
Як звоны срэбных крылаў у агні...
Як быццам сотні, тысячы Ікараў
З пачатку дзён... З зеніту... Аб граніт.
Якая веліч, сіла і... журбота!
Як добра, ўзняўшы дымны, зорны смерч,
Ў імгненне найвышэйшага узлёту
У лікаванні раптам стрэнуць смерць.

## МАЛАДАЯ ВЯСНА

Маладыя, пушыстыя лісцейкі грушы,
А за імі, на скалах, дубоў галізна.
Ў беласнежным прыбоі, у квецені рушыць
Маладая вясна.
Нібы снег вяршынь ажывае ў цвіценні,
І садоў і аблокаў звіваецца дым:
Белых хмарак алені ў зыркім небе вясеннім
Пралятаюць да мора і дваяцца над ім.
Ты мне сонца! І мора! І подых маю!
Я люблю цябе так, што кроў, як прыбой!
Што ж ты плачаш, чаго ж ты мяне абдымаеш?
Я з табою.
З табой.

* * *

О, якое цёплае, цёплае, цёплае мора.
Як драбіцца ў ім сонца — Зевесаў распалены шчыт.
О, як добра руцэ на тваім перагрэтым і чорным,
На апырсканым кроплямі мора, салоным плячы.
Ў такт нячутнаму спеву самкнёныя вусны
смяюцца і плачуць.
Вочы змежаны. Веі дрыжаць у салодкай журбе.
Так шчаслівая яшчарка дрэмле на камні гарачым...
Добра табе?

## ГУРЗУФ УНАЧЫ

Скрыпка ціхая ночы. Дрымотная музыка ночы.
Водар мора і кветак. Глухая начная пара.
Аю-даг за чаўнамі рыбацкімі ў моры напружана сочыць

Зыркім вокам адзіным — чырвонаю іскрай кастра.
Што, як ярасна скочыць? Дарэмна. Дрымотаю скоран,

Галаву ён на мяккія лапы здранцвела паклаў.
Чайкі спяць на вадзе, як плаўкі,
· у сярэбраных водсветах зорных.

Спіць каханне ў дамах. Спіць прадоння марскога
імгла.
Наздраватыя сходы завулкаў ад дзённай хады
спачываюць,
Крок паэта апошняга за́мер на вулках крывых,
І магноліі кветкі так соладка дураць і так спавіваюць,
Што ні людзям, ні скалам дрымотай не ўзняць галавы.

І лянотна мядзведзь на спакойнае мора усперся
І ў знямозе салодкай, забыўшы пра гнеў і гразу,
Касавурыць адзінае вока на зоры, што ўнізе і ўверсе,
На скупое сузор'е між іх, на сп'янелы і сонны Гурзуф.

## «ПРЫЎКРАСНАЯ ПАЛЬМА...»

Прачынаюся ноччу,— месяц,
Ў садзе сінім спеў салаўя.
І над вокнамі косы звесіла
Пальма поўдня, любоў мая.

Салаўіныя стогны ўтрапёныя...
Нельга спаць. Мы чакалі гады,
І мы дзелім наша бяссонне,
Дзелім месяца срэбны дым...

Насупор усяўладнаму лёсу
Я ільды і пустыні скрышыў,
Я прыйшоў да твайго ўцёса —
Кедр каханы з паўночных вышынь.

* * *

Над Аю-дагам — над Мядзведзь-гарою —
Хрыбет увесь імглой завалакло.
Не ведаю, не знаю, што са мною.

Дзе ты, маё халоднае святло?!
Чакаю. Прагну. А ў душы, бы ў хмарах,
Маланкі незгасальныя гараць,
І як рванецца хоць адна ў абшары —
Да сэрца дрогне ўся Мядзведзь-гара.
Прыйдзі, схілі мне галаву на плечы,
Дай мне сябе, жывучая вада,
Каб піць цябе да скону, вечна, вечна,
Як мора п'е пахмуры Аю-даг.

* * *

Спіш? Я прыйду, пагушкаю.
Вечар нейкі дзікі і злы,
Як лёс, няўмольныя птушкі
Чорна сыплюцца з нізкай імглы.

З гор яна напаўзае —
Птушкі крыкам крычаць: «Р-ратуй!»
І палёт іх, як сець, як вязанне
Між лаўраў, магнолій і туй.
Гэты крык і святла кананне
Навісаюць пагрозным мячом
Па-над нашым вялікім звітаннем:
Над каханнем тваім, дзяўчо.

Што шукаеш у гэтым спакоі?
Што табе твой адвечны лёд?
Дай стрымаць мне ўладнай рукою
Твой няўмольны, дурны адыход.

Калі спіш — я прыйду, пагушкаю.
Калі не — абаўю, як хмель.
Слухай мудрых, мая папялушка.
Слухай добрых, мой дзікі бружмель.

* * *

Сумесь Бураціна з Аэлітай,
Зорка незгасальная ў акне,
Сумная, прыгожая, забытая,
Ўвечар ты прыходзіш да мяне.
Смешная і нібыта заспаная,
Пад пяшчотаю маёй маўчыш,
А пасля аддана і рахмана
Засынаеш на маім плячы.
І малю я сонца, неба, корсту:
Хай яны палаюць над табой,
Над тваёй былою крыўдай жорсткай,
Вечныя — пяшчота і любоў.
Хай не будуць да цябе суровыя,
На ласкавы пакладуць пясок,
Горы вечныя ўзнясуць ў галовах,
Ўспеняць мора добрае ля ног,
Нагадуюць цёплай ласкі хлебам,
Сцішаць успамінаў злых прыбой.

І тады я стану вечным небам,
Сінім вечным небам над табой.

## ДЗВЕ ВАДЫ

Шум горных ручаін за вокнамі маімі
І мора мерны шум. Накатваюць валы.
Салёны Понт не хоча водаў Крыма
І гоніць іх назад да скал, вяршынь, імглы.
А ўсё ж бяжыць крышталь да пенных хваль салёных
І ломіць іх, хаця ўстаюць сцяной,—
Няма цяплей, радней марскога лона,
Які б там гнеў ні строіла яно.
І ведай, як бы ты ні прагнула адрынуць
І як бы ні была ты халадней ільда,—
Сальёмся мы з табой у вечным і адзіным,
Крыштальная вада і сіняя вада.

* * *

Прыпадзі да мяне, прыпадзі,
Як да глебы сухой вада,
Быццам яшчарка да сцяны,
Быццам ластаўка да гнязда,
Быццам горны алень Яйлы
Да яе вясенніх лугоў,
Быццам цяжкае грона шаслы
Да разнога ліста свайго.
І цябе я так абаўю,
Каб не ведала іншых зліў,
Іншых гнёздаў, кветак і дрэў,
Іншых лозаў і іншай зямлі.

## КІПАРЫСАВЫЯ ЖАРЦІКІ

Бяроз няма. Адны кіпарысы:
Быццам хвасты наставілі лісы,
Лісы зялёныя, незвычайныя,
Ў горад зайшлі, такія адчайныя.
І ты са мною зусім як лісіца,
Смех на беленькіх зубках іскрыцца.
Смех такі, што кідае ў дрыжыкі.
Лісіца. Толькі звычайная. Рыжая.
Дурнога ваўка да ільду прымарозіла,
Ды толькі й чакаеш, каб кінуцца ў лозы,
Навесці зялёных братоў-кіпарысаў,
Зялёных лісаў, зялёных лісаў,
Наставіўшы хвост, смяяцца з нябогі,
Якому сястра наставіла рогі.

* * *

Я чакаў цябе тысячы год,
І ўрэшце прыйшла ты, прыйшла...
А ў вачах тваіх — холад і лёд,
А сэрца твае — скала.

Неласкавая ты са мной,
Як зімовага мора валы,
Як пілы скал пада мной
І як снег на схілах Яйлы.
І калі я цалую цябе —
Так сціскаеш ты гожы свой рот,
Быццам я катую цябе,
Быццам я — канец і сыход.
Растаплю я твае снягі,
А іначай — лёс, як свінец,
Сконы радасці і тугі,
І канец. Сапраўды... канец.

* * *

Мора гранітныя хвалі,
Ад ветру чырвоныя людзі,
І ты, што мяне кахала
І болей кахаць не будзеш.
Даўнія вежы суровыя
З сухім палыном і ўзлётам,
Сатканыя з нашай любові,
Са скалаў, тугі і журботы.
Якая бязглуздая сіла
Якім акрываўленым раннем
Грані ў іх разбурыла
Разам з нашым каханнем?
А я застаюся, як з богам,
Навекі, навекі закуты
Ў твае пяшчотныя ногі,
Ў гняздо маё, месу, пакуту.
І я ўспамінаю, як кляты,
Скалы колеру перца,
Вуснаў тваіх гранаты,
Сэрца біццё пад сэрцам,
На скуры кропляў каралі,
Ад сонца медныя грудзі...
Кахала мяне ты, кахала...
Не будзеш, не будзеш, не будзеш.

* * *

І бывай. Не трэба шкадаванняў.
Што мне ў іх, калі, на боль і зло,
Свеціць з неба мне тваё каханне,
Быццам месяц, не сваім святлом.
Рукі твае — сонечныя соты,
Але што заменіць дабрыню?
Што мне ў сонцы — без яго пяшчоты?
Што мне ў любых вуснах — без агню?

* * *

Са стэпавымі вятрамі,
З сухою спявучай травой —
Пайшла. І сэрца начамі
Нясцерпна плача крывёй.
Па той, з душою як камень,
Па той, забытай, другой.

Няхай. Ўсё было: і вецер,
І скалы, і караблі,
І мы кахалі, як дзеці,
І мы сапраўды жылі
Пад сонцам гэтага свету,
Ў шалёным бэзавым свеце,
На самым краі зямлі.

## КІНААСЛЫ

Пад стромай эфемерныя кварталы,
Б'е ў дыхту сценак вецер-дрэвачос.
Па вузкіх сцежках, зарасцях і скалах
Я еду на асле, нібы Хрыстос.
І на шырокіх ветраных палянах,
Дзе адступаюць дубнякі і глог,

Махаюць лаўры мне галлём «асанну»...
Ну, хло-опцы, сорам!.. Ну за што, дальбог?
За гэты горад?.. То не горад — гора...
Ўся гэта фальш з павапленай сцяной
І я, што дурам на асла успёрся,—
Ўсё гэта называецца — кіно.
І помніце, што маскі і катурны
Не ўсё ў жыцці,— паверце мне, не ўсё,—
А на аслах часцей бывалі дурні,
І не адзнака для Хрыста — асёл,
Нашто «асанну» ліць бяззменнай хваляй?
Глядзіце лепш, як на мяжы імглы
Над безданню вячэрняй, над правалам
Па сцежцы едуць два кінааслы.

## ШАЙТАН-МЯРДВЕНЬ

Чортавы сходы, Шайтан-Мярдвень,
Вымерлых таўраў спаруда.
Ледзьве ляплюся... Ой, справы дрэнь!..
Людзі! Ратуйце, людзі!
Ў сажань прыступкі. Зараз бы мул,
Асёл або хто заўгодна,—
Я б ухапіўся за хвост яму,
Нібы за маму родную.
Тытанаў шлях паўтарыць захацеў —
Ляцець, як арол, над абвалам...
Арол, ён ляціць, а вось ты каб зляцеў?
Чорт занёс цябе ў гэтыя скалы!!!
Строма — семдзесят градусаў. Ў прорве цень.
І з-пад ног туды камні прамуюць.
Кляты, чортаў Шайтан-Мярдвень!
Каго хочаш на морд замардуе.
Вецер і сцюжа ў кішках аж да дна.
Сцяна, і канца ёй не будзе.
Дамоў бы зараз, ды шклянку віна...
Людзі!
Ратуйце, людзі!

## ТАЎРЫ

*В. Б. В-ч*

Таўры жылі, як і ўсе народы:
Ваявалі,
Кахалі,
Гарэлку пілі.
Мудравалі,
Зліваліся з маці-прыродай...
Насваволілі,
Навершавалі,
Пайшлі.
Але так,
Без слядоў,
Нішто не знікае.
І дасюль,
Па абшарах сваёй стараны,
Між людзей,
Непазнаныя, таўры блукаюць
І не ведаюць самі,
А хто яны?
На муры, што нязнанымі продкамі ўзведзены,
Пазіраюць, як козы на новы плот:
«Ані д'ябла пра вас мы, браточкі, не ведаем.
Што вас несла у горы?
Унізе ж — цяпло!»
Дрэмле Кошка-гара,
Дрэмлюць таўраў руіны.
Я стаю і ўяўляю,
Што я не ізгой,
Не паэт з беларускіх узгоркаў сініх,
А апошні таўр
Народа свайго.
О, якая ганебнасць у гэтых згадках!
О, які атрутны бяспамятства дым!..
Крый нас божа, калі і на нас
Нашчадкі
Паглядзяць,
Як мы
На таўраў
Глядзім.

## ПЕСНЯ МЕХМЕТА

Ўсё набегі, войны, пажары.
Ўсё наперад — ханскі загад.
Не было такога абшару,
Дзе не стала б наша нага.
Хан сказаў! Іначай — магіла.
І вялі мы няшчасны палон,
І чужыя аулы палілі
На вуголле, на попел, на тло.
Мы забылі сябе і бога,
Разлілі акіяны зла.
Не хацеў я крыўдзіць нікога,
Ды заложніцай — ты была.
І было мне адзінаю ўцехай
На няшчаснай чужой старане
Чуць твой голас — далёкае рэха,
Ведаць — ты чакаеш мяне.

Верыў, ведаў хвілінай кожнай,
Што калісь прыскачу ў Кок-Цюбе,
І, як меч спачывае ў ножнах,
Так і я адпачну ў табе.
Мёртва ў саклі... Хочаш — паслухай?
Толькі стогн мой ды храп каня.
Ханскі сын, шчанюк жаўтавухі,
Праязджаў... Убачыў... Адняў...
Як я мог не адчуць: ты скутая?
Не пачуць здалёк: ты ў бядзе?
І нашто былі нашы пакуты
І пакуты вакольных людзей?
Справядлівасць і вера стаптаныя!
Хай ў крыві пад васкрылляў звон —
Не на простых — на голаў хана
Цяжка рухне народаў праклён!

Голых, бедных, палонных, без хлеба...
Вось крычыць вязь на ножнах крывых:
«Не вымай без вялікай патрэбы,
Не хавай без вялікай крыві!»

І, жыццё за сабой адсякаючы,
З сілай кідаю ножны ў дрок,
І ў руках, як змяя крывая,

Ртуццю ззяе стары мой клінок.
Сцеражыся, палац бязбожны.
Я іду. І праўда — мой шчыт.
Што мне гэты клінок без ножнаў?
Не схаваеш — то трэба сячы!

## ЧУФУТ-КАЛЕ

Быццам толькі што вось адбылася Галгофа.
Свет трывожна заціх у барвянай імгле,
І зрываюцца ў бездань, у катастрофу
Нашы сэрцы: маё і Чуфут-Кале.
Абрываюцца сэрцы, схілы, тэрасы,
І спакой паўстае чыгуннай сцяной.
Быццам толькі што вось яна адбылася...
Быццам толькі што вось... А над кім — ўсё адно.
Над любым, хто ўзяты сілком ад свабоды,
Хто ўтаптаны атамам ў попел і глей,
Над маім народам, над іншым народам,
Над тваім народам, Чуфут-Кале.
Не зямля, а біблія: скалы, каменні,
Каляіны ў скале і руінаў іржа.
Не хапае толькі авечых ценяў,
Не хапае заранкі, узгорка, крыжа.
Але столькі ва ўсім самоты і гора,
І, ў спакоі забытых, боляў і скрух,
Нібы ў дворыках гэтых, малельнях, пячорах
Ўсё канае і ўмерці не можа дух.
А за мурам шляхі ў безнадзейнасць, ў даліну
І даўно струхлелых павозак сляды...
І ідзе, ўсё ідзе па плато Магдаліна.
Невядома куды.
Ў нікуды.
Ў нікуды.

# МАЎЗАЛЕЙ ДЖАНІКЕ-ХАНУМ

Маці хана і жонка хана,
Кветка шчасця, пагоншчыца зла,
Я была бязмерна каханай
І бязмерна грознай была.
Паўтаралі імя маё крыкам
Нават кінутыя са скал.
Я жаданай была і вялікай,
Як вада Алаха ў пясках.
Я рабыняй была і законам,
І абраным дарыў зару
Невымоўны рай майго ўлоння
І пяшчота вуснаў і рук.
І анёл мне ў дзверы пастукаў.
І спакой. Да сканчэння год.
Дзе яны, мае цёплыя рукі?
Дзе падданыя? Племя? Род?
Белы камень мёртвых кварталаў,
Раз на месяц — казіны крок,
Сон муроў, кенасы і скалы,
Раніц сінь, барва дня, ночы змрок.
Над бяздоннем пячоры-магілы
Сотні вокнаў глядзяць у прастор,
І ламае час свае крылы
Ля магільні на мёртвым плато.
Мела час падумаць пра гэта...
Што такое багацця гной,
Ўлада ўся, ўсё золата свету
Перад простай людской цеплынёй?
Што такое нянавісць у сэрцы,
Кроў, падкопы, людзі-багі
Перад простай ісцінай смерці,
Перад вечнай спякотай магіл?!
Непатрэбная чэрапу ўлада,
Непатрэбнае золата тло.
І ніхто не скажа: «Ты — радасць».
І не крыкне ў адчаі: «Ты — зло!»
Толькі зрэдку, ў начную спякоту,
У асенні чарнільны сум
Чую з прорвы словы пяшчоты:
«Джаніке! Джаніке-ханум!»
Ціхі кліч у мёртвых кварталах,

Цень імя, што ў далёкіх вяках
Трапятанне і страсць выклікала.
Больш нічога...
Як мала...
Алах...

## НАРАКАННІ НАСРЭДЗІНА АХМЕТ-АХА ЭФЕНДЗІ[1]

Чым дапікнуў табе стары мула?
За што, алах, караеш і караеш?
У Бухары і ў Басры мора зла,
І пекла ў Мерве і ў Бахчысараі.
Ніхто прыўзняць не хоча галавы,
Ў былых садах пануе запусценне.
Па ўсёй зямлі — ад Хіны да Хівы
Пануе зло без літасці й сумлення.
Нашто мне вочы есць айчыны дым?
Чаму да скону суджана нябогу
Не студню бачыць, што патрэбна ўсім,
А мінарэт, нацэлены у бога?!.
Вакол мяне душыцеляў гайня.
Каранам б'юць па чалавечых марах,
А ў кожнай суры — нізкая хлусня...
І нізасць рабская у кожным твары.
Цалуюць ногі, хоць ты іх пілуй,
Гнілым мулам і хцівым царадворцам,
Ліслівяць, хлусяць, льюць аслам хвалу,
Гной ішака ўсхваляюць светлым сонцам.
А, што ўжо там: на ўсіх вісіць ярмо.
Па ўсёй зямлі адна і тая ж пошасць.
Зусім аднолькава смярдзіць дзярмо
Ў раба й султана, ў гяўра і святошы.
Каго мне джаліць і каго караць?
Каго ўратуе шлях пакутны ў Мекку,

[1] Насрэдзін Ахмет-Аха эфендзі — вандроўны цюркскі філосаф XVII ст. Выкрывальнік раскошы і распусты. Стаў фальклорным героем турэцкіх і татарскіх казак пад імем Ахмет-Ахая.

Калі на ўвесь народ, на ўвесь мой край
Ці два, ці тры з найменнем Чалавека?
Што горды здзек, што вольнай песні ўзлёт
Для чарады, чый лёс — бізун агідны.
Як мне далей любіць такі народ?..
Няшчасны мой...
Ўлюбёны...
Ненавідны...

## БРАТЫ ПА НЯШЧАСЦЮ

Ай, Аю-даг, што ж ты робіш з морам?
Вырашыў выпіць да дна, шалёны?
Кінь, набухторышся толькі з гора
І не нап'ешся, бо мора — салёнае.

Кінь тую п'янку, бо ўрэжаш дуба
Або з пахмелу захочаш павесіцца:
Чоўн, у якім уцякла твая любая,
Вельмі далёка, ля чоўніка месяца.

Лепей давай я віна дастану,
І пад кефаль мы дамо яму рады,
Вып'ем за вусны маёй каханай
І за тваю, што падступна здрадзіла.

## РАМАНС АБ РАССТРАЛЯНЫМ КАХАННІ

Ах, якое грознае гора!
Ах, якая журба ў світанні:
На вачах у нябёсаў чорных
На расстрэл адводзяць каханне.

І міндаль палыхае, як лава,
І персікаў белыя крылы,

Як каханню бялюткі саван,
Як вянок на яго магілу.

А яно адыходзіць, праклятае,
А яно нават жыць не хоча...
Сябры, затрымайце катаў,
Сяброўкі, закрыйце ім вочы.

Прыйдзе, можа, часіна злая,
Калі згасне крывавы месяц,
І, магчыма, мяне расстраляюць,
І, магчыма, мяне павесяць.

Але я й на пласе прыпомню:
Ў небе ранішнім — водсвет лёду,
Ў тумане — кіпарысы цёмныя.
А цябе... адводзяць... адводзяць...

Пад апошнімі цьмянымі зорамі
Труп кахання, як труп каханай...
Ах, якое бязмежнае гора!
Якая крывавая рана!

## УСХОДНІЯ ПЕСНІ

### I

Нібы ў дождж, што смагу скал і пяскоў
Разам з сонцам змог напаіць,—
Расцвітаюць чорныя ружы саскоў
Пад дажджом пацалункаў шалёных маіх,
Пад сонцам вуснаў маіх.
Ты не будзеш, не будзеш давеку маёй,
Прынамсі, на гэтай смяглай зямлі...
Але ж сведкаю неба...
Ружы цвілі...
Але сведкай алах,
што ружы цвілі...

Боль і горыч мой: ружы цвілі... цвілі...
Чорныя ружы цвілі.

II

І сонца,
І дзень,
І паўночны цень,
І раніца ў сумнай журбе...
Гады сплываюць,
І дні лятуць,
А я ўсё шукаю цябе.
Без каня і асла,
Без глытка вады
Я іду па міжгор'ях сухіх
І часам цалую твае сляды
І зноўку губляю іх.
Дзе тая крыніца, каля якой
Пераседзела поўдня пажар,
Дзе той горны дуб,
Што лістотай сваёй
Зацяняў ад сонца твой твар?
Што мне дзюба грыфа,
Джала змяі,
Аднарога смяротны рог?!
Я ў барса спытаю,
Сцежкай якой
Можна ўпасці да любых ног.
Не знікай!
Злітуйся!
Над зямлёй
Таеш ты, як над сакляй дым.
І ўсё ж каханне са мной, са мной,
Як Яйла, Чатырдаг і мора — са мной!
І ўсё ж каханне са мной...
У сэрцы маім.

## ФАНТАН СЛЁЗ

Капаюць слёзы, слёзы, слёзы, слёзы,
Капаюць слёзы зусім як калісь, калісь, калісь,
Нібы ўспаміны аб сонцы, аб танцы вясеннім
бярозавым
І аб навекі далёкай зямлі, зямлі, зямлі.

Дзікі налёт і гадзюка аркана. О божа наш мілы!
Дай нам радзіму, бо сэрцы аб ёй толькі б'юць,
Дай нам, глухі, лебядзіныя белыя крылы,
Каб даляцець на старонку, старонку, старонку сваю.
Плачам за краем, нібыта за страчаным раем,
Тужым па лепшай на свеце сваёй старане
Ў гэтым тужлівым, пустынным Бахчысараі,
Ў гэтай цясніне, дзе божаму свету канец.
Выйсце? Іх два. І абое замкамі замкнёны:
Злева — пустэчы, дзе косткам бязрадасна тлець,
Справа — гняздо караімаў і пракажоных,
Горад ізгояў, пячорны Чуфут-Кале.
Дзе вы, далёкі наш Нёман, Дняпро, Белавежа?
Клетка і скалы вакол, і нябёсы дзярэ мінарэт.
Хана пяшчота праклятая, еўнуха вежа,
Чахлы садок, і фантан, і гарэм, гарэм, гарэм.
Змоўч на хвіліну.
Не плюскай...
Молім...
Не плюскай...
Падае кропля і ціха, так ціха звініць,
Быццам расінкі вясёлак з дубоў беларускіх
Ў срэбныя чашы лясных беларускіх крыніц.

## ШТЫЛЬ

Якая прыгажосць! — Самкнёны веі.
Якая цішыня! — Вады не чуць...
І ветразі абвіслыя на рэях,
Нібыта ў сне, не дрогнуць, не дыхнуць.
Паміж нябеснай і марскою смагай
Над караблём, што да змярцвення звык,
Арол на мёртвых рэбрах Аю-дага,
Як джала, сонцу высунуў язык.
Праплысці б рэкамі радзімы ранняй,
Пачуць хаця б на міг прызыўны звон:
Радзімы кліч, кліч буры, кліч кахання,
Якім чужыя штыль, спакой і скон.

## СЭРЦА ГАРЫ

Між скалаў вугальна-чорных
Ля вогнішча мару адзін,
І мыс што спусціўся ў мора,—
Вастраносы, пачварны дэльфін.
Мора цьмянае, мора шырокае,
Ціха хлюпае хлопчык-прыбой,
І зорка, як вышняе вока,
Сочыць з вышынь за мной.
І ў душы маёй сум і радасць.
Я — у ракавіне скалы,
Быццам маг на вялізнай эстрадзе
Перад тварам ночы і мглы.
І, як гэта належыць магу,
Чарадзействую я ля агню,
Спяваю гімн Карадагу
І яго неспакойнаму сну.
Ты змагаўся з небам без жаху.
Сек нябесны цябе ятаган,
І расколіна Гяур-Баха,
Быццам шнар на табе, тытан.
Спіш? Не веру. Пагрозным валам
Ты ўзмятнуўся над злым і гнілым.
Часам гул: шматтонныя скалы...
Толькі кроплі... А што, як валы?..
Мы падобныя. Радасна, мусіць,
Лаву-кроў да кроплі праліць
Дзеля роднай маёй Беларусі,
Дзеля ўсіх народаў зямлі.
Душыць змрок, і густа і глуха,
І ў чаканні далёкай зары
Я, прыпаўшы да каменя вухам,
Чуйна слухаю сэрца гары.

## НА РОДНАЙ МАГІЛЕ

Тыя цёмныя цісы і цёмныя кіпарысы,
Тыя зарасці лаўраў і леташняй ссохлай травы,
І туманныя горы з Яйлою, марознай і лысай,

Над якімі ўсё цягнуць і цягнуць у родны наш край
журавы,
Тыя, белыя з ярасці, тыя гуллівыя рэкі,
Хмар чароды, што снежнай вадой набіваюць валлё,—
Не забуду я іх, не забуду ніколі, давеку,
Не забуду, як ты, што засыпаны крымскай зямлёй.
І прабач за пралескі. Табе б васількі і рамонкі,
Але доўга яшчэ не цвісці ім на нашых палях.
Там вада памярцвела гайдаецца ў чорных палонках,
Там зіма, там на схілах адных і растала зямля.
Я скажу табе тое, чаго не сказаў бы я людзям,
Пастаю тут з гадзіну з апушчанай галавой,
А пасля... Што пасля?.. Суцяшэння няма і не будзе:
Я вярнуся дадому, а ты — да самоты сваёй.
Не сумуй, што далёка твой край і зялёны і сіні,
Што пралётныя жоравы граюць на весняй трубе:
Я хацеў бы і скону, і смерці ў далёкай чужыне,
Толькі б вочы юнацтва любілі мяне, як цябе.
Гэта дзіўна, што мёртвым часамі зайздросцяць
жывыя,
Тым, што песцілі парасткі, нішчылі ламаўё...
Хай канец, хай атлантаў цяжар на маю
несагнутую выю,
Толькі б вечнае шчасце каханай старонцы маёй.

## САПЕРНІЦА

*(Супакоены ўспамін праз трыццаць год)*

Зноў у старасці будзе Таўрыда. Але ў сэрцы спакой
скамянее,
І прыпомню без болю словы пяшчотнай і дарагой:
— Што ў цябе часамі, каханы, так вільготна
вочы сінеюць?
Ты кагосьці недзе пакінуў? Ты часамі сумуеш па ёй?
Ветрык нячутны з мора. Цішыня рытмічна ракоча,
У вільготнай пахучай цемры магнолій белы падман.
— У яе, напэўна, мой любы, глыбокія сінія вочы?
— Так (і Свіцязь успомніў), чысцейшых
і глыбшых няма.
Рука на грудзях высокіх. Плыве ў нязнанае ложак.

Цёмных вачніц таямніца, і голас — журботны ўздых:
— Яна, мой апошні, напэўна, вельмі-вельмі прыгожая?

— Так (і Нёман успомніў). Яна прыгажэй за ўсіх.
На горных вяршынях пад ветрам, дубоў вясёлыя гульні,

Мора прыбой блакітны, бэзавы скал прыбой.
— Што? Памёрла? Ці, можа, здрадзіла?
Не было ў вас мовы агульнай?

— Так, была калісьці маёю, так, не хоча быці маёй.

* * *

Ўсё мінула. Тады ж мінула... Па-ранейшаму неба сіняе,

Але нашу ростань апошнюю ўкрыў няўмольнага часу дым.

Не хацела дзяліць кахання з другой, з вялікай жанчынай,

Хай сабе ў той час і нялюбай, хай сабе заручонай з другім.

Ўсё жыццё абрыкосы квеценню дарэмна твой след замяталі...

Не вынесла ценю ўспамінаў і начнога дрыжання вей,
Бо да скону жадала мяне, бо, як сонца, мяне кахала,
Бо любоў мая пралівалася —
Хай часамі —
Тугою з вачэй.

## ПАДМОГІ!

Хай заб'юся — не збочу з дарогі.
Аб граніт падковы звіняць.
На ўнамёт распластаныя ногі
Пена падае з храпы каня.
З не майго, з непатрэбнага раю
Ў родны край, дзе змагаўся, дзе быў,
Я імчуся, бо там адбіраюць
Ўсё святое, што знаў і любіў.
Цераз бурыя гораў цясніны,
Дзе ваўчыныя крочаць агні,—
На палынны стэп, на раўніну,

Дзе вось-вось закрычыць цягнік.
Загалосіць, заплача ў трывозе,
Пабяжыць да забытых дубоў,
Бо цябе ў белы свет завозяць.
Бо сказалі: забыў я любоў.
О, не вер! Хай агонь не згасае!
Азары ім дарогу мячу!
Я з табой! Ты мой боль! Я кахаю!
Меч са мной! Я скачу. Я скачу,
Ўспамінаючы песню былога,
Як песню сённяшніх дзён:
«Каханне на ложку ў другога...
Рві жылы, мой белы конь».

## ТАЎРЫДЗЕ

Тут мяне, бы ўвесь сусвет, кахалі,
А пасля ў нябыт руін звялі...
Што ж забыў я ў гэтых голых скалах?
Што рабіць мне на тваёй зямлі?
Але ўсё ж за шнары новых ранаў,
За прыбой марскі ў начной журбе,
За пяшчоту, здраду і адданасць
Я, Таўрыда, дзякую табе.
Апускаю зноў сваё забрала...
Вечнай будзь... Мінай цябе канец
За любоў,
што ты ў мяне забрала,
За любоў,
што ты вярнула мне.

# ВЯРТАННЕ



## НА ПАЧАТАК «КАЛАСОЎ ПАД СЯРПОМ ТВАІМ...»

Шчаслівы паўнатою сталай сілы.
Спакойнае натхненне гоніць сон.
Далёка ад мяне калыска і магіла,
І слабасць дзён вясны,
і мудрасць зімніх дзён.

Дні, як вякі, амаль не маюць меры,
І сіла ў рукі просіцца мае.
Пры новым дрэве я паклаў сякеру,
Каб на світанні ў рукі ўзяць яе.

Хай шлях даўгі ты не дасі мне, доля,
Зрабіўшы ўсё і дзён спыніўшы бег,
Спакойна потым лягу я, як поле,
Пад чысты і халодны зімні снег.

## МУЖНЫЯ МЯТЛУШКІ

Дождж.
І ў дажджы гэтым пух таполяў,
Ветрам узняты з зямлі і з дрэў,—
Ўгору ўзлятае з чорнага долу
Пад безупынны грымотаў напеў.

Сэрцу здаецца: праз хмарныя патлы,
Праз бліскавіцы, што б'юць у крыло,
Не хлапякі, а белыя мятлушкі,
Мужныя мятлушкі цягнуць на ўзлёт

Мужны народ у прыцемку чорным,
Белы народ, што не хоча змаўчаць,
Смела ірвецца ўгору і ўгору,
Проста насустрач пагрозным мячам.

* * *

*Міхасю Стральцову*

Ўсё, што было, і ўсё, што часам сніцца,
Забуду ў лесе, дзе як той капёж,
Як споры дождзжык, аблятае гліца,
І шум яе парывісты, як дождж.

Зноў бранзавеюць шышкі на ялінах,
Зноў восень на бярэзніках ляжыць...
Сястра мая бяздольная, асіна,
Апошняю лістотай не дрыжы.

Лістоты мала, але трэба верыць
Ў жыццё, ў каханне і ў вясны піры,
Пачуўшы нават мерны гук сякеры
У пасівелым восеньскім бары.

* * *

*Уладзіміру Лучуку*

Падымаюць жоўтыя галовы
Над вадой гарлачыкі ў Падкове —
Стараэчышчы маёй ракі.
Вечар спаць рыхтуецца у дрэвах.

Тысячамі ходзяць на сугрэве
Мацiцова-сінія малькі.
Кветкі, памаліцеся, з прадонняў
Працягнуўшы жоўтыя далоні.
Бачыце, над плынямі Дняпра,
Поўнае пяшчотнай дабрынёю,
Сонца павісае над вадою:
Ўсіх гарлачыкаў старэйшы брат.
І, як той гарлачык над вірамі,
Човен мой дрыжыць у цэнтры храма,
І бягуць палосы на лазе:
Светлыя адбіткі на зялёным.
Ў час, калі аддзячаць мне праклёнам,
Не ўпаду, згадаўшы гэты дзень.

## ЧУРЛЁНІС

*В. І. Бараўскене*

Як цябе засланіць небывалаю марай,
Як цябе зберагчы у змаганні са злом,
Ты, Зямля, ты, сівы адуванчыка шарык
Пад савіным павевам, пад няўмольным крылом?
Не дрыжы, не дрыжы, калі ласка, Зямля мая,
Бо навекі рассеешся ў цемру вякоў,
Абляціш ад атаму, ўспышак рэкламы,
Ад прадажнага ляску друкарскіх станкоў,
Ад таго, што без ведання зла і нягоды,
Як туман, абыякавы да ўсяго,
Як азійская лава, праплываюць народы,
Абмінаючы ногі раўнадушных багоў.
Вось, вось-вось, як ахвяру сонцу памерламу,
Нібы ў згаслую печку засунуць труну...
Ўсё далей хаўтурных паходняў перлы,
Ўсё бліжэй да вечнага змроку і сну.
І як толькі каханне памрэ няшчаснае,
Скінуць гукі і колеры пад адхон,—
Ў канчатковым сконе прасторы і часу,
Павуціннем аблытаны, спыніцца звон.
Ў панаванні цямноцця й хаосу гэтага,

Без марэй, без усмешак, без сонца-ліста,
Я ўздымаю далоні над светам без свету
І ўзглашаю яму:
«Светаносны, паўстань!»
Не хачу! —
І ўздымаюцца колеры ніцыя.
Заклінаю! —
І вось над бязмежжам зямлі,
Над празрыстымі, быццам лістота, званіцамі
Ў звонкім небе, як хмаркі, лятуць караблі.
Мір усім! —
І спыняюцца страшныя воды,
І — хвіліну назад смертаносна руды —
Акіян жыцця, затаіўшы подых,
Адуванчык пільнуе на кромцы вады.
Будзе так! —
І зарука ў сонцы і зорах,
У любові і мужнасці, ў дні і ў начы,
Ў сініх стронгавых замках — літоўскіх азёрах —
І ў бяздонных зяніцах літоўскіх жанчын.

## БАЛАДА ПРА СЫНОЎ ПІТАКОСА

Арфей сканаў на змярканні,
Аддаўшы песні марам,
А ліру яго лесбіяне
Ўзялі і паклалі ў храм.
У капішчы Пасейдона
Між сонцам і золатам хваль
Паснулі навек між калонамі,
Знямелыя, шчасце і жаль.
Нямыя струны не знали,
Што іхняй журбы сляза
Тыграў калісь прымушала
Ногі ў песні лізаць.
Што ў свет падземны, агідны
Песню прынёс Арфей
І вытаргнуў душы з Аіда,
Слёзы — з Плутонавых вей.

Што Цэрбер з трыма галавамі
Выраніў шэсць слязін,
Цэрбер, няўмольны, як камень,
Цэрбер, лютасці сын...
Сцякалі па струнах росы —
Слёзы душ, багоў і людзей...
І сын жраца Пітакоса
Прагна на ліру глядзеў.
Бо возьмеш яе — і ад бога
Сам станеш прарок і бог,
І тыгры абліжуць ногі,
І схіліцца свет да ног.
Нібы перад ангельскім клірам,
Галовы схіляць звяры...
І ўкраў ён з капішча ліру,
І ў лес уцёк на зары.
Нацяўшы срэбныя струны,
Лаўры паклаўшы ля ног,
Пачаў ён плесці карункі
Эпіліяў, од і эклог.
Пачуўшы Арфея ліру,
Прагнучы дзіўнай ігры,
З Атыкі, Спарты, Эпіра
На Лесбас плылі звяры.
Ліліся, схіліўшы галовы
І пашчы схаваўшы ў траве,—
Трагічна зламіўшы бровы,
Граў для іх чалавек.
Ў экстазе хмельным, прарочым
Вяшчаў ён волю багоў,
Спяваў, закаціўшы вочы,
І тыгры... з'елі яго.

. . . . . . . . . . .

Павольна мяняюцца людзі:
Бывае і сёння, што зноў
Сыны Пітакоса судзяць
Арфея слаўных сыноў.
І вы меркавалі, напэўна,
Што крыкам аглушыце свет,
Што вас пакахаюць царэўны
За ваш казліны фальцэт,
Што досыць адняць у нас пер'і,
Каб ахнуў захоплена час,

Што досыць купіць паперу
Таго ж гатунку, што ў нас.
Купляйце... Хопіць чырвонцаў...
Не хопіць — абчысціце храм...
А дзе ж вы купіце сонца,
Што ўсё-ткі належыць нам?
А хто вам падорыць, цвярозым,
Лобныя мукі начэй,
А дзе вы купіце слёзы
З Цэрберавых вачэй?
Прыйдуць адплатай за ўцехі,
За ваш нікчэмны спакой
Звяры забыцця і смеху,
Звяры пагарды людской.
Нашчадкі Арфея, досыць!
Не вам ісці на крадзёж.
Не трэба жрацам зайздросціць.
Вам дрэнна будзе — і ўсё ж
За грозную літасць лёсу,
За змей, што нас абплялі,
За шчасце не быць Пітакосам —
Цалуйце ногі зямлі.

## КОРЧМЫ

Дарогі... Корчмы... Ліра за спіною...
Ў гадах Хрыстовых — бедным шкаляром...
Заспее ноч, заспее дзень слатою —
Паўсюль мне стол, любоў, цяпло і дом.
У торбе за спіной — пяшчоты словы,
Для песняў клетка, соль, тытунь, цацні,
Кашуля, нож і вышыты, суровы,
Нескарыстаны за гады ручнік.
І горкіх жартаў поўныя кішэні
Замест манет. Хто хоча — той бяры.
А ўцерціся дадуць у кожных сенях,
А не дадуць — абсохну на вятры.
На кожным дрэве — дамавіты свепет,
А я — па людзях мёд разношу свой.
Палі, лясы з няроўным сілуэтам
І крумкачыны грай над галавой.

Пярун злуецца на мае справункі.
Дзьме ў грудзі мне раз'ятраны Пахвіст,
А я нясу на веях — пацалункі,
Ў расколе вуснаў — салаўіны свіст.
Адбітая у зрэнках, бы ў палонцы,
Зямля мая ўстае перада мной,
Высокая і чыстая, як сонца.
Чысцейшая, бо плям няма на ёй,
Бязлітасная, добрая, святая,
Ўся зведаная, як дзядоў палі,
І кожны дзень нязнаная, як тая,
Што не суседзі, а багі далі.
Па ёй іду ад самага світання,
Рукамі гладжу глог і жаўтазель,
Каб кожны вечар за смугой барвянай
Убачыць грыб страхі і журавель.
І сесці пад страхой, што пахне дымам,
І песняю нягучнай ля агню
Аддзякаваць шматлікім гаспадыням
За горкі хмель і вуснаў дабрыню.
Ласкавыя, як жнівеньскае лета,
Адданыя, як спелыя палі,
Глядзяць, на руку ўспершыся, кабеты
І ўспамінаюць, што было калісь.
Трывожныя, няўтульныя, як сломкі,
Яны ў адрынах кудлы гладзяць мне...
Густыя сцежкі, частыя карчомкі
Па ўсёй сваёй азёрнай старане.
І што мне недзе за высокай брамай
Чырвоных, прагных вокан каламуць,
Што ў ноч глядзяць, і чамкаюць грыбамі,
І думаюць, што з часам праглынуць?
Што мне яны, калі, як дар адзіны
За тую песню, што нясу ў карчму,
Чырвоных, горкіх вуснаў арабіны
Мне свецяцца — не ведаю чаму.
Калі за простую прыпеўку тую
Ва ўсіх хацінах у маіх краях
Мяне, здаецца, песціць і цалуе
Уся зямля мая. Зямля мая.
Калі яна, Любоў, рукамі ломкімі
Ва ўсіх адрынах кудлы гладзіць мне.
Густыя сцежкі, частыя карчомкі
Па ўсёй маёй азёрнай старане.

## НАДЗЕЯ ЛІСТАПАДУ

Лістапад маё сэрца забіў, забіў,
Я іду ў зімовую бель,
Згубіўшы ўсё, што магчыма згубіць,
Акрым вечнай веры ў цябе.
Я веру, ты недзе жывеш, жывеш,
Ты таксама пакуль што спіш,
Да леснічоўкі глухой ідзеш
Або ў ззянні сафітаў стаіш.
Магчыма сярод чужынскіх снягоў,
Магчыма ў родных лугах,
Магчыма ў доме сябра майго,
Як дух яго ачага.
І спяшаюцца ногі ў зімовую бель
Насустрач вясне і ільду.
Я іду ў сваю восень шукаць цябе.
Здолею — значыць знайду.
Ты — заранкі апошняя паласа,
Ты — рабіна ў асенніх палях,
Вецер надзеі ў маіх валасах, -
Росы слёз на маіх нагах.
І мне нельга згубіць цябе.
Ў цемры вякоў
Атрымаць замест вуснаў жывых
Адчай Алімпа, дзе з вольных ваўкоў
Робяць дачных псоў вартавых.
Ў валасах маіх снежная восып руж,
У душы замест снежня — май.
Я знайду цябе, сонца, вазьму, забяру,
Бо мяне без цябе няма.
Ты чуеш? Я грозную песню вяду,
І лясы забываюць свой сон.
Я іду — ты чуеш мяне? — я іду,
Твой меч, твой пярун, твой агонь.
Я іду, каб навекі абняць твой стан,
Я іду, як шчасце і жах,
Закаханы ў цябе асенні буран
З пялёсткамі ў валасах.

## БЕЛАВЕЖСКІ АЛЕНЬ

*Ул. і З. Калеснікам*

За спакоем тваім сонца майскае радасна сочыць,
Над табою ў блакіце бязмежных лясоў палавень...
Дык чаму ж у тузе твае мудрыя сумныя вочы,
Белавежскі алень?
І адказваюць вочы, рахманыя, поўныя жалю:
— Як схаваць мне тугу, і пакорлівасць лёсу, і жах,
Калі тысячы год маіх продкаў падступна хапалі,
Калі сто пакаленняў канчалі жыццё на зубах?
Я ляжу ля кармушкі. Лагодны і радасны ранак
Сотні сонечных зайчыкаў сыпануў мне на бок.
Але сню я бязлітасны пошчак крывавых маланак
І — ў зеніце прыпынены — мой апошні скачок.
І ў вачах маіх, чорных персідскіх,
тужліва-бяздонных,
Ёсць вышэйшая мудрасць пяшчотных і ўпартых
істот,
Бо на гэтай няладнай зямлі мы ратуем ад вечнага
скону
І ўратуем наш добры, трывалы і моцны народ.
Ён ідзе да мяне і да друга, як сцішаны вецер,
Галаву падстаўляе, спадзяецца, што сэрца кране:
«Вы мяне не зачэпіце? Вы мяне зберажэце?
Пашкадуйце мяне!
Калі ласка...
Пашкадуйце мяне...»

## КАЛОЖА

*Дануце Бічэль*

Каложа, туга мая светлая!..
Ў чорны Нёман па чорным шкле
Сіняй кропляй спадае ракета,
Быццам зорка ў ціхі Бетлем.
Ў вокны цёмныя заглядае,
Ззяннем бледным шукае кутка,

Дзе хваіна ў грубцы страляе,
Дзе ў жанчыны дзіцё на руках.
Глянь, абраная. Гэта не ў Нёман,
Не ў цямноцце, не ў соне, не ў драмý —
Ў веліч падае зорка бяздомная,
Ў снег і ў сэрца сыну твайму.
І ў няпэўным хвілінным блакіце,
Ўся адзіная, ўся са святла,
З небам, з Нёмнам, з зямлёю злітая,
З сэрцам нашым — Каложа ўзрасла.
Трохі ў зелень, як пер'е качынае,
Трохі ў бэз і трохі ў гранат,
Уся — крышталь невыказна сіні,
Ўся — як край наш, як сон, як вясна.
Ўскінь далоні тонкія ўгору,
Сыну неба акрэслі шлях,
Каб навекі адбіліся зоры
У тваіх і дзіцячых вачах,
Каб ніколі перуны чужынныя
Не асмеліліся скасіць
Ні цябе, ні Каложы,
дзяўчыны
З ніў і пушчаў Беларусі.
І калі ўзнясе вас над светамі —
Прыгадайце ў вечным святле,
Як самотная зорка — ракета
Ціха падала ў цёмны Бетлем.

## БАГДАНОВІЧУ

Сцюжны час, бязмежна-суровы.
Спіць народ, нібы зерне ў раллі.
. . . . . . . . . . . .
Ты прыйшоў
І гарачым словам
Рунь узняў на роднай зямлі.
Ты сказаў нам:
«Унукі Скарыны,
Дзе ваш гонар, моц і краса?

Ёсць і ў вас, як у іншых, святыня.
Не давайце святыні псам!
Не давайце з яе глуміцца,
Бо праспіць яна ясну зару,
Бо святы ізумруд заімгліцца
У пярсцёнку тваім, Беларусь».
Ты устаў на лютую сечу,
Бітву вечную сонца і хмар,
Узваліўшы на юныя плечы
Святагораў народны цяжар.
І не вынеслі жылы напругі:
Знік ты, лебедзь, у хвалях сівых,
Сплыў крывёю, загінуў «за другі»,
За мяне, за вас і за ўсіх.
І застаўся ты ў нашых душах,
Хоць навекі знік у палях,
Вечна светлы і вечна дужы,
Вечна юны, як наша зямля.
Мы табой ганарымся — і плачам.
Мы нясём цябе ў сэрцы праз дым.

. . . . . . . . . . . .

Нізка голаў схіляю, юнача,
Перад вечным глаголам тваім.
Смела крочу цяпер у пяскі я
Перад светлай заветнай гарой,
Бо як ёсць у народа такія —
Не загіне давеку народ.

## ДЗЯДЗЬКАЎ КУБАК

Ён жыў у невялічкім гарадку,
Мой кроўны дзядзька, просты і вялікі,
Душэўны чалавек.
Яго душу
Узгадавалі старыкі і плаўні
Адвечнага, як Беларусь, Дняпра.
Што ведаў ён?.. А тое, што й суседзі:
Маленькі гарадок, заліты сонцам,

Крандáль у садзе, хвоі на адхонах
І ветразь, сіні ад паўночных зор.
Было ўсяго.
Звінела скрыпкай шчасце,
Але часцей, як шчупаку ў ярузе —
У яме, што Дняпро на паплавах
Пакінуў пасля повені,— ў адчаі
Даводзілася думаць аб паветры
І целам біцца аб траву і торф.
Ён, як вугор, не поўзаў па расе,
Быў сынам хваль дняпроўскіх,— і аднак
Ён выжыў, выжыў, вырасціў сыноў,
Збярог дом дзедзіч, напаіў сады,
Хлусіў для смеху, жартаваў, смяяўся
І працаваў, як глеба, як Дняпро.
Вайна пажэрла ўвесь набытак роду.
Застаўся дзядзьку толькі добры розум
Ды дзедаў срэбны кубак на дзве кварты.
Падымеш — хваля ходзіць... Вось і ўсё...
Дванаццаць год таму, зусім хлапчынай,
Якому ўсё на свеце зразумела,
Які вышэйшай думкі аб сабе,
Балбоча вершы, як індзейскі певень,
І пагарджае ўсім, акрым сябе,
Бацькоўскім домам і старой тапаляй,
Рыдлёўкай, гноем, садам і палямі,
Я пакідаў «навекі» родны дом.
Стаялі коні ўжо каля варот,
Быў вечар жніўеньскі, як колас, жоўты.
Лугі зарэчныя спявалі нешта
Далёка, невыразна — аб каханай,
Аб коніку і аб бялых падушках,
І гэта ўсё, напоенае сонцам,
Я з лёгкім-лёгкім сэрцам пакідаў.
«Бывай,— сказаў мне дзядзька,— толькі... ведай:
Нічога не магу табе пакінуць,
Вось толькі, мажа, даўні гэты кубак,
І сэрца, і асеннія палі...
Бывай, сынок, п'ю за пуховы шлях».
І ўзняў свой кубак з маладым і даўкім,
Дурным віном паўночных нашых лоз.
Даўно ўжо коні рушылі, і ганак
Паплыў, паплыў назад. І ўсё ставала меншым,
Бы ў дні дзяцінства, калі сон бярэ.

Але нясцерпна доўга, доўга, доўга
Быў бачны на верандзе сумны дзядзька,
Што піў, прыўзняўшы кубак напалову.
Гады мінулі. Шмат я разгубіў
І шмат я страціў на шляхах сваіх.
Сябры забылі. Вершы падманулі.
І ўсё часцей я ўспамінаў чамусьці
Лёт зімародка над ракой начною,
Бяссонныя шаломы курганоў,
Дубы часоў варажскіх у размывах
Пустынных берагоў. Лістоты шум.
Бязгучныя, крывавыя зарніцы
І неадольны кліч маёй зямлі...
О мой народ! Даруй дурному сыну,
Што кінуў дом бацькоў дзеля карыта,
З якога еў са свіннямі свой хлеб...
Я больш не мог. Я кінуў камяніцы.
О, як спяшаюцца ў дарогу ногі!
Які павольны бег у цягніка!
Як незваротна, бы з клепсідры рымскай,
Пясок сцякае з хісткіх колаў воза!
Вось дзядзькаў дом расце,
бы ў снах дзяцінства.

Спускаецца, як дараванне, вечар.
Хрушчы басяць пад клёнамі.
І мне
Раптоўна стала смешна... Стала смешна...
Здалося мне, што ціха вар'яцею:
На ганку ў глыбіні двара... На ганку,
Аплеценым, як сеццю, «панічамі»,
Стаяў у той жа самай позе дзядзька,
І хваля хвосткая хадзіла ў кубку,
І кубак у яго руцэ узнятай
Быў апарожнены амаль да дна.
Як быццам Сож змяшчаўся ў гэтым кубку,
Як быццам дна ў дзядзькі не было,
І ўсе дванаццаць гэтых цяжкіх год
Ён піў свой кубак за мяне, за іншых...
Ён піў, трывала ўсталяваўшы ногі,
Віно з паўночных, даўкіх нашых лоз,
Ужо старое, як сівыя ніці,
Што серабрылі галаву яго,—
Я да яго пайшоў хадой імклівай.
Я раптам зразумеў... Я зразумеў...

А ён, павольна апусціўшы чашу
І не здзівіўшыся майму з'яўленню,
Сказаў мне вельмі проста:
— Ты...
Вярнуўся...
І працягнуў мне кубак:
— Дапівай!

## НАШЫ БЯРОЗЫ

Танкі з крыжам ляцелі на лес празрысты.
Дым мяшаўся з зямлёю. Сцяліўся пажар.
Палала бярозка, танюткая, чыстая,
Без стогну,
Як Жанна д'Арк.
У дрэўцы, кволенькім, як мімоза,
Цякла зямлі маёй мужная кроў...
Я знаю, як гінуць нашы бярозы:
Без плачу.
Шапкі далоў!

## МАЛЕННЕ АБ ЧАШЫ

*М. Прашковічу*

Паплавок то спачне, то адплыне,
Свіцязь дрэмле ў зялёных гаях,
Нібы поўная чаша сіняя,
Малахітавая па краях.
Сонца нізкага спляснуты персік,
Пад вадою — стронгаў палі...
Чаша ўнізе і чаша ўверсе.
І — як мошка — я ў крышталі.
У чаўне на каленях тулюся.
Скача воддаль падзёнак сям'я
І канае з сонцам. І ў скрусе

З сонцам гасне душа мая,
І любоў да цябе, як мора,
Расцякаецца ў ціхай журбе
Ад Адама, што даў табе корань,
Да Адама, што ўславіў цябе.
Ад падзёнак у сінім дыме,
Ад апошняй былкі гарбоў —
Да пагодкаў тваіх, радзіма,
Дзесяцівяковых дубоў.
Беларусь мая, ты адзіная,
Перад кім на каленях стаю:
Мне, слузе твайму, цяжка загінуць,
Лёгка — жыць у славу тваю.
Лёгка з песняй глядзець у вочы,
Цяжка — кроўю расіць чараты...
Ўрэшце, як сабе ты захочаш,
Ўрэшце, як сабе вызначыш ты.
Калі прыйдзе на нівы нашы
Смерць з касою сваёю крывой —
Не мінай мяне гэтай вось чашай,
Што барвее заходняй крывёй.
Як магу я не йсці на пакуты
За цябе, за спакойны твой дым,
Я
Ўсяго толькі мошка,
Закутая
Ў светаносным бурштыне тваім?!.

* * *

*Міколу Грынчыку*

Па-над шчыраю Шчарай, над шчодраю Шчарай,
Па-над плыннню чырвонай і рыжай травой
Плачуць чорныя цені на фоне пажару,
Моляць кані аб кроплі вады дажджавой.
Майскі дзень, засынаючы, сніць аб світанні,
І ў цішы, чорным ценем на стужцы зары,
Моляць белыя, белыя, белыя кані,
Плачам думаюць з небам сябе памірыць.

І плыўкі нашы ў зарыва адплываюць,
І ў імгле, той, што скончыцца ўсё-такі днём,
Верыць можна ў зару і святло, што чакаюць
Нават там, за апошнім дубовым крыжом.
Можна верыць. А жыць? Як там жыці, о дружа,
Калі ведаць і там, што бяжыць збажына,
Што барвее на поплыве дзікая ружа,
Шчара плешча — без нас, кані плачуць — без нас?
Не! О не! Збыць анёльства і стаць чалавекам,
Доўга, цяжка пакутваць пакутай жывых,—
Толькі б майскай часінай давеку, давеку
Над вячэрняю Шчарай цвілі паплавы.
Сыты быў бы, здаецца, паветрам духмяным,
А п'яны — ад празрыстай расінкі адной,
І любіў бы, і вымаліў людзям і каням
Дараванне, світанне, любоў і спакой.

## ВІЛЬНЯ Ў ДОЖДЖ

Вільня ў дождж, як старая гравюра
у «Тэцы Віленьскай»:
Праз завесу дажджу — кожны дах у штрыхах,
як страха,
Крадуць даль туманы. Ўсё у звівах, нібы на паперы
вяленевай,
Ўсё з шматлікіх штрыхоў, ўсё ў касых характэрных
штрыхах.

Ўсё з дакладнай штрыхоўкі гравёра: завеса туману,
Пляма вежы, забытай у дождж на вяршыні гары,
І акрэслены контур званіцы вялікага Яна,
І, ля ног яго, пастка з цямноцця і цэглы — Муры.

Я не ведаю, дэман які над гравюрай пануе пахмура?
І чые гэта вочы халодныя ў віслых мяшках
Разглядаюць яе? І чыя гэта крэсліць крыжамі гравюру,
З жыл-вяровак, старэчая, злая, сухая рука?

## НЯВЕСЦЕ КАЛІНОЎСКАГА

Недзе поруч ляжалі дарогі,
Кліч кахання ляцеў ад ніў,
Але ён не кахаў нікога,
Бо занадта радзіму любіў.
Варты лепшага ў свеце кахання,
Рана скончыўшы мужны палёт,
Русы хлопец золкім світаннем
На высокі ўзышоў эшафот.
Плач людскі барабаны крыюць,
І ад пошчаку глухне зямля.
На высокую гордую шыю
Успаўзае змяёю пятля.
З плачам жоравы пралятаюць.
Курганы і магільны жвір,
Непалітая ніва святая,
Плач жанчын, эшафот і Сібір.
Нікні гожаю галавою,
Па нязнанай страце ўздыхай.
Дарагая, ты стала ўдавою,
Не пабачыўшы жаніха.
Вашы кветкі ў лугах завялі,
Месяц марна згарэў над ракой,
Ты чакала яго, а стала
І нявестай і жонкай чужой.
І чамусьці ў сэрцы, як рану,
Я нясу твой нязбыты лёс,
Не даруючы ўсім тыранам
Непралітых табою слёз.

## МЫ

О сусветнае, ўсёпераможнае маўчанне першай зямлі,
Калі выйшла яна з гарніла агню і пакуты,
Перайшла ад кіпення жыцця да імгнення сну і спакою,
Да імгнення.
Ў абдоймах прабыўшы ў агню
мільёны стагоддзяў,

Астывала ад іх, каб жыццё маўкліва зачаць.
О зямля пераможнай, бязмозглай і яраснай цягі,
Перамагаючай у змроку і выпарэннях,
Калі дзіка крычаць брантазаўры, звіваючыся між
хвашчамі
І дурманнымі папарацямі ліловай вадзе.
О зямля перамагаючай чалавечай пяшчоты,
Калі дойлід за смех Хатшэпсут з каменняў будуе
легенду,
Калі майстра мадон ад кахання ўмірае ў абдымках
каханай,
Калі я аддаю ўсе імгненні свае для яе.
Хто ж мы, маці-зямля?
Мы ўсе твае дзеці,
Мы нязменныя і, як ты, кожны час шматтварыя.
Мы з чакаючай гліны на родным полі,
маўклівай і туга ўпартай,
І з агню, што віруе пад ёю, з гнева і страсці,
І з пяшчоты, што дзіўна ляжыць у губах Неферціці.
Мы такія,
І будзем такімі — давеку.
Прабудзем —
Давеку.

* * *

Як сканаю — душа застанецца
Ў ззянні кожнай крынічнай слязы,
У аеру, што з ветрам сячэцца,
Ў срэбных хвалях дняпроўскай лазы,
Ў бадзяках, што мячамі суровымі
Кожны родны вартуюць пляцень,
У шыпшыне, што ля Загор'я
Ля старэнькай капліцы цвіце,
У азёрах паўночных і ў нетрах,
У чырвоным начлежным агні,
Ў пільным флюгеры, што пад ветрам
Над страхою ў каханай звініць.
І аднойчы, на золку бязлюдным,
Уздыхне яму ветрык: «Пара!» —
І павернецца ён, і разбудзіць

І дзяўчыну, і свет, і край.
Будзе сонца.
Пад неба ў блакіце
Дуб-Атлас падставіць плячо,—
І тады вы той флюгер разбіце
Справядлівым і новым мячом.
Досыць мне чуць трывогу начную,
І сачыць, і кружляць на шпілі:
Абцяжарваць памяць зямную —
Не найлепшае на зямлі.
Што да снежня вечнаму маю?
Ціха! Сплю! Да скančэння дзён
Сплю ва ўсім, што ты ёсць, дарагая!
Вечны ўзлёт табе!
Вечны мне сон.

## БЕЗГАЛОВАЯ ВЕНЕРА

Стаю ля яе ў задуменні
І голас пяшчотны чую:
«Прыйдзіце, мужчыны, ад зброі,—
Ўлонне маё сумуе.
Прыйдзіце, мужчыны, ад сечаў,
Ад турмаў, ад страт на світанні.
Адзінае ёсць на свеце:
Сумленне, братэрства, каханне».
І думаю я неадчэпна:
За што ж ты бяду спаткала?
За што галаву ты згубіла?
Якую праўду сказала?

## MEDUSA LUDOVISI Ў РЫМЕ

Спіць Эрынія. Ў грозных веях
Цень прароцтва вялікага лёг.
Помста спіць. Касмылёў змеі
У спакоі тояць скачок.

Спіць яна. Бяздумна і глуха.
Сны аб праўдзе і роўнасці сніць...
Ціхі гук:
Будзільнік над вухам
Папярэдзіў, што зазвініць.

## ЗЕМЛЯТРУС

Пад кайданамі гор акіяны гараць,
Там шалёная лава цячэ...
«Не душы мае грудзі, зямная кара!..
Я жывая яшчэ!
Чуеш? Мне абрыднуў каменны прыгон!
Чуеш? Чуеш? У тоўшчы зямной,
Ў нетрах гор уздыхае вялізны гонг
З мора Чорнае велічынёй».
Тут. Тут. Тут. І там. Там. Там
Гонг грыміць пад зямлёй,
Ракоча тамтам.
Чуйна вушкі наставіў насцярожаны трус.
Набліжаецца землятрус.
Лані горныя пакідаюць бары,
Захлынаюцца ў рэчках язі.
Вось... Вось-вось пакажа вяршыня гары
Небу першы крывавы язык.
Ўскалыхнула мора сваю тугу...
Глей узняўшы, як кроў, руды,
На дрыготкі бераг цунамі бягуць,
Хмарачосы з чыгуннай вады.
Чуеш? Вось... Чуеш? Вось! Вось! Вось!!!
Трэсне, зломіцца ў курчах зямная вось,
Нівы моршчацца, мнуцца, нібы абрус.
Землятрус!
Землятрус!
Землятрус!
Свет аглух ад архангельскай страшнай трубы.
Горы крычаць: «Ратуй!»
Ад штуршкоў пад падэшвы ўзлятаюць дубы,
Вежы замкаў у неба лятуць.
Вылятаюць з распяццяў, як кулі,цвікі,

І, гнілы уздымаючы пыл,
У крывавыя хмары лятуць мерцвякі
З праслаўленых хцівых магіл.
Чуеш? Вось... Чуеш? Вось! Вось! Вось!!!
Трэсне, зломіцца ў курчах зямная вось.
Разляціцца зямля, як пад доўбняй гарбуз.
Землятрус!
Землятрус!
Землятрус!
Бачыш? Бліскаўкі нараджае туман,
Нарастае, клубіцца імгла,—
Гэта лавай з адгор'яў цячэ гурма
Ў чорнай цемры і ў барве святла.
Іх самбрэра — як хмары над светам сляпых,
Іх мачэтэ — як грозны жах,
І маланкі над імі мігцяць, як сярпы,
А сярпы — як маланкі ў руках.
І зямля трасецца пад іхняй ступой.
Гора ж тым, хто, сляпы як крот,
Паспрабуе заціснуць рукою сваёй
Землятруса адверсты рот.

# БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДУ



* * *

Быў. Ёсць. Буду.
Таму, што заўжды, як пракляты,
Жыву бяздоннай трывогай,
Таму, што сэрца маё распята
За ўсе мільярды двухногіх.

За ўсіх, хто ўздымае цяжкія разоры,
Хто ў гарачым пекле металу,
За ўсіх, хто змагаецца з небам і морам,
За жывых і за тых, што сканалі.

За ўсіх, хто крывёю піша
Ў нязгодзе
З рабства подлай дарогай,
Хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы
Паўстане нават на Бога.

За ўсіх, хто курчыцца ў полымі вёсак,
Хто ратуе краіну ад краху,
За ўсіх, хто бясстрашна глядзіць у нябёсы
З барыкады,
З пушчы
І з плахі.

Хто са смерцю гаворыць з вока на вока,
З яе усмешкаю ветлай,
І ўсё ж узводзіць — нясцерпна далёкі —
Храм наш агульны і светлы.

А калі ён горда заззяе ў зеніце —
Непарушны — ўзнясецца ў неба,
Вы з распятага сэрца кроплю вазьміце.
Апошнюю.
Болей не трэба.

І няхай яна збоку, недзе на ганку,
Дагарае й дзяцей не страшыць
На граніце любові,
На граніце світанку,
На граніце велічы вашай.

## МОЙ ВЕК

Было ў ім усякага жыта:
Тысячы добрых гадзін,
І сонца, і шчасце, і літасць,
І космас — на ўсіх адзін.
А ўсё ж такі мне ён сасніцца
Ў агні пякельных начэй
Не добрай васковай пшаніцай,—
Плевеламі хутчэй.
За дрот валакуцца строем...
З «ведзьмаў» высмоктваюць кроў...
Дзяцей, старых і герояў
Бульдозер зграбае ў роў...
Вулканы Мінска і Кіева...
Трэблінкі — вар'яцкі сон...
Вусны жанчын, у якія
Асвенцімскі рвецца «цыклон».
Забітых халодныя горы...
Котлішчаў вечны спакой...
Дык што ж вы з такім дакорам?
Чаму з пагардай такой?
Што? Рыдаю над даўнімі болькамі?
Што? Валюся ў азёрах крыві?
Падаў...
Плакаў...
Ды толькі
Ў той час, як не бачылі вы.

І які той цяжар ні будзе,
Ён веры маёй не сагне:
Мяне пахаваюць людзі,
Лепшыя за мяне.
І якіх не было гекатомбаў,
У ім не згаснула праўды свяча,
І я веру ў хрышчаны бомбамі
Мой крывавы, мой страшны час.
У ім цяжка раслося калоссям,
І на большым абшары зямлі
Раскашней паршыўцам жылося,
То адкуль жа Людзі былі?
Тыя, што за радзіму,
За людства, праўду і нас,
Тыя, што за адзіную
Паміралі літару «аз».
Ваявалі ўпарта са змеем,
Карчавалі ўпарта ляду,—
На іх у мяне надзея
У час апошні, калі адыду.
Няхай іх душа жывая
Пакуль што не знішчыла снег.

*Яны* мяне пахаваюць,
Лепшыя за мяне.

## «НА БЕЛАРУСІ БОГ ЖЫВЕ»

«На Беларусі бог жыве»,—
Так кажа *мой* просты народ.
Тую праўду сцвярджае раса ў траве
І адвечны зор карагод.
Тую праўду сцвярджае
Упартасць хваль,
І продкаў запавет,
І мовы залатая сталь,
І нашых дум сусвет.
Тую праўду сцвярджае
Усё зноў і зноў

Ўсім лёсам,—
Няхай спакваля,—
У хмарах дубоў,
У вясёлках агнёў
Купальская наша зямля.
І няхай давядзе мне
Іншая кроў,
Што брашу,
Як сабачы сын,—
А няма нідзе
Вярнейшых сяброў
І прыгажэйшых жанчын.
Гэта край раскрытых душ і дзвярэй,
Гэты край —
Твой дом і сабор...
Ў нас дваццаць з лішнім тысяч рэк,
Адзінаццаць тысяч азёр.
Нам ёсць што піць,
З падмосткаў ліць,
Чым палі свае акрапіць,
А як давядзе, то ёсць нам дзе
І ворага ўтапіць.
І тая памяць жыве не ў царкве,
А ў кожнай жыве галаве:
«На Беларусі бог жыве...» —
І хай сабе жыве.
А калі ён шле на нас кару і гнеў,—
Ну што ж,— мы з ім свае:
Ў вяршыні самых гонкіх дрэў
Маланка з неба б'е.

У вяршыні маленькіх і ніцых дрэў
Маланка ніколі не б'е.

І пра тое кожны пяе салавей
Росным кветкам у роднай траве:
«На Беларусі бог жыве»,—
І няхай давеку жыве.

## РАЗВЕДЧЫК

Загінеш — і ведаць не будуць
Пра цябе нічога сябры.
Загінеш — і ведаць не будуць
Маці, жонка, бацька стары.

Загінеш — і ведаць не будзе
На роднай мяжы лебяда...
Але вечна тваім застаецца
Толькі тое, што ты аддаў.

Вораг навіснуў над лёсам..
І, можа, не ўбачыш зор,
Над Убарцю пілы ўцёсаў,
Над Улай зубчасты бор.

...І слова па-беларуску
Перад смерцю не смей сказаць,
І нічога навокал роднага,
З чым лёгка так паміраць.

Побач выскалы, побач лычы.
А сябры — як джалам мяча —
Здалёку здраднікам клічуць
Або з пагардай маўчаць.

Атруту салодкую точаць
Схаваныя ўсімі нажы,
Але смела ўсміхайся ў вочы
Смяротнаму стану чужых.

Ты не з імі. Ты — за каханне.
І таму — у вякі вякоў
Ідзі за межы пазнання,
Пастыр сярод ваўкоў.

Вядзі іх манлівай сцяжынай
У нетры, змрок, глушыню,
Каб з-за той, з-за *тваёй* асіны
Раптам вылецеў слуп агню.

Калі горкім пацягне дымам
І ўвап'ецца ля сэрца набой —

Ты малiся адной радзiме,
Што цябе асудзiла на бой.

«Зямля, што мне суджана лёсам,
Адзiная ў свеце любоў,
На табе няма хмарачосаў,
Апроч вечных тваiх дубоў.

Асеннiм усходам абмытыя
Ў вечным ззяннi расы цi iльда,
Устаюць твае пiрамiды,—
Дзюнаў палескiх града.

Дым вячэрнi над родным парогам,
Россып лiтар у лемантары,—
Гэта ўсё мне суджана богам,
I за гэта — хоць тройчы памры...

За мятлушкаў песню жывую,
За паданняў бясконцы сувой,—
Ўсiм жыццём за iх адваюю...
А, як трэба,— смерцю сваёй...

Загiнеш — i ведаць не будзе
На ўзмежку тваiм лебяда...
Але вечна тваiм застанецца
Толькi тое, што ты аддаў.

Але волi няма вышэйшай
За абраную ў гэтым жыццi,
Але долi няма вышэйшай,—
Аднаму на тысячы йсцi!

Аднаму — без сотняў дывiзiй,
Без тысяч сконаў i мук.
Аднаму загiнуць, зрабiўшы
Ўсё адзiнаю парай рук.

* * *

Радок бяззбройны і бясспрэчны
Слабым — адзіна верны шчыт.
І не знікаць Паэтам вечна,
У вечнай Песні жывучы.

Калі пайду з юдолі гора,
Не скончыўшы найлепшы сказ,
То божы свет мяне паўторыць,
Як паўтараў ужо не раз.

Як моры, зоры і азёры,
Якія ў вечнасць забяру.

Свет шчодры.
Свет мяне паўторыць...

Ну, а не свет,
                    дык Беларусь.—
Мне — досыць...

## КНІГІ

Кнігі — сябры.
Іх кідаюць перш за ўсё:
Яны цяжкія,
Як дзесяць вазоў з цэглай.
І калі над дарогамі
Равуць бамбавозы,
Чалавек нясе з сабою
Не цэглу,
А хіба насавік.
(А мо абыходзіцца без яго.)
Кнігі — сябры,
Іх кідаюць перш за ўсё.
Але потым...
Коштам пайковага хлеба,
Калі знойдзеш на вуліцы пяцьсот рублёў
(Два боханы!),

Купляеш не боханы, якіх дома чакаюць,
Купляеш «Гісторыю Чалавецтва» Гельмальта.
Чалавека,
Унук якога,
Магчыма, расстраляў
Або прымучыў
Твайго адзінага брата.
Кнігі — сябры.
Іх кідаюць перш за ўсё...
І потым,
Галодныя,
Перш за ўсё зноў пачынаюць заводзіць.
Згарэлі бібліятэкі прадзеда,
Дзеда,
Бацькі,
Твая...
Але ты копіш,
Грамаздзіш адна на адну
«Віфліофікі» жонкі,
Сваю,
І дзяцей,
І ўнукаў.
Кнігі — сябры.
Іх кідаюць перш за ўсё.
Каб навек зберагчы,
Як сяброў,
У сэрцы.
Чалавек прыходзіць
З-за далёкіх, чужых нам меж
І здзіўляецца:
«Што вы за нацыя,
Хай вас халера,
Што ні дом — сотні кніг!»
Гэта правільна, дружа,
Іначай бы мы не былі
Ні народам,
Ні нацыяй,
А дзярмом,
Гноем,
Хімерай.
Гэта ведамствы гебельсаў
Толькі хлусілі на нас:
«Дзікуны,
Шайзэланд!»

Але ў гэтым нялёгкім сусвеце
Мы чытаем,
Мыслім,
Мы дзейнічаем,
Мы.
Мы, што больш за ўсіх чытаюць на свеце.
Кнігі — сябры.
Іх кідаюць перш за ўсё.
Але ўсё ж Чалавек
Выходзіць пад бомбы ў дарогу,
Захапіўшы з сабой
Акрым шчоткі зубной
Багдановіча, Танка, Купалу,
І Коласа, й Панчанку,
І Эклезіяста,
І — ў сэрцы — бога.
Калі здарыцца горшае,
Калі будуць паліць
(А папера палае лёгка і весела),
Мы на памяць завучым,
Каб прапраўнукам не забыць
Ўсё сваё,
Дарагое:
Наш свет —
Ад сонца да месяца.
Кнігі — сябры.
Іх кідаюць перш за ўсё.
Але ў сэрцы яны застаюцца,
Як памяць нятленная.
Бо яны — гэта мы,
Бо яны —
«Гэта рэкі суць,
Рэкі, што назаўжды
Пяюць вечную нашу ўсяленную».

* * *

Абяцаюць нам новы раскошны дом,
Але *тут* нам жыць і канаць,
Тут пад кожным навекі здабытым бугром
Нашы продкі забітыя спяць.

Яны аддалі нам меч і касу,
Слова з вуснаў, цяпер нямых...
І нам немагчыма пайсці адсюль
І пакінуць са смерцю іх.

## ПАЭТ

Брусок спявае ціхую малітву,
Ды зрэдку іскру кіне над сабой —
Пакуль нажы не зазвіняць у бітве
І шаблі горда не ўзнясуцца ў бой.
Няма ў яго ні вастрыя, ні джала,
Патрэбен ён хіба сярпам крывым,
Пакуль у похвах спяць усе кінжалы,
Усе нажы, наточаныя ім.
І на папрок, чаму не йдзе ён біцца
Чаму ён не падобны да мяча,
Ён сціпла спіць у нейкай там брусніцы,
Пакуль тупіцца сталі прыйдзе час.
Але ж, узяты у баі няроўным,
Палонны нож — як спынены парыў —
Хіба сказаў даспехам у катоўні,
Які брусок і дзе яго вастрыў?
Маўчаў, як нож. Маўчаў, як крыж на полі,
Бо ведаў ён няпісаны закон:
Спявае нож у час вайны за волю,
Брусок — у рабства час спявае ён.
Калі ж залье крывёй радзімы пожні,
І пойдзе гнеў да эшафотных стром,
І зломіцца аб сталь кінжал апошні —
Ну што ж?
Тады ўжо можна і бруском.

## МОВА

Праваслаўны або каталіцкі,
Ці які там твой будзе парог,—
Яе разам з матчынай цыцкаю
Даў табе ў твае вусны бог.

Пі. І ведай: гіне ў пракляццях
І з дзярма павек не ўстае
Той, хто выплюнуў цыцку маці
Або злосна ўкусіў яе.
І на іншых вяршынях суровых
(Вера! Роўнасць! Свабода! Край!)
Ты струменьчык матчынай мовы,
Быццам маці, не забывай.
Ты забыў? Ну што ж, на дасвецці
Ты без сонца будзеш канаць...
Шмат прыўкрасных грудзей на свеце,
Ды не ўспоіць цябе — ні адна...
Сярод іншых святынь неаджыўшых
Даў яе нам на кожны парог,
Твар да нас,— усялякіх,— схіліўшы
З невымернаю літасцю бог.

## АФІЦЭРУ ЛІСАНЕВІЧУ

Яму прапанавалі выклікаць на дуэль Лермантава. Мы нічога болей не ведаем аб ім.

«Добра... Я ведаю, што да чаго...
Што такое дзярмо і кроў.
Але што вы?!
Узняць руку на яго?!
Ды лепей ужо... на цара свайго!
Ды лепей на ўсіх...
Так, на ўсіх... цароў.
Я яго не люблю... Вы сказалі: «Гадзёныш...»
Але вы, калі праўды тут трохі й ёсць,
Пашукайце іншых,
Ад моху зялёных,
Што ўздымуць руку на сваю маладосць.
Вы там можаце мне балбатаць аб годнасці,
Абяцаць... (—вашу маць!..—)... кайданы не куць...
Ды на Слова Народа, на Сэрца Народа
Не ўздыму я ніколі сваю руку.
А вы там можаце... хай сабе плазам,
А мне пакіньце мой эскадрон...»

І гэтай ганьбай,
І гэтым адказам
Ў гісторыі Людства застаўся ён.
Зразумейце: ўсяго не ўзнялася рука.
Усяго — на сорам пайшоў.
А пасля?
Пасля ён смерці шукаў
І, можа, недзе знайшоў.

## УСХОД

*Максіму Танку*

Бы ў першыя дні стварэння,
Цемра, хаос і шал,
Прыбой і туман спадаюць
На труны змрочныя скал.

Плывеш між валоў і бачыш,
Як там, на грані імглы,
Над светам і над табою
Светаносна кружляюць арлы.

Нябачную ўбачыўшы радасць,
Лятуць пад нябесны шацёр,
І рыжае сонца праз падзі
Лавай спаўзае з гор.

За ім мільёны гайдукаў
Ідуць з цямноццем на бой
У зялёных ірваных адзеннях,
З дзідамі за спіной.

Над ашаломленым змрокам
Сведчаннем вечнай вясны
Шумяць пераможна пад брызам
Зялёныя лахманы.

Хлусня начной ліхаманкі,
Жах заімшэлых стром

Ў пячоры здыхаць запаўзае
З пераламаным хрыбтом.

І, кроплямі вечнай вясёлкі
Ажывіўшы мёртвы граніт,
Яр магутны з неба спускаецца
На сонечныя прамяні.

Бэзавы спеў сірэнаў
У поўнай сонцам вадзе,
Гульні вясёлых дэльфінаў
Сярод вясёлых людзей...

І толькі яму, адзінаму,
Сэрца я падару,
Адзінаму богу ў свеце,
Адзінаму ў свеце цару.

## НАДПІС НА КАМЕНІ НАД КРЫНІЦАЙ

Ворагі хмарай смяротнай знішчыць ішлі. І тады
Наша зямля бараніла знямоглых сыноў:
Ў нетры яе адыходзілі храмы і гарады,
Білі крыніцы адтуль і даносіла водгук званоў.

Ў кожнай краплíне жыццё незгасальна звініць.
Душы забітых — аблокі — вітаюць зару.
Дзе мірыяды чужынцаў?— Спытай у слабенькіх крыніц!

І ў акіяна, якому імя —
Беларусь.

З цемрай, са сталлю, з хлуснёй крывадушнаю йшлі,
Але Зямля, і Вада, і Дабро скаранялі той зброд...

Будуць давеку крыніцы на гэтай зямлі,
Будзе давеку наш мужны і мудры, вялікі народ.

## ШЛЯХІ ІГНАТА БУЙНІЦКАГА

Па пясчаных дарогах, па гразкіх дарогах,
Па дарогах, якім канца не відаць...
Зверху хмараў чароды.
Знізу — хвалі разлогаў.
Зверху хвошча вада.
Знізу плешча вада.

На палях ялянцу гатычныя вежы.
Верх фургона дарэмна ловіць зару...
О, якая туга, якое бязмежжа,
О, які нязнаны твой шлях, Беларусь!

Пан каморнік! Куды?
Каму гэта трэба?
Што звычайным хлопам гэтых краёў,
Ім, якія жывуць без імя і неба,—
Тыя песні твае, тое слова твае?!

Што ім тая забытая дзіўная вера?
Лепш бы ты, як раней, межаваў палі
І стараўся даць ім — судом і мерай —
Хоць валоку якую панскай зямлі.

Што ім іхні лёс,
Вялікі й суровы?
Што ім,— мо ўжо адкажаш нарэшце ты,—
Да загнанай, забітай, задушанай мовы,
Іх вялікасць першы вандроўны артыст?..

Але што гэта я?
Ёсць святло і цені.
Гэта вечна.
І вечны няроўны бой,
І таму сэрцам плачу, ўстаю на калені
Перад ранняй, святою магілай тваёй.

Яснай месячнай ноччу ці днём журботным
Свеціць дальнім нашчадкам яна, як маяк,
І таму, чым мужней, неразумней, самотней,
Тым ясней, тым велічней слава твая.

І гарэць той славе, нятленнай, шырокаї
Да апошніх, бязведамных нашых вякоў
За адну тваю спробу замест валокі
Мову людзям вярнуць і зямлю бацькоў.

Слава *Першых*, які́я сабой заплацілі
За айчыну і слова, племя і род
І душу аддалі, каб яна ажывіла
Мёртвы гліны камяк:
Свой родны народ.

## АМАЛЬ ХРЫСЦІЯНСКІ ТОСТ ЗА ВОРАГАЎ

*Адаму Мальдзісу*

Гіене — баяцца, сабаку — вішчаць,
Свінні — рыцца ў гноі сваім,
А льву патрэбны калючы гушчар,
Родны край і свабода ў ім.
П'ю за тое, каб нам сярод родных лясоў
Не вішчаць, не дрыжаць, не крывіць,
Бо ўсе мы тут не з гіен і не з псоў,
Бо мы — сапраўднай крыві.
І таму давайце за ворагаў піць
І за імі сатканую сецць,
Бо ім не дадзена нас палюбіць
І не дадзена нас зразумець.
Бедалагі!
                Не ўцяміць іх бедным мазгам,
Пакуль не праб'е ім канец,
Як добра быць другам і братам нам,
І яму, і табе, і мне.
Божа, дай ім даўжэй пражыць,
Хай спаўна аттрубяць свой час,
Хай да самай апошняй нашай мяжы
Будуць яны у нас.
Божа, ты скінуў іх нам, як дары,
І мы славім мудрасць тваю,

Бо яны нас будзяць яшчэ на зары
І рана заснуць не даюць.
І ўстаем і арэм мы нашы палі,
Пакуль не апусціцца змрок,
І мы ўстаем, і зброю сталім,
Слова сталім і радок.
Ім няма з кім ісці плячо да пляча,
З кім любіць, з кім стаяць у баі,
З кім смяяцца, спрачацца і нават маўчаць.
А памруць — хто паплача па іх?
Даруй ім. Яны пакараныя й так
(Даруй хоць на гэты раз),
Бо розуму ў іх, як слёз у ката́,
І не могуць пазычыць у нас.
І даруй нам, што сеем мы ў душы ім жах,
Як скачком бяром частакол,
Што даводзіцца ім дрыжаць у дамах,
Калі гойсае леў вакол.
Твой закон, што вазіць нявартыя гной
Чалавек такі і народ,
Калі вораг ад назвы іхняй адной
Не бялее, як снег і як лёд.

## БАЛАДА
## ПРА АРХАНГЕЛАЎ

Днём і ўначы і ранкам
Пошчак падкоў пад зямлёй:
Гэта конныя скачуць архангелы
Па дарогах планеты маёй.
Бяздумныя, падшыя, светлыя,
Поўсць на німбах расце,
Замест сумлення — дубінка,
І замест сэрца — касцет.
Абыякава і бяздумна
Архангелы топчуць расу.
Невядома нікому на свеце,
Што яны людзям нясуць.
Невядома — турму або волю,
Невядома — дабро ці зло,

Але моўчкі чорныя птушкі
За імі ўстаюць на крыло.
Перад імі лунае гора,
За імі лунае жах,
Рудыменты крылаў, пагоны
Лунаюць на іхніх плячах.
Па дарогах зямнога шара
Крылатая скача раць,
І мёртвыя крылы не могуць
Да сонца ніводнага ўзняць —
Таму што на цяжкіх крылах,
Апушчаных змрочна ў імгле,
Ўссядае мана на правым
І здрада — на левым крыле.

## ПРЫСЕННЕ ЗІМЫ

Наваградак. Золь. Прысенне зімы.
Рунь і дрэвы мараць аб цёплых снягах.
О, якая самота гатэльнай турмы!
Векавая якая туга!
Крыжацкай навалай з паўночных меж
Падпаўзае пад стромы зіма,
На схілах чыгунная чырвань веж
Прамерзла да сэрца амаль.
Вецер з цемры польнай, бы ўдар ляза,
Бадзякі зіхацяць, як шкло...
Як жа ім халодна, чарцячым князям,
У іхніх загонах было!
Паміраў жарынкамі веж карагод...
Мой апошні агеньчык жаўрэў нежывы,
І коні калматыя білі лёд
Да замерзлай жоўтай травы.
І скакаў да брамы начны ганец,
І крычаў, што безліч крыжацкіх зграй,
Што ад сцюжы чужынскай і сцюжы сардэц
Памірае ўлюбёны край.
Ноч... Гасцільня... Горад даўно апусцеў.
У вежах пяць стагоддзяў, як згаслі агні,
І вецер у вокны лісце мяце,

Прамерзлае — аж звініць.
Уначы ірвецца дрымоты ніць...
Як удар.
Бо прыпомніў у сне,
Што Свіцязь, у нетрах забытая, спіць
У дубовай сваёй труне.

## ЮНАЦТВА МАЁ

О юнацтва маё! Як забуду цябе?
Alma mater
І догмы, навука і тлум...
«Píramús ét Thisbé...
Píramus ét Thisbé...
Píramus ét Thisbé...
iuvenum...»[1]
Як забуду?
Завея акацый мяла
Квецень па вулках крывых.
Ты была, мая Цізба, была, была
Пажаданая больш за ўсіх.
Радасны боль, нясцерпны, як шкло
Між сэрцам маім і тваім...
І ніколі такога ні з кім не было
І не будзе ніколі ні з кім.

І развёў нас не леў і не востры кінжал,
Не вакзалаў далёкіх агні,
А гады пакут і няшчырых пахвал,
Даносаў і брыдкай хлусні.
І ведаў наклёп, як сэрца крануць,
І нас аддзяліў сцяной,
І паверыла ты, і змяняла вясну
На шаўкі, што знасіла даўно.
Але сэрца не можа забыць пра замах,
Болем поўнае да краёў...,

[1] Пірам і Цізба юнакамі (прыўкраснымі былі) — Авідый.

Будзь праклятым, юнацтва маё, ў вяках!
Будзь праклятым, юнацтва маё!
Будзь праклятым!..
Каштаны квітнелі вясной,
Хаваў нас бэзавы дым,
І былі мы з ёю — адно, адно
І ніколі не будзем адным.
Што ж, не плачу.
Паэзіі горды прыгон,
І радок, што сталлю звініць,—
Ўсё адкуў я на горне юнацтва майго,
На яго пакутным агні.
І праўды зніч, і подласці дым,
І сілу мужную жыць,
І тое, што веру ў сэрцы маім
Нават смерць не можа забіць.
І руку дагэтуль помніць рука.
Сэрца помніць шчасце баёў...
Блаславёна юнацтва маё ў вяках,
Блаславёна юнацтва маё.

* * *

Страціў лес свой зімні чуб,
Ліст растраціў да манеты...
І стаіць адзін адзеты
За акном іржавы дуб.

Дуб-мярзляк, скупеча-дуб
Шмоццем голле саграває...
Вецер трэпле і матляе
Жоўты зімні дуб.

Вецер вые ў сотні труб,
Снег з дажджом у шкло шпурляе...
Стой са мною аж да мая,
Браце мой, іржавы дуб.

## БАЛАДА
## ПРА РАЗВІТАННЕ

Над пушчаю вецер гудзе, бы ў бядзе,
І хмары імкнуцца рыссю.
— Бязлітасны, чорны вораг ідзе.
Бывай, о бывай, Марыся.

Тут нельга больш. У адказ на крык
Савіны рогат лунае.
І душаць мову, і рэжуць язык,
І шкаляроў разганяюць.

І нават апоўдні на гонях туман,
З адчаю хаця задавіся,
І сіл няма, і вояў няма,
І здрадзіла панства, Марыся.

— Куды ж вы ідзеце? З лязом па лязу.
Ноч. Месяц — і той змарыўся.
— Мы пойдзем у пушчу, ў густую лазу,
Ў разбойнікі пойдзем, Марыся.

— Якая ў вас сіла? Пад ветрам дым?
Князь першы — і той скарыўся.
— Здабудзем волю, пакажам ім
Ці косці складзем, Марыся.

— А што, калі ён не здыме нагі
З ніў, што зараз толькі чапае?
— Тады мы спалім свае ачагі,
Калыскі свае пашчапаем.

— О, муж мой мілы! Святы, залаты!
— О, бацька мой, праўдай абраны,
Куды ж мне ісці, як загінеш ты?
— У пушчу з сякераю, Яне.

— А што як абодва? І ўсё без змен,
Маліся ці не маліся?
— Ну што ж, браць табе тады цэп ці бязмен
І ў пушчу ісці, Марыся.

І месяц між хмар, як адчаю знак,
І страшнае ў свеце світанне.
Крывавы ўсход.
                    І канчаецца так
Балада пра развітанне.

* * *

Нават сцюжным зімовым вечарам
Або ўвосень, як зліва лье,
Як цябе я на вуліцы стрэчу —
Падгінаюцца ногі мае.

Што казаць пра майскае ранне,
Калі ў росах салоўка б'е?
Што скажу я табе, каханы?..
Падгінаюцца ногі мае.

Што скажу са сваёй гаротай?
Хаты побач, а...
                    кроч не кроч,
Будзе тое ж:
                    салоўка, журбота,
Цыгарэты агеньчык ля плота
І маўчанне ў цёплую ноч.

Будзе тое ж:
                    начныя лукі
Без світання.
                    Салоўка пяе.
Пакахай жа, вазьмі на рукі —
Падгінаюцца ногі мае.

* * *

Бякла-сіняе неба і чырвань галін.
Уздыхае ветрык. Спадае ліст.
Асцярожнае сонца з голых асін
Выпаўзае на ціхі сінічы свіст.

Ледзь хістаюцца ў небе галіны бяроз.
Лёг спакой на іржышчы. Гумённы дым.
Ярам рушыць павольна з дрывамі воз,
І сарока няспынна стракоча над ім.
У разведку за возам ляціць яна,
Трэба край адшукаць, дзе пякуць бліны,
Дзе кайстра, дзе ў ёўні жыве цеплыня,
Дзе заснула сытасць да новай вясны.

## ГЛЯДЖУ НА ТУЮ, ШТО СПІЦЬ

Шапчу сабе ціха: «Ліліт».
Ў акно — мяккі горны вецер.
Няма прыгажэй на свеце
Дзяўчыны, якая спіць.

Ў міг гэты шкада мне ізноў
Сваёй маладосці мілай...
О, колькі па ёй пахадзіла
Чужых і сваіх кіёў!

І — хай не ўмірае любоў —
Павінны мы ціха ії зажурана
Звыкацца з падношанай скурай
Сяброўак сваіх і сяброў.

Вецер з гор і зялёны прыбой
На твар твой бягуць і веюць,
І ў сне дрыжаць твае веі...
Лёс, злітуйся над табой.

## НОВАЯ АТЛАНТЫДА

Каб плыў судоў уратавальных дым,—
А родны край знікаў навекі ў хвалях,—
Я б лепей згінуў з ім, з яго апошнім жалем,
Як жыў і мучыўся бязмерна — з ім.

## ЭНКЕЛАД

Багі-забойцы за мужнасць маю
Мне пакаранне знайшлі:
Сіцылію ўusклалі на персць маю,
Этну — на галаву маю,
Морам — ногі мае залілі.
Падушка каменная душыць мне рот,
Я не ў змозе ні жыць ні сканаць.
Я ляжу. Я ляжу. Дзесяць тысяч год.
Я маўчу, нямы і сляпы, як крот,
Але семя мне даў тытанаў народ,
І калі пачынае рыкаць народ,
Бо ідзе за праўду вайна,—
Я ірвуся, ўздымаю скалаў прыгнёт,
І падае ў мора сцяна.
І ўстае да месяца край зямлі,
І пажар ліжа сонца змяёй,
І ў моры варацца караблі
Ад агню любові маёй.

## Я ІДУ

«Калі ты ведаеш, на што здатнае каханне, і калі ты мужчына, пашкадуй мяне, не кажы «не» і дай мне ўвайсці...»

*Надпіс на муры ў Пампеях*

Надпіс моліць. Журба скамянелая,
Быццам рана, гарыць на сцяне.

. . . . . . . . . . . . . . .

Даў ён шчасце, якога хацела?
Ці кахаў? Ці паспеў?.. Ці не?
Невядома. Ўсё сцерлі крыкі,
Знішчыў полымем судны час.
Засталася крыўда вялікая,
Крык аб літасці.
Гром у адказ.
Як на смерць гэты дзень вязу я:
Горад марыў і мрэла гара,

Калі рынуў з глоткі Везувія
Божы гнеў, божы гром, божы град.
Гэтым гневам абезгалоўлены,
Волат выплюнуў страшны салют,—
Серны грыб, крывавы, суровы,—
Як пергамент раздзершы зямлю.
Адбягала вада ад берага,
Ў бухце трушчачы караблі,
Злівы з попелу, гразі, серы
Проста з неба на горад плылі.
На герояў, ад жаху спешаных,
На раба, што жадаў забыцця,
На дзяцей аднадзённых, бязгрэшных,
І на ўсіх, нявартых жыцця.
Дэман чорны, чырвоны, агністы
Прагна падаў з хмары, як крук,
На твае валасы залацістыя,
На клубы, на сцяблінны рук.
О, няўжо гэты воін ці мытар
Не суцешыў цябе ў журбе?!
Я б цябе і з Везувія вытаргнуў,
Я б і з пекла вывеў цябе.
Позна. Ў зырkіх маланках над ліўнямі,
Ў гэтым д'ябальскім бліcканні вей
Ў поўдзень дваццаць дзевятага жніўня
Ўпала ноч на зямлю Пампей.
Ну, схлусіў бы!.. Хаця б перад лютай
Гэтай смерцю, халодная кроў,
Перад ноччу на двое сутак,
А пасля на дваццаць вякоў.
Камні гэтыя сочацца болем
Горай страшнай пякельнай смалы...
Дык чаму ж твой прызыў непатолены
Больш за ўсё ў маім сэрцы баліць?
Вось агонь гуляе святынямі,
Гіне ў выбухах гор града...

. . . . . . . . .

Калі нешта і зараз загіне,
То адной любові шкада.
Спапялёны такімі ж мукамі
І патоплены ў той жа крыві,
Да цябе я працягваю рукі,
Твой двайнік па смерці й любві.

Праз мільёны ўдараў і ранаў,
Заступаючы шлях журбе,
Мая даўняя, мая жаданая,
Не крыўдуй, я іду да цябе.

* * *

З вытокаў да вусця ракі, што няспынна бяжыць,
Няўхільна адносячы юных і сталых ладдзі,
Вада, бы аконнае шкло, за якім без мяжы
Глыбокая цемра і ў ёй залаты маладзік.

Калі развітання апошняга прыйдзе пара,
Ладдзя на апошні, світанкавы выплыве плёс,
І прыйме мяне валавокая цемра Дняпра,
Як месячны серп з залацістых дняпроўскіх нябёс.

## СТАРАЖЫТНЫ БЕЛАРУС

Спічасты строй гатычных вежаў.
Ў дубах старэнькая царква...
«Як чалавеку жыць належыць,
Скажы мне, мудрасці сава?»
На хаты ў прывідах вішнёвых
Глядзіць, і іх не бачыць ён...
«Хоць ты адкрый мне тое Слова,
Святы Настаўніка закон!
Адкрый не верай ці бязвер'ем,
Не так, як Мойзасу калісь,
Як зведаць Словам, Весам, Мераї,
Што Ісціна на сей зямлі?
Ў чым чалавечнасці адзнакі,
За кім ісці, каго маліць,
Ці багахульстваваць, ці плакаць,
Ці кнігі на стагна́х паліць?»

Маўчанне. Кнігу ў скуры рудай
Закрыў, бо перад ім — сцяна.
І сэнс жыцця, і хто мы, людзі,
Па кнігах не спазнаць да дна.
І усплываюць за парогам
Краін далёкіх міражы.
Як сэрца цягнецца ў дарогу
Як прагнуць ногі зем чужых
Туды! Туды! З няпэўнай картай.
Туды, каб рассудзіць спаўна,
Чым дрэнны чалавек і варты,
І з родным краем параўнаць.
Нясцерпна думаць, што блукаюць
За вобрыем, далёка, там
І какадрыл, і цудзь марская,
І страшны звер сланапатам.
Ўсё выпытаць, не для прыправаў —
А ўрэшце, можа, і для іх —
Пачым там перац, вера, слава,
Грахоў смяротных сем людскіх?
Прайсці праз горы, моры, логі
Нязнанай сотняй пуцявін
І зведаць золата, і бога,
Й сем кліматаў чужых краін.
Калі ж абрыдне — божа мілы!—
Пад лаўрамі чужынскі рай
Прыдумаць бронзавыя крылы,
Каб адляцець у праўды край
І сесці й піць красу зямліцы,
Якой ты гонар, моц і шчыт,
Красу вунь той, сваёй зваціцы,
Дзе ў бронзу гучна б'юць хрушчы.

## ВУЛІЦЫ

Дом, дзе першае стрэў світанне,
Быў на ўскраіне ля дубровы.
Вулка першая да паўстання
Мела назву Планоў Князёвых.
Назвы новыя не прыліплі
(Мураўёўская! Петраградская!)—

Да пчаліных дзедаўскіх ліпаў,
Што на Вуліцы Першай Радасці.
Неіснуючая, нечуваная
Засталася ты ў сэрцы шалёным
Вечнай Вуліцай Абдуванчыкаў
(Залатых-залатых на зялёным).
Вуліцай Мокрых Падтыннікаў,
Вулкай Звону з-за Весняй Дубровы,
Вуліцай — Яйка Качынага
Ў Нетрах Сонечна-лапуховых,
Вуліцай Вось ты і Дома,
Вуліцай Душ Сагрэтых...
Вуліцай трыццаць сёмага
(Але я не ведаў пра гэта).
Назву новую гнеўна вырыдаў
Рот Айчыны, крывёю заліты.
Ты ў вайну стала Вуліцай Ірада,
Тупіком немаўлятак забітых.
Стала Вулкай Руін і Змарлых,
Стала Вулкаю Год Праклятых,
Вулкаю Клятага Карліка,
Вулкай Сусветнага Ката.
Колькі год давялося мне класці
У муры вашы цэглу звычайную,
Вулка Вуснаў і Вулка Шчасця,
Вулка Здрады і Вулка Адчаю?
Вулка Першага Верша і Слова
(І Апошняга Верша Крывавага),
Вулка Бацькаўшчыны і Мовы,
Вулка іхняй Зіхоткай Славы.
Колькі год я сноўдаўся ценем,
Каб патрапіць на Вулку Радасці
Вулкай Мудрасці і Сумлення,
Вулкай Гневу і Барыкады.
Можа, здарыцца й так, што гора
І вайна зноў падуць на народы,
І мяне за любоў маю горкую
Да Вуліц Радзімы й Свабоды
Павязуць, каб і попел рассеяць.
На вянчанне з драўлянай жырафай
Па вулцы Святых Фарысеяў,
На плошчы Анны з Кайяфай.
Хай!
Ніколі не помняць свінні,

Што з плошчы Няпраўды Дрымучай,
З Лобнай Плошчы — вядзе праз Краіны
Бясконцы Тракт Неўміручасці.

* * *

Як Стажары ў небе заззялі,
І ў сяле падаілі кароў,
І з палёгкай палі ўздыхалі,—
Я пад вокны твае прыйшоў.

Ты з хітрынкай сказала, мілая,
Прыкрываючы шыю касой:
«Маці спіць. Я таксама стамілася.
Дарагі, прыходзь раніцой».

Ты казала так цёпла і ветліва,
Я кахаў цябе так даўно...
Я паверыў і раніцай светлай
Пад тваё прыцягнуўся акно.

Зноў з хітрынкаю ты сказала:
«Бач, каровы ідуць на лугі.
Бачыш, маці толькі што ўстала.
Ўдзень прыходзь да мяне, дарагі».

Я чакаў паўдзённай часіны.
З неба сонечны пёк агонь.
Я драмаў у хмызах тры гадзіны
На нагах, як стомлены конь.

Мрэлі ў сонцы паўдзённым шаты,
Калі зноў я прыйшоў да сяла
І... нікога не стрэў ля хаты,
Бо каханая ў полі была.

Ўсе сабакі на вёсцы яхкалі
На даўжэзную постаць маю,
Калі вечарам шэрым і мяккім
Я прыйшоў на сядзібу тваю.

Усміхнулася: «Нельга вечарам,
Нас заўважаць суседзі ў садках.
Любы мой, дарагі, недарэчны,
Ноч наперадзе. Зоры ў вачах».

Уначы я свіснуў ля хаты,
І з'явіўся цень у акне:
«Я заснула ад стомы праклятай.
Не шкадуеш, будзіш мяне.

Ну і д-добрым ты будзеш мужам...
Не. На вуліцы травы з расой...
Што ты, што ты! Маці нядужая...
Дарагі, прыходзь раніцой».

Ці доўга ты яшчэ будзеш мяне мучыць, нягодніца?!

* * *

О любоў мая, Беларусь!
Над туманным начным стаўком
Пралятае самотная гусь,
Разразаючы люстра крылом.

. . . . . . . . . . . . .

Разразаючы неба крылом.

* * *

Можна ўсё: пусціць каханне дымам,
Ўзяць і занядбаць мінулы шлях.
Але толькі — не любіць Радзімы
З чорнаю павязкай на вушах,
З чорнаю павязкаю на вуснах,
З чорнаю павязкай на вачах.
Толькі слухаць словы нездрадлівыя,

Толькі не тлуміць яе маной,
Бо адным мы вінны пакуль жывы
Перад нашаю вялікай нівай:
Праўдай абавязаны мы ёй.
Ісцінай.
Адзінаю.
Адной.

## БЫЛО ЮНАЦТВА

Так ружы надушыліся
Уласнаю парфумай,
Што іхнія галовы
Ад водару баляць.
А мне няма спакою,
І пра цябе я думаю,
Пакуль блакітны месяц
Не выпаўзе на гаць.
Калі няпэўным сяйвам
Залье ён кола млына,
Заблытае праменні
У тваннай барадзе,
Я зноўку засумую
Па дарагой дзяўчыне,
Халоднай, як лілея,
Што дрэмле на вадзе.
Блакітная і белая,
Жамчужная, ружовая,
Ўсю цеплыню хавае
У самай глыбіні.
Пакут маіх не бачыць,
Майго не чуе слова,
Каханне зневажае
І пра каханне сніць.
Якой адданай песняй
Развеяць мне бяду маю?
Глянь, любая,— вось месяц
Над грэбляю старой.
Што ж ты не заўважаеш,

Што пра цябе я думаю
І раніцай ружовай
І позняю парой?
У руж баляць галовы,
Ім сумна, ім нявесела,
А я да іх хілюся
Гарачай галавой:
«Вы, модніцы бяздушныя,
Што ж вы галовы звесілі?
Скажыце, што рабіць мне
З каханаю сваёй?»
Яна, як кветка, дрэмле
На холадзе празрыстым
І ад усплёскаў рыбы
Праз лёгкі сон дрыжыць.
Далёкая, маўклівая,
Халодная і чыстая —
Зусім яна не думае
Што мне балюча жыць.

## НАЧНАЯ ПЕСНЯ

Змрок на кручы заспеў рабінзона бабовага...
У Дняпро ручаінай сплывае туман.
Ўсе паехалі качак страляць на Падкову,
Абяцалі вярнуцца, ды нешта няма.
Пільна слухаю ветрык з далёкіх затокаў:
Можа, недзе Дняпром затуркоча матор.
Але ціха...
Плаўка не відаць у сутонні.
А над светам — шалёнства зіхоткае зор.
Перакрэсліўшы вудай смугу агнявую,
Я гляджу у свінцовы і грыфельны змрок...
Вось, здаецца, кругі...
Падсякаю ўсляпую...
Зноў узмах...
Зноў знікае ў прадонні плавок.
Каб не спудзіць спакою
з нядальных кшакаў,
З прыбярэжнай лазы, што цьмянее сцяной,

Ціха ўзносіцца пастка рыбацкага сака,
Ловіць зоры і іх апускае на дно.
Пэўна, лягу пад стог.
Хай з глыбіняў знямелых
У адвечным і самым бяскроўным з баёў
Вышніх знічак імгненна-агністыя стрэлы
Да світання спадаюць у сэрца маё.

## РЭЧКА ПАПАРАЦЬ

Чорная, з адценнямі зялёнымі,
Быццам качкі цьмянае пяро,
Цягнецца яна праз нетры сонныя,
П'е балот настоеную кроў.

Ціша ззаду цягнецца да шыі:
Ў гэтым кінутым кутку зямлі
Волаты змагаліся лясныя,
Зрынулі, пасеклі, палеглі.

Ўсё змяшалася і спрахла з часам.
Курчыць зрынутыя дрэвы страх.
Мухаморы, як кавалкі мяса,
Кінутая, як шчыты, кара.
Бервяно праз рэчку аксамітнае.
Я зваліўся на спіну ў імхі
І не ўбачыў ні шматка блакіту
Праз ялін кашлаты малахіт.

Ўсё адно, калматыя ялінкі,
Што ўзрасце каля вачэй маіх,
Баравік, надрэзаны сцяблінкай,
Ці галоўка вострая змяі.

Хай мне будзе абаронай цвёрдай
Звонкае, як шчыт, найменне той,
Гожай, як язмін, няўмольнай, гордай,
Як світанне сэрцу, дарагой.

Будзьце сведкамі,
Лясныя сілы,
Да апошняга ў гаі ліста,
Што яна калісь сказала:
«Мілы».
Мімаходам.
Лёгка.
Проста так.

Што мне нетры?
Што мне цені смерці?
Што мне змеі?
Толькі ты любі.

. . . . . . . . . . .

Тых, хто носіць небасхіл у сэрцы,
Нельга ні уджаліць, ні забіць.

## ТАГАСВЕТНАЕ

Сом вытрэшчвае глядзелкі сонныя:
Ў Верхнім Царстве Смерці, па Той Бок,
У чаўне пад ветразем чырвоным
Праплывае невядомы бог.

Сом, не спадзявайся ты на бога,
Хай сабе ў яго і пара ног.
Бог і сам не ведае нічога,
Бог і сам на ростанях дарог.

## СВЕДКА

І было, і быллём парасло,
Але сведкі гуляюць ракой...
Рыба брохнула,
Як вясло.
У жыцці не бачыў такой.

## ДУБ

Ён быў царом дубоў. Над пушчай дзікай
Ён узвышаўся, як над морам траў.
І кожны жолуд, як радок вялікі,
Для сонца новы парастак раджаў.
І вось цяпер, калі яго быліны
Жывуць у жылах кожнага, як кроў,
З яго драўніны цяжкай робяць клінні
Для пачынаючых мужнець дубоў.
А ён, калі пачнуць крахтаць нябогі,
Іх важна вучыць,— мудрасці нібы:
«Што ж, дошкі будуць,— гэта ўсё нічога,
Для гэтага ж і існуюць дубы».
Забыў свае змаганні і быліны,
Забыў свае пакуты на зямлі,—
Таму, што першыя свае галіны
Не так, як ён, нашчадкі павялі.
І ён глядзіць на іх, бы з мёртвай вежы,
Не разумее іх святыя сны...
А будучыня парасткам належыць,
Бо на дубах былых растуць яны.
Бо іх галінам шырыцца ў свабодзе,
Бо іх карэнням глыб зямлі працяць,
Бо іншыя яны, бо сем стагоддзяў
Лес глебу рыхтаваў для іх жыцця...
...Стаіць над здзірванелай сцежкай згубы,
Нібыта ўсім, што з ім было ў жыцці,
Ўвасобіў да канца «ідэю дуба»
І больш дубам няма чаго расці.

* * *

Вецер ужо і лістотай не кружыць,
Золкі, начны вылізвае брук.
І лету на змену прыходзіць сцюжа,
І сон на змену пяшчоце рук.

І што абдымаць цябе ззаду за грудзі,
Лавіць нагою выгіб сцягна,

Калі замест песні вясенняй будзе
Зіма, забыццё і здрада сна?

І як мне не гладзіць цябе з трапятаннем,
І як мне не плакаць ад гора ў сне,
Калі ты кожным сваім дыханнем
Нібы адрываешся без мяне.

* * *

Вёслы мае разрываюць ноч
Чорнай азёрнай вады.
Іскра агню мне міргае: «Не збоч
І прыплыві сюды».
І ўяўляюцца ў з'явах асенняй тугі
Валасы, цеплыня грудзей...
А ў затоках дрыжаць і дрыжаць сітнягі
Ў бясконцай асенняй вадзе.
Ветравей, ты падзьмі над няўтульнай вадой,
Панясі над прадоннем начным,
Каб хутчэй у абдымках каханай маёй
Я прачнуўся ў ложку маім.

* * *

І тады закахалася хмара...
У паплавы, ад расы прамяністыя,
І ва ўсю Беларусь маю чыстую,
Ў мары бору, ў палёў абшары.

І заплакала ад кахання,
І слязою чыстай абмыла
Ўсе абшары зямлі маёй мілай,
Ўсе калыскі яе і магілы,
Ўсе змярканні яе і світанні.

І пад птушак зялёны гоман
Нарадзіліся для абшараў,—
Плод кахання бору і хмары,—
Мой Дняпро, і Бяроза, і Нёман.

## НАСЛЕДАВАННЕ БАЙРАНУ

Ты апусціла стрэлы вей —
І гэта, як на снег вайны,
На саван бітвы ў снах завей
Бязгучна селі груганы.

На веі слёзы наплылі —
І гэта, быццам па вясне,
Як брама райскае зямлі,
Праз дождж вясёлка ззяе мне.

Па ўсёй каханай старане
З блакітных сноў спадае дождж —
І гэта,— здаючыся мне,—
Ты ўсмешку дорыш мне усё ж.

І адышла зіма трывог,
І ўстаў з нябёс герояў строй...
І зноў ёсць май, і зноў ёсць бой,
І зноў ёсць свет, і ў свеце бог.
І свет — не пустка мне з табой.
І бог — не пастка мне з табой.

* * *

Закувала зязюля у лесе празрыста-зялёным...
Божа мой! Колькі год яшчэ жыць нам з табою і жыць!
Ранак ціхай вясны! Ранак светлых пяшчотных
палонаў!
Ранак вечных спатканняў на роснай і цёплай,
пахучай мяжы!

І не будзе канца ні вясне, ні іскрыстай расе,
ні каханню,
І спрадвеку, давеку, магутныя, будуць яны
Цараваць над вясенняй зямлёй, над гаямі у цёплым
тумане,
Над гаямі, дзе...
Так нечакана прыгасла зязюлі куванне.
Дзе ля касак прабітых міргаюць калматымі веямі сны.

* * *

Ў бездарожжа для тых, каму шчаціць,
Дагарае ўначы маё сэрца...

Ты дала мне імгненнае шчасце,
Я табе даў за гэта — бяссмерце.

І калі ты падзякаю, болем
Азарыла мне прорвы сусвету,
Я сказаў:
«Больш, напэўна, ніколі
Мы на свеце не ўбачымся гэтым.

І табе — хай нас людзі рассудзяць —
Я зайздроснай аддзякую доляй:
Ты — ніколі — мяне не забудзеш,
Ты мяне не пабачыш — ніколі.

Ў ноч самоты, і ў цемры магілы
Будзе смага адна тваёй доляй:
Ты забыць мяне будзеш не ў сілах,
І са мною... ніколі.
Ніколі.

* * *

Над полем месяц двухрогі,
А мне ў цішыні палявой
Адна пралягла дарога:

Да вокан любай маёй.
Яна кахае другога,
І як ні падай да ног
Убранага кветкамі бога,—
Ён не ўратуе, бог.
Свяшчэннікі усёй паднябёснай
Кахання не вымаляць мне.
А суцешаць хіба што сосны
І роднага неба свінец.
Каб глядзеў я ў вочы іконе,
Як у вочы лепшай з дзяўчын,—
Узялі б мяне ў божае лона,
Ўзвялі ў апостальскі чын.
Каб бегаў я ў божую хату.
Так, як пад хату тваю,—
Мяне б серафімы крылатыя
Жывым пасялілі ў раю.

* * *

Данеслі добрыя людзі
(А я спакойны чамусь),
Што жыццё пачало паскудзіць
Былому Каханню майму.
Колькі ж годных яна абсмяяла!
Колькі чыстых на сметнік звяла!
Піравала яна, гуляла,
Ў божы рай па трупах ішла.
Гэта толькі пачатак гісторыі:
Будзе ёй яшчэ на зямлі
Безвыходней куды і горай...
Так, як мне праз яе калісь.
Сёння плачуць слязой яе вочы.
Заўтра — кроў яна з іх пралье...
Але гэта не я ёй адплочваю.
Гэта лёс ёй спаўна аддае.
Б'е за шчасце маё, і за мукі,
І за ўсё, што аддаў сатане...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Але, божа,
анёл ці гадзюка —
Ўсё ж была яна часткай мяне.
Твой закон, і права, і сіла,
І таму не малю за сябе...

. . . . . . . . . . . . . .

Бог даруй, бог — цябе памілуй,
Хай сабе і ў смяротнай журбе.

## СТАРЫ ПЕВЕНЬ

Жабруюць хаты. Штук дваццаць даўно,
Сорак восем сляпых звіў бур'ян пятлёй,
І ўрэшце адзін павадыр: акно,
А за ім жывое святло.

Забітая кожная з хат, як труна,
Вёска вымерла. Ў ёй толькі хлюпам звярэць.
І жыве там бабулька адным-адна...
Котка. Певень. І пяць курэй.

Ноччу мулка. І шэпча яна ў невідно:
«Не паспее тройчы»... І вось у туман
Загарлае певень, што доўжыцца ноч.
І чакае. Адказу няма.

І сыноў, і суседзяў ёй трызніцца крок,
Як жывы, неадчэпны падман...
Загарлае певень, што чэзне змрок —
А хору ў адказ — няма.

Хто ў тайзе, хто ў стэпе. Свой гай парадзеў,
А калі ўрэшце прыйдзе драма,
Загарлае певень, што блізкі дзень —
І хоць бы хто падтрымаў.

Калі хвошча залева на ўвесь небакрай,
Калі спіць пад снягамі трава,
Гэты певень вартуе наш родны край.
А вы? Ці не ганьба вам?

## ВОРЫВА НА ВАЛАХ

Я гэта бачыў сам, хоць адышло:
Ў апошні, можа, раз на белым свеце
Ішлі быкі і ворыва плыло,
А зверху — хмары, чырвань, сінь і вецер...

Ідуць па ўзгорках, круглых і цяжкіх,
За імі йльсняныя ў адвалах межы...
Як старажытныя князі, быкі
Маю радзіму на кавалкі рэжуць.

З нябачнае лагчыны йдуць яны
Да сонца, ветру, хмараў і разлогаў,
На ўзгорак, велічны, як шар зямны,
Бы два паўмесяцы ўсплываюць рогі.

Заплюшчу вочы — і перада мной
Два цені йдуць пад крумкачынай зграяй,
І рэжуць свет нарожнаю бранёй,
І капыты —
бы край мой папіраюць.

Бялкі ў крыві, а капыты — ў гразі.
І ўсё здаецца мне: нарогам-зброяй
Быкі, як старажытныя князі,
Маю радзіму на кавалкі крояць.

Ў смяротны час — няхай прайшлі гады —
Ў мае апошняе сальюцца слова,
І сэрца раздзяруць на дзве паловы
Аблокаў барва, сінь, трывожны дым,
Радзімы твар, і горды, і суровы.

## ДОМІК БАГДАНОВІЧА

Туі, Іудзіна дрэва і пілы агаваў.
Пала сцежка жыцця на апошні, смяротны парог
І разлілася ў тваю, як святло, неўміручую славу,
Сонцу якой пазайздросцяць і космас, і людзі, і бог

Весняе неба не ведае, плакаць надалей ці годзе.
Голлямі ўніз пацягнуўся праз хмары сонечны куст,
Ў хатку, дзе згасла тваё беднае дваццацігоддзе,
Ў хатку,
дзе ўспыхнула сонцам любові твая Беларусь.

Кажуць, разбураць цябе. Але хай сабе новая рана,
Хай справядлівасць яшчэ раз будзе стаптана
ў жыцці,—
Гэты маленькі дамок праз акно тваёй ночы астанняй
Будзе да скону зямнога ў вечнасць нашчадкам
свяціць.

## БЕКЕШ, АБО ОДА ЕРАСІ

*(Балада 1555 года)*

Ў змроку, калі спалыхнуць над Гародняй байніцы,
Еду размерана, повад аддаўшы каню,
Еду паўз лобныя месцы, катоўні, цямніцы,
Еду паўз ночы цямноцце насустрач далёкаму дню.
Ляпае меч па баку — ну-тка, варта, хто возьме рукамі?
Злосныя позіркі світак ядуць мае вочы, як дым.
Ведаў бы хто з іх, што б'ецца пад гэтымі сабалямі?
Ведаў бы хто, што палае пад гэтым берэтам маім?
Ерась, вялікая маці, агонь ступакі твае ліжа.
Хлопы не ведаюць, ярасці варачы страшны напой,
Што я за іх ненавіджу, знішчальней за іх ненавіджу,
Бо й аднавокая ярасць пакажа дарогу сляпой.
Ерась, вялікая маці ўсіх народаў вялікіх,
Выратуй сына свайго, што не будзе быдлець спакваля,
Не падтрымае ў натоўпе аб дыбе звярыныя крыкі,
І не падкіне нявінна ў вогнішча Гуса галля.
Ведаю я за табою, што як бы ні катавалі,
Як бы цябе ні прыдушвалі змрочных стагоддзяў валы—
Не апявала ты статуй і догмы заўжды адмаўляла,
Знаючы цвёрда, што смерць, што гніццё у патоках
хвалы.
Цемры князі і хлусні, што і праўдай і сонцам
праклятыя,

Лёд вашых зрэнак змяіных павольна паўзе за спіной.
Як вы мяне ненавідзіце, д'яблавы адвакаты!
Так, што... нянавісць клякоча ля лытак пагарды маей.
Я праязджаю праз чорныя мантыі, справы і душы,
Нібы праз строй праязджаю праз імі прыдушаны край,
Крыкі людзей у катоўнях казань хлуслівую глушаць,
Пекла штодзённае глушыць размовы пра баечны рай.
Блізкі, здаецца, ды толькі не верце, што вам абяцаюць.
Ён міражом адплывае, вясёлкаю перад гразой.
І не нагнаць таго раю, павек не нагнаць таго раю,
Як на найлепшым кані не дагоніць ніхто гарызонт.
Веры адкідамі, смеццем будуць зваць цябе людзі,
Пакуль у капішчах іхніх будзеш паўзці, нібы крот,
Пакуль ты слухаць іх будзеш, і пакуль ты верыць
ім будзеш,
І пакуль будзеш скарацца ім, мой беларускі народ,
Вашага бога не ведаю з раем рабоў і гаротных,
Пекла яго не баюся, бо ўсё гэта ваша багно,
Не клапачуся аб целе, ані аб душы бессмяротнай,
Тым бессмяротнай, што зробіць, каб потым пагаснуць
са мной.
Тут пабудуйце свой рай. Бо ён у руках вашых чорных
Ў людзях на гэтай зямлі, людзях, што робяць свой лёс,
Ў праве на праўду і слова, на свенты агонь непакорны,
Ў праве на веру не браць, нават як скажа Хрыстос.
Я з баганоснага племя, якое у турмы спускалі,
Шылі ў дурацкі каўпак, рэзалі дзёрзкі язык.
Але забылі вы тое, што колькі б вы нас ні цкавалі,
Рацыю меў, праз стагоддзі, заўжды — ерэтык.

Ветрык свабоды далёкай пяро на бярэце ўзвівае,
Вогнішчаў полымя злое ў вачах маіх дзёрзкіх гарыць.
І паўстаюць папярэджаннем, якім да канца пагарджаю,
Шыбеніц чорных «пакоі» на фоне далёкай зары.

## ПАВЕШАНЫМ 1863 ГОДА

Калі ідуць на абардаж,
І поўніць полымя прасцяг
Да верху мачты — экіпаж
Цвікамі прыбівае сцяг.

Даўно здалася — нават сталь,—
І толькі зараз — мы памром
Пад сцягам, што ў прадонні хваль
Знікае разам з караблём.

Ў крыві краіны нашай бель,
Прыходзіць час смяротных сноў,
І нашай волі карабель,—
Няскораны,— ідзе на дно.

І сёння ў вечны наш працяг,
У неба на світанні дня
Уздымуць нас, як волі сцяг,
Якога й богу нельга зняць.

## СМЯРОТНАЯ СТРАТА

*(1 сакавіка 1881 г.)*

*Ігнату Грынявіцкаму,*
*які сваім выбухам адпомсціў*
*Аляксандру II за 1863 год*

Карэта цара выязджае.
(Гэткі на колах гадзючнік!)
У канале Кацьчыным воды
Да блізкага мора бягуць.
Вось бомба. Хай з падлы смярдзючай,
Хай з яго, ката народаў,
Ката маёй Беларусі
Зараз шматкі палятуць.
Выбух. Той здох. Але
І яго смерч асколкаў нізрынуў,
Вось нясуць... Вось колюць... Пытанні...
Гэта каб іншых гнаць.
Не, ён ім не скажа, хто ён,
«Ігнась Грынявіцкі» — не кіне,
Гонару многа ім, гноям,
Па імю, па бацьку, па прозвішчу,
Гонару многа ім, шлюхам,
Сыноў Беларусі знаць.

З апошніх згасаючых сілаў
(Пытанні... Пытанні... Пытанні...)
Ён лепш успомніць пра тое,
За што ён ішоў на замах.
Успомніць Бабруйшчыну мілую,
Майскую стужку Бярозы,
Дняпро на райскім світанні,
Белыя світкі ў лугах.

. . . . . . . . . . . . .

І ў яго галаву адрэзалі,
І ў сасуд са спіртам паклалі.

. . . . . . . . . . . .

Спрэс трэслі усіх на допытах:
«Хто гэта?! Хто гэта?! Хто?!»
Але галава маўчала...
І людзі, вядома ж, маўчалі...
Адзін толькі выдаў, паскуднік,
І з тым перайшоў у нішто.
І сяброў ягоных павесілі.
Быў ранак сонечна-чысты.
А ноччу, як развітанне,
Калі іх везлі хаваць —
У сінім небе начным,
Сінім, як спірт празрысты,
Ўсплыла чырвонага месяца
Адсечаная галава.

## ЦАР-ГАРМАТА

Ідзе аблога.
                    На зубцах каменных
Цвітуць клубкі парахавога дыму.
У сутарэннях Вадаўзводнай вежы
Дзяк мерае скупы прыток вады
(Глыток на дзень дзіцёнку і жанчыне,
Сем — воіну і кухаль — для баяр).
Над цёмнымі званіцамі сабораў,
Залітыя дрыжачым мяккім ззяннем,
Спалохана лунаюць галубы.

Ў прыказе душным нейкаму нябогу
Кавальскія пад нос падносяць клешчы,
І пальцамі ўчапляюцца у рэбры,
І тузаюць: «Кажы!
Кажы!
Кажы!»
А хаты,
што да моцных сцен прыбеглі
Ў адчаі,
бо не хочуць іх пусціць,
Ўзяліся полымем і паміраюць.
Рыхтуецца апошні штурм.
Надзея
Пакінула галодных і сасмаглых.
Драбіны валакуць.
На вежы лезуць,
Чапляючыся пальцамі за камень,
Як мухі па сцяне.
Вязуць таран.
На ланцугах, ад ворвані ільсняных,
Гайдаецца ляніва бервяно,
Вось трэскі паляцяць.
І раптам рып.
Чакаць нясцерпна.
Знову рып.
І вось,
Адкрыўшы браму, цяжка і павольна
Выкатваюць пачварную гармату.
Яна плыве,
плыве,
плыве,
плыве.
Здаецца, хобату канца не будзе.
Чаканне навісае...
Зараз...
зараз.

У кожнага ёсць кроў і дом бацькоў,
Абдоймы жонкі раніцай замглёнай
І дзеці, што хістаюцца ў калысках,
Як мараходы на судах лядаштых.
І смокчуць пальцы, смачныя, як цукар.
І успамін аб гэтым, цёплым, блізкім,
Пранізвае людзей у страшны час.

Людская плоць пужаецца, крычыць,
І ў цёмнай паніцы перад страшыдлам
Ад брамы рынула.
Адкуль ім ведаць,
Што гэты леў бяспечны, як шчанюк,
Што ён на крок свайго ядра не кіне.
Ён страшны...
Ён жахлівы.
Бо нямы.
Бяспечная дурная недарэчнасць,
Бязглуздая, вялізная, цяжкая,
Як жудасная цёмная улада
Над душамі людзей, як тыранія.
Забойства цяжка коціць на людзей,
Грукоча ў камень коламі цяжкімі,
І з чорнае разяўленае пашчы
Крыўляецца і пазяхае смерць.
Ўстае над светам бронзы цёмнай холад,
Пагрозны і няўмольны зеў вайны.
О чалавек,
як дрэнна ты жартуеш!
Вось ты набудаваў палацаў дзіўных,
Узносяцца над светам Парфеноны,
Ў садах квітучых музыка іграе,
Гамеры светлыя складаюць гімны
І моцарты над нотамі сядзяць.
І раптам... грубы і нясцерпны скрогат
Гармонію ў кавалкі разбівае.
Прарокаў мудрых ты паслаў на смерць,
Заступнікаў сваіх пабіў каменнем
І дойліду фалангі перабіў...
Адвечная гучыць над светам песня:
Б'юць дзікуны у гучныя тамтамы,
Калоны скіфы валяць на зямлю...
Лятуць, як смерч,
атручаныя стрэлы...
Куюць мячы і вынаходзяць порах...
Агнямі выбухаюць мінаносцы...
І,— завяршэнне,— устае над морам,
Над залатым каралавым пяском
Сляпучы і тупы атрутны грыб.
Цывілізацыя!
Вянец культуры!
Яны жывуць народаў цёмным жахам.

Яны прыдумалі на душу простых
Дзесяткі недарэчных цар-гармат.
О простыя зямлі,
падайце рукі
Адзін другому з братняю любоўю.
Не кашляйце крывёй ля ям ліцейных,
Дзе смерць братам спакойна адліваюць.
І шчасцем стане жыць.
І цар-гарматы
Тады ў належнае паставяць месца,
На вечны п'едэстал,
каб ранкам дзеці
Гулялі ў схованкі паміж лафетаў,
І вартаўнік, заспаны і бурклівы,
Хадзіў вакол з анучаю і цэбрам
І лаяўся, змываючы з жалеза
Памёт і пер'е.

## РАМАНС ПРА КАРАЛЯ, ШТО ПАКІНУЎ ТРОН

Так было і доўга так будзе:
Паліглі вёскі й палі,
З гарадоў рабілі руіны і груды
Ўсёй зямлі — усе каралі.
Не, не ўсе. Ў даўніну забытую
Быў адзін — адзіны, і ён
Для простых кінуў эліту,
Для кахання пакінуў свой трон.
Заблукаў ён на паляванні,
І з дачкой палясоўшчыка Рут
Прасядзеў ля агню да світання
І найлепшую стрэў зару.
І кінуў магнатаў без жалю,
Палюбіў курных хатаў дым,
І аддаў сваё сэрца не за́мкам і залям,
А халупам і бедным братам сваім.
Палюбіў іх песні і словы,
Бо казаў іх каханай рот,

І зляцелі ў многіх галовы
З тых, хто мучыў і нішчыў народ.
І аднойчы сказаў ён магнатам,
Сказаў словы дзіўныя ён:
«За каханне у простай хаце
Я пакіну бацькоўскі трон.
А паколькі мне вецер вее
З нейкай іншай, свабоднай зямлі,
То ў Ісландыю, край завеі,
Мы сплывем на сваім караблі».
...І ў той час, калі йшчэ не ўкрылі
Крылы ветразяў мачты ўзлёт,
На прычале конна з'явіліся
Сваякі тых, што нішчыў народ.
Гналі коннікі ў дзікім намёце.
Кожны меч свой цягнуў з нажон:
«Не каханнем — макітрай заплоціш
Ты, што, дурню, кінуў свой трон».
Нараджала маланкі зброя,
І пад вечар ад роднай зямлі
Ў край далёкі, край мёртвых герояў
Ён адплыў на сваім караблі.
. . . . . . . . . . . . . . . .

Раздзімаў яму ветразі вецер,
І адплыў у Нязнанае ён...
Той адзіны кароль на свеце,
Што аддаў за каханне свой трон.

## ГЛУХІ ГЕНІЙ

*(Гойя)*

Сон розуму пачвар раджае,
І панствуюць яны над ім,
Паветра крыкам запаўняюць,
Вішчаць і кідаюцца ў дым.
І вар'яцее мозг ад плачу
На самай праведнай з планет.
Чуць не магу!!! Ўглядаю. Бачу
І мацаю каравы свет.

Што з ім? Які смяшлівы д'ябал
Зямлёй гуляе, як мячом?
Чаму аднога ўладай вабіць?
Чаму другога б'е мячом?
У ведзьмы на грудзях звісае
Дух цемры, злосны і тупы.
Свет забівае і ўмірае.
Хто не асёл — той нетапыр.
І хто паверыць, нават з кроўных,
Што цяжка мне ўзнёсласць мар,
Дзіцячую сваю любоўнасць
Хаваць за жорсткасць і кашмар?
Іначай нельга, бо адразу
Раздражніш лютую змяю...
Іначай схопяць і абразяць,
І гразззю ў душу наплююць.
У царстве смерці і трывогі
Ёсць для мяне адзін маяк,
Што асвятляе мне дарогі...
Іспанія, зямля мая!
Ахутаная ў сан-беніта
З дурацкім вострым каўпаком,
Равучым полымем абвіта,
Ў турме задушана шнурком.
Вайна!
Забілі маці ў полі.
Нясуць. А захад дагарэў.
Дзіцёнак сіры, бедны, кволы
Ідзе за ёй і вочы трэ.
Не бачылі бы лепей вочы
Вось гэта:
новай смерці цень,
Маленькую фігурку ноччу,
Кранаючую, як прамень.
Хто высушыць дзіцяці слёзы?
Хто ён, загублены ў хмызах?
Язміну кветка на марозе.
На веях мёртвага сляза.
«Матуля, бедная!
Як гэта вытрымаць?!
Якая мужнасць!»
Суцэльны крык ірвецца з горла,
Крык фарбы, крык іглы ў турме.
І ўрэшце: «Ісціна памёрла!»

Памёрла пад вясёлы смех.
Глухім жыву і паміраю,
Глухім крычу пад градам куль,
Глухім, бо слухаць не жадаю
Хлусню, што панствуе паўсюль.
Пакуль пад гукі новай песні,
Харалу, што залье палі,
Святая праўда не ўваскрэсне,
Ўсё ж уваскрэсне на зямлі.

. . . . . . . . . . . .

Тады — пачую.

* * *

Не злабіся на ерэтыкоў,
Не цягні ў самое неба выю.
Свет без іх — чародка прасцякоў,
Свет жывы — пакуль яны жывыя.

Ты мудрэц — пакуль мудраць яны.
Ёсць яны — няма ў табе падману.
Не гані агнём іх, не кляні,
А малі аб іх уратаванні.

* * *



Што такое ёсць справядлівасць,
Калі капануць глыбока?
Яе няма, калі гнецца
Хоць адна ад крыўды спіна.

Як кулак — не кулак без пальца,
І «ў абодва не зрыць» аднавокі,
Так грамадства з адным нешчаслівым
Каштуе не болей лайна.

## БЕЛАРУСКАЕ МІНУЛАЕ

Нязносны гонар тым, што робім сёння. Дулю!
Вазьмі у звычай, сын герояў і багоў,
Не пагарджаць святым сваім мінулым,
А заслужыць яшчэ,
і вартым быць яго.

* * *

З амбона хтось крычаў пра шлях да раю.
Адзін маўчаў, паказваючы згоду.
Другі маўчаў — на знак сваёй нязгоды...
Маўчанне адназначным не бывае.

## БЫЛОМУ ДРУГУ

Ну й свінства ж ты зрабіў...
Ледзь дашукаўся кораня.
Глядзі,
ў наступны раз не зносіш галавы.
Давай
на антыбрудэршафт з табою дзёрнем.
Хачу ад сёння быць з табой на «вы»

## СКЛЕРОЗ

У яго быў склероз — ну чыстае гора!
Але ён быў мужны і не паддаваўся:
Кожны дзень забываў ён, ці піў учора,
І, на ўсякі выпадак, апахмяляўся.

## АРАРАЦКАЯ ДАЛІНА

Плантацыі перцу, кінзы і рыгана,
І сохне перац пад кожным «дымам».
І кожны дом у агні буяным
Згарае купінай неапалімай.

І скалы, як бруднаю вапнай пабелены,
Гразёй храпаватай залеплены спіны.
А там, дзе вада,— такая ўжо зелень,
Такая зялёная, ажна сіняя!

А ўдалечыні Арарат двухгаловы
У небе стаіць недасяжнаю марай,
Прысыпаўшы лысіны пудрай цукровай,
Захутаўшы ногі ў ліловыя хмары.

## АРМЯНСКІЯ АНАНІМНЫЯ ПРЫТЧЫ

*(Вольныя пераклады)*

### СТАГОДДЗЕ V

Воўк авечкам сказаў: «Мір вам светлы й святы.
Нада мной і над вамі — адзіны бог».
І Баран сказаў: «О сёстры й браты! —
Ратуйся, хто як і хто змог!»

Калі часам пачую голас святы:
«Абавязкі!!!
Прагрэс!!!
Ідэі!!!
Правы!!!»,—
Мне таксама хочацца крыкнуць: «Браты!
Ратуйся,— на злом галавы!!!»

### СТАГОДДЗЕ XX

Ганарылася стронга перад печкуром:
«Рыбакі мной цароў частуюць! А ты?!.

Галадранец кожны нясе цябе ў дом,
Купіўшы за шэлег сто тры хвасты».

І пячкур адказаў: «Ну і хай сабе голь,
Хай ламаны шэлег за сто тры хвасты.
Ты ж — бясплатна вандруеш на панскі стол.
Значыць, нават таго не вартая ты».

## ПЯЦЬ СТРУКОЎ ПЕРЦУ

Як задумаў свіння — Асманскі султан
З Каўказам сілаю мерацца,
Ён — меру гароху прыслаў для армян,
А яны — пяць струкоў чырвонага перцу.
І кожны султанаў мудрэц, як баран,
Разглядаў іх і сэнсу не бачыў,
Але самы сівы сказаў: «О султан!
Мне нядоўга жыць. Растлумачу.
Ты гарох ім паслаў — безліч войска свайго.
Ну і звараць. З'ядуць. Хай без радасці.
Хаця цяжка пасля,— нат з падмогай багоў,—
Будзе вытрымаць іх кананаду.
Войска іхняе — пяць пярчын — прад табой,
Праглыні, найвялікшы султане,
І згарыш ці да смерці уп'ешся вадой:
Ні Севана, ні рэчак не стане».

* * *

Старайся (але, вядома, не ка́ту)
Сказаць адзіна верныя словы:
Замест:
— О божа, ды будзьце вы клятыя!
Сказаць:
— О божа, ды ўстаньце здаровы!

## ХАН І ТАБІБ

Хан кліча лекара-табіба зрання:
— Баліць азадак. Маю барыша.
Лячы хутчэй, бо заўтра мне ў дыване
Дзяржаўныя пытанні вырашаць.
— Ды вылечым. Але прабач, мой хане,
Магчыма ў неразумнасці сваёй
Я нейк лічыў, што гэтыя пытанні
Рашаюць пераважна галавой.

## ПРАРОК

*(Маналог Кастуся з III акта
трагедыі «Кастусь Каліноўскі»)*

*Генадзю Кісялёву*

Далёкія-далёкія дарогі
Пад хмарнай лебядзінай чарадой...
Іду... Не веру ў д'ябла, ані ў бога.
Былі б — дык не паднеслі б чары той:
Пакутваць цяжка гневам і журбою,
Ў пустыні марна да пяскоў гукаць
За край, даўно адвучаны ад бою,
Ад мовы, гонару і языка.
І жыць, як тыя, што вось-вось сканалі,
Але яшчэ не ўпалі ў вечны смерч:
Мозг шле навокал клічы і сігналы,
А цела — ў мёртвы лёд закула Смерць.
Ў распадзе клетак мозгу, бы ў магіле,
Чуць, як лікуе крумкачоў імша,
Ўсе словы чуць у гневе і бяссіллі,
Пакуль не вернецца ў Нішто душа.
І з горыччу, бы ў сполаху зарніцы,
Убачыць раптам дальнія гады,
Калі нашчадкі узвядуць грабніцы
Ўсім тым, каго распялі іх дзяды,
Каго пабілі на стагнах каменнем,
Каго на плаху валаклі з турмы...

Вы, людзі ўсіх наступных пакаленняў,
Ці будзеце у роспачы, як мы,
З сваёй апошняй ледзяной калыскі
Чуць мозг, што марна растае ў агні?
Не трэба. Што нам славы абеліскі?!?
Што нам, памёрлым, знічы і граніт?!
Калі жадаем мы адной кароны:
Пачуць, як лёсу валяцца муры,
Пачуць, хаця і ў першы дзень па сконе,
Ў згасанні мозгу ярасны ваш крык.
І зразумець, што вы ўзламалі краты,
Апошняй думкай, цяжкай, як свінец,
Што блізкі ён, вялікі ваш пачатак,
Што блізкі ён, вялікі мой канец.
І ў водбліску згасальнае заранкі
Апошнім промнем, як лязом нажа,
Пайсці раллёю, мною узаранай
Для руні, невядомай і жаданай...
Пайсці да вас...
І да свайго крыжа.

## ДЭМАН

Позняю ноччу з бяссілымі зорамі стылымі,
Калі ў глыбокіх дварах паміраюць вятры,—
Сеў на акно чалавек з кажановымі крыламі,
Месяц і зоры гусцеючым ценем закрыў.
Складваў і знову выпростваў ён крылы маўклівыя,
З іх вандраванняў міжзорных счышчаюць пыл.
Крылы як веер былі, як паніклыя косы алівы,
І як пагаслых ад стомы камет пацьмянелых снапы.
— Хто ты? — спытаў у яго.
— А нашто табе ведаць аб гэтым?
— Што ты?
— Я кветка і зорка. Пагоня і бег.
— Зараз адкуль?
— Я... забыўся на тыя планеты.
Дзе абпякаў мае крылы агонь, дзе завейваў іх снег.
— Што ты пабачыў?
— Тупых катаклізмаў раскаты,
Зло і пяшчоту, пажар і спакойны заліў.—

Ўсё гэта можна пабачыць на гэтай праклятай,
На блаславёнай, на сонечна-змрочнай зямлі.
— Што ты запомніў найбольш?
— Ледзяныя абшары свабоды,
Дзе сумнявацца даводзіцца ў сэнсе самога быцця,
І каля Альфы Цэнтаўры грыбы вадародныя,
А ў Магеланавай Хмары няпэўныя іскры жыцця.
Ёсць там планета, што Антызямлёй называюць,
Чорная прорва за ёю. І там, у здрадлівай імгле,
На двайніка твайго вораг з кінжалам чакае,
І з антыкуляй, што дрэмле у антыствале.
— Дэман мой, што ж не сабраў ты апошнія сілы,
Каб двайніку майму сніліся вершы, каханне, спакой?
— Але ж цябе на зямлі гэтай, дружа, таксама забілі
Слабай жаночай рукою, каханай рукой.
— Дух дасканалы занадта, ўсю горыч ты зведаў.
Што ж уратуе жыццё? Ратуй мяне, дружа, або
Вырві з мяне ледзяную самоту ўсяведання,
Дай мне няведанне простых і простых любоў.
Ўсё асляпленне кахання, эльбрусы яго і галгофы,
Люд, што гібее ў агні, сэрца, што гіне ў агні,—
На іх, вазьмі іх сабе разам з гэтымі строфамі,
Што разумеюць усё і нічога не могуць змяніць.
У чалавека ўначы ўсміхнуліся змрочныя вочы:
— Просіш аб чым? Пагасіць твой апошні маяк?
Хлусіш нашто? Ты ж не хочаш збавення, не хочаш.
Лепшаю песняй тваёй стала пакута твая.
Мужна ў цемру глядзі і трызні аб вечнай радзіме,
Трызні аб шары зямным і пакутвай далей і далей,
Пакуль не згасла зямля, пакуль чыстае неба ад дыму.
І пакуль гібель твая дрэмле ў нейчым ствале.

## ВІНО ДАЖДЖОЎ

*(Малая паэма)*

*Рыгору Барадуліну*

Хмары цягнуцца ляніва, дзень пры дні —
чацвёрты дзень,
Гарадок паныла мокне на адхоне над Дняпром.
Хочаш — паблукай па вулках,
толькі зведай — варта дзе?

Каб з зарослае канавы не чарпнуць чаравіком.
На адхонах ліпы мокнуць, за ракой дажджы вісяць,
Нібы гэта і не жнівень, а кастрычнік на палях.
Бурбалкі плывуць па плынях, ад мянёў віры кіпяць.
Што, зямелька дарагая, нарабіў Ілля гнілля?
Добра, калі пройдзе скора, калі сонца раніцой,
Ледзь прабіўшы выпарэнні на старыцах і тарпах,
Сотняй радасных вясёлак загуляе над зямлёй
І ў падобных на вясёлкі, зыркіх, радасных сярпах.
Наламаныя з праменняў,
станучь копы на палях,
Сотні ветразяў паставяць і абсушаць іх буслы,
І тады не толькі ў птушак будзе цвёрдае валлё,
І тады не толькі ў быдла будуць гладкія маслы.
Добры дух зямлі дняпроўскай, пасіні рачны свінец,
Каб сплылі на мора хмары і,— як можна нарыхлей,
Дрэнна стала паляўнічым, а, сярод усіх, і мне,
Добра стала ўсім астатнім, чый надзённы гіне хлеб.
Паглядзі, пад бізунамі ледзь стаіць у люстрах сад,
Яблыкі, як лёд вільготны,
агрэст змрочны, нібы гном,
Сотняй мокрых парасонаў правісае вінаград,
За заплаканым, як доля, за пакрэсленым акном.
Мокрыя стагоў шаломы, бітая, як я, рака,
Ломкая дажджоў салома не стамляецца звінець.
І ад любай сто стагоддзяў ні адзінага радка:
Пэўна, ногі паламалі на ухабах да мяне.
Будзем верыць:
заўтра сонца абагрэе свет ізноў,
Заўтра Янка ліст напіша, Грышка, Ладысь і яна.
Бог, урэшце, з ёю. Пэўна, зноўку недзе п'е віно.
То давай і мы адкажам яснай зліваю віна.
Што яшчэ рабіць іначай, калі плачуць берагі?
Чым яшчэ цяпер заняцца, калі ў гневе мокры бог?
Ну,— Сяргей, Юрась і дзядзька! —
заўтра пойдзем на лугі,
А сягоння досыць кіснуць. Выпіць хочацца, дальбог.
Будзем верыць:
сонца ўстане.
І ў чаканні на яго
Прабяжым дваром і ў спіны бізуноў палучым воз,
І адкрыем рот адрыны, і пасцелем ля стагоў
Пару посцілак суровых, як паэтаў добрых лёс.
Пяць «гармат» ля іх паставім пад высокі асярод.

Толькі ў гэтым ты прыдатны, золкі дождж,
праклён зямлі:

З-пад цябе яны — ў каралях,
з-пад цябе яны — як лёд.

Як, сцюдзёныя ў крыніцах, дуба чорнага камлі.
Ну, Сяргей, бяжы ў гародчык, памідораў набяры.
Патапчы бульбоўнік золкі — раз малодшы сярод нас.
Прыйдуць, будзем спадзявацца, і такія вечары,
Калі хлеб ты будзеш кроіць і з адрыны — ні на час.
Дзядзьку — баннік ад «гарматы», як зямны прагрэс,
крывы.

Аддамо яму пашану: больш як ўсіх ён пастраляў,
Хай кіруе ён паважна разліццём зямной крыві,
Каб ніхто не лёг пад стогам і ніхто не крыўдаваў.
Ты, Галіна, дай, тым часам, сала мяккага сябрам.
Што мы, ўрэшце, не славяне?
Што мы, зломкі на хаду?

І паколькі продкі нашы елі з травамі зубра,—
«Зверабою» і «Зуброўкі» для гуляк не пашкадуй.
Я — раздзелаю качыну на талерку для кагось,
І яна растане ў роце — што там нейкі ананас?!
Ты ж, Георгій, як далёкі, але вечна блізкі госць,
Пасядзі пакуль султанам і натхняй ідэйна нас.
Вось урэшце ўсё гатова.
Стол цвіце, як майскі луг.

Але што з пяцццю жняцамі значыць жніўная пара?
Ёсць сусед у нас харошы, і паколькі ён наш друг,
І паколькі ён вясёлы — запрасі, Сяргей, Змітра...
Мы сядзім, і перад намі быццам восенню гарод,
Ўвесь спакойны і раскошны і аддадзены такі,
Быццам лепшы грэх смяротны, забаронены стакрот,—
Пахнуць кменам і парэчкай маласольныя гуркі.
Кроп, нібы галіны славы над бульбянай галавой,
Лаўр на ёй ляжыць, здабыты ў палымянай барацьбе,
І, як лёд, стаяць вяргіні, ўсе абвітыя ў павой,—
Нібы ты і ўсе дзяўчаты, што тужылі па табе.
Ад гусцёрак на патэльні —
да нябёсаў пах пайшоў,

Аж багоў на сёмым небе рэжуць зайздрасць і нудзьга,
Кучы ракаў вагнедышных, жоўтых паркіх кіяшоў,—
Патрабуюць вінных плыняў, каб пажар у глотцы згас.
Гэй вы, хлопцы-памідорцы, рэжуць вас, а вам — дарма!
І таму ў падзяцы палкай будзем з вас мы пачынаць,
З вас, жаўцюткіх, нібы сонца, сонечных, нібы хурма,

І чырвоных, нібы шчокі у вясковых дзеўчанят.
На, трымай, вось гэты зараз лопне, як чырвоны шар,
Ёю ўпушчаны ў вышыні ў той апошні, горкі дзень...
Д'ябал з ёю!..
Як палае барвінкавы пажар!
Гэта, брат, такое дзіва: як няма, то украдзеш.
Лі віно! Мы не з цвярозых ад калыскі карасёў.
Нічыёй высокай ласкі мы не маем на стале.
Самі ўсё мы тут злавілі, і ўзрасцілі самі ўсё,
І не ўдзячныя нікому да маленняў і кален.
Вып'ем, хлопцы, за нянасце, за ружовыя агні,
Што абудзяць немінуча заўтра новую зару.
За Балгарыю, за ружы, за баянскіх тэмпер зніч,
І за сінія валошкі, за Дняпро, за Беларусь.
Хай жывуць яны давеку сярод рэк, азёр і гор,
З іхняй боскай дабрынёю, з гонарам прыгожых вей,
З іхняй мовай першароднай, з песнямі, як райскі хор,
З ярым сонцам вечнай славы, што і ў хмарах пражыве.
За Рыгора і за Янку, за сяброў вясёлых — мех,
За пасеў, пачаты імі на святой сваёй раллі,
І яшчэ за Аляксандра, за яго знішчальны смех,
За працяг яго легенды аб раздзетым каралі.
Спусцім каралёў у прорву — і нядрэнных і благіх,
Разам з гвалтам і вайною кінем іх да сатаны,
І адзетых, і раздзетых, і ў каронах і без іх.
І за гэта, братка, вып'ем. Не кажы, што ты хмяльны.
Вось віно, як кроў дракона, вось з рабінаю каньяк,
А не хочаш — «беларускай» ад душы у глотку ўлі.
П'ешча ў дождж, дык пі, Георгій, пі, балгарскі ты лайдак,
Ні Кірыл і ні Мефодый гэтак, дурні, не жылі.
Што з таго, што гэтай песні літары далі яны,—
Мы далі для гэтай песні тое, чым звініць яна:
Азбуку любві да праўды, і агіды да хлусні,
Азбуку радзімы мілай, і кахання, і віна.
І закусвайце: ўсё роўна поўная грахоў карма.
Дык давай на ўцеху д'яблам мы пакінем гэты дом
Тлустыя, як карт калода ці апошні мой раман,
Гладкія, як друг мой, Мальдзіс, і лянотныя, як сом.
Закусі, каб нас мядзведзем Хмель Хмялевіч не задраў:
Вось кіпіць у масле рыба, вось кіёўкі, як ламы,
Качкі смажаныя мараць пра зялёны рай Дняпра,
Як калісьці будзем марыць аб Дняпры у пекле мы.
Мы не крыўдзілі суседзяў, але крыўдзілі багоў,
І з катлоў смалы ніякі нас не выведзе Арфей.

Пекла будзе.
І калісьці вып'ем мы і за яго...
А цяпер, на тост наступны,
выйдзі, брат, пад дождж, Сяргей.
За жанчын, што нас кахалі ў светлы дзень і ў ночы час,
Што сваёй пяшчотай рэдка нас міналі на зямлі,—
На каленях, хлопцы, вып'ем: і за тых, што грэлі нас,
І за тых, што нас калісьці, небаракі, абышлі.
Ім жа горш, што абмінулі, не прыйшлі ў наш цёплы кут,
Што навекі застануцца без сапраўднага святла...
А пакуты?.. Што пакуты?.. Без настройкі трох пакут
Песень сапраўды вялікіх наша ліра не дала б.
...Дождж лапоча па драніне, і праз завесі вады
У адрыну павявае ветрам волкім і прамым,
І ўстаюць у мокрых далях з хмар і зліваў гарады,
У якія не траплялі і павек не трапім мы.
І няхай пад бізунамі ледзь стаіць у люстрах сад,
І скрабецца у адрыну агрэст, змрочны, нібы гном,—
Мы жывем і п'ем за сонца, мы, сцюдзёная раса,
Што прарочыць дзень пагодны і знікае з гэтым днём.

## ГУЛЯНКА Ў ДЭКАРАЦЫЯХ

*(Малая паэма)*

Гародня над морам. Няўжо над морам?
Нешта, здаецца, вучыў, што над Нёманам...
Мабыць, з-забыў... Хвала рэжысёру,
Што прыцягнуў пад Гародню горы!
Волат!
Мог бы спрачацца з Сам-со-манам.
Што-то як двойка па геаграфіі...
Вось жа яно...
У стагоддзі шаснаццатым...
Латнікі п'яныя, войты, графы...
Тр-р-р... А нашто тут студыйны рафік?..
Часу машына?
А што разбірацца там?!.
Плюнь! Віно галоўнае,
Шашлыкі,

Сіні дым...
П'ём сваё, кроўнае,
На працы гарым.
Бач, апостал Павал цягне віно...
Кін-но!!!
Месяц ішачылі
Дзень у дзень...
Што вам тут, Ушачы?
Орша? Бытэнь?
Маеш рач-чыю
Д-дзень у дзень...
Мелі рацыю,
Што ў дэкларацыях,
Без людзей.
Што вам тут, Мёры,—
Пі ды глядзі.
Слава касцюмёрам,
Грымёрам, акторам,
А найбольшая таму, хто даў у крэдыт?
Полымя адбіткі на даўніх мурах,
Вілы, косы, світкі — проста жах!
На шампурах круцяцца, пахнуць шашлыкі,
Сінія агеньчыкі, іскаркі.
Досыць над такімі палілі нас.
Мы іх пусцім дымам...
Наш час!
Вогнішча іскрыцца. Дым. Дым.
Мы ім — інквізіцыю! Мы — ім...
Лі на абрусы,
Паны-беларусы!
Ў гэты апошні і слаўны час
Крымскія лаўры глядзяць на нас...
Мы беларусы даўніх часоў.
Ой, уп'юся!
Дык кінь ты ўсё!
Налівайце шклянкі —
П'янка дык п'янка.
Налівайце іх не святасць
Віном.
Акаянным, але не праклятым
Віном.
А яно нам паможа ўзвесці наш дом,
Радасць, ісціну й людскасць у рукі ўзяць.
Слаўся ў вышніх лаза!

Слаўся лаза.
Слаўся тая, што дорыць кахання сілу,
Слаўся тая, што гора паможа заліць,
Тая, гроны якой нас сёння паілі,
Тая, гроны якой яшчэ спяць у зямлі,
Што малодшым, іншым падораць радасць,
Іх шпурнуўшы ў кахання гарачы вір.
Эх, лаза ты мая, без лістоў,
непрыглядная!..

І сядзіць у вянку з лазы вінаграднай,
І смяецца праз слёзы
Аўтар — п'яны сатыр.
О якая туга!
Па-над белымі вежамі сцелецца
Ў чорным небе Батыева Шляха алмазны аркан.
Калі даць камянём па аплеценай віннай бутэльцы,—
Атрымаецца ледзь не версальскі фантан:
Сто каскадаў у шчыліны. Глеба з гора
Смокча, сёрбае, цягне нагбом віно...
Ой, кіно!!!
О, як скачуць, якая фантасмагорыя,
Мора, скалы, касцёл беларускі, ноч!
Ноч святое Вальпургі: рук спляценне,
Вежы, мур і горад з сярэдніх вякоў,
На франтонах і статуях ломяцца цені,
Бліскавічна імчаць распатланыя цені
Пад рытмічны пошчак конскіх падкоў.
Конскіх?
Чорта!
Проста ў д'ябла капыта
Рэквізітарам п'яным рупна падбітае,
Бо ў імгненне стопча сярод камянёў...
Ой, кіно!!!
Як на Лысай гары, як на Брокена скалах
Карагодам, віхураю ўецца навала.
Скачуць д'яблы з вядзьмаркамі, скачуць агні,
Ўсё здаецца вось-вось узаўецца ў зеніт
На мяцёлках і свіннях, з бляяннем і віскам,
На казлах і качэргах, як смерч, як вятрыска...
Звон падковаў і з белай званіцы звон,
А магчыма, ў мазгах утрапёных звон...
Звон.
Звон.
І віно, і ўзлёт, і водбліск пажараў,

І бляднеюць зоры ад нашай мары
Ў прадчуванні новага светлага дня.
Пеўня крык.
Цішыня.
Разлілося святло.
Цішыня.
Цішыня. Над туманным масляным морам
Узвышаюцца вежы снежным узорам.
Мёртвым сном войска мёртвые спіць на
зямлі...
Мо манголы прайшлі?
Мо гуны прайшлі?

## ПАЭМА
## ПРА ЯВАР І КАЛІНУ

Трубяць трубы ў Гародні,
Прагнуць мячы крыві...

Збірае войска магутнае
Князь Гародні — Давід:
— Абрыдлі зямлі нашай крыкі,
Крыжакаў расціснем у блін!
Хадзем, зямля Беларуская,
Хадзем вайною вялікай!
Хадзем,
Народ
беларускі,
На Мар'енбург і Берлін!!!
Досыць ім нашага раю!
Не дазволім нас болей крануць!!!
Конь басуе, іграе,
Зямлю капытамі крае,
Зоры вачыма лічыць,
Вушамі — чуе вайну.

Збіраюцца тысячы вояў.
І Яну трэба ісці...
Латы светлыя, добрая зброя —
Што яшчэ патрэбна ў жыцці?!

А нічога! Хіба што праклёны,
Ды яшчэ каб даўжэй пражыць.
Бязлітаснай чорнай варонай
На ганку маці стаіць:

— Ян!
Запомні!
Немцы
І прусы...
(А як прыйдуць, то зноў заб'юць)...
У няроўным баі яны мову душылі,
У няроўным баі твайго бацьку забілі
І зямлю спалілі тваю.
І прусы —
Няхай пад прымусам
(Кляты, рабскі народ!)
Зрабілі табе,
беларусу,
Найгоршую з горшых шкод.
Яны спалілі Айчыну.
І ты з імі тое ж зрабі.
Дзіця...
Старога...
Жанчыну...
Дань не бяры...
Забі!!!

О вялікая, лютая сеча!
(Што каму да жаночых слёз?)
Над поплавам мокрым пад вечар
Пыл стаяў да нябёс.

Мужчыны забітыя...

Прусак
і нямкінь
у распетлях вялі...
Край загінуў.
І за́мкі іхнія,
І палацы дымам пайшлі.

За́мкі — хай...

А нашто ж адрыны?..

Трубы вояў плачуць наўзрыд.

Паміж яварам і калінай
Сядзіць Вялікі Давід.
Вакол — вялізная світа
І ні лапічка свежай травы.
І латы яго — пабітыя,
І на твары — дым баявы:

— Яне! Прасі чаго можаш!
Ты ў ворага славу адняў,
Ты прабіўся праз строй варожы,
Ты — магістра зваліў з каня.
Ты —
Зламіў таму быдлу шыю,
То прасі хоць свет у мяне...

— Княжа... Мне паланянку...
Марыю...
Яна... пакахала мяне.

— Хочаш — золата колькі важыш?
Ці бурштынаў,
каб аж скамянець?

— Княжа... Мне паланянку...
Марыю...
Яна... пакахала мяне.

— Хлопча!!! Аб'еўся блёкату!?!
Немец з прусам кроў нашу п'е...
Яна пруска! Балтка! Рабыня!

— Княжа, я кахаю яе.

— Д-добра, бяры яе ў жонкі,—
Ўсё ж паправа для нашых ніў.

І адсек ён галіну явару,
І каліны цвет абламіў.
— Бяры, калі так кахаеш...

Чагосьці я добры цяпер?
Толькі ведай: такое — навекі.

Кінеш — то лепей бы ўмер.
Кахай да апошняга ўздыху,
Кахай да ліхога канца.
Толькі вось што...
Хочаш не хочаш,
А матцы дашлі ганца.
Бо яшчэ прыпасе табе вілы,
Бо яшчэ глядзіш — і канец!..

На апошніх канёвых жылах
У двор уварваўся ганец.

— Пруска?!? Яны пад прымусам
(Кляты, рабскі народ!)
Зрабілі нам, беларусам,
Найгоршыя з горшых шкод.
І няхай яны знікнуць знічкаю...
І няхай...

І тады яна
Атруту, чорны дурнічнік
Распусціла ў чашы віна.

Ян вёз,
Асцярожна трымаючы
Пад грудзі магутнай рукой.
Конь ступаў, нібы нёс паміраючым
Чашу з крынічнай вадой.

Прыскакалі.
Вояў калона
Па шляху паўзе, як ніць...
На гульбішчы чорнай варонай
Няўмольная маці стаіць.
А яны — як светлая мара,
А яны — як вясны яснацвет.
На кальчузе — галінка явару,
На шнуроўцы — калінавы цвет.

— Маці, я дужа кахаю.
Гэта вечная радасць мая.
Палюбі, як неба кахаеш,
Палюбі, як кахаю я.

У нянавісці — неба згарае,
Пасвіць воўк чараду авец.

Конь басуе... іграе...
Зямлю капытамі крае,
Зоры вачыма лічыць,
Чуе вушамі —
канец.

— Піце на хмель і на руту,
Піце, дзеці мае.
(Падае Марыі атруту,
Яну — віно падае.)
— Тут твой дом, бузіна ля парога,
Тут прабабкі часалі руно...

Проста каню пад ногі
Сын вылівае віно.

— Марыя! Віно, і світанне,
І апошні смяротны ўздых,
І шчасце адно, і каханне.

Пі палову майго кахання.
Астатняе я...
Каханне.
І сонца адно нам, Каханне,
І Зямля адна на двaіх.

. . . . . . . . . .

І... зямля... адна на дваіх.

Не паспелі спахапіцца другі,
Маці вей не паспела ўзняць:
Ледзь паспелі схапіць яго слугі,
Калі ён
валіўся з каня.

Скамянела маці:
— Што ж, людзі.
Гэта лёс.
Падрыхтуйце ім дом
Ля царквы.

Дзеля Яна —
пад правым.

Дзеля дзеўкі —
пад левым крылом.

Вінен сам.
Забыўся, ануча,
Пад чыёй рукою ляглі
Бацька,
друзі,
браты,
таварышы

На праклятай,
На спаленай гэтай зямлі.

І хай вам не будзе агульным
Ані жыта, ні сінь ільноў,
І ложак не будзе агульным,
І зямля вам не будзе адной.
. . . . . . . . . . .

На магіле Марыі каліна
Ў кроплях вясёлкавых слёз,
А на магіле сына
Явар магутны ўзрос.

Дні ішлі... А дрэвы віліся
Паміж тысячаў дрэў жывых,
І галінамі моцна спляліся
Над страхой заімшэлай царквы.

Данеслі.
І маці з'явілася,
І вочы ёй плач спапяліў:

— Пэўна дзесь мае дзеці
Ў вялікім каханні жылі.
Жылі, жылі, весяліліся,
Шумелі вясной маладой...
Цераз царкву сашчапіліся.

Божа!!!
Божа ты мой!!!

Што казаць аб магіле трэцяй?!

Мала тых магіл на зямлі?!

Але разам — праз храмы,
Войны,
Дзяржавы,
Наветы,
Праз нянавісць —
Галіны яны сплялі.

І канец паэмы журботнай,
Так журботнай, што плача сусвет
Пра магутны і горды явар.
Пра каліны ласкавы цвет.

# ПАЭЗІЯ РОЗНЫХ ГАДОЎ



## КАЗКА ПРА СНОП

Восень чырванню ліст памячае.
Ўдзень ў гародзе пахне акроп...
Па шляхах пачарнелых дыбае,
З воза ўцёкшы, вясёлы сноп.
Сам такі таўшчэзны, пузаты,
Паяском перавіты ўвесь
Ў залацістым прыгожым халаце,
З буйным чубам на галаве.
Ён уцёк ад сваёй нявесты,
Што сасватаў Гуменнік яму.
Свет чырвоны вакол, пярэсты —
Проста на ногі стаў — і прамуй.

А нявеста яго шукае...
Вось ужо і зіма надышла,
Бач — сугорбак, рукой разрывае
І пад ім жаніха знайшла.
Пацямнеў ён, стаў шэрым як трэба,
Нежывым лёг пад белы плат,
Чуб асыпаўся ў мёрзлую глебу,
Пацямнеў залаты халат.
Плача-плача над ім дзяўчына...
Але вось пачарнелі гарбы,
Снег звароў у глыбокіх лагчынах,
Небасхіл пасміхнуўсь праз дубы.
І жаніх пацягнуўся сонны
І ажыў пад ветрам тугім,

Падаслаў пад сябе зялёны,
Мalады, пушысты кілім.

Калі ж восень другая настала
З сумным шорахам пушч і гаёў —
У гумно нявестна ўязджала
З цэлым возам вясёлых снапоў.

[*1952—1954 гг. ?*]

## НА РАЦЭ

Далечыня. Блакітныя абрывы
І Днепр зялёны ў веснавой пылі,
І сіняй пушчы млеючыя грывы
Павольна калыхаюцца ўдалі.
Разбіты човен. Ля яго дзяўчынка
Спакойна спіць, прылёгшы на прычал,
І сонца залатое безупынку
На ногі ёй накладвае закал.
А поруч загарэлыя бы маўры
На конях, з спін якіх нясецца пар,
Шалеюць трое хлопчыкаў-кентаўраў,
Вадою плешчучы адзін другому ў твар.

[*1952—1954 гг. ?*]

## ВЯСНОВАЯ НЕПАГОДА

Харалуг замест неба. Вакол лазнякі,
Плынь гайдае ў пратоках чарот,
Дождж стучыцца па шэрай паверхні ракі,
Толькі скінуўшай першы свой лёд.

Беспрыютна, панура, але паглядзі
Лёд зышоў, гай прачнуўся ад сна,

На азёрах прызыўна трубяць лебядзі,
Блізка сонца, каханне, вясна.

Хутка ў небе сонца распусціцца квет,
Ўсё сагрэе мілым цяплом.
І адразу пакрые ўвесь белы свет
Чысты лебедзь блакітным крылом.

[*1952—1954 гг. ?*]

* * *

П'юць галубы блакіт із каляіны
І вось адзін, падняўшыся ўгару
Пад мірным небам, ласкавым і сінім
Як камячок святла трыпоча на вятру.
А далей, над калгаснымі палямі,
Дзе млеюць нівы ў сонечным цяпле —
Зусім нябачны жаўранак крыламі
Ў цымбалы сонечных праменняў б'е.
Прыпомні беларускае паданне,
Як на абшар замёрзлае зямлі,
Каб першым людзям даць магчымасць існавання
Дзве птушкі гэтыя цяпло і мір зняслі.

[*1952—1954 гг. ?*]

* * *

Вагеньчык у яблынным садзе
Як вецер дыхне па начах,
Яблыкі частым градам
Са стукам ляцяць на дах.
Тут так прытульна і ціха,
Тут добры такі народ,
Як быццам засталася ліха
За шуламі гэтых варот.

Тут цягне жыць і кахаці,
Тут добра так, як нідзе,
У старасвецкай хаце,
У дзедаўскім родным гняздзе.
Бо з гэтай няяркай зямліцы,
З абрываў рудых, з лугоў,
З садоў у начной расяніцы
Наш корань у свет пайшоў.
Блукаем па свету самі,
Часам звяртаючысь ў сад,
Каб слухаць як начамі
Яблыкі ў дах стучаць.

*15 чэрвеня 1954 г.*
*Рагачоў*
*Ноч*

* * *

І зашумяць асіны над ракою,
І будуць светлымі улетку дні,
І зацвітуць на скалах над вадою
Спакойныя купальскія агні.

Як знак таго, што ўсё мінае ў свеце,
Сарве іх шэрань прагнаю рукой,
І толькі ты адна ва ўсім сусвеце
Навекі застанешся маладой.

*1954 г.*

## БАЦЬКА

Бярозкі ствол усхвалявана-тонкі,
Пясчанікавых скал крутыя йлбы,
Над берагам зялёным явар звонкі
І моцныя, спрадвечныя дубы.

Вось буслава гняздо над старай хатай
Вячэрнім, залатым агнём гарыць
І там, ля пуні, дзе вішняк калматы,
Сплятае сетку бацька мой стары.

Даткнуцца б рук яго, такіх знаёмых,
Карычневых ад сонца і зямлі,
Ад сонца, што цяплей за ўсё удома,
Ад той зямлі, дзе ён і я раслі.

[*1955 г. ?*]

## АЛЕНЬ

Лісце ў пушчы як цудоўны ложак.
Вечар. І ад дрэў гусцее цень.
Недзе за ялінамі прыгожымі
Ўсхвалявана затрубіў алень.

Гукі, што з дзяцінства мне знаёмыя.
І калі ў душы яны гучаць,
Гэта значыць — я нарэшце ўдома.
Добры дзень, чырвоны лістапад!

Добры дзень, прызыўны кліч аленевы!
Памаўчы, бо я ў цішы гаёў
Сам трубіць пачну ў тузе асенняй,
Каб каханне адшукаць сваё.

[*1955 г. ?*]

# ЗЯМЛЯ ДЗЯДОЎ

*(Паэма)*

I

Блакітнае, жамчужнае змярканне,
Снуецца ў сэрцы ціхіх думак рой.
Чырвоны месяц выйшаў на спатканне
З нячутнаю і цёплаю вадой.

Не можна ад нябёс адрозніць повень:
І там і там адна і тая ж бель.
Плыве пад ветразем крылаты човен
Як казачны ў паветры карабель.

Зямля дзядоў! Такою ж залатою
Яна была і ў той далёкі век,
Калі зубры ішлі да вадапою
І на дубах хаваўся чалавек.

Гады мінулі, пазгнівалі троны,
Ахуталі як коўдрай палыны
Руіны замка «каралевы Боны»
І над Дняпром шырокім курганы.

Даўно мяне не бачыла адрына,
Дзе я калісьці дзічкі ў кут хаваў,
І пыл на вулках, мяккіх як пярына,
Ног зморaных даўно не цалаваў.

І вось ізноў трава знаёмых вулак
І за Дняпром сівым абрыс сяла:
Збароў, дзе некалі мая матуля
Вясковаю настаўніцай была.

У дальні свет шырокія дарогі,
Асін трапюткіх нечаканы ўздых,
Дзядамі узараныя разлогі,
Калыска і прыстанак вечны іх.

II

Абрыў ад ног у плынь Дняпра нырае.
Заціхні, сэрца,— знову за сваё?

Гарэза-ветрык волас папраўляе
На непакрытай галаве маёй.

Там — плынь Дняпра, шырокая, як мора,
Тут — скочкі і заглухлы бэз капцоў.
Стаю і думаю. І хвояў шорах,
Як слова даравання ад дзядоў.

Вайна нанесла нават мёртвым раны,
Не кажучы пра цёплых і жывых.
Стаптаныя дзядоў маіх курганы!
Увесну бэзу не цвісці на іх.

Непадалёк ад ледзь жывой капліцы,
Над бабчынай магілаю старой
Як слёзы залацістыя, жывіца
Цячэ з параненых магутных хвой.

З гурбы жывой, з гурбы безабароннай
Яны сюды вадзілі па адным,
Пускалі па спадзістаму адхону,
І у патыліцу стралялі ім.

І нехта адказаў так званым «людзям»
З пагардай, хоць вялі яго на смерць:
«Калі страляеш, дык страляй у грудзі
І мей адвагу ў вочы мне глядзець».

Усё праходзіць. Пад дняпроўскай хваляй,
Там, ля Прарова берагоў густых,
Вышэй ад горада, згніваюць палі
Напалеонаўскіх спаруд старых.

А поруч з імі, ў водарасці рыжай,
У нетрах «жабніку», «багновак», «скул»
Чужынскі танк з павучым чорным крыжам
Зарыўся грозным хобатам у мул.

Культуры вашай варты жалю ўламак,
Бандыцкі танк са звернутым ствалом
Прыстасаваў пад непрыступны замак
Вусаты, тлусты ваявода-сом.

Жывымі не ўцяклі, як і калісьці,
Са зброяю сваёй пайшлі ка дну...

І не паспелі іх сляды заплысці,
Як зноў крычаць пра новую вайну,

Звуць «боскую бязлітасную буру»,
З амбонаў абвяшчаюць зноў і зноў
Паход за еўрапейскую культуру
Супроць «славянскіх цёмных дзікуноў».

III

Вы, гордыя сваёй грудзінай белай,
Надушаныя з ног да галавы,
Мае ж дзяды тады пісаць умелі,
Калі фарсілі ў воўчых шкурах вы!

Калі у замках вы жылі па-свінску,
Палілі на агні жанчын старых —
У нас тварылі Будны і Цяпінскі,
Паэты, дойліды і разьбяры.

У вас калматая бы ў малпы скура,
Не звыклі вы да вопраткі сваёй,
А вы прыйшлі «прышчэпліваць культуру»,
Прыйшлі таемнай, воўчаю хадой.

Вам, спевакам грызні і новых войнаў,
Што за «культуру» ліць спраможны кроў!
Культура — справа мірных і любоўных,
Не катаў, не забойц, не дзікуноў.

Нас знішчыць? До дурніц. Замала сілы.
Зямля, дзе ўсе жывуць адной сям'ёй,
Дзе ваяваў Вячко, дзе жыў Вашчыла —
Не можа быць пахілаю рабой.

Не вырвеш з нас жывую нашу душу
Бы з дзяснаў слабых набалелы зуб,
Бо мы народ вялікі, непарушны,
Народ, што да зямлі прырос, як дуб.

Хоць моцныя, а з сукаватай кульбай
Мы не сядзелі на чужым гарбу,
Бо зведалі мы смак нішчымнай бульбы,
І бомбы, і пажар, і барацьбу.

Сціскаюць моцна нашы рукі зброю.
Не рушце нас. Не цяжка зразумець:
Капцы жадаюць вечнага спакою,
Жывыя — працаваць, кахаць і пець.

І не крычыце пра сваю культуру,
Не выдаткуйце гожых слоў запал,—
Мы зразумелі на уласнай скуры
Бязлітаснае слова «капітал».

Мы самі радасць зносілі і гора.
Ніколі не казалі нам айцы
Прасіць свой хлеб на мірны падвячорак,
Сваю зямлю на мірныя капцы.

І аддаваць сваю чужынцам працу,
І воўну — на чужыя дываны,
Сваю сасну — на вашыя палацы,
Сваю спіну — пад вашы бізуны.

Сваю зямлю, любімую, святую,
Якую грубым словам не назваць,
Такую светлую, такую залатую
Распусніку ў наложніцы аддаць?

Даволі языком дарэмна звягаць!
Ад нашых ніў зялёных — рукі прэч!
Нам не патрэбны новыя варагі,
Калі ж прыйдуць, дык атрымаюць меч.

Гісторык грэчаскі эпічна й проста
Пра нас даўным-даўно паспеў сказаць:
«Жыве ў Гіпербарэі люд дзівосны,
Якому не балюча паміраць,

Калі ў яго забраць жадаюць долю,
І нівы ў жоўтай повені жытоў,
І родны кут, і родныя таполі,
І родны гай, і залатую волю
І ўздзірвянелыя капцы дзядоў».

Калі ў той час мы не згіналі спіны,
Як давядзеш баранячым мазгам,
Якімі моцнымі мы стаць павінны
Ад новай праўды, зразумелай нам.

Я ведаю, цяжкімі будуць годы,
А нам стаяць, не гнуцца як трысцё,
Бо лёс славян і лёс майго народа —
Нялёгкае і гордае жыццё.

Нам першым даглядаць усходы волі,
І першымі іх потам паліваць...
. . . . . . . . . . . . . . .

Даволі успамінаў, досыць болю,
Патрэбна неяк жыць і працаваць.

Надзену шапку. Выйду на адвалы.
Смяецца сонца ў хмызняках густых,
Смяюцца зайчыкі на свежых хвалях:
«На добрае здароўечка твой чых».

Дождж крочыць недзе па лугах далёкіх:
Ад хмары ў полі дымная мятла.
І над вадою, над Дняпром шырокім
Вясёлка светлай аркаю лягла.

IV

Зямля дзядоў! Гудуць на ліпах пчолы,
За штосьці птушкі сварацца ў садах.
Вось дом стары. Два клёны і таполя,
Як старыкі аперліся на дах.

Сабака спіць паміж чырвоных макаў,
І гарлачы сышліся на сукі
Паміж сабой аб нечым пабалакаць,
Пагрэць на сонцы старыя бакі.

Туляўся ў свеце як па пеклу Марка,
А тут сустрэнуць жартама «дубцом»,
«З каня» ля шулаў пачастуюць чаркай
І павядуць, гамонячы, у дом.

Бабуля у старым сваім уборы
(Крывёй не родная, а як свая)
Пачне неміласэрна лаяць горад,
І за плячыма з лыжкаю стаяць.

Што, пэўна, кормяць там аднэй мачалай
Ці іншай, можа, паскуддзю якой,
Бо стаў худы як той курыны палец.
Засмаж сабаку — рады дасць і ёй.

А дзядзька, што ў вадзе сядзеў ад рана
З ухмылкай скардзіцца на ход падзей,
Што рыба стала з гонарам як пані,
Ні на якую трасцу не ідзе:

«Як цюцька змок, запэцкаўся у глейку,
Сяджу як у разоры той нарог.
Лавіў, лавіў — ну хоць бы лапаць нейкі —
Пачулі, што прыйшоў рыбацкі бог.

Калі як зараве гудок пабудку,
Як пачалі бляшню хапаць яны.
Мо думалі, што я пайду — аж дудкі,
Я, дзетухны, сягоння выхадны.

За мокрыя штаны — нясіце кару...
Сілкуйся, брат, не праглыні язык.
Пачаставаць як трэба нельга зараз,
Міроны вельмі мала — маладзік».

Гарэлка льецца. Ціхі гук вясёлы.
Чаму не выпіць, як прычына ёсць.
Скаварада велічынёю з кола,
Кускі — з каровячы прыблізна нос.

. . . . . . . . . . . . . . .

Даволі. Надыходзіць «час сабачы».
На вулках ціша і спакойны сон.
Выходзім і даволі ясна бачым,
Як хітры бэз рвануўся ад акон.

Стаяць яму цвярозаму, без чары,
І ноч усю да ранішніх гудкоў
Ён будзе з ветрыкам пра нас пляткарыць
У сто зялёных, вострых языкоў.
Пакрыўдзіўся...

Зноў пахне сена цёплымі лугамі,
Па-над страхой знаёмых зор агні.
. . . . . . . . . . . . . .

Адрына з заімшонымі бакамі,
Дзе цёплае гняздо звіваюць сны.

V

Зямля дзядоў! Дняпро ад хмарак белы,
Чубатыя ад хмызу курганы.
Ускраінныя хаты уцалелі,
Як быццам не было зусім вайны.

А там, далей, за старымі садамі
Прайшла агню бязлітасная плынь.
Не вулкі — сківіцы з двума зубамі
І на камнях палын,
палын,
палын.

Забудзь на міг заводаў голас грубы,
Глянь на слупы асмаленых ракіт
І ты пачуеш гул татарскіх бубнаў,
Віск баявы і дробны стук капыт.

Як трыста год таму ляцяць арканы,
Ізноў навала, барацьба і жах
І валакуць русявых паланянак
Чужынцы на запененых канях.
«Чорна хмара падступае,
Цар турэцкі наступае,
Хоча сватаць Андрэеўну...»
Спявай апошні раз перад разлукай,
Забіты твой каханы у баю,
Ўскінь дагары заломленыя рукі,
Цалуй апошні раз зямлю сваю.

Зноў, як раней, гатуюць смерць сабакам
І помста нарастае дзень у дзень.
На кожнай хвоі — чалавек з пулгакам,
За кожнай сціртай шыбень і кісцень.

Над роднаю, над залатой зямлёю
Пранёсся ураган пакут і мук.
Здаецца, што арда прайшла вайною,
Пусціўшы ветрам працу чорных рук.

Эх, людзі, людзі. Па-дурному, слепа
Свой поступ вы да лепшага вялі,
Не выдумалі як любіцца лепей,
А знішчыць — дык да атама дайшлі.

Зямля дзядоў! Раз'юшанае мора.
Народнай помсты страшны землятрус.
Я горды за цябе. І ў гэтым горы
Ты не лягла дадолу, Беларусь.

Хай гарадкі маленькія марудзяць,
Будуюцца па тры будынкі ў год,
А ўсё ж галоўнае — жывыя людзі.
Народ не знішчылі. Жыве народ.

Замест людзей, што адхадзілі ў поле,
На свой завод, на службу у нарад
У доме пад разгатаю таполяй
Расце на змену самы меншы брат.

Ён слухае Дняпра прызыў напеўны
І вучыцца на дрэвах майткі драць,
Яму пры камунізме жыць напэўна
І зорны шлях ракетай пакрываць.

Ён разбярэцца у старых паданнях,
Перачытае пыльныя тамы,
Прыпомніць лёс бацькоў, вайну, паўстанні
І кіне позірк свой далей, чым мы.

VI

Зямля дзядоў! Любімы мой народзе,
Што моц сваю пазычыў у дубоў,
Дыхтоўна зробленыя на стагоддзе
Нашчадкі бортнікаў і рыбакоў.

Не зверне шлях мой на шляхі чужыя,
Заўсёды дарагімі будуць мне
Зарэчча, горад, хвоі залатыя,
Ашыткі на прароўскім мулкім дне,

Ад месяца чырвоная кітайка,
Што цягнецца над соннаю вадой,

Блакітнае крыло дняпроўскай чайкі
І ў ціхіх хвалях шчупачыны бой.

Народзе мой, да шчасця чалавека
Ідзём з табой дарогаю адной,
Твае сябры — мае сябры навекі,
Твой вораг — самы люты вораг мой.
. . . . . . . . . . . . . . .

Блакітнае, жамчужнае змярканне.
Снуецца ў сэрцы ціхіх думак рой.
Чырвоны месяц выйшаў на спатканне
З нячутнаю і цёплаю вадой.

Не можна ад нябёс адрозніць повень:
І там і там адна і тая ж бель.
Плыве пад ветразем крылаты човен
Як казачны ў паветры карабель.

*Рагачоў 1950 — Лесавічы 1955 гг.*

# СЛОВА МІЦКЕВІЧУ

*(Верш у прозе)*

Кажуць, што ў ноч на дваццаць шостае лістапада ты з'яўляешся на зямлю, якая цябе нарадзіла, і ходзіш па ёй, заглядаючы ў кожную хату, ў кожную адрыну на дно кожнага глыбокага возера.

Нячутныя крокі твае, а вочы з пяшчотнасцю нябачанай глядзяць на гэтую простую і мілую зямлю.

Рукі твае дакранаюцца да кары дрэваў-манументаў, галубяць кожны ліст на прырэчнай каліне, а вушы чуйна прыслухоўваюцца да новых спеваў, што гучаць на берагах чыстых, як сэрца тваё, беларускіх рэк.

Ноч вялікая-вялікая, і таму паспяваеш ты пабываць скрозь: на рудых берагах Дняпра і на беразе Світазі, дзе ў хвалях водарасці заблыталіся як русалчыны косы, ў сініх лясах Гродзеншчыны і на гары Маяк.

Неабсяжная зямля наша, але паўсюль, дзе пачуеш ты «кугаканне» савы над акном хаты, ты, непрыкметны, заходзіш у хату і глядзіш у вочы новаму чалавеку, які нарадзіўся ў той дзень, калі ты памёр.

І дзіцёнак маўчыць і ўсміхаецца, бо ён бачыць тое, чаго не бачаць дарослыя: не прывід, а проста добры чалавек, толькі больш маўклівы, больш паглыблены ў сябе, нахіліўся над ім.

А ты глядзіш на яго і калі бачыш, што сумленныя вочы ў яго бацькоў, даеш яму добры і сумленны лёс.

Аднаму ты даеш будучыню слаўнага казачніка, другой — будучыню добрай маці, трэцяму — славу вялікага героя, а чацвёртаму — проста славу Чалавека, працаўніка, рукі якога робяць усё на зямлі і кормяць таксама ўсіх.

Мяне ты чамусьці зрабіў паэтам, даў мне вочы, якія бачаць сум явара над вадою; вушы, якія чуюць песню чалавечую; рукі, якія здольны перабіраць як струны галіны прырэчных верб; ногі, каб выхадзіць зямлю; і глотку, каб спяваць язычаскія песні, песні сонцапаклонніка.

Я не кажу, што твой вялікі голас гучыць у нашым. Проста маленькім ялінам добра ў цяні адвечнага дрэва.

Пераблыталіся нашы шляхі, шлях тваёй Радзімы

і шлях маёй, і шляхі ўсіх краін славянскіх зліліся ў адну раку і не адрозніш, дзе тая, а дзе іншая плынь.

Пацебня і Каліноўскі і Траўгут баранілі праўду тваю, рускі, беларус і паляк, і славаю іхняй быў бяссільны плач кабеты, пра які ты пісаў, і моцны ўдар нашчадкаў, якія павалілі спрадвечнае пудзіла.

Вялікае сонца славянскае, ты ж бачыш іх, калі прыходзіш да нас у лістападаўскую ноч, ты ж сам ведаеш гэта лепей ад нас.

Як сонца ў маленькай кроплі адбіўся гэты вялікі шлях у непрыкметнай долі маёй.

Продак, што загінуў у шэсцьдзесят трэцім; песні, што спявала мне маці; сваяк мой, які калісьці ў падпітку на знак таго, што жыве ў нашчадках дух і мужнасць Гражыны, з'ехаў з «капца Міцкевіча» на гарачым кані, пусціўшы яго наўскач.

Я веру: табе гэта спадабалася б. Ты заўжды любіў маладзецтва.

Але бачыш, іншыя, новыя надышлі часы. Вось рукі сябра-паляка ў маіх руках. Я адчуваю іх цеплыню і цвёрдасць і суровую, сяброўскую ласку.

Вось кніга тваіх вершаў перада мною. Яе падараваў мне твой нашчадак (нацыя ж заўсёды нашчадак лепшага свайго паэта).

І на вокладцы напісаў ён словы твае: «Вашы чужаземныя твары маюць права пражывання ў сэрцы маім».

Бачыш, вось зямля, вось новае жыццё на ёй.

Настала «сіла праваў», і праз стагоддзе абняліся ўнукі славянскія.

Кветкі і чырвоныя галіны восені, працу рук нашых і песні прыносім мы на магілу тваю, вялікае сэрца славянскае, настаўнік і сябра наш.

Звоняць і звоняць вярбовыя струны, і цвёрдыя крокі твае заўсёды гучаць разам з нашымі, і наперадзе, і лёгка нам ісці, адчуваючы цябе поруч.

Туды, туды, дзе сонца ўсходзіць.

[*1955 г. ?*]

## КАСТАЛЬСКАЯ КРЫНІЦА

Чутка ёсць, што ў лясной лагчыне,
Дзе туман на галінах сядае,
Ручаёк празрысты і сіні
З-пад калоды ў свет выцякае.

Там спявае ўсё-ўсё жывое,
Нават жоўтая, палая гліца,
І спяваюць стройныя хвоі,
Што растуць над гэтай крыніцай.

Кропля кожна голас мае,
Як бяжыць яна па адхону.
Нават шчур салаўём спявае,
Як нап'ецца вады сцюдзёнай.

Чуеш? Песня звініць, не сарвецца
Гукам чыстым, высакародным.
А крыніца — песняю звецца,
А цячэ яна — з гушчы народнай.

Адшукаць бы яе не прадвесні
У лясістых горах і долах,
Каб спяваць не чужую песню,
А сваю — ды на поўны голас.

Як шукаць мне тую крыніцу
Сярод дрэў вялікіх, няўламных?
Як вады дасхочу напіцца
І зайграць, каб слухалі камні?

Каб зубры прыходзілі з лесу
І надоўга жваць забывалі,
Каб сабакі — і тыя за песню
Запылёныя ногі лізалі.

Каб магутнай была як навала,
Каб для ўсіх была добрай знаёмай,
Каб мярзотнікаў розных карала
Як удар няўмольнага грому,

Каб са мною плакалі людзі
І смяяліся разам са мною,

Каб у самых бяздушных грудзях
Сэрца стукнула як маладое.

Тут аднаму дарогі не будзе,
Правядзіце мяне да хвояў,
Працавітыя, простыя людзі,
Сумленне маё жывое.

[*1955 г. ?*]

* * *

І чаго гэта, таварыш,
Так заўжды бывае,
Што удома часта марыш
Аб нязнаным краі?

А як лёс туды закіне —
Сэрца сніць заўсёды
Пра звычайную асіну
На родным гародзе.

[*1955 г. ?*]

## ЭНТУЗІЯСТУ

Ўсё жыццё ён збіраў дыяменты народныя
Па шляхах Беларусі і ў спеку і ў сцюжу,
Ўсё жыццё яго сэрца высакароднае
Працавала няўтомна і білась напружана.
 Ў гуках злоўленай песні жыло надзвычайнае:
 Шчасце новых гадоў над радзімаю мілай,
 Спеў жалейкі над рэчкаю, гукі адчаю,—
 Ўсё, чым людскае сэрца вякамі жывілася.

Песні сытых дажынак у жнівеньскім садзе,
Кліч купальскіх агнёў здалёку і зблізку,
Песні жніўных палёў, песні гора і радасці,
Песні маці над першай дзіцячай калыскаю.

І не штучнаю кветкай, а кветкай сапраўднаю,
Не ў паперы, а ў гуках, дарагіх і любімых,
Ўстала песня народу простай, як праўда,
І такою вялікай, як гэта магчыма.

Ціха ў зале. І твар яго думкай асвечаны.
Кажа ён пра фальклору адценні і фарбы,
Кажа нам пра жыццё, што адному прысвечана —
Зберагапню народных, нязлічаных скарбаў.
«Піце з чыстай крыніцы, з напеваў матчыных,
Сцеражыцеся, хлопцы, частушкі таннай,
Паважайце, любіце бацькоўскую спадчыну —
Ўсё сплыве, а легенда і песні застанецца».

Хай не ўсё у жыцці так як след атрымалася,
Памятайце, настаўнік, што слова плённае
Як зярнятка на добрую глебу ўпала,
І у сэрцах юнацкіх зарунела, зялёнае.
Шмат яшчэ спадкаёмцаў вам трэба выкаваць.
Будзе шлях пераможным, слаўным, бяскрайнім.
На вялікія справы — і сэрца вялікае,
На вялікае сэрца — і лёс надзвычайны.

*[1955 г. ?]*

## БАЛАДА
## ПРА ЧАЛАВЕКА,
## ЯКІ ЗМАГАЎСЯ СА СМЕРЦЮ

Кашаль зваліў, ахутаў,
Грудзі пачаў сціскаць:
«Хутчэй прынясіце путы,
Ён не хоча смерць паважаць».
Лёд на сценах. Калоціць. Цяжка.
І з-за вуснаў ізноў, ізноў,
Як віно з заімшэлай пляшкі,
Выцякае паволі кроў.
Смерць прыйшла і на ложак мосціцца.
Гэта лепей... Не можна жыць.
Так усё жадана і проста:
Падкарыцца, павекі стуліць.

Будзе цёпла... Спакой навекі. .
У грудзях не смыліць агнём...
І не будзе гвалту і здзеку,
І руін за разбітым шклом.
«Горад... горад... родны мой... любы...
Па-над вулкамі тлусты чад...
Ўсіх знішчаюць... бетонныя кубы —
Камісара гестапа загад.
Гад адзін, а тысячы гінуць...
Ўсе здаровыя — цяжка канаць...
Хутка два... Ён выйдзе з машыны.
Трэба ўстаць, трэба ўстаць.
Ёсць загад... Мелі ўсе ахвоту.
Ён сябрам заявіў тады:
«Права мне надалі сухоты
І юнацкія вашы гады».
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Цяжка ўстаць, бы дзіцёнку з калыскі,
Трэба думаць, хадзіць, глядзець.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
А над ім, схіліўшыся нізка,
Умаўляе пяшчотна смерць:
«Што ты трызніш. Лепей памерці
І спакойна марыць і спаць.
Спаць так добра».
— «А боль у сэрцы?
Трэба ўстаць! Трэба ўстаць!..»
— «Спі каханы. Галоўка цяжкая...
Сон апошні цябе атуліў...»
— «Прэч адсюль...
Не магу...
Не жадаю...
Я не ўсё давяршыў».
Як на хвалях ложак хістаўся,
Заставалася сорак хвілін.
Ён паволі, па частках падняўся
Бы цяслярскі аршын.
І хоць смерць абяцала цішу,
Мяккі сон, салодкі дурман —
Ён як п'яны з пакоя выйшаў,
Намацаўшы ў кішэні наган.
Валаклася за ім неадступна,
Бо лічыла ганьбою адстаць,
Сто разоў на кожнай прыступцы

Запрашала легчы й не ўстаць,
Але ён, слабы і галодны,
Адказаў, сціскаючы рот:
«Што мне скажа мой горад родны?
Што мне скажа родны народ?
Што мне выгляд твой дзікі і грозны?
Вось той дом. Я памру ў барацьбе.
Ты спачатку мярзотніка возьмеш.
Я прымушу цябе.
Тормаз рыпнуў... Ідзе па алеі...
Адыдзі і не замінай,
Адыдзі, адыдзі хутчэе,
Стань унь там і маўчы, чакай».
Першы стрэл упэўнена гакнуў,
Другі трапіў яшчэ камусь:
«Атрымай, атрымай, сабака,
Хай жыве Беларусь!»
Вось штыхоў халодныя джалы,
Вось апошні да смерці парог...
Смерць зубамі заскрагатала:
«Ён памрэ, але ён перамог».
Чалавек на нагах хіснуўся,
Проста рукі злажыў накрыж,
Паглядзеў на яе, усміхнуўся:
«Што чакаеш?... Хадзі ж... Хадзі ж».

[*1955 г. ?*]

## ШЫПШЫНА І РУЖА

*(З народнага)*

Шыпшына і хатняя ружа
Калісьці разам жылі
І разам кахаліся шчыра
На мяккай садовай зямлі.

Абняўшыся, на гародзе
Стаялі да ранняй зары,
І дзеткамі іх лічылі
Вішня і дуб стары.

Так яно усё і цягнулася,
Добра кветкам было,
Пакуль не паслаў за падаткам
Кароль гайдукоў на сяло.

Карову — за вокны ў хаце,
Сто злотых — ад бараны.
І нават падружжу нашаму
З пагардай сказалі яны:

«Пакуль яшчэ маладыя —
Давайце кветкі й лісцё,
А потым, як дзеці будуць,
Дзяцей сваіх аддасцё.

Не жыць ім у подлай вёсцы,
Не чуць ім мужыцкіх слоў,
Расці ім ля гордых палацаў,
Уцехаю быць для паноў».

Горда ў адказ шыпшына
Сваёй скалануў галавой:
«Мілей нам родная хата
З яе саламянай страхой.

За камень гарачы хапайцеся,
А не за нашых дзяцей.
Як будуць — не дам на знявагу
Кату, што мучыць людзей».

Цягнуць рукі да ружы —
Шыпшына даў аднаму,
Ўзяліся яны за шыпшыну,
Рукі круцяць яму.

Сцябаў гайдукоў у вочы,
Па твары бязлітасна біў,
Падрапаў гайдуцкія рукі,
А ружу сабой затуліў.

Пабеглі за дапамогай,
Бягуць з рыдлёўкай, з касой,
І кажа шыпшына горды
Дзяўчыне каханай сваёй:

— «Бегма, ратуемся, ружа,
Каханка, радасць мая».
— «Шкада мне матулі-вішні.
Бяжы, застануся я».

За ім да пушчы гналіся,
Гналіся з сабакамі ўслед
І толькі ля рэчкі глыбокай
Згубілі шыпшынаў след.

І нельга з'явіцца з пушчы
Да ружы каханай яму,
Бо могуць схапіць гайдукі
І кінуць навекі ў турму.

Так і жыве ён у лесе
У шапцы чырвонай як кроў,
Кінжаламі і нажамі
Узброены да зубоў.

Стаіць ён як горды мсцівец,
На вёску з узлесся глядзіць.
Хай цяжка — затое вольны,
А вольнаму добра жыць.

А там, каля старай хаты,
З сівінкаю на лістах
Сумуе хатняя ружа
У чыстых росах-слязах.

[*1955 г. ?*]

## СПЕКА. ПОЎДЗЕНЬ

*(З «Вераб'інай сюіты»)*

Верабей на плоце,
Сонцам яго паліць,
Тут жа яго дзеткі
Рты парасчынялі.
Поруч вераб'іха,
Злосная кабета,

І лае, і перыць
Вераб'я за гэта:
«Выбраў ты кватэру,
Цэлы дзень тут сонца,
Да ракі далёка,
Да лесу бясконца...
Знёс бы сотню вусняў
Шпаку-ягамосці,
Зазваў бы зязюлю
Выпіць чарку ў госці —
Мелі б мы і дачу
Не горш, як у цёці,
Калі б ты, калода,
Не сядзеў на плоце,
Што табе і жонка,
Што хоча на дачу,
Што табе і дзеткі,
П'янюга, няўдача».
Верабей сумуе:
«Спека. Лаюць злосна.
Дзе ад жонкі дзецца?»
. . . . . . . . . .
Цяжка яму, млосна.

[*1955 г. ?*]

## НОЧ

Ноч ідзе. Блакітная радасць.
У траве расчыняецца «сон»,
Ля агнёў лугавых, за садам
Раз ад разу гучыць балабон.
Каля вогнішча скачуць коні
І ў глыбокіх, як неба, вачах
Адбіваецца, бы ў палонні
Зачарованы Млечны Шлях.
Цёмны стаў адбівае каліны,
Ледзь даносіцца песня з сяла,
Вечар ласкавы, вечар сіні
Адляцеў, каб ноч надышла.
Баўтане балабон за гаем

І растане зноў ў цішыні.
Мякка вецер галіны качае,
Ціха... Ціха... Пасні... Пасні.

*[1955 г. ?]*

* * *

Ўстану ранкам насустрач сонцу
І па цёплай зямлі пабрыду
Там, дзе яблыні мараць бясконца
У блакітным вясновым саду.
Пацягнуся, і сну аковы
Ападуць з пасвяжэўшых рук.
Моц напоўніць вялыя словы,
Сэрца ўзбудзіцца яры стук.
І пайду па расістых палетках
Так, каб з новым спаткацца днём,
І махнатая, алая кветка,
Кветка сонца заззяе агнём.
Ў новым дні ўсё прыгожым будзе,
Ён паўстане над новай зямлёй.
Паднімайцеся, добрыя людзі.
Крочце к сонцу поруч са мной.

*[1955 г. ?]*

* * *

Восень нясе павуцінне,
Дрэвам час запалаць.
На ўсіх баравых рабінах
Чырвоныя плахты вісяць.
Няўтульна на мокрай сялібе
І ў позні прысмерку час
Вяргіні таўкуцца ў шыбы:
«Пусціце, пусціце нас»

*[1955 г. ?]*

## АГЕНЬЧЫК

Коні прысталыя ймчацца панура.
Лютаўскі холад. Трывога вачэй.
Вые і плача апошняя бура
Каля занесеных снегам плятней.

Шлях мой далёкі, дарога каравая,
Ў неба ляціць неспакойны дымок.
Недзе далёка мігае ласкава
Ў цемру й буран залаты аганёк.

Сны табе сняцца зімовыя, раннія,
Сніш, што каханы ў акенца стучыць.
Любая, любая, вечна каханая,
Цёплы агеньчык, іскра ў начы.

Ціха ўвайду ад завеі чырвоны,
На рукі мякка вазьму яго,
Цёплы камяк, разаспаны і сонны,
Не абазнаны, што да чаго.

[*1955 г. ?*]

## АДНОСНА ПАХОДЖАННЯ ДЫПЛАМАТЫІ

Правадыр іракезаў на размову аб міры
Запрасіў варага, Начную Саву,
І цяжкою каменнай люлькаю міру
Дагаворнаму боку прабіў галаву.

[*1956 г. ?*]

## АДНОСНА ПАХОДЖАННЯ БЮРАКРАТЫЗМУ

Пітэкантрап пячору зручную выбраў,
Стол знадворку прысунуў да тоўстай сцяны
І павесіў таблічку: «Пячорным тыграм
Час прыёму тады, як вымруць яны».

[*1956 г. ?*]

## ПАРАЗУМЕЛІСЯ

— Яблыкі! Яблыкі! З садоў каралеўскіх.—
— Па чым?
— Усяго тры злотых за меру.
Такая ж славутасць нашага месца,
Як папскі нунцый, як касцёлы і веры.—
— Тры злотых? За гэтую поскудзь? Жарты.
За гэты кізяк, падабраны ў полі? —
— А я вам кажу, што яны таго варты,
Як жанчына сумленная! Як пан добры католік! —
— Памыліліся, пані, я ў бога не веру.
Што мне папа і што мне вера Хрыстова.—
— Ну, калі ўжо справа пайшла на адвертасць,
Дык і я не цнатліўка, а курва з Гжыбова[1].

*[1956 г. ?]*

## ПАЯЗДЖАНЕ

Шлях цячэ між дрэў, пакрытых інеем.
Зімні, казачны убор зямлі.
Белыя, ружовыя і сінія
На ялінах ружы расцвілі.
Снег кранае шчокі пацалункамі,
Снег спадае паміж хвой сівых,
Каб укрыць нямоцнымі карункамі
На санях вясёлых маладых.
Толькі што пад снегавымі хвоямі,
Збудаваўшы ў весніцах накат,
Хлопцы перастрэлі іх са зброяю.
І гарэлкай адкупаўся сват.
Князь сваю галубку выкраў «сілаю»
І да роднага гнязда нясе,
Любую, усхваляванa-мілую,
З шэранем у залатой касе.
Сонца ў хмарку перад ёй аточыцца,
Упадуць дубы сівыя ніц.

---

[1] Гжыбоў — гэта перадмесце Варшавы *(заўв. аўтара).*

Гэх, баяры скачуць па абочынах,
Раз па раз страляючы з рушніц!
Дзікі пошчак аддае дарогаю,
Снежнай пудрай санны шлях курыць.
Што ж чаканнем сумным і трывогаю
Песня паязджальная гучыць?
«Ехалі мы логам,
Ехалі мы логам,
Сустрэліся з богам,
Сустрэліся з богам.
Ехалі мы лесам,
Ехалі мы лесам,
Стрэліся з Вялесам,
Стрэліся з Вялесам.
А казаў нам божа:
«Ці добра ж вам будзе?
Ці добра ж вам будзе?»
Будзе добра. Самай поўнай мераю
Вам жыццё насыпле у кішэнь
Працы, дзетак і дарог нямераных.
Весяліцеся ж хоць гэты дзень.
Што ж, злятае ліст глыбокай восенню,
Каб дарогу даць лістам другім,
Заўтра певень збудзіць ноч галошаннем,
Паплыве з пячуркі ў неба дым.
А пакуль — заві каханку ружаю.
Будзе стол і будзе смех людзей.
Добра у пакоіку настуджаным,
У прытульным пухавым гняздзе!
Пралятуць гады над вамі светлыя.
Будзьце шчаснымі дзеля таго,
Каб сустрэць калісь усмешкай ветлівай
Паязджан унука сваяго.
Ўспомніць князь тады дарогу вузкую,
Шэрань, коней бег і рушнікі,
І даткнецца звянуўшымі вуснамі
Да каханай, зморшчанай шчакі.

[*1956 г. ?*]

* * *

Ў сітнягах над соннай ракою
Бугай вадзяны маўчыць.
Спяць лілеі пад цёплай вадою,
Каб не змерзнуць ўначы.

Калі ж выплывуць ранкам на волю
І распусцяць пялёсткаў рой,
З кветкі вылеціць мушка вясёлая,
Што ўсю ноч спала пад вадой.

Залатая, як новы чырвонец,
З цёмнай бронзаю на нагах,
Ўся ў пылку ад лілеі і сонца
Паляціць у шчаслівы шлях.

Каб з табою мы сталі малятамі
І любілі ўначы цяпло,—
Мы б лілею абралі хатаю.
Вось бы добра было!

[*1956 г. ?*]

## ПАТОП

*(Старажытны беларускі апокрыф)*

І дзень прыйшоў. І пацьмянела сонца.
Распаўся час. І неба цёмным скруткам
Ўзвілося над зямлёй. І лінуў дождж,
Як быццам сто гадоў збірала неба
Ваду дажджоў, азёр і рэчак ціхіх,
Ваду, што выссалі вясёлкі з лужын,
Ваду пралітых чалавечых слёз,
Слёз горкіх маці, светлых слёз дзіцячых,
Крывавых слёз рабоў і брудных панскіх слёз...
О плачце, плачце, узрыдайце, людзі,
Не спамышляйце на сваё бяссмерце:
Апошні жывяцё вы ў свеце час!
І дождж лупіў. І зранку цэлы дзень

Трубілі сурмы праз смугу туманаў,
І здраднікі хаваліся ў каўчэгах,
Якія заліваў сіберны дождж.
Вада пакрыла роўныя мясціны
І коміны халуп і ўсе палацы.
Раўлі шалёныя сівыя хвалі,
Раздзёршы ветразі тугія ў лоск.
І людзі ўгору узнімалі рукі
Ў чаўнах, што ймчалі па гарбатых хвалях,
Ганімыя вятрамі і агнём.
Краіна гінула. Як гул ад хваль
Роў дзікі голас над вадой пустою:
«Апошнія пачуйце словы, людзі,
Пакуль вам вушы не залье вадою.
Я знішчу свет, я знішчу чалавека.
Апрыкрылі і добрыя, бо хочуць
Дабрэйшымі зрабіцца за мяне.
Ім не спяваць сваіх найлепшых певаў,
Бо я зжару ўсю земляную твар.
Маўчы! Ты захлынешся, чалавек!!!»
Адверзліся на чорным небе хлябі.
Два месяцы лілі дажджы з нябёсаў,
Вада глытала горы, і на іх
Жывымі гронамі віселі людзі
І часам адрываліся ў ваду.
Мядзведзь стаяў з слабым аленем поруч,
Змяя паўзла вышэй ад рудых хваль.
Адзін таўстун штурхаў у вір другога,
На плечы сыну лез шалёна скнара,
Трымаючы ў руках кашэль з грашыма,
І біў нагамі па руках сыноўіх,
Якія ўсё жадалі ратавацца,
Схапіць таго, хто некалі стварыў
(Што ж, і змяя паруецца вясною).
Танулі тыя, што на спінах люда
Рукамі простых горда узняслісяся,
Зракліся маці, зводнямі жылі,
Лягчалі думку за адзін дынарый,
За жыватом не бачылі каленяў.
Цары, уладары і каралі,
Што так крычалі пра краіны гонар,
Што здольныя былі душыць суседа,
Забараняць яму жыццё і песню
Для гонару «народа-ўладара»,

Цяпер бы гэты гонар аддалі
За мейсца для сваёй стапы адзінай
І ў зад бы гандляра пацалавалі
За літасць гэткую. Дзяржаўны муж,
Што да сябе прыкуў калісьці брата
І ўсё казаў: «Мой брат — мой раб» —
той зараз

(Як і заўсёды ў грозныя часы,
Часы вайны, навалы ці патопу),
Ланцуг адсек і наглядаў, як брат
Пускае бурбалкі ў вадзе глыбокай.
І ўсе кусаліся, штурхалі, лезлі,
Хапалі за раскошныя хітоны,
І падалі ў ваду, ў ваду, ў ваду
І не маглі ўцячы.
Пахмуры дзень

Нарэшце завязаўся над вадою.
Вакол вада — ні вострава, ні дрэва,—
Ўсё жудасная гладзь і далячынь.
На пятачку апошнім цвёрдай сушы
Суровы чалавек з дзіцячым тварам,
З рукамі грубымі, ўзняў галаву
І стомлена сказаў: «Дзень добры, сонца».
Фантанчыкамі плёскала вада
Спачатку каля ног, пасля ў калені...
І чалавек падняў на рукі нешта,—
Апошняе святое,— цела любай,
Пацалаваўшы непрытомны твар.
Над галавою ўзнёс. Вышэй! Вышэй!
(А хвалі подла стукаюць у грудзі.)
«Каханая! Аддам жыццё за крылы,
Якія б узняслі цябе наверх».
Халодны, стрыманы адбітак сонца
Упаў на грудзі, любы твар і лона.
А ён стаіць. Не здрыгануцца рукі,
Узняўшы ў неба дарагі цяжар.
Ён з радасцю трымаў бы зараз многіх,
Братоў, і маці, і такіх, як ён,
Прыгнечаных работай і вясёлых.
Але няхай хаця яна: «Пяшчотка!
Жыві, жыві, жыві пакуль магчыма,
Падыхай трошкі, пакуль я не знікну,
Пакуль жыве апошні чалавек.
Што вы мне зробіце сваім патопам?

Узяць каханую? Яна са мною.
Узяць Радзіму? Не, яна жыве
Пакуль жыве апошні сын Радзімы.
Узяць жыццё? Як бог я бессмяротны,
Я сонца над вадою уздымаю,
І мной жыве і будзе жыць зямля.
О як пацалаваць каханай вусны,
Калі мае знікаюць пад вадой!»

. . . . . . . . . . . . . .

Стары апокрыф. Гэта толькі казка.
І ўсё-такі я выракуся тых,
Што плакалі ў каўчэгах. Я з табою,
Слабы, бездапаможны, як дзіцёнак,
Магутны, як ніхто на белым свеце,
Любімы мой, прыгожы звер двуногі,
Мой чалавек.

[*1956 г. ?*]

## ЭКСКАВАТАР

Экскаватар, да дыназаўра падобны,
Паварочваўся ў яме ля манастыра,
Цэглу біў тупымі рагамі на лобе
І з акон выдзіраў павуцінне крат.
Выбіваў з-пад скляпенняў гнілыя мыліцы,
І абвальваў каменні, і цягнуў іх адзін,
І, бязвольна адвесіўшы ніжнюю сківіцу,
Жоўтым жвірам рыгаў у далоні машын.
І прабілася сонца на дно сутарэння,
Двух стагоддзяў цвіль асвятліўшы агнём:
Катакомбы, скляпы, мяшкі каменныя,
Косткі белыя, скутыя ланцугом.
Вы чакалі яго і чакаць стаміліся,
Вашы косткі чакалі і згнілі ў пылок,
А яно ўсё ж сышло, прыгожае, мілае.
Вы нямарна марнелі. Сонца сышло.
Трапяткое, гуляе па хвалях сініх,
Па зямлі беларускай, па светлых палях,
Па вясёлых вокнах, па белых будынках,

Вышываных кашулях, белых чубах.
І хлапец замурзаны, важны і строгі,
Коўш спыніў і прамовіў ціха і зло:
«Наварочалі вас тут як лёду, нябогі,
Трасца матары іхняй,— шкода нас не было».
І мінула доўгім векам хвіліна,
Пакуль зноў адчуў удары рагоў
Тухлы свет праваслаўнай подласці й свінства,
Свечак, пранцаў, ладану і ланцугоў.

[*1956 г. ?*]

## КАЛУМБЫ ЗЯМЛІ НЯЗНАЕМАЙ

Паэт лахмаціў валоссе кудлатае
І вяргаў можа чатыры гадзіны
Пра гром пасатаў, пра тропікаў шаты,
Пра бег драмадэраў ў барханах пустыні.
Воплескі столь узарвалі ў кватэры,
Ад захаплення салон задыхаўся...
Напэўна, Калумб, адкрыўшы Амерыку,
Лаўраў гэткіх не дачакаўся.
Чытаў ён доўга пра пальмы над стрэхамі,
Пра бойку матросаў у душным труме.
(Паэт, сапраўды, аднойчы праехаў
На кацеры з Поці і аж да Сухумі.)
Паэту на кудлы з чаркай і хлебам
Крылатая апускалася слава.
Жанчыны пабеглі б за ім аж на неба,
Мужчыны галантна шапталі: «Брава».
Калісьці былі «поэты печали»,
«Паэты-трыбуны», «паэты прарочыя»,
А зараз слова «паэт» азначае,
Часцей за ўсё, «улюбёнец жаночы»,
І ціхі шум местачковых баронаў
Гудзеў пад сурдынку ў пакоі людным:
«Ах-ах, мандаліны! Ах-ах, мусоны!
А ў нас так шэра! А ў нас так нудна!»
Я ведаў — яны ненавідзяць новае.
Нашто перад свіннямі сыпаць перлы?

І ўсё ж я ўстаў і абрушыўся словам
На гэту прыбраную зграю памерлых:
Вы сядзіцё тут ад лямпы сінія
І марыце пра піраміды над Нілам,
А што вы ведаеце пра краіну,
Ў якой вас маці на свет нарадзіла?
Яна вам нудная, шэрая, сумная.
Ясце яе бульбу, ясце яе сала,
А самі былі толькі ў мінскім ДУМе,
Ды чулі аднойчы імя Купалы.
Не бачыце света за ўласнай клумбай
У марах аб нейкім цудоўным раі.
Што вам да тых вялікіх Калумбаў,
Якія край ваш вам адкрываюць?
Пыляцца кнігі іхнія ў крамах,
Забыццю аддалі старыя карціны,
На вежах разбураных полацкіх храмаў
Шыльда: «Распівачна і на вынас».
На ўсё адпіска. Музей? Пачакаем.
Збор вышывак. Некалі прымем меры.
Аддзел этнаграфіі? Як жа, ствараем.
Помнікі бурать? Праверым, праверым.
Што ім з таго, што за кнігу і слова
Народ сем стагоддзяў ставаў у стрэмя?!
Не любяць Радзімы, не любяць мовы.
Хлопы! Іваны без роду, без племені!
Што ж дзіўнага, адукаваныя дамы,
Што вы ў захапленні ад нейкіх пасатаў,
Хамы лічаць заўсёды «хамскім»
Матчыну песню і матчыну хату.
А я не пішу пра чужыя шыроты.
Я джунглі і ў нас адшукаць сумею.
Сцяблінка звычайнай расянкі балотнай
Цікавей жыве за ўсе архідэі.
У дрэвах з мармуру — іх завуць бярозамі,
У вежах з карункавым іхнім уборам
Я добра бачу ўчарашнія слёзы
І сённяшні смех з барацьбою поруч.
Райскія птушкі (сіваваронкі)
Ў джунглях дрымучых (лясах Белавежы),
Ў краі нязнаемым (роднай старонцы)
Ў мімозы сядаюць (у верас бязмежны).
Што мне да кінутых храмаў Мая,
Калі жывуць легенды ў народзе,

Калі на выспах глухіх адкрываю
Крокі мінуўшых тысячагоддзяў.
У нашай краіне ёсць буслы чорныя,
Бабры разумныя, як прэзідэнты,
І жораваў скокі на вeснix азёрах.
Чуеце, гора-інтэлігенты?!
Мядзведзі лечацца травамі горкімі,
Шукаючы дзікі часнок на лузе,
Павук-серабранка ў гняздо пад чаротамі
Носіць паветра дзецям пад пузам.
А вы льяцё па чужому слёзы,
Забыўшы радзімы простыя кветкі,
І любіце вершы ёлупаў розных.
Вядома, свінню прыцягвае сметнік.
Маю Радзіму, маю зялёную
Забыць і ў разрад нецікавых сунуць?
Мала вам плюнуць у твары сонныя.
Чакайце! Яшчэ калі-небудзь плюнуць!
А я ў народ мой заўсёды веру,
І для яго як вопытны кормшчык,
Адкрыю найлепшую ў свеце Амерыку
(Вёску Амерыку, што пад Оршай).

*[1957 г. ?]*

* * *

Калі ў жамчужніцу пылінка трапіць,
Жамчужніца адразу бой пачне
І чужародны боль, што цела драпае,
Жамчужынаю дзіўнай ахіне.
Няўжо былі вы: пушча над азёрамі,
Асенні холад, здзірванелы шлях,
Два небы, дзве маленькіх карты зорных,
Што ззялі блізка ў дарагіх вачах.
Мінулае жыве яшчэ са мною,
Але развеяў шчасце, нібы дым,
Лісток, напісаны рукой чужою:
Ты замужам,
ты знікла,
ты з чужым.

Я вывучаў па вас каханне й радасць.
Я ўдзячны вам і верны да канца.
Не бачыць вам маёй акропнай здрады,
Каханай вочы, боль майго жыцця.
Стварaю дзіўнай прыгажосці перлы,
На дне якіх заснуў нясцерпны боль,
Мая жывая і мая памерлая,
Крыніца шчасця, мук маіх юдоль.

*1957 г.*

## ВЯСНА

Раму з трэскам выняла з акенца
І да сіні праціраеш шкло,
Шэрай пыльнай ваты верацёнца
Ветрыкам у кветнік аднясло.

Кожны, хто праходзіць, азірнецца,
Хоць спяшаў кудысь, як на пажар,
І ў адказ вясною усміхнецца
Мілы-мілы сінявокі твар.

Добра ёй спяваць пад небам сінім,
Добра раму у руках трымаць.
Ў сонечным святле стаіць дзяўчына,
Радасная, як вясна сама.

*1957 г.*

## СІРЫН — ПТУШКА РАДАСЦІ

Сірын на досвітку ў лесе спявае,
Дрэвы ў празрыстым вэлюме зялёным,
Сінія хмаркі, як дым, праплываюць
На візантыйскім небе чырвоным.
Ў лесе азёры вясеннія, сінія,
Дзеткі-бярозкі выйшлі на бераг...

Крылы жар-птушкі, воблік дзяўчыны,
Вочы смяюцца, вялікія, шэрыя.
Радасць вясенняя, дальняя песня,
Ціха фіялка з зямлі выглядае:
Ў мокрых лясах, на блакітным прадвесні
Сірын, закрыўшы вочы, спявае.
Песня ўзлятае ў імклівым палёце,
Песня лікуе майскім світаннем
Ў гэтай пранізліва-страснай пяшчоце,
Ў гэтай любові, ў першым каханні.

*[1957 г. ?]*

## ПЕРАКАЦІ-ПОЛЕ

*(Народная легенда)*

I

Цёмныя хмары над мокрай раўнінаю,
Бруд па калена, пустыя шляхі,
Вербы ў прысадах лазіны сінія
Цягнуць да мёртвай сухой альхі.
Чорныя рэкі стынуць ад холаду,
Хмуры вятрак, пагружаны ў сон,
Стаў быццам крыж над магілаю волата,
Што заараў гэту бедную гонь.
З далі, адкуль набягаюць хмары,
Мёртвым мячом без ног і без рук
Зноў каці-поле бяжыць абшарам,
Як надзвычайны, калматы павук.
Прагна другія мячы хапае
І да сябе далучае іх,
Каціць па гонях і ўсё вырастае,
Каціць ля хат і капліц старых,
Каціць ля белых палацаў светлых,
Светлых, як сонца, белых, як снег.
Што ім, залітым музыкай ветлівай,
Да абадраных, крычачых стрэх!?!
Вербаў мяцёлкі на мокрай глебе,
Дождж скупы, як халодны плач,

Хмары, бясконцыя хмары на небе,
А на зямлі каці-поля мяч.
Месячы бруд разбітай дарогай
З дальніх заробкаў дамоў ідучы,
Ян і Пятро ледзьве цягнуць ногі,
Каб дацягнуцца да вёскі ўначы.
Ў вёсцы — суседзі, таварышы ў працы,
Ян — у гадах, а Пятро — малады,
Не зарабілі яны на палацы
Ні на жнівах, ні ў капальнях руды.
Ян зарабіў на акраец дзецям,
Не зарабіў на нявесту Пятро...
Твары сячэ ім пранізлівы вецер,
Бруд наляпіўся на лапці гарой.
Твар у Пятра задуменны і бледны:
«Ганя, Гануля, дзе песні твае?
Бацька цябе не аддасць за беднага,
Выплачаш з іншым ты вочы свае.
Бо на каляды, ў святочнай хаце,
Ў хаце каханай і дарагой
Ў бацькавы куфры разлезлік багаты
Кіне свой выкуп потнай рукой.
Клятыя грошы, паперкі з арламі!
Што ж вы забілі радасць маю?
Іншы да любай пойдзе з сватамі,
Іншы касу распляце тваю...
Мокры абрус ад гарэлкі разлітай...
Твары чырвоныя... люлек дым...
Ўсе задаволены, п'яныя, сытыя,
«Горка!» крычаць і крычаць маладым...
Іншы цалуе, дурны ад хмелю,
Вусны, чырвоныя, як ранет...
Шчасце сялянскае, дзень вяселля,
Нават і ты ўцякло ад мяне!
Думаў, што будзе, і — вось «зарабілі».
Дзесяць паперак кожны узяў.
На аднаго напэўна б хапіла,
А на дваіх...» — Пятро застагнаў.
Думкі ў Пятра, як вужакі, халодныя,
Ён ад чакання, як мыш, узмок...
Вось пералог за Курыным бродам,
Ўскраіна поля, хмызы, лажок.
Паў на калені Пятро ў бур'яне,
Потым падняўся, ў вачах туман:

«Ну а цяпер даруй мне, Яне,
Стань і маліся! Сведкаў няма!»
Па абшарах на прыволлі
Каціць перакаці-поле.
Каціць,
Каціць над раллёю,
Як жывое...
Як жывое...
Рэзка сякера ўпялася ў грудзі...
Хоць бы якая жывая тля!
Ян паваліўся. Не бачаць людзі,
Хмары ж змаўчаць, і змаўчыць зямля.
Вочы, ад сну смяротнага сонныя,
Ўбачылі толькі, што ў самых нагах
Вецер сцяблінку зламаў пад кронаю
І каці-поле пабегла ў свой шлях.
Ледзьве прамовіў ён, белы ад болю,
Чорнаму шару без ног і без рук:
«Ў сведкі бяру цябе, каці-поле,
Вечны бадзяга, расліна-павук.
Чуеш, Пятро, памятай і ведай,
Бачыш, яна ўцякае ад нас.
Гэта расліна, яна мой сведак,
Бойся яе... засведчыць яна...»
Мёртвае цела схаваўшы ў лозах,
Грошы узяўшы, дрыжачы Пятро
Папрамаваў па разбітай дарозе
І загубіўся за бруднай гарой.
Часам з падбегам, а часам павольна,
Чорнай раллёй і краем лагоў
Бегла маўклівае каці-поле
Быццам сабака па следу яго.

II

Па абшарах на прыволлі
Каціць перакаці-поле.
Каціць...
Каціць...
Іншыя мячы хапае,
Да сябе іх далучае...
Бачыць слёзы, бачыць гора,
Бачыць лёс народа чорны,
Вырастае...

Вырастае,
Быццам гора сабірае.
Свет вялікі абяжала,
Шчасця ў ім не адшукала...
Па іржышчах, па дарогах,
Па мяжах, па пералогах,
Па абшарах на прыволлі
Каціць перакаці-поле.
Каціць...
Каціць...
Бліжай...
Бліжай...
Янава жонка ў Пятра пытала,
Ён адказаў: «Разышліся мы».
Тыдзень ці два Янука чакалі,—
Дождж паспеў і сляды замыць.
Хмары сплылі за край свету шырокага,
Лісце заснула ў глыбокіх ярах,
Зніклі сляды, разоры размоклі,
Дзень загубіўся ў мінулых днях.
Хутка забітага твар і грудзі
Снег-укрывальнік закрые навек.
Хто ж аб забойстве раскажа людзям?
Голы, нямы на зямлі чалавек.
Хто ж за забітага мовіць слова,
Дзецям галодным дасць бацькаў дар...
Сведкай душа засталася Пятрова
І каці-поля калючы шар.
Выкуп за Ганну ў куфэрку цесця
Поруч з палотнамі ўжо ляжаў.
З шумных вячорак сваю нявесту
Кожную ноч Пятро праважаў.
А у пустой суседавай хаце
Тымі ж начамі калі-нікалі
Жонка пакутвала, плакала маці,
Дзеці галодныя ў голас раўлі.
Дождж па страсе мяккай лапай крочыць...
Плач у суседзяў... У сенцах цячэ...
Ў ложку Пятро закрывае вочы...
Сон уцякае ад хмурых вачэй.
І ўспамінаюцца ярка да болю
Вербы, бур'ян, хустка брудная лук...
Каціцца,
Каціцца каці-поле,

Скача, расце злавесны павук.
Спыніцца раптам і скача парывам,
Ціха паўзе пад ногі яму:
«Што табе трэба, маўклівы прывід?
Хочаш чаго? Прыходзіш чаму?»

. . . . . . . . . . . . . . .

Дзень без дажджу, халодны і строгі,
Шэры і ясны стаяў на зямлі,
Калі ў хмызах, на мяжы аблогі
Мёртвае цела Яна знайшлі.
Хмары. Ралля. Быццам куча гною
Вёска ў палях ляжыць пад гарой.
Цягнуцца людзі да месца забойства,
Многа людзей. Пайшоў і Пятро.
Ціха стаяць, не скажуць і слова.
Вецер вільготны у твары б'е.
Жонка ў старым андараку суровым.
Дробныя дзеці ля ног яе.
Моўчкі глядзяць на мёртвае цела,
Гора іх гне, як вецер чарот,
Меншы сынок з галавою белай
Не разумее, ўзяў пальца ў рот.
Зрокам цікаўным гуляе па полю,
Нешта пабачыў, яму весяло,
Басам сказаў: «А вось каці-полечка.
Ма, а яно таксама прыйшло?»
Па раллі ад небакраю,
Адкуль хмары наплываюць,
Па абшарах на прыволлі
Каціць перакаці-поле.
Вырасла, вялізным стала.
Каціць, каціць, як навала,
Каціць...
Каціць...
Бліжай...
Бліжай...
Бліжай...
Крык абляцеў нават дальнія гоні,
Камнем зваліўся да трупа Пятро.
Сэрца растаяла. Слёзы салёныя
Лінулі градам, як з раны кроў.
Сведка злавесны скача па грудах,
Каціцца ў яр, паўзе на гару.

«Грэшны! Вяжыце! Круціце, людзі!
Браце!
Браце!
Браце, даруй!»

III

Вёска, як гной. Прысады вярбовыя,
Хмары. Лужыны на раллі.
Хто з цябе вырве гнеўнае слова,
Волат забіты, што спіць у зямлі?!
Мёртвы вятрак, бруд бяздонны на полі,
Вецер халодны свішча ў лазе,
Каціцца,
Каціцца каці-поле,
Скача мячом,
Як павук паўзе.
Шчасця няма пад застрэхамі гэтымі,
Дождждык сячэ, на шляхах вада.
Бедныя,
Бедныя,
Бедныя дзеці,
Птушкі малыя без крыл, без гнязда!
Хто ж тут шчаслівы!?! Змярканне сіняе
Ціха сыходзіць на сітнягі...
Маці ў сухотах, дзеці пад тынам,
Ў яме адзін, у турме другі.

*1957 г.*

## МАСТАКАМ

Моны Лізы смяюцца губы,
Страсць Бетховена ў гуках пяе...
Смерць вартуе тое, што любім,
Вырвем любае з рук яе.
Каб жыло і нашчадкам спявала,
Каб навекі стаяла ў вяках.
Рым загінуў ад дзіды вандалаў,—
Рым жыве ў Ювенала радках!

[*1957 г. ?*]

## САСТАРЭЛЫ МЕСЯЦ

Затрымаць імкнуся назаўсёды
Вось такім, як зараз, вобраз твой
З дальняй песняю, з начнымі водамі,
З месяцам, што гасне над вадой.
Месяц састарэлы памірае,
Затрымаць яго, каб ён заўжды
Асвятляў твой тварык, дарагая,
І ў траве расістыя сляды,
Ведаеш, ён сумны, тонкі, белы,
Сёння я хачу, каб кожны жыў,
І шкадую месяц састарэлы,
Што ў хвіліну шчасця нам свяціў.
Зоркі тыя ж, а ўвесь час спадаюць.
Нехта ў небе, пэўна, ўсё ж сядзіць
І дажыўшы месяц разбівае,
Каб з асколкаў зорак нарабіць.
Папрашу яго, каб ён пакінуў
Ў кожны міг, калі са мною ты,
Месяц драхлы, месяц светла-сіні,
Што няўхільна коціцца ў кусты.

[*1957 г. ?*]

## ЯЎРЭЙЦЫ

Шалее сіні бэз над стрэхамі,
Бяжыць па ім вятрыска-зыб.
Я ўспомніў з ціхаю уцехай
Тваіх вачэй біблейскіх глыб.
Адбіліся ў іх клубы дыма,
На рэках плач і сечаў кроў,
Пажар старой тваёй радзімы,
Любоў да новых берагоў.
Гляджу ў маўклівым захапленні
У глыб бяздонных гэтых вод
І веру, веру без сумненняў,
Што будзе жыць і мой народ.

[*1957 г. ?*]

## СПЛЯТАЙЦЕ РУКІ!

Браты! Сплятайце рукі!
Нас нарадзілі ў свет
Не для выбухаў, не для мукі,
Не для слёз дзяўчат і кабет,
Не на тое, каб мёртвым упасці,
Не на тое, каб згнісці ў зямлі,
А на тое, каб песню і шчасце
Мы нагбом на зямлі пілі.
Каб кахалі, каб вершы пісалі,
Каб ірвалі верас і дрок,
Каб цудоўныя вежы складалі,
Што да сонца імкнуцца праз змрок.
Вежы светлыя! Вежы любові!
Кожны камень няхай пакладзе.
Не павінны змяшацца мовы,
Як калісьці, у добрых людзей!
Хто сказаў, што патрэбныя слёзы?
Хто сказаў, што розны наш лёс,
І таму, што насы ў нас розныя,
Ты павінен разбіць мне нос?
Хай ён нюхае лепей кветкі
Ці каханай сваёй валасы.
Месца хопіць для ўсіх на палетках,
І на ўсіх хопіць весняй красы.
Гімн яднання. Магутныя гукі
Ап'яняюць нас, як віно.
Браты!
Сплятайце рукі!
Шчасце для ўсіх адно.

*1957 г.*

## БАЛАДА ПРА ВЯЧКА, КНЯЗЯ ЛЮДЗЕЙ ПРОСТЫХ

Як груганы на трупы з высокае гары
Крыжакі наляцелі на вёскі і бары.
Няшчасная краіна тры доўгія гады
Нагбом хлiптала трунак смярцей і злой бяды.

Цягнулі па кавалках яе ва ўсе бакі,
Загінулі героі і здрадзілі князькі.
Агонь любові мужнай у брудных душах згас,
Адзін не здрадзіў Вячка, сумленны хлопскі князь.
Параненым і слабым яны яго ўзялі,
У кайданы ногі скулі і ў лагер прывялі.
Ад раны, непрытомны, ачнуўся ён тады,
Калі былі далёка айчыны гарады.
Меў сілы, каб змагацца і з сотняй варагоў,
Але шляхі да волі замкнулі для яго.
І вырас над палонным закуты ў грозны мур
Гохмайстра цытадэла крыжацкі Мар'ёнбург.
Паўзе з ракі на замак пранізлівы туман,
Крукі круцяцца хмарай над вежай Герэнданск,
За брамай маставою, як перадвесце бед,
Ўстае Папоўскай вежы злавесны сілуэт...
Па вуліцы смярдзючай, дзе скупчанасць і бруд,
Вядуць яго на плошчу. А там чакае суд.
А ў галаве чамусьці ўстае чырвоны снег,
Пажары чорных замкаў ў апошні іх набег...
Ў агні наперад з імі ляцелі бітвы дні,
Парчу і аксаміты таптalі ў бруд яны.
За подзвігі у бітвах супроць крыжацкіх зграй,
За мужнасць і за гонар трымай адказ, трымай!
Тут, як на браме пекла, магла б пісаць рука:
«Пакіньце спадзяванні — адсюль выводзіць кат».
Але сканаць пакорным і мяккім, быццам пух,
Як бык дурны на бойні, папаўшы пад абух?
І просіць перад стратай ён путы развязаць,
Каб рукі на імгненне замлелыя размяць.
І ў гэты час апошні перад канцом сваім
Каня яму прывесці, каб развітацца з ім:
«Са мною разам зносіў ён дождж і халады,
Насіў мяне на бітву тры доўгія гады,
Таптаў нагамі лона сталочанай зямлі».

. . . . . . . . . . . . . . . .

І вось каня на плошчу два кнехты прывялі.
І Вячка грыву гладзіць, цалуе ў мяккі нос
І кажа, кажа сябру пра свой жахлівы лёс:
«Мой конь, мой конь, мой любы.
Як будзеш жыць цяпер?
Канец лясной свабодзе, мой добры, моцны звер.
Ты грэбаваў зямлёю, што слалася ў нагах,

Няўжо насіць ты будзеш чужога, варага?
Якому не пасуе і назва: «чалавек»,
Ў якога твар, як пятка, не чырванее век.
Не роднае, чужое усё нам тут з табой:
Не так, як на Радзіме, кабылы йржуць вясной,
Не так гамоняць дрэвы, не так звіняць лугі,
Не так куюць падковы для конскае нагі.
Дапамажы мне, косю, мой бездыханны труп
Не проста дол чакае — ганьба, ганебны слуп».
І, выпрастаўшы рукі, меч ката вырваў ён
І ссёк дубовы чэрап з крутых яго рамён,
І на каня узвіўся, і ў стрэмя горда стаў
І зноў для бітвы волю ў апошні час дастаў.
Меч бліснуў у паветры над лютаю гурбой.
Адзін супроць дзесяткаў —
і ўсё ж не прэнг, а бой!
Конь варагоў хапае зубамі і храпіць.
Паўсюль пануе пекла і трупы, як снапы.
О, лепей дні пакончыць на полі баявым,
Ніж век глытаць ў кайданах чужынскіх вогнішч дым!
Вось уцякаюць суддзі, вось кроў плыве ракой:
«Я ў Мар'енбург з'явіўся і ён на час, ды мой.
Пакуль тугія лукі на вежах не звіняць,
Пакуль даўгія стрэлы адтуль не паляцяць».
Але слабеюць сілы, але дрыжыць далонь.
І вось аб труп запнуўся яго любімы конь.
«О конь, не давядзецца табе ў лугах іржаць
І ў полі нам з табою ўжо болей не гуляць.
Я ў стрэлах, быццам вожык. Бывай, мой конь, бывай!
Мы болей не пабачым лугі і родны край».
Аленя абступілі са зграяй злых сабак.
Ірвуць і раздзіраюць, сякуць на дробны мак.
І вось з крывёю гордай змяшаўся пыл і гразь.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Так у баі няроўным загінуў Вячка-князь.
Авой!!!

[*1957 г. ?*]

# КАМЕЦЕ 1957—??? ГАДОЎ

Над ляснымі азёрамі, над ракой,
Над глыбокаю тванню гнілых німярэч,
Над прыціхлаю ў смутным чаканні зямлёй
Павісае трывожны, зялёны меч.
Ты з'явілася зноў на зямны прызыў
Як у той далёкі, нязнаны век,
Калі мамант на гонар твой песню трубіў,
Калі толькі з'явіўся на зямлі чалавек.
Калі ж прыйдзеш ты зноў праз тысячы год
(Невядома пакуль што для нас, калі),
Ты, магчыма, пабачыш новы народ
На зусім невядомай для нас зямлі.
Не тлумач ім такіх непатрэбных слоў
Як «дзяржава», «страта», «галодны час»,
Паглядзі з павагай на іх любоў,
Раскажы ім ціхутка, на вуха, пра нас.
Раскажы ім, як чорнай навалай ішлі,
Як братамі сваімі ўгнойвалі стэп,
Галадалі, пакутвалі, кроў лілі
І знішчалі патрэбны галодным хлеб,
Як палілі жывых людзей ў пячах,
А казалі пры гэтым: «гуманізм і любоў»,
Як звычайнаю ручкай, вось так, спляча,
Выганялі з заводаў мільёны рабоў.
Як кахалі за грошы, як атруту пілі,
Як начамі снілі хцівыя сны,
Як не ўпэўнены нават ў тым былі,
Што зямля выйдзе цэлай з трэцяй вайны,
Як машынамі горы маглі скрышыць,
А крышылі суседзяў, елі бульбу адну,
Як маглі з навукай стагоддзе пражыць,
А жылі дваццаць год, бо ішлі на вайну.
Як знішчалі прарокаў, як без хлеба зімой
Геніяльным паэтам дазвалялі канаць,
Як выходзілі з сытым свінствам на бой,
Як яго пачыналі перамагаць.
Ты світанак наш бачыла на зямлі,
Ты нас бачыла ў самым гарніле мук...
Ім, шчаслівым, ім, чыстым, прывітанне пашлі.
Не былі б яны чыстымі, каб не бруд нашых рук.
Мы, як птушкі, елі, мы цяглі, як сланы,
Мы сапраўдным жыццём за жыццё не жылі,

Каб спакойна кветкі збіралі яны,
Каб гулі для іх залатыя чмялі
Калі прыйдзеш ты на нябёсы іх,
І між зор пракладзеш свой спакойны след
Перадай дзяўчыне ў гадах маіх,
Што кахаў яе той забыты паэт.
І няхай яна, хоць не знае мяне,
Хоць зусім інакшыя песні пяе,
Праз трывожнае сяйва тваё зазірне
У азёры блакітныя, вочы мае.

[*1957 г. ?*]

## ПРЫГАНЯТЫЯ

Не наша воля, не нашы нівы,
Дубы не нашы над рэчкай ціхай.
Чужыя бору сівыя грывы,
Адное наша — сівое ліха,
Адное наша — змрочныя хаты,
Крывёй мужскою зліты палетак,
Адное наша — пазор дзяўчатак,
Адное наша — няволя дзетак.
Не нашы кнігі, мова, палацы,
Затое наша — ўсіх продкаў слава,
Затое наша — наш гонар людскі,
Вагонь у сэрцы, тапор пад лавай.

[*1954—1957 гг. ?*]

## МАРОЗНЫЯ ТРОПІКІ

Тропікі марозныя на шыбах.
Пальмы, сецьліянаў і трава.
Там струной сярэбраныя рыбы
Выгінаюцца між сініх хваль.

Дзіўны край; там срэбраныя цені,
Там жанчыны скачуць на аленях.
Там жар-птушак, нібы ў нас сарок.
Фары за акном — і ён святлее,
Месяц за акном — і ён пяе...
Меркне у тваіх дрыготкіх веях,
Калі гладжу валасы твае.
Ён пагасне ў ночы на ізлёце,
Расцвіце ў заранцы і засне,
Калі ты з суцішанай пяшчотай
Ціха пацалуеш рукі мне.

*[1957 г. ?]*

# З ЗОРНАГА СЯЙВА І ПЕНЫ КРЫВАВАЙ, АБО ПАЭМА АД ПАВАРОЦЕ СТЫРНА

*(Паэма)*

## I

*Арцюру Рэмбо і ўсім іншым,*
*якія яшчэ не ведалі*

Судна да порта далёкага йшло
Па чырвонай пеннай вадзе.
Сто капітанаў на ім было,
Мільён матросаў на ім было,
Два мільярды «іншых» на ім было,—
Пасажыраў, звычайных людзей.
І хоць сваркі ўспыхвалі часам на ім,
І грымеў пісталетаў гул,
І чарніў зялёныя ветразі дым,
І сыцелі чароды акул,—
Кроў пасля ўсё адно змывалі валы,
Бак і ют ставалі як шкло,
І востраў далёкі ўставаў з імглы,
А за ім — зялёны ўставаў з імглы,
А за ім — блакітны ўставаў з імглы,
І пальмы білі паклон.
І ваякі сыходзілі на астравы,

Йшлі з жанчынамі ў нетры лясоў,
І былі пацалункі ў джунглях травы,
Як свежых какосаў сок.
А калі ў спустошана-шчасных снах
Пачынала хістацца зямля,—
Ім хацелася зноў у далёкі шлях,
На палубу карабля.
Зноў Венеры серпік дрыжэў над вадой,
Марс квітнеў, як барвяны мак,
І ў святле кахання над іх галавой
Весяліўся ўвесь Задыяк.
Поўнай мерай на Шаляхважылі ім
Серабрыстых вясёлых Рыб,
Стралец ганарыўся ўмельствам сваім,
Перад Дзевай склаўшы дары.
Казярог пад совусам марыў пра нож,
А ляжаў па-мярцвецку, як Ной.
Вадалей вадой разбаўляў віно,
Як загадчык раённай піўной.
Судна шчасна плыло дарогай марской,
Дарогай краін і вякоў
Да пуцяводнай зоркі сваёй,
Да летуценнай зоркі сваёй,
Да адзінай на свеце зоркі сваёй,
Імя каторай — любоў.

II

Ў моры плыве карабель-невідзімка,
Згас за марамі Альдэбаран...
З зорнага сяйва, расы і дымкі
Шлях пралягае за акіян.
Ванты спяваюць, ванты спяваюць.
Бездань марская, як зыбкае шкло.
Ў кожнага зорка ёсць залатая,—
Толькі ў мяне няма, не было.
Што мне без зоркі хвала і слава
І запаветная недзе зямля?
Пенай крывавай, пенай крывавай
Сэрцу здаецца след карабля.
Ён застывае, як гнеўная лава,
Ён узнікае, як вечны падман.
З зорнага сяйва і пены крывавай
Шлях пралягае за акіян.

Дзе ты, далёкая і белапенная,
Ў сонцы народжаная і расе?
Клічу і клічу цябе, як сірэну
Клікаў прывязаны Адысей.
І заўважаюць адчайныя вочы:
Як па нацягнутай звонкай струне,
З самай мяжы паміж днём і ноччу
Нехта па хвалях ідзе да мяне.
Цягне з туманаў ломкія рукі,
Сонца нясе мне празрыстай рукой,
Ўстаўшы як радасць, як песня, як мука,—
З зорнага сяйва і пены марской.

[*1957 г. ?*]

## ЗАПАВЕТ

Трэба дзесь закапаць мае тленныя косці.
І хацеў бы ляжаць я над родным Дняпром
На зялёным, сасновым, грывастым пагосце,
Дзе буслiны клёкат у ліпеньскі гром.

[*1957 г. ?*]

## НАРАДЖЭННЕ ВЕНЕРЫ

За вокнамі дзень дагарае,
Знікае агнёў ракой.
І ты з карціны сплываеш
У змрочны, ціхі пакой.
Чужая, зусім чужая,
Ніколі не будзеш маёй.
Вочы твае і цела
Стварыў калісь Бацічэлі
Шмат стагоддзяў таму
На муку маю,
На муку.
На вечную ў сэрцы зіму.

[*1957 г. ?*]

## ПРЫЙДЗІ

Не чакаць парываў свабоднага брыза,
Не чакаць святла сярод цёмнай начы.
Час рабоў і здрады. Эпоха Чынгіза.
Час дрыжачых мужчын і хлуслівых жанчын
І ў баі і ў каханні вароцяць спіны.
Што ж рабіць?
З году ў год лічыць барышы?
Для чаго?
Ўся слава, віно і жанчыны
Суета сует і тамленне душы.
Зарастае травою ў сумлення ганак,
І ваююць даносам замест свінца.
Пасля славы — наклёп, нуда — пасля п'янак,
Пасля здрады кахання — туга да канца...
Да канца...
Ўспаміны адносяцца роем...
Я адзін.
Я адзін супраць тысяч стаю,
Клічу сэрцам збавіцельны полаг спакою,
Што закрые мне крыламі вочы ў баю.

[*1957г. ?*]

* * *

Мір гэтаму дому,
Дзе шчасце мы бачылі ўсе...
Вецер шматкі саломы
Па мокраму снегу нясе,
Дождждык імжыцца ціхі
(Вясковы вячэрні час),
Карова з добрымі ўздыхамі
Глядзіць з-за сена на нас;
Курка з цёплага поклада
Кудахча, бы знесла сусвет...
Прытульны, добры і цёплы
Наш беларускі свет.
Садок да рачулкі збягае,

Хатка глядзіцца ў плё–

. . . . . . . . .

Арлы на свет вылятаюць
З такіх менавіта гнёзд.

[*1957 г. ?*]

* * *

Вярнуўшыся з далёкага бадзяння
На словы дзён былых, на іх напеў,
Я ціха стукнуў пад акном каханай
І як адказ пачуў вясельны спеў.
Крыніцы сініх пушч асірацелі,
На вываратнях сівізна, як снег,
Таму, што цішыня пануе смела,
Дзе чуўся некалі твой срэбны смех.

[*1957 г. ?*]

## ЦВЫРКУН І ПРАБЛЕМА ЧЫСТАГА МАСТАЦТВА

З гарадоў егіпецкіх пажоўклых
Мо таму ўжо некалькі вякоў
Гандляры ў пахучых скрутках шоўку
Ў Беларусь завезлі цвыркуноў.
Безбілетны пасажыр з пустыні,
Ён асеў за печкаю у нас:
Цёпла, суха, бы ў сваёй краіне.
Грубка цепліцца ў вячэрні час.
Старажытнейшы паэт на свеце,
Чыстае мастацтва лозунг твой.
Не для лаўраў, не для славы гэтай
Песняй парушаеш ты спакой.
Я не супраць: нам патрэбны мары,
Але зараз нельга быць сабой.

Ведаеш, што робіцца, таварыш,
На Радзіме сонечнай тваёй?
Твой Сінай ад стрэлаў шчэ гарачы:
Прыкладзі — і абпячэш далонь,
Муміі крывёю горкай плачуць,
Гледзячы на раны і агонь.
Я не веру, што было б магчыма
Спевакам, сынам сваёй зямлі,
Заспяваць святы матыў Радзімы
Для вушэй, што поўсцю зараслі.
Трэба бараніць усё, што любіш,
Каб па праву заспяваць пасля.
Не спявай пра цёплы кут за грубай,
Пакуль горам поўніцца зямля.

[*1957 г. ?*]

## ВОЎК

Са́мцы сціснула пасткаю лапу.
Пахла дымам далёкіх стрэх.
Воўк кусаў акрываўленай зяпай
Сталь халодную, мерзлы снег.
Толькі ранкам яе пакінуў
І кружыў сярод бліжніх лоз
Адзінокі, як месяц над нівамі,
У траскучы гэты мароз.
Людзі ўдзень прыйшлі да адрынутай
І яе, заўважыўшы след,
Як жывую прынаду пакінулі
Ў дзень апошні глядзець на свет.
І ўвесь дзень мільгацеў за аблогай,
Дзе спляліся хмызы, як паркан,
Цень вялізнага, цень сівога,
Цень самотнага ў свеце ваўка.
Калі ж ноч сняжком лебядзіным
Закрыла на стужкі дарог,
Ён прыйшоў з бяспечнай лагчыны
І на снег поруч з ёю лёг.
Занурыўшыся, думаў сурова,
Быццам спаў,— ды спакойна так,—

Толькі ціха ўздрыгвалі бровы
Жаўтаплямыя, бы ў сабак.
Поруч з ёй, яшчэ не памёршай,
Ён прыпомніў леташні снег,
Сіні месяц, сустрэчу першую
У руі той шалёны бег.
Што ж дарэмна выць і бадзяцца?
Калі людзі са зброяй прыйшлі,
Ён не мог, не жадаў падняцца
І пакінуць яе на зямлі.
Ён глядзеў не змаргнуўшы ў рулю,
Ён маўчаў, не дыхаў, не соп,
Узяўшы гарачую кулю
У шырокі пукаты лоб.

[*1957 г. ?*]

## ПЕСНЯ ПРА АСКОЛАК

«Хлопча мой, мы ніколі не будзем з табой
Блукаць па свежай траве:
Адгрымеў і забыўся далёкі бой,
А асколак пад сэрцам жыве.
Каля сэрца, ў цёплай сумцы яго —
Ён лічыць кожны удар.
Мне шкода, мне шкода шчасця твайго,
Абарваных жалезам мар».
Так сказала яна.
                    І голас мой
Абарваўся ад чорнай тугі...
Ты свецік мой,
                    ты званочак мой.
Ты клёнік мой дарагі.
О, вайна, акопны смурод баёў,
О, адроддзе пекла і зла,
Нават мёртвай — ты знішчыла шчасце маё,
Нават здохлай — гора дала!
Чорны цень твой на кволых дзяўчынак упаў,
Ўсё забіў, запаскудзіў вакол.
Прыбіць бы, сволач, цябе да слупа
І ў глотку асінавы кол!

Не трэба, каб золкі спусціўся туман.
Паўстань, пераможны дзень.
Для кахання майго заслоны няма.
Я хачу.
І адступіць цень.
І цябе з тваёю мужнай тугой
Сагрэе мая рука,
І асколак ты выплачаш з сэрца свайго,
Як выплакаў казачны Кай.
Не трэба, не трэба сумных вачэй,
Не трэба пакут і няўдач.
Не трэба, не трэба сагнутых плячэй.
Любая,
светлая,
плач.
Як царэўна плача, як сонца праз дождж,
Як расы ружавеючай дым,—
І адступіць боль, і апусціцца нож,
Узняты над сэрцам маім.
Я вып'ю слёз тваіх цёплую соль,
Я згару на тваім агні.
Ты чуеш? Сталь тае, сплывае, як боль,
Ад кахання, ад цеплыні.
Любая, сэрца маё не трывож.
Што гэта?
Ў сне ці не ў сне?..
Слёзы, слёзы, сярэбраны дождж,
Ад якога кветкам квітнець.
У радасці яснай за нас з табой
На нябёсах нап'юцца багі.
Ты месячык мой, гномік мой,
Ты — жаўранак мой дарагі.

*30—31 кастрычніка 1959 г.*

* * *

Ты — нечаканая радасць,
Ты — ночы ласкавай крок.
Пяшчотны вус вінаграда
Месяц крануў за бок.

Крануў і вусікі звесіў
І, звыклы ў жыцці да ўсяго,
Нізкі чырвоны месяц
Спыніўся паслухаць яго.
Ўюцца вусікі, ўюцца,
Месяц чырвоны прыціх.
Вочы тvae смяюцца
Ля самых вачэй маіх.
І я, прыціхлы, спайманы.
І роўны сотням багоў
Адчуваю ў сэрцы, як рану,
Словы кахання твайго.

*[1957 г. ?]*

## МОВА

*Янку Брылю*

Ёсць паданне вякоў, што разбурыць калісь
Вавілонскую Вежу Адам
І няўмольна сальюцца мовы зямлі
У адну, нязродную нам.
І мая безвыходна пойдзе у змрок,
У атрутны, як вечнасць, цень,
Трапяткая і сіняя, як васілёк,
Гарачая, як прамень.
Я ні шчасця, ні будучых дзён не жадзён,
Хай пятля, хай памерці ў журбе,
Хай не будзе ні шчасця, ні будучых дзён,
Калі ў іх не будзе цябе.
Сірата па з'едлівай волі багоў,
Гінучы мой карабель,
Хай не будзе світання ў народа майго,
Калі досвіткам здрадзіць цябе.
Ад палеткаў райскіх лёгкай ступой,
Збочу я да пякельных катлоў,
Калі першы жа ангел на мове маёй
Мне не скажа: «Братка, здароў».
І няхай да мяне не прыйдзе вясна,
Песня, шчасце, каханне, спакой,—

Ўсё адно не змяняю твой чорны праснак
На атруту пшаніцы чужой.
Ты мой ясны хлеб і каханы май,
Песня продкаў, нашчадкаў палі,
Без цябе, не з табой — не патрэбен мне рай
На душы. Ў небясі. На зямлі.

[*Канец 50-х гадоў*]

## ЛЕНІН КАЛЫША ДЗІЦЯ

Ён ідзе па маёй краіне
Пушчай, полем, абшарам лугоў,
І звісаюць над сцежкай хвaіны,
Каб закрыць ад дажджу яго.
Ён ідзе адзін, без эскорту,
Не збівае расу на траве.
Палітончык на ім пацёрты,
Кепка лёгкая на галаве.
Лічыць ён каласы, і магілы,
І усмешкі на вуснах братоў.
«Што яны без мяне зрабілі?
Што тут добра і дрэнна што?»
Плач пачуў на вясковай ускраіне.
Сон.
Бязлюддзе.
Пусты гараж.
Спіць на прызбе бабуля глухая,
А дзіця заходзіцца аж.
— Ну, не плач ты, гаротны нябога,
Мабыць, ясляў няма? Дарма.
Ён шукае ў кішэнях — нічога,
Ні цукерак, ні цацкі няма.
А дзіця падымае ён, дужы,
Як мужчыны бяруць заўжды,
І зрывае хлопчыку ружу
У вясёлкавых кроплях вады.
— Не сярдуй, сынок сінявокі,
Ў гэтай кветцы зямное цяпло.
Я ж прыйшоў з часіны далёкай,

Калі нам не да цацак было.
Бач, святло гуляе па лісцях,
Адусюль праганяе змрок.
Добрым будзь, як бацькі калісьці,
Цёплым будзь, як сонца, сынок,
Будзь бясконца да ўсіх чалавечным,
Будзь ласкавым, як светлы май,
Падазрэннямі недарэчнымі
Чалавека не абражай.
І за гэта — радзіму свабодную
Я аддам табе ў вечны дар:
Землі, пушчы, светлыя воды
І сусвету бясконцы абшар.
Па дузе у бязмежнасць сінюю
Карабель з зямлі паляціць.
Будзе маці чакаць няспынна,
Ганарыцца і слёзы ліць.
Мы заўчасна ў жыцці сівелі,
Кулі неслі глыбока ў грудзях,
Каб да зорак распалена-белых
Ты праклаў незабыўны шлях.
Штосьці бабка, брат, шэпча сярдзіта.
Ляж у ночвы, сынок, засні.
Пастаяў ён і збочыў у жыта
І растаў у далечыні.
За лясным даляглядам замроеным
Хутка сціхнуў далёкі крок,
А дзіця ляжыць неспакойна,
І смяецца ружовы раток...
Толькі бабка здзівілася дужа,
Што гарыць барвяным святлом
У яго ручанятах ружа,—
Без калючак, з гладкім сцяблом.

*1960 г.*

## ДЗЯЎЧАТЫ

На бярвеннях дзяўчаты запелі
Пра вячэрнюю стому сваю.
Песня ў цемры і кофты белыя

Ўсім прахожым іх выдаюць.
Я іх бачыў днём на пракосах,
У вясёлым звоне зямлі.
Нават косы, дзявочыя косы
Падвязаць не было ім калі.
Падарункі іхнія з вілаў
Я хапаў, выводзячы стог,
А яны мяне пакацілі
І жывым закапалі ў мурог.
І цяпер, калі ў росах травы,
Тут, са мною, сядзяць яны
Вельмі ціхія, вельмі ласкавыя,
Як кахання першага сны.
Я пайшоў бы ўдваіх з каторай
Да ракі праз начныя палі
І глядзеў бы з ёю на зоры,
Каб цябе не было на зямлі.
Ледзьве чутная песня точыцца.
Разам з ёю асіны звіняць
Пра вярбу ды пра сінія вочы,
Пра грывастага ў лузе каня,
Пра дурненькую перапёлку,
Што гняздо пры дарозе звіла,
І пра хлопца, што ноччу золкай
Ад сяла ідзе да сяла.
Ў іхніх песнях — уся Радзіма,
А без гэтага чалавек,
Быццам тонкі струменьчык дыму,
Што плыве абалоннем рэк.

*1960 г.*

## ЧАЙКА

Проста ў хвалі, што чарадою
Гоніць злосны пастух-ветрадуй,
Чайка падае перада мною:
«Пашкадуй мяне, пашкадуй.
Не страляй мяне, чалавеча,
Стрэльбу страшную апусці.

Сэрца рвецца. На хвалях вецер
Грывы белыя закруціў».
Супакойся.
Плакаць не трэба.
Лі спакойна крыклівы жаль
Пад чырвоным, ветраным небам
На узгоркі бурыя хваль.
Я, каханнем сваім расстраляны,
Ўсё жывое шкадую цяпер,
І мяне на лясных палянах
Не баяцца птушка і звер.
І ў руках не стрэльба, а палка,
І іду я ў далёкі шлях
Ад прыгожай, ад лепшай, ад палкай
Ад пагарды ў шэрых вачах.
Я іду спакойна,— ты бачыш,—
Мернай, цвёрдай сялянскай хадой...
Толькі часам сэрца заплача,
Быццам чайка над сівай вадой.

*1960 г.*

## МІМОЗЫ

Апошні снегапад забіў марозы,
Стаў на халву падобны брудны снег
І раптам залацістая мімоза
Галінкі працягнула да мяне.
Ва ўсіх прахожых прамакаюць ногі,
Бруіцца ля панеляў каламуць,
А тут краплінкі сонца залатога
За змятую траячку ўсім даюць.
Пяшчотны, залацісты пух гусіны.
Каму цябе падорыць добры гном?
Хіба што гэтай маладой дзяўчыне,
Што тузае машынку за акном.
У тлуме уваходных і выходных
Хай на хвіліну усміхнецца мне,
Успомніць пра вясну, пра лес свабодны
І адпачынак дасць сваёй спіне.
Шуміць па вуліцах халодны вецер,

А я прынёс праменні ў цёмны дом,
І стала трошкі больш святла на свеце,
І ў сэрцы дзеўчыны, што за акном.

*1960 г.*

## КАМЕННЫЯ СЛЁЗЫ

Апоры мастоў, як скалы.
Нявы буркатлівы сон.
Над Стрэлкай, на захадзе алым
Цені рагатых калон.

Бялёса. Блакітна. Шырока.
Халодная ноч, як дым,
І шчасця танюткага крокі
Мяшаюцца з крокам маім.

Ў сініх лугах, на світанні
Ў ззянні вясёлкавым траў
Я вырасціў гэта каханне
І ў рукі твае аддаў.

А заўтра яно знікае
Ў паўдзённай чужой старане.
Горад, за што ты караеш?
За што забіваеш мяне?

Заўтра мне распінацца,
Тужыць па яму, як калісь,
Бо вежам тваім і палацам
Справы няма да зямлі.

Прыйду наступнаю ноччу,
Пабачу ракі свінец
І сфінкс халодныя вочы
Узніме з вады на мяне.

І скажа: «Цёпла на Ніле,
А тут халодная золь.

Паўсюль аднолькавым пылам
Стаюць каханне і боль.

І людзям вяртацца не трэба
Да любых сэрцу магіл».
«— Сфінкс, мы жывём пад небам,
Небам песні і небам тугі.

Тысячы тысяч світанняў
Я сонца чакаю з тугой.
Ўся мудрасць твайго маўчання
Не варта пакуты маёй».

. . . . . . . . . . . .

І сфінкс халодны, цвярозы
Схіліць сваю галаву,
Пакоціць каменныя слёзы,
Цяжкія слёзы ў Няву.

*2 ліпеня 1960 г.*
*Ленінград—Орша*

## ЛЯТАЮЧЫ ДУРАНЬ

Ў парку, пад ліхтарамі
Клічуць агні да вітрын:
«Палёт дагары нагамі!
Тры рублі за дзесяць хвілін».

Прывязаныя як трэба,
Пад крыкі дзяўчат і друзей
Людзі ў чорнае неба
Лятуць па стромай дузе.

Штодзённа ў змроку пахмурным,
Звысок аглядаючы свет,
Ў касу прыходзіць дурань,
Важна купляе білет.

І выкладае паважна
Схоўшчыку ў мяккі кулак

Грошы ў тугім бумажніку,
Пропуск і партабак.

І выкладае ў прыдачу
Дзесяць ключоў да ўсяго:
Ключ ад машыны, ад дачы,
Ключ ад сэрца свайго.

З годна падціснутым ротам
Ў неба ўзлятае цень.
Дзесяць мінут палёту:
Хопіць на цэлы дзень.

Ў зорным касмічным пыле
Боўтае пяткамі ён,
І за спіной, як крылы,
Драпавы палітон.

Па-над зіхоткім і хмурым
Горадам дзіўнай красы
Горды лятаючы дурань
Проста ў хмарах вісіць.

*3 ліпеня 1960 г. Орша*

## ПАМЯЦЬ

На чашніцкай зямлі бярозы і дубкі,
У чашніцкай зямлі — французскія штыкі.
Іржавых ядзер круглыя галовы
Ў разор выкідвае нарог суровы.

Тут сталі у дванаццатым сцяной,
Каб не прайшоў на поўнач Удзіно,
Салдат штыком і партызан сякерай
Тут затрымалі яраснага звера.

І спачываюць ад жыццёвых бур.
Тут быў уратаваны Пецярбург.
Палацы неўскія не запалалі,
Таму што тут крыві не шкадавалі.

Самахвярна людзі зберaглі
На гэтым полі — Марсавы палі,
Пахмурных сфінксаў, што ў тумане млеюць,
Юнацтва Пушкіна у ліпавых алеях,
Канаўкі Зімняй сонны супакой,
Палёт Пятра над гордаю ракой.

[*1960 г. ?*]

## ВУЛІЦА КАСМАНАЎТАЎ

У горадзе без тралейбусаў,
над імклівай нямоўчнай ракой,
На вуліцы Касманаўтаў — хата маці маёй,
На вуліцы Касманаўтаў, дзе ўлетку бубняць чмялі,
На самай мне любай вуліцы з усіх,
што ёсць на зямлі...
Пасталі дамы ў пажары каралавых арабін —
Шаснаццаць аднапавярховых і двухпавярховы адзін.
А поруч з імі узносяцца над стромай садоў залатых
Велічны гмах піўзавода і дом Грамады глухіх.
Хто там смяецца з'едліва? Лепей няхай маўчыць!
Па гэтым па цёплым пыле я вуды нёс на плячы.
Тут маці мая ля брамы, як выплыве месяца рог,
Чакае нястомнага сына з далёкіх-далёкіх дарог...
Асенняй імжой безнадзейнай і вясной,
калі гоняць кароў,
Адзіная з тысяч вуліц, ты — святло маё і любоў.
Нідзе ў сусвеце не стрэнеш стрэх і кветак такіх,
Тут гусі такія паважныя, бы з Марса вывезлі іх,
І нідзе не песціў на свеце ніякі вішнёвы сад
Такіх немаўлят крыклівых і такіх пяшчотных дзяўчат.
Дзяўчат, што ўсю ноч да світання купальскай добрай
парой
Спяваюць зорныя песні пра вярбу над ціхай вадой.
Спявайце, дзяўчаты, спявайце, каб адпачыць салаўю,
Пра сон і вільготныя веі, пра апошнюю страту маю...
Нябачны нікому на свеце, стаю і слухаю вас,
Каб сэрца не сумавала ў чорны паўночны час...
Вуліца Касманаўтаў збягае ў лагчыну з гары.

Вытокі яе — у горадзе, вусце яе — ў Дняпры.
Направа — дамы і краны, і шызы з комінаў дым,
Налева — Дняпро і абрывы, і аблокі над гэтым усім.
Цяпер жа, далёка за поўнач, як згаслі агеньчыкі ўсе,
Над ёй беларускае неба ў сваёй адвечнай красе;
Зменліва ззяе Капэла, сінее віно ў Каўшах,
Шлях Чумацкі віхурыцца пылам, срэбны Батыеў Шлях.
Спявайце, дзяўчаты, спявайце — крылаты чакае лёс:
З вуліцы Касманаўтаў на срэбны гасцінец нябёс.
Дзякуй за адпачынак. Сад зацвіў недарма,
Я іду адсюль. Я спяшаюся. Дарозе канца няма.
І недзе далёка свеціць, як забыты цёплы маяк,
Вуліца Касманаўтаў —
пустая калыска мая.

*1962 г.*

## МАЦІЦОВЫЯ СЛЁЗЫ

Ураджай пагарэў. З працадня — ані шэлега.
Вымі бедных кароў, як пустыя збаны...
На пясчанай касе ля Збароўскага берага,
Быццам рыбы галодныя, дрэмлюць чаўны.
За бязглуздасць чыюсьці, грабежную, хвацкую,—
Як было не адзін ужо раз, і не два,—
І сягоння бакамі адказвае Бацька,
Рыбы, дрэвы, нябёсы яго і трава.
Цені, белыя цені на водмелях сініх,
На плячы даўгазубыя граблі ляжаць.
Стогнуць спіны і ціха паўзе над пучынай,
Быццам дзіда, цяжкі, трохсажнёвы дзяржак.
Граблі шаблямі дно залатое скародзяць
І прыносяць «палюддзе» галодным чаўнам:
Ясных кропель алмазы, багновак бароды,
І бяззубак — па грыўні за кілаграм.
У катлах ненажэрных іх выварадзь ноччу.
Чарапашак ад мяса аддзеліць «кульба».
Будуць запінкі для вячэрніх сарочак,
А начынне — свінням.
Па-братэрску дзяльба.
Дзеля гэтага з ранняй да позняй часіны,

З салаўінай пары да савінай пары,
Як трысцінкі трымцяць дзявочыя спіны,
І аленевы вочы глядзяць у віры.
І пакуль грабуць яны сонца з парогаў,
А з крыніц і глыбіняў вясёлак глыжы,—
Зыб ад глісераў белых абліжа ім ногі,
Грудзі-шкелцы бінокляў абсліняць чужых.
І за сіняй далёкаю паваротнай,
Там, дзе знікне багатых глісераў зыб,
Людзі з граблямі выбух учуюць кароткі,
І бязгучныя стогны аглушаных рыб.
Быццам жэмчуг, на нашых адхонах суровых
Наліваюцца барвай насустрач дню,
Як вулканы, зырчаць маціцовыя горы,
А між імі, як лава, шалёнства агню.
І з адчаем слухаюць ракавін вушы
Як віруюць у пекле катлоў агнявых
Душы брацціяў, нямыя бяззубкавы душы,
Пад мяшалкамі д'яблаў... Таксама нямых.
І ўвесь час пакуль мяса ад лат аддзіраюць
І дымее ў ночвах яно, як гара,
Качкі шэрагам шэрым стаяць і чакаюць,
Як пры Сталіне поліўкі ў лагерах.
Высыхаюць крыніцы, і іхнія слёзы
Дзень ці два ззяюць маціцай ў сонца агні
Перад вечнай разлукай з радзімай бярозавай,
Дзе цяпер ні бяроз, ні дубоў, ні крыніц.
О зямля мая ў сонцы, зітханнях і зыбу!
Дзе дуброў тваіх цёплыя халады?
Абяспітушылі, бомбамі ўсю абязрыбілі,
А цяпер абяззубяць...
А што ж тады?!
Разнясі ім каўчэгі з хлуснёй і атрутай,
І даруй, тым, танюткім, як струны лазы,
Тым, з граблямі, у плаццях сваіх падаткнутых,
Што для хлеба ўзялі ў цябе човен слязін.
Бо штоночы, як толькі прытомнасць пакіне,
Мне адзін, мне адзін толькі трызніцца сон:
Даўгазубыя граблі, напятыя спіны,
І пад хусткамі белымі — твары з ікон.

*1965 г. Шагол*

* * *

Тая жонка, якую ведаў,
Да апошняй сардэчнай струны,
Так, як ведаюць гімны «Ведаў»
Амазонскія дзікуны.
Ты, якую меў і кахаў я,
Як кахае ў імкненні віроў
Заручоную з Балтыкай Гаўю —
Заручоны з Понтам Дняпро.

Так, як ведае Месяц аблокі,
Так, як ведае шчасце Зямля.

[*1966 г. ?*]

## ЗА ПЕРАВАЛ, СЯБРАМ

Ўсе беды — за пераналам:
Маразы, буранаў дымы,
Жанчыны, што нас кахалі,
І якіх не кахалі мы.
Нагадвае пра былое
Толькі шэрань на схілах Яйлы...
Жвір шыпіць пад начным прыбоем,
Б'юць аб бераг валы.
І сон з табою, з каханай,
Быццам сон матыля ў мігдалі...
Хлопцы, я знаю, вы зранены!
Хлопцы, мы вас не падвялі!
Не ўцяклі ў лазу, ў дэзерціры,
Не сплылі ў ружовыя сны —
Мы тут замкі узводзім для міра,
Літасці і вясны.
Дзеля вас, у снягах забытых,
Дзеля вас, каб скончыўся здзек,
Каб добрым, чыстым, нязбітым
Стаў на зямлі чалавек.
І ўсё ж я, як быццам, зганены,
Бо — на смутак мой, боль і жаль —

Над любоўю да вас і над нашым каханнем
Не над вамі, а толькі над нашым каханнем
Так палае ружовы, барвяны мігдаль.

*19 сакавіка 1967 г. Ялта*

* * *

За чорнаю ружай ідзі ўсцяж дарог,
Ідзі праз хлусню, цямноцце і дым,—
Каб неяк убачыць блакітны стог
І месяц зялёны ў тумане над ім...

Пад месяцам гэтым, між сініх стагоў
З бедным сэрцам маім у руцэ —
Цвіце імя чужой, дарагой,
Чорная ружа цвіце.

Я не веры́ў, не веры́ў у змрочнай журбе,
Што можна, пазбыўшыся мук,
Ўзяць цябе і да вуснаў прыціснуць цябе,
Не скрываві́ўшы іглaмі рук.

*8 кастрычніка 1966 г. Рагачоў*

## БЫВАЙ!

Хтось бязвіннай крывёю заліў зару
І стагі заінелыя лоз.
Мой цягнік пакідае цябе, Беларусь,—
Твой сівер і твой мароз.

Я шчаслівы, што знікну з гэтых палёў,
З гэтых пушчаў і берагоў.
Хай яны дранцвеюць, закутыя ў лёд,
Калі так ужо любяць яго.

О, даволі! Намерзся! Пусці з сябе
Ў мора добрае, ў іншы край...
Я ні ў чым, ні ў чым не віню цябе.
Калі можаш — даруй і бывай.

*Сакавік — 4 ліпеня 1967 г. Мінск*

* * *

Зацвітае дрэва Іудзіна,
Горы ў весняй, цёплай журбе...
Ну куды ж уцячы мне, людзі,
Ад кахання, ад дум, ад сябе?!

Не купляў я зямлі гаршчэчніка,
І нікога ў жыцці не прадаў,—
Што ж ты помсціш мне, чалавечнасць,
Што ж ты, лёс, мне нічога не даў?

Так, нічога ў жыцці не зроблена,
Так, пражыты нікчомны век,
Так, і словы і справы дробныя,—
Але ж хоча святла чалавек,

Гімнаў тых, што няма і не будзе...
Рук дзіцячых і словаў яе...
Цяжка, людзі. Нясцерпна, людзі.
Сонца здрадзіць. Шчасце заб'е.

Хутка сорак і хутка восень...
Ўжо адна толькі прага пячэ,
Каб скаціліся цёплыя росы —
Хай на крыж мой з людскіх вачэй.

І малю я вышэйшаю верай —
Ўздайце мне дабрынёю ці злом
Не за тое, што на паперы,
А за тое, што ў думках было.

Мы бываем невінаватыя,
Што звінім, як струны лазы,

Што вісяць нашы рукі клятыя,
Што маўчыць наш слабы язык.

Ўздайце мне. Хай, што будзе — будзе.
Нельга больш захлынацца ў крыві
Пад праклятым дрэвам Іудзіным
Без нянавісці і любві.

*6 красавіка 1967 г. Ялта*

## ВЕРШЫ НЕ ДАПАМАГЛІ

Вецер кнігу на акне чытае;
Скучыў і старонкі стаў лічыць.
Верш засыпаў бэзам адквітаючым,
Што стаіць у сінім гарлачы.
Бы сказаў: «Куды ты, братка, лезеш
Са сваім каханнем і тугой?
Іх не параўнаць з цвіценнем бэзу,
З кветкамі вільготнымі яго».
І каханая на падваконні,
Сціснуўшы сукенку паміж пят,
З-пад прасвечанай глядзіць далоні
На нясмелы лёт галубянят.

[*1968 г. ?*]

## МАЙ

Парасон і плашч між сабою гамоняць
І ідуць тратуарамі ўніз галавой,
А пад імі, як хмары, дрэвы зялёныя,
Ўспышкі кропляў, маланкі, дамы і балконы...

Ўвесь амыты,— як вабяць кветак далоні! —
Плашч прыпаў да ружоватага парасона,
Нібы чмель, што ўпяўся ў ружовы павой.

*12 верасня 1969 г.*

* * *

Месяц над садам, ад квецені белым.
Месяц — вялізны. Сад — анямелы...
Белыя прывіды дрэў у тумане,
Вочы кахання, голас кахання.
Вусны кахання.

Што ж ты ўцякаеш, мая адзіная,—
Ясная сонца ад месяца сіняга?!
Хіліцца ў месяца іскрах галоўка...
Звоніць салоўка, смяецца салоўка,
Плача салоўка.

Кветкі рассоўваю й шэптам гукаю,
Ты паддаешся, і ты адступаеш.
У цёплым блакіце, ў пяшчотным лёдзе
Белыя вішні ў туман адыходзяць,
У ноч адыходзяць,
У сон адыходзяць,
Ціха ў любоў адыходзяць.

*1971 г.*

## АРМЯНСКІ МАТЫЎ

— Матухна,
глянь,
на галіны змярцвелыя
Селі ружовыя матылі!
— Не, мая дзетка, то яблыні белыя
І абрыкосы ўначы расцвілі.
— Матухна,
глянь.
Гэткі цукар чысты
Там, на блакіце і срэбры гарыць!
— Не, гэта летняе сонца агністае
Вочы сляпіць на Святой Гары.
— Матухна,
глянь,
як сплываюць крывёю
Волаты ў скалах, і ў барвах трава!

— Не, гэта проста халоднай рукою
Вецер лістоту з чынараў сарваў.
— Матухна,
глянь,
гэта ластаўкі белыя
Зверху імкнуцца й спадаюць у сне.
— Не, мая дзетка, то з неба знямелага
Падае,
падае,
падае снег.

*1971 г.*

## НА ВУЛІЦЫ ДЭШЧОВАЙ

*Здзіславу Нядзелю*

На вуліцы Дэшчовай — слата і шэрань,
І вокны,— як з неба,— гараць уначы.
І я не зведаў, нашто мая вера,
Нашто жыццё я стаўлю на шчыт?!
Нашто шукаю ў душы маёй — Слова?!
Праўда — нашто? І бой мой — нашто?
Нашто Касцюшкі капец над Дэшчовай
Так марна гарыць між цяпліц і платоў?!
Мэта, напэўна, і ёсць, і будзе,
І Вера, і Праўда, і Слова ёсць...
Вярнулі б вы толькі мне, добрыя Людзі,
Любоў да ўсяго і маю маладосць.
К нам прыходзяць...
І гінуць у скрусе...
Калі нават іх цёплай рукою бяру...
О божа, даруй маёй Беларусі!
І Польшчы!
І ўсім на свеце...
Даруй.

*16 снежня 1971 г. Кракаў*

## ДОМ СЯБРА

Маленькі астравок маёй зямлі —
Зялёны Астравец над срэбнай Лошай,
Такі прытульны і такі харошы,
Як сонца, бор і родныя палі.

Дом друга. Не, дом тысячы сяброў.
Не ведаю, што можа звацца раем?
Хіба мароз і піва ў Гудагаі,
І галасы далёкіх цягнікоў?

Маё другое сэрца. Год пяцьсот
Адлічваеш ты мне гады на свеце,
І кожны дзень аблокі, верас, вецер,
І сонца неўміручага ўзыход.

І твой святы і светлы чалавек,
Твой дым, і крыж магутны Аняліна,
Твой лубін залаты, твой лес
на ўзгорках сініх,
І стронгі ў крышталі маленькіх рэк.

Сто тысяч год няхай вакол шумяць палі,
Сто тысяч год няхай вакол гудуць дубровы,
Пакуль гучыць вакол святая наша мова,
Пакуль ёсць беларусы на Зямлі.

*1974 г.*

## ВАКОЛ ХЕЙНАЛА

*Яну Колтуну II, самаму маладому трубачу — «хейналісту» Вежы Марыяцкай*

Думаеце — герольды
Ў барве й каронах?
Рык фанфаронаў — ад суднага дня глухіх?..
А тут проста трубы.
Чэшскай фірмы «Лігатона»,
А на калках вісяць кажухі.

Бэлькам — шэсцьсот
(Тут што праўда, то праўда)...
Сведкі польскай, і нашай, і... іншай зары,
Але тут... Тут спявае ціхутка радыё,
І ў каморцы «тэлік» маленькі гарыць.
Тут дзяжураць. Тут звон адбівае рупліва
Ўсё, што з'елі, скахалі і прапілі...
Ну вас... З вашым... туды...
Рамантызмам саплівым.
Вы, паэты ўлюбёнай маёй зямлі.
Не прыполамі дам,
Не дамаскай парфумай
Пахнуць рукі «герольдаў» на гэтай «гары».
Пахнуць яны жалезам, пылам і гумай,
А ў сіх тых — часныком.
(Ходзіць Кракавам грып.)
Пахнуць добра баршчом, цёплым хлебам, цыбуляй,
Як дзяды ў старожцы ці ў начлег на Дняпры...
І мне добра.
І шчыт Марыяцкі, як вулей,
Над згасаючым Кракавам мёдам гарыць.
Ў Яна Колтуна ані гербоў ні дукатаў
(Як, між іншым, ва ўсіх «герольдаў» пяцёх),
А звычайная,
Такая сабе —
Зарплата —
Ад дзвюх тысяч злотых да чатырох.

[*1971 г. ?*]

## НАСЛЕДАВАННЕ СЫРАКОМЛЮ

«Вясна будзе»,— людзі баюць.
Ды нашто нам росквіт той?
Мы адвыкнулі ад мая,
Нас не выручыць ніхто.
Ў скутай інеем краіне,
Ў мерзлай пушчы векавой
Толькі елкі цяжка стынуць
Мёртвай зеленню сваёй.
Ды палі ў снягах калеюць,
Ды на гора і на смех

Мох магільны зелянее
На капцах мужыцкіх стрэх.
Чэзнеш нівай непалітай,
Усялякі церпіш зброд.
Ці ўваскрэснеш? Ці жывы ты?
Ці забіты, мой народ?
Каб вясне прабіць дарогу,
Каб калісь вярнуўся рай,—
Слова праўды, слова бога
Мусіш слухаць, родны Край.
І тады адтануць гоні,
Цеплынёй дыхне ралля,
Раем зоймецца зялёным
Маці — родная зямля.
Пройдзе нівамі, лясамі
Бог свабоды залатой.
Калі мы не ўстанем самі —
Не падыме нас ніхто.

*14 лістапада 1979 г.*
*18.35 Мінск*

* * *

Ты не снілася мне, мама,
І не ваб у краіну, дзе ружы сінія.
(Пачакай! Ну, крыху!)
Асабліва на гэны раз.
Ты ж так рэдка бачыла кветкі мімозы
І (яшчэ радзей)
добры квет туберозы,
І—
зусім ніколі —
кветкі гліцыніі,
І астатнія дзівы,
якім прысвячу я свой сказ.
Пачакай мяне, мама!
Ёсць бярозы ў вільготнай лагчыне,
Ёсць Дняпра старыкі
і дубоў векавых запавет,
І народ мой,
якому я вінен

Ўсім,
Ўсім
шчасцем,
турмой
і чужынай,
Той народ, у якім, можа, ўвеку ніхто не загіне,
Калі я,
Нават я,
што даўно за табою пакінуў Твой Свет.

*15 (?) снежня 1980 г.*

## ЭПІТАФІЯ. ПАКАРАНЫМ СМЕРЦЮ Ў 1882 ГОДЗЕ

Сякуць, краіна, карак твайму сыну,
Ды ты не скажы ім: «Даволі!»...
Хай лепей ніколі не будзе краіны,
Чым будзе краіна — без волі.

*29 студзеня 1980 г.*
*21 гадзіна 38 хвілін*

## БОГ ВАЖДАЕЦЦА З БЕЛАРУСКІМІ ПРОЗВІШЧАМІ

Бог глядзеў на Беларусь з нябёсаў,
На жывых і мёртвых ягамосцяў,
На ўсе кальварыі і росы
І павольна закіпаў ад злосці.
«Што там робіцца, ядры іх мову? —
Закрычаў ён у страшэнным гневе.—
Быў там нейкі Ванька — стаў Ванькові́ч,
Быў там нейкі Міцька — стаў Міцкевіч.

З гонарам, нібы у Радзівіла,
Швэндаецца ў свеце пан Bowdzillo,
І ў шляхту точацца без мыла
Baran, Kozell, Piottuch і Pedrillo.
(Сто гадоў хавае ў торбе шыла
Пан Дэконт. А ўсё чуваць, васпане:
«Ты *Дэконт*? Пся крэў, а дзе кабыла?!
І *дзе конь,* пся мáць тваю, галгане?!»)
Ў Сталіны там пнецца кожны Юзік,—
Быў там нейкі Сенька,— стаў Сянкевіч...
І адзіны, хто не прэцца у французы,—
Гэта безумоўна Караткевіч.
Гэты свой. [...]

Ведае, што хтось з ягоных продкаў
Ці азадкам быў крыху куцапы,
Ці вумом, ці чым яшчэ кароткі».

*10 верасня — 12 кастрычніка 1980 г.*

* * *

Агонь з вышынь — і дом твой, як свяча,
І мёртвай хмарай — попел над Гаморай,
І ўсё з нуля даводзіцца пачаць,
Бо ў тым былым нічога не гаворыць.

Калі ўжо давядзецца зноў пачаць —
Ідзі ад дымам пушчаных святыняў
І не шкадуй ні плуга, ні мяча
На новы свет, дзе ўсё пакуль — пустыня.
Там будзе грай сівога крумкача,
Сто бездарожжаў, соль і пыл на веях...

Калі ўжо вырашыў з нуля пачаць —
Ідзі! Не аглядайся!
Скамянееш!

*Снежань* [*1980 г.?*]

* * *

Тут кожны сядаў бы, дзе схоча,
Адзін — ля камінка
(Каб вечна сябе спрабаваў паўтарыць,—
Нясталы і зменны агонь),
Другі — ля вакна,
што спрадвеку глядзіць
на здрадлівае мора.
А трэці, калі б не схацеў,
проста ў кут бы зашыўся з уздыхам палёгкі.
І ўсе б працавалі,
і ў гэтай прывольнай майстэрні
ніхто б не пісаў
і ніхто бы не ўбачыў
аднолькавых твораў.

[*1980 г. ?*]

## ВІНО АРМЯНСКАЙ ГІСТОРЫІ

Раздан, Арташат, Аўрэшат. Што б ні ўзяць.
Сотню назваў любых абяры між іх.
Але ўсе.
Ўсе
    армянскія віны гарчаць,
Як гарчыць гісторыя іх.

Можаш тысячы кніг геніальных стварыць,
Збудаваць Гарні, Гегард, Кармір-Блур...
Ды зірні і ўважай:
                                над Масісам крывавы ятаган,
Над Масісам месяц — крывавы ятаган.
Над народам, які палюбіў і люблю.

Хай бы ўсім пражыць, хай бы ўсім дажыць
Без пакут,
                без хлусні,
                                без ран...
П'ю віно, а яно, халера, гарчыць,
Як стагоддзі жыцця армян.

І каштую, і — ўсё ж — без ахвоты п'ю,—
Як душу прадаю сатане —
І душу народа ў ім пазнаю,
А іншай — не трэба мне.

Божа мой! Я пеклу б душу аддаў
І здохнуў ахвотна, як нейчы там сын,
Каб аднойчы ў жыцці толькі «горка!» крычаў
На вяселлі дачкі армянін.

П'ю.
Гарчыць. І думаю я пра сябе:
О Арменія гор, што крывавяць ад ран!
Хай бы горка ўжо мне...
Хай не горка табе,
Маці мільёнаў забітых армян!

Хай раней за дабро памірае гнюсь,
Хай сонца жыве, хай гіне туман...
Бо як без Беларусаў мая Беларусь,
Так Арменія без Армян.

Добры божа! Гарчыць! Вось відаць і дно.
(Дзе я? Ў пекле? У раі? Дзе?)...
Зразумееш не зразу армян віно,
Як душу карабахскіх людзей.

Горыч вінаў Аременіі... і Беларусь...
Ну каму па плячы вас здушыць?..
Можа — горкія — мы й не да смаку камусь,
Але нам — узаемна — мы па душы.

*21 лістапада 1981 г.*
*12.25. Паўн. м.*

* * *

Панна Варшава,—
Яна сваёй дарогай ішла...
Мурамі крывавымі
Падпертая ззаду і спераду.

Панна Варшава,—
Ніка —
Аднойчы шпяжонку ўзняла.
І ёю
        зваліла
Ні многа ні мала
Дваіх мядзведзяў.

*[1980 г.?]*

## ВЫШЭЙШЫЯ ЖЫВЁЛЫ, АБО «ВЯНЕЦ ТВАРЭННЯ»

...у вышэйшых жывёл патрэба і здольнасць прычыняць разбурэнні і шкоду ўзрастаюць прама прапарцыянальна ступені іхняй разумнасці.

*Канрад З. Лоранц*

І тое праўда. Лемур нецікаўны:
Вісіць на галіне плюшавым мішкаю.
Капуцын (з вузканосых) гарлае песні,
Псуюць уласныя цацкі мартышкі.

Чым вышэй, тым больш разбуральна-цікаўныя
Нібы гарылы з пачкаю сернікаў...

Натуральна ўзнікае пытанне: «А людзі?»
. . . . . . . . . . . . . . . . .

І ўспомніў Хатынь, Хірасіму і Герніку.
*23 лістапада 1981 г. 13.32.*

* * *

Дарогі ўсёй зямлі маёй
Гудуць у стомленых нагах.
Куды табе ісці за мной
У гэткі невыносны шлях?

Выццё здалёк. Бяжыць руя,
І вочы свецяцца ваўкоў,
Такіх жа валацуг, як я,
Маіх сяброў, маіх братоў.

І, можа, тыя, што ў мане
Жывуць свой век, п'юць добрых кроў,
Цкаванне ўладзяць на мяне
Калісьці — горш, чым на звяроў.

Ўзяць не магу цябе я ў бой,
Аддаць марозу і агню,
Аддзячыць ліхам за любоў,
Нянавісцю — за дабрыню.

Не плач над лёсамі звяроў
І вей не апускай разбег,
Як крумкачынае пяро
На белы-белы, чысты снег.

Дарогі ўсёй зямлі маёй
Гудуць у стомленых нагах.
Куды табе ісці за мной
У гэткі невыносны шлях.

*25 лістапада [1981 г. ?]*
*22 г. 58 хв. П. м.*

* * *

Аб існаванні подласці й наветаў,
Падступных махінацый і інтрыг
Я ведаю, паверце мне у гэтым,
Зусім не са старонак даўніх кніг.

Мужчыны і жанчыны сонмам цэлым
Імкнуцца здрадзіць, край свой ашукаць.
Я проста ў гэтым не прымаю ўдзелу.
Няма мяча, дык чыстай будзь рука.

*26 лістапада 1981 г. 11.29. П. м.*

* * *

Стаіць ля ідэі на варце,
Хвалу бессаромную п'е.

Не ўсякая шыя вартая,
Каб меч тупіць аб яе.

*26 лістапада 1981 г. 11.40.*

## ЯК МЯНЕ ПЕРАКЛАДАЛІ НА ЯПОНСКУЮ МОВУ, АБО ЛЕТАВЫЛІЧЭННЕ

Па японскім летавылічэнні 1981 год — 2641 (з дня каранавання першага мікада)

Ну, хочуць перакласці японцы — і годзе...
— Калі нарадзіўся?
— Гэх, старасць не радасць.
Ў дзве тысячы пяцьсот дзевяностым годзе...
(Ад каранавання першага мікада.)
— Жартуеце? Ці проста лухту гародзіце?
— Ды зусім не жартую... Адкуль жа знову?..
Ну... Тады ў дзевяцьсот трыццатым годзе
(а сам падумаў: «Ад нараджэння Хрыстова»).
— У тысяча дзвесце сямідзесятым?
(Ён тады — за мікада, я — за новую эру.)
— Зноў жарты? У нас манголы трыклятыя.
— А ў нас з крыжакамі войны за веру.
— Вам дзвесце шэсцьдзесят. Пяцьдзесят,
трошкі болей.
— То што, дзве тысячы дзвесце дваццаты?
А зараз?
— Шэсцьсот сорак першы грымзоліцца
Пад гэтым пяром на паперу клятую.
— Паслухайце, жарты ў вас проста конскія.
Вы, «бака», дурань.— Бяка? — То самае.
— Знаеце,
не хачу гучаць па-японску.

Ў вас «яма» —
«гара»,
а ў нас «яма» —
«яма».

*26 лістапада 1981 г. 13.35. П. м.*

## ПРЫВАТНАЯ ГІСТОРЫЯ

Без сцягоў, без прамоў, без багнетаў,
Без атак з памінаннем чартоў —
Вяршыць яна справы сусвету
Побач з іншай гісторыя,— *той*.
Без крыклівай і кідкай грубасці
З ёю робіць справу жыцця.
Але той — барабаны і трубы.
Гэтай — сціплы спакой забыцця.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ў час разгрому прайграны і раны і планы
Ў сто слупоў аж пад неба дымяць:
Гэта ўспыхвае Пушкініяна,
Каб не пэцкалі любых імя...
Ляпнуў нехта слова міжвольнае,
Наракнуўшы на штосьці, і таму
Рве Купала паперы крамольныя,
Каб сяброў не павесці ў турму.
Ў паляўнічых доўгія лапы,
Ім гаворыць кожны трафей,—
Ёсць — «свае» з прадажнаю зяпай,
Ёсць — ахранка, СД і гестапа,
Ёсць,— каб людзям да іх не трапіць,—
Ў кожнай попельні — аўтадафэ.
Пра падзеі ратнай гісторыі
Ў паднябеснай слава звініць.
Ўсе архівы прыватнай гісторыі
Ў выбаровай яме (у адходжым месцы) й агні.
Пра вялікую трубы гнюсяць,
Пра малую шапочуць лісты.
Ды яе забіваюць хлусы,
А цябе забівае — святы.

Не спяваюць нідзе араторыі
Пра твае неўміручасць і жах.
Гіне праўда прыватнай гісторыі
У пляткарак на языках.
І паколькі ідзе непрыкаянай,
І паколькі ў хлусні — сто ног! —
Выглядае нязломны — Каінам,
Дантэ — бабнікам, Юдам — пан бог.
І за «Шэйлака» йдзе бяссрэбранік,
«Прадае» Багушэвіч пяро,
І хаваюць «мільёны» пад зрэб'ем
Страстацерпцы за бедны народ.
Некрыклівая, безабаронная,
Бо адкрыты ж кожны парог,
Патанае ў чорным бяздонні.
А гісторык — адзіны бог.
Ды сумленне і нюх некаторых,
Якіх нельга маніць навучыць...
Ўсю гісторыю гэта гісторыя
На нябачнай пласе маўчыць.
У засценку дапытчыкаў платных,
Дзе ў вяках на цвіках стаяць...
Ты прабач чалавецтву, прыватная,
Што не можа цябе адстаяць.

. . . . . . . . . . . . . . .

Абяздоленая, абясхлебленая,
Сярод родных душаў — адна,
Ўсё ж вядзе яна людства да неба,
Толькі ўбогая, толькі яна.

*4 лютага 1982 г. 16.II*

## МІНАШУКАЛЬНІКІ

Ты — археолагаў сучасных зброя,
Ты — на зямлі ў балоце і ў вадзе
Шукаеш гарады, глыбіні крыеш
І проста на паселішчы вядзеш.
Ты — нібы пуцяводная заранка,
Вядзі, пакуль вушэй хапае й воч...

Але замест вясёлкі і світання
Як часта ты прыводзіш нас у ноч!
Вядзеш табой — і вось, здаецца радасць,
Якая прывядзе цябе паўсюль,
А рыць пачнуць — і вось іржа снарадаў,
І міны йржа, і гнюсь руды ад куль!
Жалезная уся, з метала,
Ты хлусіш нам, шточасна, спакваля,
Ваенным потам і смярдзючым палам
Ушчэнт нашпігаваная зямля.
І вые, як дурны, мінашукальнік
І ўжо, як той шукальнік, галава!..
О вый, зямля, о вый ад зброі пальнай,
Аж покуль не навучышся спяваць!

*22 верасня 1982 г. 19 г. Піцунда*

## РАДЗІМЕ

Радзіма,
стой як горды уцёс.
У велічы і журбе,
Каб вецер за тысячагоддзе аднёс
Пясчынку адну ад цябе.

І хай той пясчынкаю буду я,
А не мой сусед і не брат.

*22 верасня 1982 г. 19.53*

## НАТАШЫ
## Ў ЯЕ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ

Вакол нас шляхі і дарогі
І пройма людзей ля двара...
І ўсё ж такі перад богам
Адны мы з табою, сястра.

Нянька мая дарагая,
Мой абаронца ў бядзе.
Каменні няхай не трапляюць
Пад ногі твае нідзе.
Ні табе, ні тваім дзіцяткам
Каб ніколі не быць у журбе...
Ат, падумаеш, шэсць дзесяткаў —
Яшчэ шэсць дзесяткаў табе.
Сто год яшчэ хай дарогі
Вядуць цябе на гару,
Хай убачыш праўнукаў многіх,
І хай любяць цябе, мой друг.
Як жнівеньскі добры вецер
На радасць усім жыві.
Але ўсё ж мы адны на свеце
Такой вось адной крыві.
І калісьці — аж страшна расказваць —
Воддаль парасцяў нашых жывых
Сядзем недзе на прызьбу разам
І прыпомнім свой шлях векавы.
Оршу ўспомнім, тую, зялёную,
Бег крыніц ля Дняпра-ракі,
І уральскія эшалоны,
І ў цяплушках салдатаў палкі.
Гэта — наша.
Нашы дарогі.
Тут з табою мы лёсу багі.
Тут з табой мы адны перад богам,
Сястрычка, мой друг дарагі.

*20 лістапада 1982 г.*

* * *

Бог пайшоў. Жыццё ідзе пад кручу.
Але йдзі і не губляй спакой.
Ёсць замест прыватнай неўміручасці —
Бессмяротнасць нацыі тваёй.
Ты памрэш. Але ў бязмежным свеце
Будуць працвітаць твой Люд і Край...
Вер, што ў гэтым, вер, што толькі ў гэтым
Шчасце пасмяротнае і рай.

*1982 г.*

* * *

На празрыста-блакітную роўнядзь мора,
Апускаецца сонца чырвоны жаўток.
Заўтра ўстане ён зноў
І ў імгненні сканення самога быцця
Ёсць імгненне жыцця, і імгненне смерці,
І імгненне веры ў вечнасць жыцця.

Я імгненне жыву, і памру на імгненне,
І у думцы і ў слове маім аджыву.

[*1982—1984 гг. ?*]

## ВАСІЛЮ БЫКАВУ

Час стагоддзі, як касой, сцінае,
Веры, царствы, догмы йдуць да ценяў...
Ўсё мінае — Гонар не мінае,
Бо народжаны адным сумленнем.

Калі сонца выб'ецца з туману,
Толькі іх і ўспомніць хор народаў,
Воінаў сваіх, святых і зраненых,
Рыцараў сумлення і свабоды.

*19 чэрвеня 1984 г.*

# КАМЕНТАРЫІ

У першы том Збору твораў Уладзіміра Караткевіча ўключаны яго паэтычныя творы.

Першы раздзел складаюць творы са зборніка «Матчына душа» (1958), другі раздзел — творы са зборніка «Вячэрнія ветразі» (1960) і трэці раздзел — творы са зборніка «Мая Іліяда» (1969).

У чацвёрты раздзел увайшлі вершы і паэмы са зборніка «Быў. Ёсць. Буду» (1986). Уключаныя ў гэты зборнік паэмы «Плошча Маякоўскага», «Грубае і ласкавае», вершы «Масква — Вечнасць», «Дваццаты век, цень верталёта...», «Рагнарадзі» апускаюцца, паколькі яны будуць у тэксце рамана «Нельга забыць».

У пятым раздзеле змешчаны творы, выбраныя з беларускіх перыядычных выданняў 50-х — першай паловы 80-х гадоў, выяўленыя ў архівах, атрыманыя ад родзічаў пісьменніка, яго сяброў і знаёмых. Раннія вершы на рускай і асобныя на беларускай мовах у том не ўключаюцца. Творы ў гэтым раздзеле падаюцца ў хаханалагічным парадку.

Паэзія з'яўляецца састаўной арганічнай часткай творчай спадчыны У. Караткевіча. Вершы былі першымі друкаванымі творамі пісьменніка, а паэтычныя зборнікі «Матчына душа» і «Вячэрнія ветразі» — першымі яго кнігамі. Мастак заўсёды быў верны паэзіі. І апошнюю сваю паэтычную кнігу «Быў. Ёсць. Буду» ён сам падрыхтаваў да друку, сам вычытаў машынапіс.

У. Караткевіч — адзін з яркіх і таленавітых беларускіх паэтаў. Яго паэзія вызначаецца рамантычнай узнёсласцю і грамадзянскай страснасцю, смелай вобразнасцю і глыбінёй зместу, пранікнёным лірызмам і філасафічнасцю, патрыятычным гучаннем і гуманістычнай скіраванасцю.

У каментарыях называецца крыніца, паводле якой друкуецца твор, час яго першай публікацыі і, пры магчымасці, дата яго напісання.

Пры ўстанаўленні аўтэнтычнага тэксту і напісанні каментарыяў выкарыстаны друкаваныя, а таксама рукапісныя і машынапісныя матэрыялы, якія захоўваюцца галоўным чынам у асабістым архіве пісьменніка, Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі (ЦДАМЛМ) БССР і аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі (ЦНБ) імя Якуба Коласа АН БССР.

## МАТЧЫНА ДУША

*На пачатку дарог* (с. 12)

Упершыню — Полымя, 1958, № 2.

*Спадарожніку Зямлі* (с. 15)

Упершыню — Полымя, 1957, № 12.

*Партызанская балада* (с. 15)

Упершыню — Полымя, 1958, № 2.

*Заяц варыць піва* (с. 18)

Упершыню — Полымя, 1956, № 3.

Аўтограф — у лісце да Ю. К. Гальперына, сябра У. Караткевіча, ад 7.Х.1955 г.

*Орша* (с. 19)

Упершыню — Полымя, 1956, № 3.

Аўтограф у значна пашыраным выглядзе — у лісце да Ю. К. Гальперына ад 28.12.1954 г.

*Вадарод* (с. 21)

Упершыню — Полымя, 1957, № 7.

*Сырцовыя цагліны* (с. 22)

Упершыню — Полымя, 1957, № 7.

*«Стаю ўначы ў завіруху...»* (с. 23)

Упершыню — Полымя, 1956, № 9.

*Песня шафёра* (с. 24)

Упершыню — Полымя, 1957, № 7.

*Як размаўляюць звяры і птушкі* (с. 25)

Упершыню — Полымя, 1957, № 7.

*У жніўны дзень* (Жарт) (с. 26)

Упершыню — У кн: Матчына душа. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1958.

*З падсветам* (с. 26)

Упершыню пад назвай «Рыбы ў падводных лясах» — Літ. і мастацтва, 1957, 1 мая.

*Праменьчык* (с. 27)

Упершыню — Полымя,1957, № 7.

*Паўлюк Багрым* (с. 28)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

*Цяга* (с. 31)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

*Ялінка* (с. 33)

Упершыню — Маладосць, 1957, № 1.

*Дзеці* (с. 34)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

*Жаданы госць* (с. 34)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

*Лісце* (с. 36)

Упершыню — Полымя, 1957, № 7.

*Бацькаўшчына* (с. 36)

Упершыню — Маладосць, 1957, № 1.

*Балада пра паўстанца Ваўкалаку* (с. 37)

Упершыню — Полымя, 1956, № 9.

*Машэка* (с. 39)

Упершыню — Полымя, 1955, № 7.

Аўтограф — у Літаратурным музеі Якуба Коласа, Ф. 110. с. 76—77 [1952—1954 гг. ?].

*«У дняпроўскіх хвалях, бы ў калысцы...»* (с. 40)

Упершыню пад назвай «На радзіме» — Маладосць, 1958, № 4.

*Дзед Цыпрук, вартаўнік калгаснага стаўка* (с. 41)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

*«На паўстанках, засыпаных лісцем бярозавым...»* (с. 41)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

*Рута ў халоднай расе* (с. 42)

Упершыню — Маладосць, 1957, № 1.

*Эмігранты* (с. 43)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

*Гісторыя з першым каханнем* (с. 43)

Упершыню — Полымя, 1957, № 7.

*У тую ноч* (с. 44)

Упершыню — Чырвоная змена, 1957, 11 верас.

*Бабіна лета* (с. 45)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

*Начлег* (с. 46)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

*«У векавечнай бацькаўшчыне клёны...»* (с. 47)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

*Зімняя элегія* (с. 47)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

Машынапісная копія на 4-х аркушах з праўкамі аўтара была прыкладзена да ліста Ю. К. Гальперыну ад 7.IV.1958 г.

*Размова з Кіева-Пячэрскім сланом* (с. 49)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

*Матчына душа* (с. 52)

Упершыню — У кн.: Матчына душа.

Аўтограф на рускай мове «Ты теперь у теплого моря» з прысвячэннем С. М.-к і паметай: 18 июля 54 г. Ночь — у 2-й папцы асаб. арх. пісьм.; аўтограф пад назвай «Прадмова да песні. Прысвячаю С. М.» — У Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР (ЦДАМЛМ БССР), Ф. 42, воп. 1, адз. зах. 129, с. 13 (1955 г. ?).

## ВЯЧЭРНІЯ ВЕТРАЗІ

*Дзень першы* (с. 54)

Упершыню — Полымя, 1958, № 12.

*Балада пра смяротнікаў* (с. 55)

Упершыню — Маладосць, 1959, № 3.

*Над шахтамі* (с. 58)

Упершыню — У кн.: Вячэрнія ветразі. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1960.

*Бацькава сэрца* (Паэма) (с. 60)

Упершыню — У кн.: Вячэрнія ветразі.

*Баявыя вазы* (с. 65)

Упершыню — Маладосць, 1959, № 3.

*Вячэрнія ветразі* (с. 66)

Упершыню — Маладосць, 1959, № 3.

*«Трагедыі не знікнуць пры Камуне...»* (с. 66)

Упершыню — У кн.: Вячэрнія ветразі.

*Мокрыя травы* (с. 67)

Упершыню — У кн.: Вячэрнія ветразі.

*«О мой цудоўны край...»* (с. 69)

Упершыню — Маладосць, 1960, № 6.

